№4 (125)
/ліпень-жнівень/ 2023

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Васіль Жуковіч



...о Беларусь,
мая надзея!..

# Быць сабою…

### *НЕРУШ*

*А.Ф.*

Неруш бачыцца розная:
Шляху Млечнага зорная,
снегавая і лугавая,
у брыльянтах сняжок і раса...
Ненаглядная, неаглядная
першароднай прыроды краса!

Сустракаецца неруш грыбная,
дзе губляецца сцежка лясная –
залатая лісічак мясціна,
побач табары баравікоў...
Ну і рэдкасная часіна –
анідзе не чутно грыбнікоў!

Пастаў кош,
бяры нож,
не спяшай, акуратненька рэж,
тут, мажліва, і ў кош не ўбярэш...

Сябра мой, ты, грыбнік, мне паверыш:
натрапляў на грыбную я неруш.
Не хвалюся, аднак не маўчу;
з творчым поспехам нечаканым,
з усіх поспехаў найжаданым,
параўнаць гэта дзіва хачу.

*2021*

## З-ПАД УЛАДЫ ЦЬМЫ

Мне здалося: ніколі
я так шпарка не бег,
гэтак з цемры на волю
шлях пракладваў сабе.
У злавесным будынку
ўладу цьмы напаткаў –
бег-ляцеў безупынку:
прагна выйсце шукаў.
Ног не чуў пад сабою
і пражытых гадоў,
біцца з злюкай любою
за святло быў гатоў.
Калі ж вырвацца з цемры
там пашэнціла мне,
прахапіўся – і ўцяміў,
што было гэта ў сне.

## БЫЦЬ САБОЮ...

Я не дам волі кпінам
ні сваім, ні чужым.
Мне й не стацца трамплінам
звадкам, бедам людскім.

Быць сабою няпроста
у стасунках любых...
Благаслаўлёны будзь, востраў
думак вострых маіх!

## *РЭАЛЬНАСЦЬ*

Трызніш ты перамогай,
а цябе сустракае параза.
Ад наступстваў паразы, нябога,
не адбіцца ніякаю фразай.

Па-сабачы цярпліва
ты залізваеш цяжкія раны.
...Шлях адольваеш немітусліва
і злічаеш памылкі старанна.

* * *

*М.Ж.*

***1.***

Паклёп ты змалку зведаў, ён не мог
не даць табе наступстваў драматычных,
з няўдач ты мог не выбрацца фактычна,
але анёл-ахоўнік абярог.
Бяда хіснулася й пайшла на злом,
з хранічным болем чуешся шчаслівым,
у свеце звар'яцела-мітуслівым
жывеш, не помсціш нелюдзям за зло.

***2.***

Абраў ты самастойна шлях,
пайшоў не з сошкай па палях –
працуеш розумам натхнёна,
высокай мрояй паланёны,
жывеш прыгожа, шчодры, шчыры,
краінам, людзям зычыш міру,
ты храм сваёй душы будуеш,
калі не шэнціць – не бядуеш,
жывеш святой стваральнай працаю.
Дай лёс табе спатканне з грацыяй!

***3.***

Шмат да чаго ты стаўся здатны:
быў адмысловы будаўнік,
ажно й кіроўца ўжо выдатны –
сабе на радасць і радні.
І вольных дзён ты не марнуеш,
сваёй душы даеш зарад –

красой прываблены, вандрueш;
я за цябе бязмерна рад!
Прыемна непесімістычны
на фота бачыць вобраз твой,
мясцінаў розных экзатычных,
дзе ты бываеш, хараство.
Еўропу скалясіў грунтоўна,
ды не забыў свой родны кут,
бо разам з ліхам, безумоўна,
смак да жыцця ты зведаў тут.
...На лецішча мы ў навальніцу
у змроку выйшлі з цягніка,
мне ява тая быццам сніцца:
нёс я цябе на плечуках.
...Ты каля вогнішча падлеткам
са мною ў шахматы гуляў,
з бабулькаю у лесе ўлетку
старанна ягады збіраў...
Ты рос, перарастаў прыгоды,
памылак усё менш рабіў.
З любоўю да Тварца, прыроды
навек свабоду палюбіў.
Жывеш і жыцьмеш як належыць,
а ўжо ж не так як набяжыць,
хоць між радзімай і замежжам
мяжа варожасці ляжыць.

*24-27 снежня 2022*

* * *

*Светлай памяці Анатоля ВЯРЦІНСКАГА*

Чорная стужка на белых ружах,
слёзы-дажджынкі з маёй журбой.
Ды я не плачу, блізкі мой дружа,
днём развітання навек з табой.

Лёс табе даў шлях зямны некароткі,
і, што хацеў, як хацеў, ты стварыў,
не прыніжаўся нідзе анікольк і,
праўду народу заўжды гаварыў.

Помніцца жнейкі Аксінні няшчасце
і філасофскі твой роздум пра час,
і пра бясчэсце, і пра бясчассе...
сказ твой нярэдка гучыць як наказ.

Слова і дзею, ідэю узважваў,
жыў беларушчынай, волю гукаў;
ты ў Маякоўскага, зоркі, заўважыў:
“Москва для нас – не державный аркан”...

Любы той быў, хто не быў пакорны,
*праўду казаў цару і двару...*
Сам жа таксама не біў ты паклоны,
а пакланяўся душой Кабзару...

Люд Беларусі шмат што трывожыць.
Ды, знакаміты паэт, сын Іллі,
знай, твая спадчына нам дапаможа,
каб нашы людзі як след зажылі.

*Вясна, 2022*

* * *

*Светлай памяці Міхася ТЫЧЫНЫ*

Далягляд пасівеў,
кроны хутка злыселі,
межавала з імжою вятрыскаў выццё.
Над маёю душой хмары нізка віселі,
бо тваё, сябра мой, дагарэла жыццё.

Я, зажураны гэтым ліхім лістападам,
пераношуся ў лета, ў разбег таго дня,
калі стрэў ты мяне ясна-сінім паглядам
і вачыма прыязна і цёпла абняў.

Аднакурснік Міхаська, твой вобраз мне мілы,
чалавечны твой талент мне блізкі такі!
Слова роднага магія нас парадніла,
бо паэзіяй трызнілі мы, юнакі.

На прасторах жыцця рух твой стаўся прыкметны:
ты – настаўнік, салдат, аспірант, кандыдат,
аўтар кніг, інтэлектам багаты, адметны;
і сямейку на радасць займеў акурат.

Толькі лёс абышоўся з табой надта жорстка,
бы сурочыў хто шчасце тваё, галубок:
памірае раптоўна любімая жонка –
мама трох малалетніх дачок.

Бацька быў ты і мудры, і добры, як донар.
Тым, вядома, і ўзрушан, і ўсцешаны я,
што ў цябе, філалогіі выбітны доктар,
не была другараднай ніколі сям’я.

Людзі ведаюць, ты альтруіст быў, мой сокал,
сціплы быў, ды, аднак жа, рашучы парой:
калі трэба было ў кабінетах высокіх
пастаяць за кагосьці – стаяў ты гарой.

Хтось, магчыма, цябе назаве старамодным...
Свет людскі да сябе ўсё з імпэтам грабе.
Ты пранёс дар зямнога жыцця гэтак годна!
Ганаруся табой.
Застаюся ў журбе.

*Лістапад, 2022*

* * *

Расстанне непазбежнае чакае,
цудоўна, што не ведаем, калі.
Жывем, і любім, і кахаем
на бацькаўскай, на дзедаўскай зямлі.
І часта на мяжы мінора
гаворым, што бяда — не гора...

## *САНЕТ*

Мне сам сябе прапанаваў санет
пра дасканалую прыроду,
якую нішчыць год ад году
недасканалы чалавека-свет,
пра тое, як мільярды чалавек,
самаадданая, трымае
і як, ахвярная, трывае
з яе непрыхаваны жорсткі здзек;

і як яна яшчэ ўсё не сканала,
як чалавека-свет недасканалы
пілуе сук той, на якім сядзіць

і ў час прагрэсу, часе паскарэння
у дрэва вечнасці ірве карэнне...
Злачынстваў цьма. Няма каго судзіць.

## ТРЫЯЛЕТ

*Ж.Ж.*

Не разгубіся, родная, ніколі,
смак да жыцця ніколі не згубі,
О, веры ў лепшае не загубі!
Не разгубіся, родная, ніколі.

Ты белы свет нідзе не разлюбі.
Зла многа зведала. Не песціць доля...
Не разгубіся, родная, ніколі,
смак да жыцця ніколі не згубі.

## РОДНАЯ СТЫХІЯ

*Вазьмі ў мяне поле,*
*вазьмі ў мяне лес,*
*І я загіну, як той Ахілес.*

**Алесь Пісьмянкоў**

Вячысты лес, прастора поля –
стыхія родная мая.
Для ўцехі мне пачуць даволі
зязюлечку і салаўя.

Сцяжынкай роснаю лясною
калі іду, я не тужу –
сямейка вольных дум са мною,
яна ўлагоджвае душу.

Калі не бачу поля, жыта,
а каля жыта – васілька,
а па-над полем – жаўрука,
непаўнацэнна дзень пражыты.

Без іх – нібыта я ў няволі,
без промня сонейка ў вакне;
не бачу доўга лесу, поля –
сыходзіць муза ад мяне.

* * *

Калі хвалююся аб тым,
хто я такі і дзе я,
прыходзіць думка: а дзе ты,
о Беларусь, мая надзея!..

## *НЯСЦІПЛЫ ЗАПАВЕТ*

Прашу найблізкую радню:
калі памру, не закапайце
вы цела грэшнае – аддайце
усім вядомаму агню.

А прах развейце ў Курапатах;
я шмат гадоў ля іх пражыў,
там часта ля крыжоў тужыў
пра знішчаных невінаватых.

Калі б я жыў у тых трыццатых,
калі ўладарыў цмок вусаты,
то быў бы ворагам названы
і цёмнай ноччу расстраляны
у Курапатах мо якраз,
таму вось і прашу я вас...

А хто хацеў бы пастаяць
калісьці ля маёй магілы –
хай знойдуцца жаданне й сілы
у Курапаты завітаць.

Андрэй Федарэнка



...Хочаш насмяшыць
Сапраўднага Сцэнарыста,
раскажы яму пра свае планы...

# Сцэнарыст

***Раман***

**1**

Даўно, ледзь не ў даайфонаўскую эпоху, прынамсі, задоўга да Вялікага Каранціну і ўсяго, што затым пачалося, на базе нашай айчыннай, сусветна вядомай кінастудыі вырашылі стварыць нешта кшталту філіяла ці даччынага адгалінавання. Новая ўстанова павінна была займацца развіццём і папулярызацыяй выключна нацыянальнага кіно. Сказана – зроблена. З назвай доўга не мудрылі, назвалі проста: “FilmBell”, што значыла – фільм прыгожы; падвойная італьянская “эл”, на думку маркетолагаў, прыўносілі сюды павевы вялікага Феліні.

Аднак неўзабаве высветлілася, што, акрамя гэтай сімпатычнай, па прынцыпе інверсіі створанай назвы, дзве ўстановы нічым не адрозніваюцца, а падобныя адна да адной як дзве кроплі вады ці вось, як Оля і Яло. Абедзве мелі

аднолькавую штатную структуру, адну і тую ж матэрыяльна-тэхнічную базу (так званы Смалявуд), для абедзвюх асноўнай крыніцай існавання з'яўляліся сумесныя руска-беларускія праекты.

"У Маскве цяпер не тое што здымаць – жыць нельга, – запэўніваў вядомы рускі кінадзеяч, – а тут проста рай: выдатныя натуры, вуліцы, а галоўнае – людзі, прафесіяналы кіно, акцёры другога плана, якіх можна наняць за мізэрную аплату; характэрныя славянскія твары, ніхто не *гэкае* і ўвогуле гавораць па-руску лепш за масквічоў".

Апошняе было чыстай праўдай. У абедзвюх нацыянальных установах не гучала практычна ніводнага нацыянальнага слова. Напачатку "FilmBell" паводзілася, як і належыць адлюстраванню, цалкам прызнаючы сваю другаснасць. Ёй нават у рэкордныя тэрміны, за адно лета, удалося зняць паўнаметражны фільм, само сабой, пра вайну. Каб усё было праўдападобна, здымалі не ў павільёне і не ў Смалявудзе, а выязджалі на натуру, ажно ў Рудабельскія лясы, куды нават немцы ў вайну ішлі-ішлі, ды так і не дайшлі і дзе стварылася на ўвесь перыяд акупацыі славутая партызанская Рудабельская Рэспубліка. Гэта быў той самы фільм, у якім партызаны гаварылі па-руску, а паліцаі – па-беларуску. Героі актыўна выкарыстоўвалі лексіку сучасных дарожных войнаў: "ты чё творишь?!", "ну всё, ты попал! – мажь лоб зеленкой". Група беларускіх партызанаў ехала на дрызіне і спявала задушэўным хорам: "За Россию-матушку – постоять, за Россию-матушку – всё отдать". Мясцовыя жыхары – беларускія сяляне, пілі чай з самавараў (якіх у Беларусі зроду не было, як не было і звычкі піць чай), "окалі" і "токалі": "Схожу в Минск-то, на разведку". Камандзір беларускамоўных паліцаяў кідаў падначаленаму: "Выканаеш заданне – набяры!" На жаль, ці на шчасце, гэты неверагодны фільм так і не выйшаў у пракат. Пяць мастацкіх саветаў не адважыліся яго зацвердзіць з прычыны поўнай бездапаможнасці, і ён ціха, назаўсёды лёг на пыльную паліцу архіва.

Аднак мала-памалу "FilmBell" падрос, агледзеўся і скеміў, што да чаго. Спачатку нясмела, затым усё гучней, усё больш упэўнена ён пачаў падаваць уласны голас, прэтэндуючы на той ці іншы выгодны праект. Пакрысе паміж дзвюма кінаўстановамі сапраўды ўзнікла канкурэнцыя, як і планавалася спачатку, толькі зусім не творчая – усё круцілася вакол самых банальных грошай: як лепш іх асвоіць і "распілаваць". Пачаліся спрэчкі, узаемныя крыўды, пайшлі непазбежныя ў такіх сітуацыях судовыя разборкі. А тут яшчэ ў "FilmBell" аказаліся надзвычай спрытныя юрысты і так павялі справу, што неўзабаве ўжо немагчыма было разабраць, хто асноўны, хто другасны (як у тым фільме, дзе цень выйшаў з-пад улады гаспадара і зажыў уласным жыццём, а потым увогуле запанаваў над ім), – і вось ужо той, сапраўднай студыі давялося апраўдвацца і даказваць сваю першаснасць.

Адных толькі заказчыкаў "музыкі", рускіх кінабратоў, усё задавальняла. Яны спакойна сабе падзялялі і ўладарылі і карысталіся міжусобіцай, часткова падыгрываючы яе, каб не патухла.

Неяк у канцы зімы ў Мінску здымалі чарговы серыял з маскоўскага жыцця. Не абышлося без накладак. У адзін час на адной і той жа вуліцы вяліся здымкі яшчэ двух праектаў: пра міліцэйскую аўчарку, якая да болю нагадвала аўстрыйскага "Камісара Рэкса", і пра вайну – масоўка, нямецкая форма, усё сур'ёзна. Групы сутыкаліся, перашкаджалі адна адной, сварыліся. Але працэс патроху ішоў. У маскоўскім серыяле ўсе "размоўныя" ролі

дасталіся рускім акцёрам; нават бабулек, якія па-мыцішчанску пілі чай з самавара, прывезлі адну з Кастрамы, другую з Разані. Нашыя ж мясцовыя беларускія "прафесіяналы кіно" перабіваліся ролямі безгалосымі, выступалі ў масоўках, статыстамі; адзін малады рэжысёр у якасці каскадзёра скакаў на поўнай хуткасці з электрычкі.

Але незадаволеных не было. Ніхто ні на што не наракаў. Усе ведалі сваё месца і, прынамсі, знешне, на словах, ахвотна падтрымлівалі меркаванне пра саміх сябе як пра рахманых, ціхіх, нібыта баяліся парушыць гэты шаблон і тым пакрыўдзіць, а то і раззлаваць капрызных братоў (а злавацца тыя ўмелі; напрыклад, адзін ці то рэжысёр, ці прадзюсар крычаў па тэлефоне: "Я уже не могу слышать ваши бредни, другого слова не нахожу – бредни о вашей якобы самостоятельности!").

Нарэшце здымкі скончыліся, кінагрупа хутка знялася з месца, балазе, збіраць асабліва не было чаго, толькі апаратуру, а рэквізіты і дэкарацыі мясцовыя. На пероне каля цягніка "Мінск – Москва" галоўны рэжысёр серыяла нарэшце апынуўся хоць на пяць хвілін у нязвыклай адзіноце. Ён любіў гэты пах мазуты і гары, гудзенне цеплавозаў, звон рэек, камяні паміж шпалаў. Яму падабалася жывая мітусня вакзала, хаатычны рух яго, шум, абвесткі, якія будзілі ўяўленне пра іншыя гарады і другое жыццё. Ён прагульваўся па пероне і думаў не пра серыял з маскоўскага жыцця, гэтую падробку, а пра свой сапраўдны фільм, які здымаў ужо гадоў дзесяць і якім спадзяваўся не проста здзівіць, а скалануць свет. Серыяльныя меладрамы – гэта так, ні аб чым, практыкаванні ў стральбе. Яны здымаліся дзеля хлеба надзённага. А вось той фільм, амаль патаемны, прызначаны для закрытых паказаў на фестывалях, быў сапраўдным – і чаго толькі ў ім не было! Была сцэна, у якой нават запрошаная нямецкая порнаактрыса, далёка не святая, наадрэз адмовілася ўдзельнічаць; быў эпізод, пасля прагляду якога Міністэрства культуры рашуча запатрабавала вярнуць назад грант, які неабдумана само ж і выдала.

Цяпер, прагульваючыся на пероне мінскага вакзала, рэжысёр з горыччу, але і не без гонару, думаў: "Крывадушнікі! Вашыя ваенныя фільмы – крывавыя мясарубкі, дзе людзей рвуць на кавалкі, рэжуць, катуюць, гэта паказваецца ўсім, ад старога да малога, без абмежаванняў... Ну, нічога. Даведаецеся з Берлінарыя, што такое сапраўднае кіно".

Ён зайшоў у вагон, цягнік крануўся і змяніў яго думкі. Ён глядзеў у вакно і ненадоўга развітваўся з гэтым дзіўным горадам. Харошы горад, добрыя людзі, хоць і наіўныя, спозненыя, якія захраслі ў мінулым стагоддзі, завіслі ў мілай патрыярхальнасці. Ад сацыялізму адарваліся, да капіталізму не прыйшлі. Не здольныя ні на што вялікае, але і на нізкае таксама, у адрозненне ад нас, рускіх. У нас усё крайнасці: рэвалюцыя, дык такая, каб свет здрыгануўся, капіталізм – каб мароз бег па скуры. Падышоў ззаду аператар:

— Знаёмая дзяўчына з Мінска кажа, што вельмі смешна глядзець фільм пра Маскву, пазнаючы ўласныя школы, вуліцы, завулкі.

– Мне на яе месцы не смешна, а крыўдна было б. Дарэчы, – успомніў рэжысёр, – на тым кадры, дзе праезд па вуліцы Карла Маркса... Трэба нешта памяняць. Каб не было відаць, што Мінск.

– Падмалюем збоку Астанкінскую вежу, – адказаў аператар, замоўк і таксама пачаў глядзець у вакно.

## 2

У танным рэстаранчыку за сталом каля вакна сядзелі двое мясцовых, гэтак званых “прафесіяналаў другога плана”, якія часова прыляпіліся да “FilmBella” і падпрацоўвалі там. Адзін малады – рэжысёр (той самы, які скакаў з электрычкі), другі пажылы – сцэнарыст-літапрацоўшчык. Перад імі стаяў графінчык каньяку і ляжала адна на дваіх вялікая плітка шакаладу.

Пажылога звалі Іван Барысавіч Вечка. Яму было за шэсцьдзесят. Ён нібы перанёсся машынай часу з сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, бо і адзеннем, і знешнасцю падобны быў на колішняга настаўніка матэматыкі ці на сярэдняй рукі паэта-песенніка, у якога неўзабаве юбілей. Цёмны пінжак, светлая вадалазка пад горла (за апошні час мода зрабіла кола і вярнулася, і тое, што некалькі гадоў назад выклікала б здзіўленне і, можа, нават жаданне паморшчыцца ад безгустоўнасці, цяпер было да месца), акуляры ў вінтажнай аправе, кароткая, з падбрытымі скронямі прычоска – і хіба толькі рукі, вялікія, з шырокімі, як карасі, далонямі, больш прыдатнымі да касы і сякеры, чым да ручкі і клавіятуры кампутара, сведчылі, што вясковыя гены пальцамі не раздушыш.

За вочы пра гэтага Вечку на кінастудыі казалі, што ён не без Божай іскры, аднак лепшыя гады жыцця аддаў на пісанне пад рознымі псеўданімамі так званых рускіх камерцыйных раманаў, а потым, калі гэта перастала карыстацца попытам, асеў на кінастудыі, дзе перабіваўся літапрацоўкай, інакш – ажыўленнем герояў, напрыклад, аздабляў беларускімі слоўкамі і рэплікамі размову чарговага якога-небудзь беларускага дзеда-пчаляра, такога, які ўяўляецца рускім: добрага, простага, але з грубаватай хітрынкай Несцеркі: “а мае ж вы даражэнькія-родненькія, а мядку, гурочкаў, самагоначкі, сальца”. Акрамя таго хадзіла чутка, што гэты Вечка па-ранейшаму піша кан’юнктурныя, на заказ, сцэнарыі для гендырэктара кінастудыі Хрушчанкі, які падпісвае іх сваім імем.

Рэжысёру было гадоў дваццаць пяць. Звалі яго Віктар Скіндзер.

Раннія залысінкі абапал выпуклага лба, вузкая, вострая бародка, прадаўгаваты твар, вадзяністыя прыгожыя вочы. На шыі завязаны вузлом каляровы паласаты шалік (за канец якога так свярбіць рука пацягнуць). Чалавек імпульсіўны, ён знаходзіўся ў пастаяннай супярэчнасці паміж ідэяй і яе рэалізацыяй. Яго грандыёзныя планы ўвесь час натыкаліся на ўсялякія перашкоды і, як вынік, на немагчымасць іх выканання. Кінематаграфічны вопыт у яго быў сціплы – пара анімацыйных кароткаметражак. Тым не менш цяпер ён насіўся з ідэяй паставіць па-новаму “Палескіх рабінзонаў” – з пазіцыі веганаў, бо сцвярджаў, што ў арыгінальным тэксце “жорсткасці многа, забойстваў многа”. У яго варыянце Мірон і Віктар цэлы месяц жылі на востраве на падножным корме. Пры тым сам Скіндзер зусім не з’яўляўся, як ён казаў, здлажаўцам (Здаровы Лад Жыцця), любіў мяса, пах яго і смак, мог многа выпіць і закурыць не толькі тытунь.

З Вечкам яны пазнаёміліся ў пачатку зімы, з паўгода назад, і неяк адразу паміж імі ўзнікла сяброўства не сяброўства, а нейкая цяга адзін да аднога, як часта бывае паміж старым і маладым. Вечка знайшоў сабе ўдзячнага сумоўніка. Скіндзер умеў слухаць, больш маўчаў, чым гаварыў, і толькі зрэдку бяскрыўдна паджартоўваў над старэйшым сябрам, а то і пацвельваў яго, напрыклад, прапаноўваючы напісаць “такі твор, каб усе

ахнулі"; яго смяшыла, што Вечка прымаў усё за чыстую манету і пачынаў тлумачыць, чаму гэта немагчыма.

І вось яны сядзелі за столікам каля вакна, выпівалі, закусвалі, адломваючы кавалкі горкага шакаладу з арахісам, і ціха размаўлялі, ці, лепш сказаць, у асноўным гаварыў Вечка, а рэжысёр слухаў, калі-нікалі ўстаўляючы рэплікі. Збоку магло падацца, што малады бярэ ў пажылога інтэрв'ю. Вечка разважаў пра кінамастацтва: на чым яно трымаецца, а таксама наракаў, нібы завочна палемізуючы з маскоўскім рэжысёрам, як атрымалася, што ўсё стала такім убогім; куды знікла геніяльная савецкая кінашкола, якая некалі ў плане мюзіклаў, напрыклад, пераплёўвала Галівуд; хто б мог падумаць, што пасля шэдэўраў Гайдая, вялікіх трагікамедый Разанава, светлых дзіцячых фільмаў Нячаева апусцяцца да "знахароў", "глухароў" і "сватоў".

– Ды хто цяпер здымае фільмы, – уставіў Скіндзер. – Цяпер серыялы, з працягам.

– Рускі серыял! – падхапіў Вечка. – Восьмы цуд свету, адно з самых неверагодных вынаходніцтваў у гісторыі кіно. Я іх называю "здравствуйте – здравствуйте". Пытанне – адказ. "Вы кто? – Я? – Вы, вы. – Я Софья Павловна Кувшинникова. – А вы не знаете, где живет Афанасий Апполинарьевич Воскобойнiков? – Почему не знаю, знаю". Гучыць падрабязны адрас ледзь не з паштовым індэксам і кодам дамафона. Паўфільма пад трывожную музыку едуць да Васкабойнікава – а ён і праўда дома! Сядзіць як ні ў чым не бывала! Атрымліваецца ўсё акурат "як у жыцці", голае прамое дзеянне. А дзе гульня? Дзе чароўны падман?

– Дзе чароўны падман? – паўторам Панікоўскага адгукнуўся рэжысёр.

– Знікла гульня, а толькі адна яна і ёсць мастацтва. А чаму, спытай?

– Чаму?

– А ў іх, у цяперашніх, ні ў кога няма ўласнага светапогляду. Лепш сказаць, яны прымаюць за светапогляд існуючы лад рэчаў. Ёсць багатыя і ёсць бедныя, багатымі хочуць стаць усе, беднымі – ніхто; значыць, "бабло перамагае зло", апрыёры багаты – станоўчае, а бедны – адмоўнае. Але мастацтва не падманеш. Ёсць кіношны бог, і ён пачынае за сябе помсціць. Герой, які задумваўся як станоўчы, раптам праз дэталі робіцца такі, што лепш махнуць рукой, плюнуць на ўсе светапогляды і рабіць, як да гэтага: пабольш эфектаў, агульных планаў, бясконцых дыялогаў. Так яно прасцей, больш надзейна, а галоўнае, больш грашова. Але ведаеш, чаго яны больш за ўсё баяцца?

– Прашу прабачэння, – рэжысёр дастаў смартфон, які дзынкнуў. – Так, прыеду, абавязкова. Калі? Увечары. Пазыкі раздаю, – патлумачыў ён Вечку. – Дык чаго баяцца?

– Абвінавачванняў у сацыяльнасці.

– Няўжо?

– Больш за ўсё на свеце. Любы станоўчы бядняк навядзе, чаго добрага, на думку чарговай сацыяльнай рэвалюцыі – вось гэтага і баяцца. Таму ўсё бягом, ўсё хутчэй. Між тым, калі б яны хоць на хвілінку спыніліся, дык зразумелі б, што гэты цяперашні час, які здаецца ім устойлівым і вечным, – такі ж кароткі і цякучы, як некалі час савецкі. А зразумеўшы, можа, нарэшце звярнулі б увагу на вечныя тэмы.

– Вечныя тэмы. Бог ты мой, – пасміхнуўся рэжысёр. – Ужо і слоў такіх не існуе. – Ён памаўчаў, пачакаў, калі Вечка вып'е і закусіць, і ска-

заў: – А ведаеце што, спадар Іван Барысавіч? Вы так ва ўсім разбіраецеся. Напішыце самі сцэнарый. Бомбу. Каб усе ахнулі. А я зняў бы фільм.

– Не, мая песенька спета, – уздыхнуў Іван Барысавіч. Кожны раз ён пападаўся на такое. – Я як той гогалеўскі мастак з “Партрэта”. Не паверыў сабе, свайму дару, растрос, разбазарыў. Надта з вялікай бядоты выбіваўся, дужа лёгкімі здаваліся грошы. А цяпер позна. Ні грошай, ні дару, ні нават імені.

– Не прыбядняйцеся, Іван Барысавіч. Вы і цяпер яшчэ ого.

– Ды і пра што пісаць?

– Мне вас вучыць? Пішыце на тыя ж вечныя тэмы. Гістарычныя, сучасныя, – пачаў раіць рэжысёр з куды большым імпэтам. – Пра тое, што вас цікавіць. Што вам цікава?

– Мне? Нават казаць сорамна.

– Смялей. Мы ж сябры.

– Машына, прыпаркаваная на газоне. Акурак, выкінуты з вакна. Зламаны ці засохлы саджанец; сабака, які задзірае нагу на кветку, з любоўю некім пасаджаную. Самыя нікчэмныя рэчы сталі раптам самымі цікавымі. І наадварот. Вандроўка мая па жыцці канчаецца, і чым бліжэй я да апошняй мяжы, тым больш усё, што некалі здавалася вялікім, сапраўдным, важным – астывае, асыпаецца, а няважнае, дробнае – вырастае, набліжаецца, запаўняе сабой усю маю і без таго абмежаваную прастору.

Рэжысёр уважліва слухаў.

– Азіраюся назад і бачу: самае шчаслівае ў жыцці было, калі прасіў прабачэння, няважна ў каго – перад кім быў вінаваты ці не быў. Гэта адно сапраўднае. А самае горкае, калі крыўдзіў і не прасіў прабачэння, зноў-такі няважна – было за што ці не.

– Пачакайце. Вы ж не пісалі даносы? Не здраджвалі радзіме? Не стралялі няшчасных па цямніцах?

– Не, – вінавата адказаў Вечка. – А такое адчуванне, што рабіў гэта.

– Ды што канкрэтна?

– Ай. Настаўніка перадражніў неяк, я ўмеў падрабляць галасы, як многія падлеткі, і ён адвярнуўся да вакна, каб не бачылі яго слёз. Не саступіў месца старому чалавеку з кійком. Не памог аднакласніцы сабраць высыпаныя з партфеля кніжкі і сшыткі, а па іх ужо ступалі чужыя чаравікі...

Рэжысёр выпіў каньяку, прамакнуў рот сурвэткаю і сказаў:

– У вас проста душа тонкая. Цяпер такіх ужо няма. З цэлага жыцця вынесці толькі такія грахі! – трэба яшчэ пастарацца.

– Кажуць, ніколі не вяртайся туды, дзе быў шчаслівы, – працягваў Вечка. – Але ж ніхто не кажа: не вяртайся туды, дзе быў вінаваты, дзе штосьці важнае страціў. Вось табе тэма. Некалі даўным-даўно, у пачатку лета, калі пахла маладымі лісткамі вольхі, два падлеткі вярталіся з горада, з ваенкамата, пасля медкамісіі, дзе атрымлівалі прыпісныя пасведчанні. Ішлі да вёскі. Тым жа аўтобусам разам з імі прыехала чалавек трыццаць, цэлы клас, гарадскіх школьнікаў. Заплечнікі, панамы, трыко, кеды. У турпаход. Шумны атрад рухаўся паперадзе падлеткаў. Дзве дзяўчынкі ззаду неслі кацёл на палцы. Падлеткі параўняліся з імі. Адна, якая ледзь прыкульгвала, мяккім ціхім мілым голасам, як у дзіцячых фільмах і кнігах, папрасіла: “Хлопчыкі, памажыце нам”. І тады адзін з падлеткаў – не са зла! падлеткі часта жорсткія, але ён жорсткім не быў, а, калі шчыра, быў ён проста дурным, – і вось ён ад дурной вясковай сарамлівасці пакрыўдзіў яе. Яму

здавалася, што інакш нельга з дзяўчынкамі, бо ўвесь яго вопыт быў ад старэйшых хлопцаў, якія хто адслужыў, хто адсядзеў. Ён перакрывіў яе, умеючы ўвогуле перадражніваць. Язык яго вымавіў хрыпата-падлеткавым голасам чужое слова... Як яна сціхла! як прыгорбілася! нібы сцебанула яе тое слова па плячах. Як яна паглядзела моўчкі! якія вочы! якія слёзы! Сябар, адданы, раптам сам заліўся чырванню і крыкнуў на яго: "Ты што?!" Яму стала сорамна за тое, што стаіць побач.

– Амаль як у "Бесах" Дастаеўскага, – заўважыў рэжысёр.

– Падлетак пастараўся гэта забыць. Жыў далей. Разумнеў. Дарэчы, чаму чалавек з гадамі, як правіла, робіцца лепшым, разумнейшым, дабрэйшым? Нашто яму? У гэтым жыцці яно яму наўрад ці спатрэбіцца. Тады, можа, для будучага жыцця? Дык вось, праз паўвека, амаль каля апошняй мяжы, наш герой знайшоў яе, тую дзяўчынку.

– Пачакайце. Як знайшоў?

– Так, як цяпер знаходзяць, – праз сацыяльныя сеткі. Яна выставіла ў Фэйсбуку чорна-белы здымак з таго паходу. Ён пазнаў яе.

– Неверагодна.

– Ён напісаў ёй, і яна пацвердзіла, што гэта быў менавіта той паход, і была менавіта яна. Цяпер пытанне: як да яе падступіцца? Як нагадаць тое, пра што яна, хутчэй за ўсё, забыла даўно? Варушыць яго ці не? Сказаць: даруйце, я вас некалі абазваў, дык вось цяпер...

– Неверагодна, – паўтарыў рэжысёр.

– А як табе тэма? Што скажаш? Можа быць цікавы такі сюжэт каму-небудзь цяперашнім часам?

– Чаму. Гледзячы як напісаць. "Каматознікі" Шумахера. Айцец Сергій талстоўскі. "Кар'ер" нашага Быкава. Вечная тэма. Вярнуцца ў мінулае адшукаць прычыну і пастарацца выправіць яе, каб жыць далей.

Вечка азірнуўся. Нікога не было паблізу. Шумеў ціха рэстаранчык, манатонна, аднастайна звінеў.

– А-а, зрэшты, усё адно я не змагу нічога напісаць, – панізіўшы голас, сказаў ён. – Пры ўсім жаданні. Рэч у тым, – амаль прашаптаў ён, – што я прадаў душу д'яблу. Нават дамову падпісаў. Праўда, не крывёю, а атрамантам. У пераносным, канечне, сэнсе. Хаця як ведаць, мо і ў прамым. Я даў распіску, што не буду пісаць пад сваім імем.

Рэжысёр з разуменнем кіўнуў. Ён падумаў, што ўсё ж праўда тое, што кажуць на кінастудыі пра старога. Сапраўды, значыць, піша кан'юнктурныя сцэнарыі для гендырэктара Хрушчанкі.

– Мне трэба былі грошы. Тэрмінова. Заплаціць за ідыёцкую прыватызацыю кватэры. У свой час гэтага не зрабіў, бо ніколі не думаў пра такія рэчы. Затое яны, такія рэчы, думалі пра мяне і ніколі не забывалі. Дзесяць тысяч, першы ўзнос. Я звярнуўся да Хрушчанкі. Ён даў, менавіта нават не пазычыў, а даў – пры адной умове...

– Пісаць для яго?

– Нават не гэта. Дастаткова не пісаць для іншых.

– А сэнс?

– Як у футбаліста, якога купляюць і садзяць на лаўку, абы не гуляў за чужую каманду. Я нават даў распіску. Канечне, юрыдычнай сілы яна не мае, хаця, можа, і мае.

– Пішыце пад псеўданімам.

– Якія цяпер псеўданімы? Ды яшчэ ў нас, у Беларусі, дзе ўсе пішучыя практычна адно аднаго ведаюць. Няма ўжо такой рэчы, як ананімнасць.

– Пераходзьце на асноўную студыю.

– Не так усё проста, – уздыхнуў Вечка. – Я прывязаны тут намёртва. Прыкуты нябачнымі ланцугамі. Да таго ж, калі нават сапраўды забыцца на распіску, каму я цікавы? Каму патрэбен стары, сівы, бесперспектыўны? Нават без уласнага імені.

Рэжысёр сказаў:

– Ведаеце гэты стары анекдот? Як адна таленавітая, але пажылая пісьменніца пасылала замест сябе насіць па рэдакцыях тэксты маладую і прыгожую. Рэдактары млелі ад яе, друкавалі без чаргі і выпісвалі найбольшы ганарар, які дзве разумныя жанчыны дзялілі пароўну. Так і вы. Знайдзіце каго, пішыце спакойна, а ён хай падпісваецца і ад свайго імя пасылае ці носіць.

Тут дзед як бы крыху здзівіўся. Нават працверазеў. Паглядзеў на рэжысёра іншымі вачамі. Прамовіў:

– У мяне ўжо ёсць такі чалавек.

Рэжысёр адразу падумаў, што гэта ён. Цёплая хваля ўдзячнасці накрыла яго, як пуховая коўдра. Ён запунсавеў, заірдзеўся ад задавальнення, як чалавек, якому мала перападала пахвальбы, хоць ён мае ў гэтым штодзённую патрэбу. Яму таксама захацелася аддзячыць добраму дзеду.

– Яшчэ? – паслужліва прапанаваў ён, убачыўшы, што Вечка пазірае на пусты графін.

– Не. Дзякую. Трэба ісці. Правядзеш мяне?

## 3

Каля стойкі-вешака рэжысёр падаў Вечку шалік, капялюш, сам надзеў куртку, насунуў на галаву брылем назад бейсболку, якую насіў нават зімой, балазе, у горадзе не холадна. Яны выйшлі на вуліцу. Стаяў ясны, здаровы, з марозікам, бадзёры вечар. Неба на захадзе перакрэслівала сіне-чырвоная паласа – на пагоду, на вясну. Толькі шум гарадскі перашкаджаў. Але вось звярнулі ў двор, затым у нейкую вулічку, шум сціх, сталі чуваць крокі.

– А вы па-ранейшаму адзін? – спытаў рэжысёр.

І замёр у чаканні адказу. Неяк яшчэ ўвосень Вечка меў неасцярожнасць прагаварыцца, што застаўся адзін: “Уся сям’я не са мною. Жонка, дзеці – у Паставах, будуюць дом, толькі наездамі тут бываюць”, – сказаў і пашкадаваў, бо Скіндзер, беспрытульны бабыль, які вечна жыў на нейкіх здымных кватэрах, адразу ажывіўся: “Дык вы адзін?” – “Часова адзін, – зразумеўшы, куды ён хіліць, заспяшаўся Вечка. – Гэта выключана. Мы мужчыны, любім выпіць, а тут у любы момант жонка можа заспець... Не, не!” З таго часу рэжысёр гэтай тэмы не падымаў. Але цяпер атрымлівалася – раз Вечка сам прапаноўвае правесці яго ды яшчэ запрашае суаўтарам (а Скіндзер не сумняваўся, што пад маладым чалавекам, які будзе падпісваць чужыя сцэнары, стары меў на ўвазе яго), дык можна паспрабаваць зноў закінуць вуду наконт жытла. Таму ён перапытаў:

– Яшчэ не прыехала жонка?

– Не, – адказаў Вечка. – Яна, падобна, ужо ўвогуле туды жыць перабралася.

Спыніліся каля дома. Ёсць гэты момант, калі пасля сумеснай цёплай выпіўкі трэба развітвацца, а не хочацца, і ніхто першы не адважваецца сказаць: “да пабачэння”. Рэжысёр працягнуў руку. Але Вечка яе не пацiснуў.

– Зойдзем? – прапанаваў ён.

У рэжысёра другі раз за вечар прыемна тахнула сэрца. Упершыню стары запрашаў яго да сябе. Дзеля блізіру ён крыху паламаўся, маўляў, цяпер ты мяне крыху паўпрошвай.

– Мне яшчэ доўг аддаць... Заехаць у адно месца.

– Рыба свежая смажаная ёсць.

– Рыба? – перапытаў Скіндзер, міжвольна аблізнуўшыся. Вочы ў яго бліснулі галодным маладым бляскам. – Смажаная?

– Зяць ловіць у Паставах, мне перадаюць пакункі з рэйсавай маршруткай. Што з ёю рабіць, з тою рыбай? Не глядзець жа на яе.

Гэта вырашыла ўсё. Падняліся новым ліфтам на сёмы паверх. Увайшлі. І тут рэжысёр, які не спадзяваўся нікога сустрэць, ад нечаканасці застыў у калідорчыку каля вушака. Бо гарэла святло, шумела вада ў ванным пакоі. Малады хлопец, высокі, няўклюдны, з жоўта-саламянай галавой, выскачыў з ванны, выцягнуўшы перад сабой мокрыя рукі, з ручніком на плячы, і хутка прашмыгнуў у пакой.

– А... гэта хто?!

– Кватарант мой, – адказаў Вечка, задаволены эфектам. – Цёзка! – паклікаў. – Ідзі сюды! Пазнаёмся.

Хлопец падышоў, выціраючы адна аб адну рукі, сарамліва, не гледзячы ў вочы, назваўся баском:

– Іван Лагун.

Рэжысёр моўчкі, даволі бесцырымонна ўставіўся ў яго. Гадоў 18-19. Даўгалыгі, па-падлеткаваму нязграбны. Лапавухі – вушы тырчаць, як у маладой рысі, толькі без кутасікаў на канцах. Хвалюецца, і таму сімпатычны гэтай сарамлівасцю, якую цяпер так рэдка пабачыш. Прыгожыя рукі, доўгія пальцы, тонкія рысы твару. Рэжысёр спытаў: адкуль родам? Хлопец адказаў: з Рудабелкі. На тым і адпусцілі яго. А самі пайшлі на кухню.

– Што, спадабаўся? – Вечка расстаўляў талеркі і чаркі. – Гэта ён і ёсць. Той чалавек, пра якога я казаў.

– Ды гэта ясна, – рэжысёр адчуваў расчараванне, лёгкую крыўду і нават зайздрасць. – Колькі ён вам плаціць? – спытаў ён.

– Нiколькі, што ты. Як можна. Лепш скажы, праўда, ёсць у ім нешта? Як ты лічыш?

– Ёсць, ёсць. Сімпатычны хлопчык. Яму б пластыку зрабіць – вушы падрэзаць, і можна ў кіно здымацца. У амплуа беднага сваяка.

– А ён і здымаўся, – сказаў Вечка, прысеўшы на табурэтку. – У масоўцы, падстрыжаны пад чырвонаармейчыка. Да іх у Рудабелку нашыя прыязджалі, кінабрыгада, і ён тры дні акопы капаў.

– Вось як?

Тут рэжысёр замоўк, задумаўся. Позірк яго застыў, як бывала, калі пачынала ў ім пульсаваць фантазія. Тым часам на стале ўзніклі выпіўка і закуска. Галодны рэжысёр пацяплеў і ўзяўся наталяць голад, толькі адскаквалі рыбныя галовы і хвасты. Дзед у гэты час расказаў пра кватаранта шчымлівую калядную гісторыю. Ён, гэты Іван Лагун, сірата. Бацька трагічна загінуў. Ёсць яшчэ маці і дзве малодшыя сястрычкі. Многа, не па-дзіцячы працаваў. Жаданне выбіцца ў людзі. Паступіў у ВНУ. Як часта бывае,

пераацаніў сябе, пасля першай сесіі ледзь не вылецеў. Але пашкадавалі, пакінулі да вясны, каб там у армію. Стыпендыі не было. Уладкаваўся ў гіпермаркет – збіраць кошыкі і прадуктовыя вазкі.

– Там я яго і падабраў. Пашкадаваў гаротніка.

– Не ведаў, што такія студэнты яшчэ бываюць, – сказаў рэжысёр, аблізваючы па чарзе пальцы. Выпіўка і закуска рабілі сваю справу, ён заўважна палагоднеў. – Я думаў, яны толькі ў айфонах сядзяць і на прынтарах грошы друкуюць.

– А ён не такі, як усе. Ціхі, сціплы, добры, мяккі. Маўклівы. Несапсаваны зусім.

Парэшткі крыўды і зайздрасці зноў ажылі і заварушыліся. Рэжысёр сказаў грубавата:

– Вы дзеля гэтага мяне запрасілі? Каб расказаць, які ён харошы?

– Я запрасіў цябе, каб ты са сваім талентам, уменнем разбірацца ў людзях вызначыў, што ён за чалавек?

– Чалавек як чалавек.

– Ці падобны ён на цяперашніх аўтараў?

– Падобны, падобны. Толькі сціплы занадта. Не люблю такіх. Глядзіце, абчысціць кватэру, будзе вам.

– Не абчысціць. Хутчэй я яго абчышчу. У духоўным плане.

– Гэта як?

– Я мала ведаю цяперашніх маладых. І раз ужо ён у мяне жыве тут, хачу скарыстацца сітуацыяй, паназіраць за ім. Мо прыдасца.

– А казалі, ваша песенька спета, – нагадаў рэжысёр.

Тут стары раптам зноў, як і ў рэстаране, азірнуўся і перайшоў на шэпт.

– У мяне іншая задумка. Калі пісаць, дык пісаць; разыграць сцэнар не на паперы, не ў кампутары, а непасрэдна ў жыцці. Без кінакамер, акцёраў, аператараў, рэжысёраў, без усіх пасярэднікаў...

– Не разумею.

– Я хачу яму купіць латарэю. Выпісаць пуцёўку ў жыццё, фільм такі быў. А там як атрымаецца.

– Хто б мне выпісаў якую пуцёўку, – уздыхнуў рэжысёр. – Жартую.

– Я адным стрэлам двух, нават трох зайцаў хачу забіць, – горача шаптаў Вечка.

– І не скажаце мне? Не давяраеце.

– А ты будзеш маўчаць?

– Вы ж мяне ведаеце.

– Таму і пытаю, бо ведаю. Ну, добра. Слухай. Памятаеш дзяўчынку, якую я некалі пакрыўдзіў?

– Памятаю.

– Памятаеш, я казаў, што прыкуты да студыі нябачнымі ланцугамі? Дык вось, тая дзяўчынка, цяпер яна, канечне, бабуля, а не дзяўчынка, гэта маці нашай Інгі.

– Памятаю, – па інерцыі кіўнуў рэжысёр, але адразу ж схамянуўся. – Як? Нашай Інгі?! Яравой-Міхалевіч? Каторая галоўны рэдактар?

– Яе. Яны і знешне падобныя. Інга копія яе.

– А-а! – засмяяўся рэжысёр. – Я зразумеў. Вы зноў разыгрываеце мяне. Як з кватарантам разыгралі. Больш не куплюся.

– Сам можаш пераканацца, – Вечка працягнуў яму тэлефон. – Зайдзі на яе старонку, паглядзі профіль. Інфармацыя адкрытая. Ёсць там і пра

дачку Інгу з кінастудыі. Яна мне зямлячка. Яна з Гомеля, і бацькі яе, а я – з вёскі з-пад Гомеля.

– Так не бывае, – сказаў рэжысёр.

– Яшчэ не так бывае. Я спісаўся з ёю. Яна адказала. Пацвердзіла, што сапраўды была ў тым паходзе. Сама прызналася. Цяпер разумееш, якімі я прыкуты тут ланцугамі? Каб увесь час быць бліжэй да Інгі. Памагаць ёй. Гэта адзіны спосаб, каб, памагаючы ёй, выпрасіць дараванне ў яе маці.

– А Інга ў курсе? Вы сказалі ёй?

– Не, канечне.

Развіталіся. Спускаючыся ў ліфце, рэжысёр прыгадаў словы Вечкі пра творчы падман і, усміхнуўшыся, падумаў, што хітры дзед наглядна прадэманстраваў яму выпадак чароўнага мастацкага падману; ну, можа, не зусім чароўнага і не зусім мастацкага, але – падману дакладна. Ён не сумняваўся, што і гісторыя з пакрыўджанай дзяўчынкай, і яе сувязь з Інгай, і гэты кватарант таксама – усё розыгрыш, прыдумка, напрацоўка творчага замыслу; стары фантазёр-выдумшчык проста водзіць яго за нос, а насамрэч ужывую, на яго, рэжысёра, вачах праводзіць эксперымент – стварае свой сцэнарый.

Тое, што ён так лёгка разгадаў чужы намер, зусім супакоіла і нават развесяліла рэжысёра. І ён з лёгкім сэрцам адправіўся даводзіць да канца свае справы – аддаваць пазыкі.

## 4

На вуліцы свежы вецер адразу абняў яго. Папраўляючы шалік на шыі, ён затрымаў позірк на неверагодна сінім лапіку неба. Вось харошы ракурс, не забыць бы. Падсвечаныя знізу дамы рабілі вуліцу казачнай. Як пахне блізкай вясной. Як рытмічна працуюць лёгкія і сэрца, поўныя кіслароду і алкаголю. У кішэні ёсць грошы. Наперадзе ў запасе яшчэ з паўсотні гадоў. Цудоўна жыць!

Скіндзер зайшоў у бліжэйшы гіпермаркет. Стоячы перад батарэяй бутэлек і выбіраючы, пашукаў вачамі камеру відэаназірання. Знаёмы ахоўнік з гіпермаркета па сакрэце расказваў, дзе мёртвая зона, куды не дасягаюць камеры, і адзін раз на безграшоўі Скіндзер ледзь пазбег спакусы сцібрыць дарагое віскі. Цяпер нават ва ўяўленні такога не ўзнікае. Вось яна, прамая карысць ад Вялікага Брата. Гэтак сапраўды неўзабаве выправяць характары, адвучаць ад дрэнных звычак. Ён выбраў невялікую пляскатую бутэльку, падкінуў яе на далоні, злавіў, падміргнуў чырвонай кропцы камеры і накіраваўся да касы. Яшчэ праз некаторы час ён пад'язджаў на таксоўцы да дома сяброўкі. Было пазнавата, каля дзевяці вечара. З якім іншым даўжніком можна было адкласці на заўтра. Але не з Рытай. Яна жыла без мужа, з маленькай двухгадовай дачкой, не асобна, а ў бацькоў, і, канечне, з ёй трэба было разлічвацца ў першую чаргу.

Гэтай Рыце было 22 гады. Раней яна працавала на здымках фільмаў "хлопушкой"– па-руску, ці "ляпалкай"– па-беларуску: выходзіла перад кінакамерай з невялікай дошчачкай, агучвала непрыстойнае слова: "Запись-дубля!" і ляпала маленькім шлагбаўмікам. Таксама ў яе абавязкі ўваходзіла ўносіць нумары дубляў у журнал, каб потым не заблытацца ў тонах матэрыялу. Калі спехам пачаў ствараццa "FilmBell", яе аўтаматычна (бо не хапала людзей, а па-другое, так ці інакш была звязана з кінематографам)

перавялі ў сцэнарны аддзел, хоць яна сама прызнавалася, што не мае ні таленту, ні схільнасці да гэтай прафесіі. У кітайскай іерархіі сцэнарнага аддзела яна займала самае нізкае месца – малодшы рэдактар.

Для Скіндзера яна з'яўлялася больш-менш надзейным спонсарам і ўвогуле карысным чалавекам. Праз яе рукі праходзілі сцэнарныя працы так званага ўнутрыстудыйнага конкурсу, і калі-небудзь, бывала, Скіндзер забіраў у яе са стала якуюсь цікавую карацельку малавядомага ці зусім невядомага аўтара і пасля касметычнай перапрацоўкі, пад сваім ужо імем, прадаваў у РФ за невялікія грошы. А аўтару казалі: не пайшло, пішыце новыя рэчы.

І быў яшчэ адзін момант. Скіндзер хоць і падсмейваўся з яе і часта называў "яжемаць" (так яна і запісана была ў тэлефоне – "рыта#яжемаць"), яна проста падабалася яму як дзяўчына.

Падыходзячы да пад'езда, ён маякнуў па тэлефоне, Рыта спусцілася і адчыніла дзверы. І гэты ракурс ён запомніў: у святле лямпачкі над пад'ездам чырвоны пухавік і белыя валасы. Падняліся на яе паверх, прайшлі на агульны шырокі, доўгі балкон. Сюды даставала святло ад вулічнага ліхтара. У кутку стаяла старая гавайская гітара без струн і дзіцячыя саначкі. Рэжысёр адкрыў пляшку і каўтнуў. Рыце нават не прапаноўваў – ведаў, што яна не дакранецца. Як прызналася яна неяк: аднойчы ўжо выпіла, і вунь вынік, сапе носам у ложку пад коўдрай. Яна мела на ўвазе маленькую дачку. Курыць стараліся асцярожна і размаўляць ціха. У Рыты ззялі вочы. Усмешка не сыходзіла з яе твару. Рэжысёр ведаў, што яна крыху не ад гэтага свету. Па-дзіцячы пунсовыя вусны прагна абхоплівалі фільтр цыгарэты. І за гэта хацелася даць ёй па руках. Рэжысёр дастаў з кішэні грошы.

– Тут больш, чым трэба, – сказала яна. – Так ты ўсё раздасі і зноў будзеш пазычаць.

– А можа, мне хочацца часцей цябе бачыць.

– Не, на мяне не разлічвай. Я больш не змагу пазычыць. Звальняюць. Па сканчэнні кантракту.

– Як? З малой? Хіба гэта законна?

– Якія законы, пакуль ён тут, – адказала Рыта, маючы на ўвазе гендырэктара Хрушчанку. – Тут не да законаў. Ён робіць што хоча.

Тут Скіндзер успомніў, якія плёткі хадзілі, што пагаворвалі (а ў такіх выпадках і ў такіх установах заўсёды ўсе пра ўсіх "пагаворваюць"), што гендырэктар, усё той жа злашчасны Хрушчанка, і ўзяў Рыту на працу ў сцэнарны аддзел з адной-адзінай мэтай – каб яна, 22-гадовая, стала яму, 75-гадоваму, палюбоўніцай. Тое, што яе звальняюць, сведчыла аб адным – не стала. Вось і кантракту канец.

Рыта сказала:

– Зрэшты, я не перажываю. Грошы маленькія. Я б даўно сама звольнілася, калі б не ведала, што паўсюль адно і тое.

– Нічога, – ён пагладзіў яе па плячы. – Не прападзем. Мой сябра напіша сцэнарый, а мяне запрасілі, – пахваліўся з важным выглядам, – быць рэжысёрам. Сцэнар, праўда, так сабе. Слабенькі. Вярнуцца ў мінулае, каб выправіць віну. Але я пастараюся зрабіць з яго цукерку.

– Пакуль ён будзе сядзець, нічога ніхто не выцягне і не зробіць. Усё гэта без толку. Самае большае – так і будзеш карміцца з рускіх серыялаў.

– Ды што серыялы. У серыялах няма чароўнага падману, а адно прамое дзеянне.

Рэжысёр ажывіўся і сам не заўважаў, як пачаў гаварыць чужымі словамі. Скаваны з дзедам, ён цяпер нібы памяняўся з ім месцамі: гаварыў безупынна, а Рыта слухала. Яна абаперлася на край балкона і глядзела ўніз. Унізе, над пад'ездам казырок, галіны грушы. Рыта, збіваючы попел з цыгарэты, нахілілася. Амаль перавесілася. Ён інстынктыўна выкінуў руку, каб утрымаць.

– Глядзі, упадзеш калі-небудзь.

– Не ўпаду.

Дзе гэта ўжо было? Падобныя словы і нават такая ж інтанацыя? Успомніў – калі ён сказаў дзеду: "глядзіце, абчысціць кватарант", а той у адказ: – "Не абчысціць".

– Слухай, Рыта. Ёсць гатовая кінааповесць. Аддаю бясплатна. Прыязджае кінастудыя на здымкі. Набірае мясцовых для масоўкі. Выбралі сына і бацьку. Сын граў чырвонаармейчыка, а бацька павінен быў скакаць з цягніка, які партызаны пускалі пад адхон. І загінуў. Сын падрос, патрапіў на кінастудыю і пачаў помсціць кіношнікам. Яны паміраюць па чарзе адзін за адным.

– Пачакай, – Рыта сапраўды зацікавілася. – Пачакай. Гэта ж мы ездзілі на здымкі. Я таксама. Нешта не памятаю такога.

– Ты і не можаш памятаць. Гэта я толькі што, вось цяпер, прыдумаў.

– І ў чым ідэя?

– У двух планах. Першы, павярхоўны – матыў помсты. Сын ідзе за бацьку. А другі, глыбокі – помста за здзек з мастацтва, у прыватнасці, з кіно. За тое, што з ім зрабілі і працягваюць рабіць. Ёсць жа недзе кіношны бог, і цярпенне яго не бязмежнае.

– Нічога сабе.

– У гэтым соль. Помсціць не хлопчык, а кіношны бог. А хлопчык – яго сляпая зброя. Помсціць за пошласць, нажыву, манетызацыю святога, за халтуру, кан'юнктуру, за серыялы...

– Глыбока капнуў.

– Не забывай таксама, – падбадзёраны, працягваў рэжысёр, – што адбылося гэта на здымках кан'юнктурнага фільма пра вайну. Таго самага, дзе "мажь лоб зелёнкой". Гэта значыць, дзеля голай суцэльнай кан'юнктуры ў аднаго адабралі жыццё, а другому яго зламалі.

– А някепска было б, – раптам прамовіла Рыта задумліва. – Хаця, з іншага боку, тут у нас такое, што і помсціць не трэба.

– Уяўляю!

– Не ўяўляеш. Любы калектыў не падарунак. Але кіношны – па-за канкурэнцыяй. Аддзел рэдактуры асабліва. Гэта павукі ў слоіку, як тарантулы ў адной ямцы. Самі перагрызуць адно аднаго. Інга Яравая-Міхалевіч таксама... Там адзін Камар чалавек.

Рыта напала на любімую тэму. Але развіваць не стала. Спытала:

– Ну, а ты як? Зноў скакаў з электрычкі?

– З электрычкі, – гмыкнуў рэжысёр. – Бяры вышэй! Я ўпершыню сыграў ролю ў рускім серыяле. Эпізадычную, праўда, але ўсё як належыць, з грымам, прымеркай. Так што можаш павіншаваць з дэбютам...

Ён ажывіўся і расказаў, як яго грымíравалі (спойлер – ніяк: прыпудрылі нос, два мазкі пэндзлікам, і ўсё), затым адправілі на прымерку (якая не спатрэбілася, бо здымаўся ў сваім адзенні), як рэжысёр (той самы, што праводзіў кастынг; тады яму хапіла пяці секунд, каб Скіндзера зацвердзіць)

захацеў палепшыць кадр здымак у рэстаране. “Трэба задыміць крыху тут”. – “У нас жа дым-машыны няма. Можа, пакурым усе?” Знялі вечаровую сцэну, перамясціліся на ранішнюю – у той самай лакацыі. Рэжысёр: “Чаму раніцаю на стале ў келіхах учарашні каньяк? Зрабі хаця б гарбату”. – “Можа, проста пераліць у кубкі?” Так і знялі.

## 5

Самае цікавае, што Скіндзер, дзякуючы сваёй рэжысёрскай інтуіцыі, амаль не памыліўся. Іван Лагун сапраўды быў не такі просты, як магло падацца. У свае няпоўныя васямнаццаць ён меў ужо даволі пакручастую біяграфію, дзе прысутнічала і кіно, і каханне, і шантаж, і тайна, і нават крэўная помста. Праўда, бацька яго ні ў якіх фільмах не здымаўся і ні з якога цягніка не скакаў – яго забіла маланка, калі ён вудзіў рыбу ў лодцы на ўласным возеры. Здарылася гэта акурат у тое лета, калі прыязджала кіназдымачная брыгада і падстрыжаны Іван іграў маладзенькага салдаціка-чырвонаармейца ў масоўцы. А да гэтага яны, сям’я – бацька, маці, Іван-падлетак, дзве малодшыя сястрычкі пяці і шасці гадоў – спакойна і шчасліва жылі сабе ў ваколіцах Рудабелкі. Бацька займаўся аграбізнесам, меў ва ўладанні ўзяты ў арэнду, а потым выкуплены вялікі ўчастак зямлі разам з лесам, полем, возерам. Была свая крамка на базары, дзе ён круглы год прадаваў гародніну. Бізнес ішоў паспяхова. Бацька вазіў сына ў адзіную ў горадзе элітную гімназію. Сястрычкі падрасталі. Маці збольшага памагала мужу, але не перапрацоўвалася. Ва ўсім панаваў лад і згода, і здавалася, так будзе заўсёды і па-іншаму быць не можа.

Але ж гэта калі б людзі ўмелі задавальняцца тым, што маюць. Як і ў кожнага нармальнага чалавека, у бацькі была мара. Ён, беларус, паляшук, цвярозы, разумны, бацька траіх дзяцей, у душы быў летуценнікам. Трызніў Поўднем, цяплом, белым дамком. Яму так і ўяўлялася вінаградная лаза, сіняе мора, пунсовыя ветразі. Ён мог гаварыць на такую, паўднёвую, тэму бясконца. Вочы ў яго тады загараліся, а голас пачынаў дрыжаць. Ён ужо нават знайшоў пакупніка сядзібы, чалавека родам з Поўдня, але які, у адрозненне ад яго, наадварот, хацеў перабрацца падалей ад абрыдлага мора на кантынент, менавіта – у Беларусь. Ужо нават дамова была гатова. Заставалася толькі падпісаць. Рыхталіся да пераезду. І вось так недарэчна ўдар маланкі перакрэсліў планы, ушчэнт усё спапяліў.

На пахаванні было многа людзей, мясцовых і з горада. Звычайна багатых у нас не вельмі любяць; пра каго іншага абавязкова пашапталіся б, сказалі б, маўляў, вось кара яму за грахі. Але бацька нікому зла не зрабіў. Яго шкадавалі. Асабліва ўбіваўся нейкі рыжы мужчына. Ён так гараваў, што яго насілу адцягнулі ад труны. Іван яго раней не бачыў і нават не ведаў, што ў бацькі ёсць такі адданы сябар. Потым маці сказала, што гэта і ёсць той самы пакупнік сядзібы, па прозвішчы Отчык.

Усё пакацілася пад адхон пасля няшчаснага выпадку. Была сярэдзіна лета. У парніках, на гародах усё расло, спела, налівалася. Ніхто не ведаў, што з гэтым рабіць. Стаяла спёка. Някормленыя куры шчыпалі мурог каля плота. Маці паняцця не мела, як весці гаспадарку, бо ніколі гэтым не займалася. Адна, без радні, зусім не падрыхтаваная да суровага жыцця, яна была ў адчаі. Іван, адзіны мужчына ў сям’і, павінен быў браць усё на сябе, станавіцца гаспадаром, рабіцца сястрычкам за бацьку. Але яму само-

му ледзь стукнула пятнаццаць. Усё было б зусім кепска, каб не той самы спагадлівы пакупнік, Отчык. А яшчэ кажуць, часы добрых людзей мінулі. Спачатку ён прапанаваў купіць участак за невялікую, сімвалічную цану. Калі ж высветлілася, што гэта немагчыма – юрыдычныя рагаткі выключалі, паперы былі складзеныя так, што толькі гаспадар мог распараджацца маёмасцю, – тады ён, гэты Отчык, выключна ад спачування няшчаснай удаве і сіроткам узваліў на сябе важкую ношу: бясплатна ўзяўся весці справы нябожчыка-сябра, а неўзабаве і ўсю гаспадарку аформіў сабе ў арэнду на год. Хоць гэта, як ён прызнаваўся, прынесла яму нямала клопатаў, расходаў і нязручнасцяў. Ён нават вымушаны быў перабрацца з горада, дзе пасяліўся на перыяд куплі-продажу ў гатэлі, у іхні маленькі гасцявы флігель, які трымалі для знаёмых паляўнічых і рыбаловаў.

Для сям'і пачалося новае жыццё. Прыйшла восень. Працы хапала. Отчык, які сам працаваць не мог з-за нейкай хваробы, пільна сачыў, каб у іншых пастаянна былі занятыя рукі. Амаль кожны дзень у любое надвор'е можна было бачыць кранальную сцэну: Іван, маленькія сёстры, маці гарбацяцца на агародзе. Людзі з замілаваннем адзываліся аб працавітай сямейцы, Іван жа адчуваў сябе катаржнікам. Пры бацьку яны не ведалі ні ў чым адмовы. Раслі, гадаваліся на волі, сярод прыроды, здаровымі дзецьмі. Для іх увогуле не існавала такога паняцця, як голад, толькі апетыт. Скупаваты Отчык хутка прывучыў іх да, як ён казаў, "эканомікі", так, што калі-небудзь і чорны хлеб з цыбуляю быў за шчасце. Отчык, здавалася, вёў падлік кожнай цыбуліне на градах і кожнаму гурку ў цяпліцах. Любімая прымаўка ў яго была: "хто рубель не шануе, той капейкі не варты", а любімае слова – эканоміка. "Трэба ва ўсім трымацца экономікі". Хутка, праўда, высветлілася, што пад эканомікай ён мае на ўвазе эканомію, інакш – звычайную ашчаднасць.

Флігель, у якім жыў Отчык, быў у кутку двара каля студні. Раніцамі Іван мог назіраць, як Отчык абліваецца сцюдзёнай вадой. Ён вельмі глядзеў сябе, пільна сачыў за сваім нібыта слабым здароўем. Хударлявы, пародзісты, з рыжай шавялюрай і бакенбардамі, нечым ён нагадваў паджарага мускулістага льва. Калі-небудзь Іван лавіў на сабе яго позірк, хуткі, з-пад ілба, і, халадзеючы, думаў, што леў, прыходзячы ў чужы прайд, першай справаю перадушвае ільвянят мужчынкага полу. І праўда, калі да сястрычак Отчык ставіўся абыякава, да маці – нязменна з павагай, мо нават больш, чым з павагаю, дык з Іванам у іх агульнай мовы не было. Часам Отчык, калі ніхто не бачыў, клаў цяжкую руку яму на плячо і абмацваў худзенькую ключыцу.

– Ну што, Іван Лагун, удовін сын, – казаў, заўсёды ставячы прозвішча разам з іменем. У голасе чулася насмешка. – Як табе без бацькі?

Лішне казаць, што Іван не любіў, а яшчэ больш баяўся яго. Таму можна ўявіць, чаго каштавала яму аднойчы набрацца смеласці і спытаць, ці сапраўды яны, Отчык і бацька, так ужо сябравалі.

– Не скажу, што моцна, – адказаў Отчык. – Але ў душы мы былі як Хмяльніцкі з Чапліцкім.

Сэнс гэтага дзіўнага параўнання Іван зразумее пазней. А пакуль, прыблізна ў той жа час, у яго з'явілася тайна. Праз некалькі месяцаў пасля гібелі бацькі, калі боль страты аціх, Іван залез на гарышча, каб патрымаць у руках, перабраць бацькавы рэчы, складзеныя ў кардоннай скрынцы, і раптам звярнуў увагу на яго смартфон. Пакруціў у руках, заўважыў, што

на ім з'явіліся чорныя плямы і ўвогуле ён нейкі як бы абпалены, а з аднаго боку нават аплаўлены.

Іван глядзеў на гэты пакалечаны тэлефон, і яму здавалася, што ён працягвае здымацца ў кіно. Здагадка была наколькі простая, настолькі ж неверагодная – бацькава гібель магла быць не няшчасным выпадкам, а спланаваным забойствам. Ён толькі падзівіўся, чаму нікому з дарослых гэта не прыйшло ў галаву. У кампутары запэўнівалі, што немагчыма такое, не рэагуе маланка на ўключаны тэлефон. І адразу ж: "нядаўна было паведамленне пра гібель дарадчыка Мінаховы здароўя РФ у Крыме – яго ўдарыла маланка, калі зазваніў мабільнік".

Канечне, самае лепшае было б расказаць каму-небудзь, падзяліцца. Але Іван быў вельмі адзінокі. Сяброў не меў. Сёстры цураліся старэйшага брата, ім хапала адна адной. А маці – яна змянілася з таго часу, нібыта і па ёй прайшлася краем тая чорная маланка і абвугліла частку душы. І без таго маўклівая, цяпер яна зусім замкнулася ў сабе. Лагуну было нават крыўдна, што маці стала такой і не заўважае, не хоча бачыць, які гэты Отчык хітры, хлуслівы, небяспечны. Да ўсяго ў ім самім прысутнічаў страх. Калі Отчык сапраўды датычны да бацькавай гібелі, дык і яму, Івану, пагражае небяспека як адзінаму сведку. Таму ён вырашыў пакуль маўчаць і самому ва ўсім разабрацца.

На той час ён ужо вучыўся ў іншай школе, звычайнай, не ў цэнтры, а на другім канцы горада. Пра элітную гімназію, як і пра машыну, якой падвозіў яго бацька, давялося забыць. Отчык ні разу не падвёз яго, шкадаваў бензін і час, не кажучы пра кішэнныя грошы, якіх Іван меў роўна на два талончыкі. Машыну замяніў веласіпед. Іван даязджаў да ўскраіны горада, ставіў яго ў двары, перасядаў на аўтобус да школы, гэтаксама вяртаўся назад. Дарога дамоў, на якой ён адпачываў, стала нібы ўдвая даўжэйшай. Яна няспешна вяла ўздоўж берага возера, таго самага, некалі іхняга, а цяпер чужога. Высокі цупкі бераг. Палянка, парослая мяккай травой, на якой, калі суха, адпачываў, прывыкаў да адзіноты. Глядзеў на водную роўнядзь, такую падманна-ласкавую, ціхамірную. А то, лежачы на спіне ці на жываце, з травінкай у роце – марыў.

Ён і раней любіў гэты занятак. Але тады мары былі беспрадметныя – так, нічога цікавага, хутчэй фантазіі, а не мары: пра вялікі горад, новы айфон, моднае адзенне, дарагую машыну. Ён так і ўяўляў гэта – прыезд на дарагой машыне ў сям'ю, з падарункамі. Каля школы спыніцца. Ранейшыя мары нікуды не зніклі, жаданне разбагацець так і было асноўным, але з'явілася ў іх больш практычнага рэалізму, і яны прынялі накірунак, звязаны з Отчыкам, з жаданнем разблытаць яго цёмныя справы, і тады – помста яму, знішчэнне яго; напрыклад, выкупіць назад зямлю, а Отчыка давесці да галечы, а то і да турмы.

Яшчэ Іван зразумеў, што, каб мары збыліся, яму трэба вывучыцца. Не залежаць ад сям'і. Стаць славутым. Весці лёгкае, паспяховае жыццё. Пажадана нічога не рабіць, а ўсё атрымліваць, – каб грошы капалі самі сабой кожны дзень рэгулярна.

І ўсё гэта ў думках-марах давала яму – кіно. Толькі з ім ён звязваў свой лёс і будучы поспех. Кажуць жа людзі, аднакласнікі, настаўнікі, што ён падобны да нейкага кінаакцёра. І ўвогуле ён часта ўспамінаў тое лета, калі прыязджала кінабрыгада. Хаця насамрэч нічога рамантычнага там не было. Для здымкаў іх, хлопцаў-падлеткаў, пастрыглі «пад нуль», прычым

гэта была абавязковая ўмова. Яны гралі навабранцаў, радавых. Рэжысёр з'яўляўся на здымках вельмі рэдка, памяты і злы выкульваўся бліжэй да абеду са свайго студыйнага буса, лаяўся на памочніка, які, па-сутнасці, і быў сапраўдным рэжысёрам, і некуды знікаў. Адну і тую ж сцэну – капанне акопа – пераздымалі разоў дваццаць, пастраенне і кароткі дыялог паміж галоўным героем і яго таварышам – разоў пятнаццаць. Калі Іван пасля глядзеў серыял (цалкам так і не адолеў), то адзначыў, што сцэны з іх удзелам занялі ў васьмісерыйным фільме ўсяго хвілін мо восем. За адзін дзень плацілі 10 даляраў. Хлопец-кіношнік, што займаўся рэквізітам, на пытанне, колькі плацяць за масоўку ў Расіі, па сакрэце распавёў, што расіянам вельмі выгадна здымаць ваенныя фільмы ў Беларусі, бо, напрыклад, масоўку тут можна наймаць ці не ў 5 разоў танней. Увогуле, было спякотна, лысую галаву напякло сонцам, у Івана на другі дзень здарылася нешта накшталт цеплавога ўдару.

Але дзіўная рэч! Усё забылася пасля, адфільтравалася. Простае азіранне ў мінулае ахутвала ўсё мілай, светлай журбой і жаданнем апынуцца там зноў. Іван успамінаў тыя дні з настальгіяй. Кіношнае жыццё здавалася яму прыгожым, цікавым, лёгкім, бязбедным; кіношныя людзі – людзьмі з іншага свету. Для таго, каб жыць такім жыццём, трэба было дабіцца поспеху і разбагацець. Зрабіць гэта можна толькі вывучыўшыся. А на вучобу трэба грошы. Хаця б першапачатковы капітал – мінімум тысяча даляраў. Узяць іх можна толькі ў сквапнага Отчыка. А ён добраахвотна, па сваёй волі ніколі іх не дасць.

Замкнутае кола, якое і спадзяваўся разарваць Іван. План яго будзе просты: калі спраўдзіцца гісторыя з трагічным, злачынным званком, ён прапануе Отчыку сваё маўчанне ў абмен на грошы.

А тым часам Отчык, счакаўшы роўна год, зрабіў удаве афіцыйную прапанову, атрымаў згоду і ажаніўся з ёю. У высакародным парыве ён нават змяніў прозвішча – з Отчыка на Лагуна, як ён растлумачыў, каб не прападаў раскручаны брэнд. Так чалавек, не заплаціўшы ні капейкі, за год прыбраў да рук жаданы ўчастак зямлі разам з возерам, лесам, з усімі пабудовамі, прысвоіў бізнес нябожчыка, а таксама атрымаў у дадатак яго жонку, трох бясплатных парабкаў і новае прозвішча – словам, цалкам замяніў сябра, як бы пачаў жыць замест яго.

Пасля гэтага падазрэнні Лагуна, што ўсё было задумана і спланавана Отчыкам, а цяпер толькі рэалізоўваецца, перараслі ў цвёрдую перакананасць. Ён ужо не сумняваўся, што Отчык падстроіў забойства, што званок ад яго на бацькаў тэлефон супадзе з ударам маланкі. На пытанне, як узнаваць уваходныя/зыходныя званкі ў тэлефоне без сім-карты, сябра-гугл без запінкі адказаў: прыйсці з пашпартам і пасведчаннем аб смерці блізкага чалавека ў офіс і папрасіць у сотавага аператара раздрукоўку. Нарэшце Іван выправіўся туды. Ён запомніў, на форуме пісалі, што атрымаць раздрукоўку гадавой даўніны з чужога (хай нават і роднага бацькі) тэлефона зусім не лёгка, і многае будзе залежаць ад аператара, у яго выпадку – аператаркі, таму паспрабаваў спадабацца ёй. Трэба зазначыць, што да таго часу ён змяніўся знешне. Фізічная праца, свежае паветра, здаровая ежа, добрыя гены як бы паскорылі яго сталенне: у свае шаснаццаць выглядаў на ўсе васямнаццаць. Акрамя таго, была за душой у яго тайна, якая накладала свой адбітак і на характар, і нават на знешнасць. Высокі, сімпатычны малады чалавек з загадкавым тварам – такім паўстаў ён перад маладзенькай

aператаркай. А калі загаварыў, дык з’явіліся – чырвань на шчоках, сціплая ўсмешка, зазвінеў ціхі, з замінкаю голас.

“Разумееце... Бацька трагічна загінуў. Я, як сірата... Ці можна, калі ласка, раздрукоўку званкоў за год назад? Хто яму званіў, і каму ён, у апошнія хвіліны. Мне гэта патрэбна як памяць”.

“Ну што ж. Дзеля памяці пра бацьку”, – прамовіла добрая аператарка, усміхнуўшыся ледзь-ледзь у адказ (“З-за вушэй?” – падумаў ён).

І вось ён трымае жаданую, каштоўную паперчыну. Не адыходзячы ад акенца, упіўся ў яе вачамі. Так і ёсць. Апошні званок з незнаёмага нумара. Але не з Отчыкавага. Тады – з чыйго? Хто мог пазваніць так “своечасова”? Отчык з іншага тэлефона? Пазваніць, а потым памяняць сімку? Але бог мой, такія складанасці! – гэта занадта. Доўга не адважваўся ён набраць чужыя, страшнаватыя лічбы. У лепшым выпадку чакаў пачуць: “набраны вамі нумар не існуе”, а ў горшым... Ён не мог уявіць, што ў горшым, але наперад млеў ад страху. Нарэшце набраў, заплюшчыў вочы – і пачуў жаночы прыемны грудны голас. Ён прамармытаў, што памылка, прабачце, і адключыўся.

Новая тайна. Хто гэтая жанчына? Няўжо... у бацькі была палюбоўніца? Ён быў здольны на такое? Усё перавярнулася з галавы на ногі. Думкі пайшлі зусім у іншым кірунку. Цяпер тым больш нікому не скажаш. Пры такім раскладзе, пры наяўнасці палюбоўніцы, бацька аказваўся не такой ужо нявіннай ахвярай, і матыў помсты траціў сваю заманлівасць, а галоўнае – адпадаў, выслізгваў з рук Отчык. Невядома, як да яго падступіцца. А ён быў адзіным спадзяваннем Івана. Цяпер не было каму помсціць, адпаведна, не было ад каго тым ці іншым чынам дастаць на вучобу грошы.

## 6

Неяк у школе, каля настаўніцкай, Лагун выпадкова пачуў, як яго абмяркоўвалі: “сірата, а які мілы...”, “бяскрыўдны зусім. На кінаакцёра падобны”, – намотаў гэта на вус і зрабіў высновы. Ён зразумеў, чаму яго цягнуць і ставяць не самыя горшыя адзнакі, хаця вучыўся ён так сабе, цяп-ляп. Падслуханая размова, а таксама выпадак з сотавай аператаркай, падказалі яму, што яго безабароннасць, вінаватая ўсмешка, маска сарамлівасці, словам, усё гэтае ўмельства пры разумнай галаве ёсць тавар, і ім можна карыстацца, як нечым матэрыяльным, паставіць сабе на службу. Так ён і зрабіў. Не адразу, а паступова ён навучыўся даволі праўдападобна прыкідвацца, ведаў, як сябе паводзіць, які прыняць выгляд, каб спадабацца людзям. Варта было яму расцягнуць вусны ва ўсмешцы, пачырванець, як ён рабіўся падобны на сімпатычнага бяскрыўднага ідыёта і адначасова крыху на земляка-кінаакцёра Смактуновіча-Смактуноўскага, які напачатку сваёй кінакар’еры карыстаўся такой усмешкай напоўніцу. Спрацоўвала не заўсёды, але ў большасці выпадкаў яго выгляд абяззбройваў. Яму падабалася гэта.

Цікава было правяраць дзейснасць свайго акцёрства. У такія хвіліны яму пачынала здавацца, што ён не столькі жыве, колькі грае ролю, што не рэальнае жыццё вакол, а кіно, якісьці даўжэзны серыял, у якім не адзін ён прыкідваецца, а ўсе без выключэння; не жывуць, а больш-менш паспяхова граюць самахоць узятыя на сябе ролі, прыкідваюцца іншымі, і ўсё з адной мэтай – каб прыхаваць сваё сапраўднае жыццё. А сапраўднае ў большасці шэранькае, нецікавае, а то і злачыннае. Нават бацька, як высвятляецца, быў не той, за каго сябе выдаваў.

Неўзабаве надарыўся выпадак праверыць гэта – ці сапраўды людзі ўсе акцёры – на практыцы. Пасля таго, як Лагун памяняў школу, у яго з’явілася сяброўка-аднакласніца. Яна жыла ў трохпавярхоўцы на ўскраіне горада. Кожную раніцу яна чакала яго. Лагун ставіў у іх двары веласіпед. А потым разам яны ехалі аўтобусам у школу. Аднакласніца нічым асаблівым не вылучалася. Была такая ж ціхая, як і ён. Сціплая, маўклівая. Добрая. Знешнасць – дзве коскі, чысты, без падлеткавых прышчоў твар з фіялетавымі ценямі пад неверагодна прыгожымі вачамі. Белы фартушок, поўныя белыя ногі. Увогуле яна была рослая, з развітымі жаночымі формамі. Не красуня, але калі ўсміхалася, яе як аблівала ўсю сонцам і ўнутраным святлом. Раней Іван асабліва не зважаў на яе. Толькі пасля гісторыі з дэталізацыяй ды пасля званка па незнаёмым нумары ён інакш пачаў глядзець на жанчын увогуле і на сяброўку ў прыватнасці. Яна таксама адчула змену ў ім. Прынамсі, у яго знешнасці. І ў адзін красавіцкі вечар сама напрасілася правесці яго пасля школы далей за двор, да самага возера. І там, на палянцы, упершыню пацалавала – у шчочку. З таго часу яна пачала кожны дзень праводзіць яго пасля школы да палянкі. Яму і прыемна было, і разам з тым страшнавата, бо яна чамусьці адразу ўзяла нейкі меланхалічны, журботны тон, прыняла ролю вопытнай жанчыны, якая ўсяго паспрабавала ў жыцці, і нічым яе не здзівіш. Гэткі Пячорын у спадніччы.

“Хутка мы расстанемся. Мяне, як Лермантава, ссылаюць на Каўказ”, – сумным голасам паведаміла яна. Ён прапусціў гэта міма вушэй, лічачы чарговай яе выдумкай. Неўзабаве высветлілася, што ўся яна – сумесь інфантыльнасці і нейкай надрыўнай рамантыкі, пяшчоты і какецтва, кіношнай экзальтацыі і капрызаў; акрамя таго ўмела яна і злавацца, – тады бровы ў яе складваліся стрэшкай, як у П’еро, а голас рабіўся высокі і пранізлівы. То яна была жарснай і вешалася яму на шыю, то раптоўна як загаралася, так халадзела, то пачынала гуляць у маленькую дзяўчынку: надзімаць губкі, казаць “я так хоцу”, і яму даводзілася рабіць выгляд, што яго не бянтэжыць гэта. Яна любіла яго цалаваць – толькі ў шчаку, і ўвесь час брала з яго слова:

“Паабяцай, што будзеш мяне ўспамінаць. Што будзеш сумаваць па мне”.

Яна ўсё пытала:

“Як ты будзеш жыць без мяне? – і сама ж упэўнена адказвала: – Ты не выжывеш без мяне. Ты такі безабаронны. Ты мяне ніколі не забудзеш. Бедны. Я ведаю, што параніла цябе назаўсёды, але гэта жыццё”.

Тым не менш, і нават хутчэй за ўсё, у іх неўзабаве адбылося б нешта больш сур’ёзнае за пацалункі, усё ішло да таго, яна ўжо снілася яму ў снах, пра якія так соладка і сорамна ўспамінаць, як раптам яна сапраўды з’ехала, і сапраўды на Каўказ. На развітанне ў апошні вечар урачыста ўзяла з яго слова не траціць сувязі ніколі. Калі ўсё скончылася, ён уздыхнуў з палёгкай. Хоць яна падабалася яму, у душы ён быў рад, што пазбавіўся ад гэтай сімпатычнай зануды.

Гісторыя, аднак, тым не скончылася, а мела працяг, прычым яшчэ больш кіношны (лёс упарта прывязваў яго да кіно). Здарылася гэта праз год, калі Лагун ужо вучыўся ў апошнім класе. І зноў гэта было звязана з дворыкам, дзе ён па-ранейшаму ставіў веласіпед. Да таго часу дворык стаў яму ледзь не сваім. Ён усіх ведаў, і яго ведалі. Неяк раніцай – было гэта ў канцы мая, цёплага, душнага – ён заўважыў у кутку двара пад каштанам

матацыкл. З нумарамі РФ. Гаспадара нідзе не было. Толькі нейкая надта загарэлая для траўня месяца дзяўчына ў шортах, в’етнамках, педыкюр на пальчыках ног, сядзела каля дзіцячай пляцоўкі на арэлях. Пагойдвалася. Пасля школы карціна ў дворыку амаль не змянілася. Матацыкл стаяў, дзе і стаяў, толькі пад чахлом, дзяўчына па-ранейшаму сядзела на арэлях, як і не ўставала. Пабачыўшы Лагуна, махнула яму рукой. Яна яўна чакала яго. Ён падышоў. Яна паднялася. Кірпатая, з круглым тварыкам, падбародак з ямачкай. Школьнае мілае рабацінне, рассыпанае каля носа і па шчоках. У вачах цікавасць і нейкі дзіўны бляск. Яна загаварыла з ім.

“А я цябе завочна ведаю. Мне пра цябе многа расказвалі”.

Пазнаёміліся. Высветлілася, што гэта стрыечная сястра аднакласніцы-сяброўкі, той самай. Студэнтка-першакурсніца медвучылішча, старэйшая за Лагуна. З братам прыехала з поўдня на канікулы і заадно ў госці.

“Звычайна наадварот едуць”, – сказаў Лагун.

“У мяне ўсё не як у людзей”.

Лагун з ветлівасці спытаў, як там яго былая аднакласніца.

“Толькі цябе і ўспамінае. А ты сапраўды такі, як у яе расказах. Харошы хлопчык. І зусім бяскрыўдны”.

Яна яму таксама спадабалася. Не такая, як мясцовыя. Раскаваная, вясёлая. Калі б яшчэ не гэты бляск у вачах. Нешта небяспечнае зыходзіла ад яе.

“У вас прыгожа тут, сястра расказвала. Пакажы мне, пабудзь экскурсаводам. У нас іншая прырода, – пабачыўшы, што ён завагаўся, яна патлумачыла проста: – З кім іншым пабаялася б. Але ў цябе добры твар. Безаабаронны. Мне здаецца, я даўно цябе ведаю”.

На любімай палянцы цвіў сіні лубін і рассыпаліся белымі плямамі кветкі сунічніку.

“Які мілы. Чырванець умее – гэта ж трэба. Харошы які...”

Ад яе пахла малаком. І згадвалася прымаўка – малако на губах не абсохла. Не трацячы часу, яна моўчкі, дзелавіта і сумленна перадала збянтэжанаму, разгубленаму Лагуну ўсё, што сама ведала і ўмела. Ён толькі запомніў яе загар: аксамітны, пералівісты, атласна-шоўкавы на выгляд і на дотык, акрамя белых слядоў ад трусікаў і станіка, ружовых, як у немаўляці, пятак і белых з унутранага боку далоняў – як у малпачкі. У канцы, апранаючыся, яна прамовіла:

“Цяпер ты, як сумленны чалавек, павінен жаніцца”.

Ён баязліва на яе паглядзеў, ці не жартуе. Яна была сур’ёзная.

“У кіно пасля такога хлопец вядзе дзяўчыну да сваіх упартых, нezгаворлівых бацькоў. Са словамі: у нас ужо ўсё адбылося. І тыя вымушаны благаслаўляць”.

Гэта было так нечакана, што ў Лагуна ледзь не вырвалася недарэчнае: абяцаць не значыць жаніцца.

“Інакш я пастаўлю ў вядомасць брата. А ён ведаеш які?”

Лагун замармытаў, што яму яшчэ няма васямнаццаці. Яна засмяялася.

“Не бойся. Няўжо ты мог падумаць? Я жартую. Ну, што ў нас будзе за жыццё. Я люблю свабоду, ты... Выбачай, але на ролю мужа, мужчыны – ты падыходзіш менш за ўсё. Бачыш, якая я шчырая? Я магла б выйсці за цябе і потым здраджваць направа і налева. Але я не такая, і ты не такі. Смешны ты, наіўны. Добры такі. Цябе будуць усе любіць. Вось толькі не ведаю, за што? Ад шкадавання, можа?”

І, развітваючыся, прыставіла палец да шчакі:

“Цалуй, пакуль няма чаргі”.

Не верачы яшчэ, што ўсё абышлося, ён падумаў, як яму зноў пашанцавала (першы раз з аднакласніцай), і ўвогуле шанцуе: міжволі паверыш у нейкую сваю абранасць.

На другі дзень, у суботу, ён стаяў на базары за прылаўкам іхняга латка – па выхадных і ў вольны час ён падмяняў Отчыка, памагаў прадаваць садавіну-гародніну, балазе, было што прадаваць – ад маладых гэтага ўраджаю цыбулі і зеляніны да леташняй бульбы. Сам Отчык, нягледзячы на тое, што маніякальна сачыў за сваім каштоўным здароўем, усё ж меў з ім праблемы, перыядычна нападалі на яго прыступы немачы, і ён адлучаўся ў медцэнтр на абследаванне. Абследаванне было платнае. Ён забіраў нагандляваныя грошы і сыходзіў, а Лагун займаў яго месца. Была спакуса падвысіць цану, раз нават так і зрабіў, але ўлоў аказаўся невялікі, ды і небяспечна было: Отчык мог здагадацца. Таксама ў Лагуна праскоквалі такія думкі: раз Отчык хворы, дык можа доўга не працягне, і ўсё само сабою вырашыцца? Аднак Отчык вяртаўся задаволены і на запытальны позірк Лагуна адказваў:

“Годны! Усё ў норме”.

Дык вось, на другі дзень пасля паўднёвай дзяўчыны, калі Отчык быў на сваіх аналізах, а Лагун стаяў за прылаўкам, падышоў нейкі, у спартыўных штанах з лампасамі, падстрыжаны коратка, падобны на гопніка з фільмаў пра дзевяностыя, з матацыклетным шлемам на руцэ. Паклаў на край прылаўка шлем, барсетку, тэлефон. У Лагуна ёкнула сярэдзіна і сэрца ўпала ў пяты. Ён успомніў матацыкл у двары. Успомніў – “буду вымушана паставіць брата ў вядомасць”. Добра, калі брата. Тым часам матацыкліст моўчкі, уважліва вывучаў тавар на латку. Браў за хвост, аглядваў морквіну, абнюхваў пучок кропу, клаў назад. Нарэшце паглядзеў уважліва на Лагуна.

“А дзе гаспадар?”

“Я за яго”.

“Не, сапраўдны. Рыжы каторы”.

“У паліклініцы”.

“А ты яму хто? Сын?”

“Работнік. – І, зглынуўшы сліну, дадаў: – Сірата... Бацька загінуў. Гэта айчым”.

“Пагаварыць трэба. Падыдзі пасля вунь туды. Я пачакаю”.

Пайшоў. Тэлефон застаўся ляжаць на прылаўку. Можа, забыў, а мо знарок пакінуў, каб праверыць. Лагун кінуўся ўслед. Дагнаў і аддаў. Матацыкліст буркнуў нешта пра наіўнасць, потым падзякаваў. З’явіўся Отчык – падвесялелы, як заўсёды, і адпусціў Лагуна. Матацыкліст сядзеў непадалёку, за столікам. Побач у кіёску стругалі з вялікага верацяна мяса шаурму.

“Табе васямнаццаць ёсць?”

“Не”.

“Ты разумееш, што калі ты пакахаў маю сястру, цяпер ты як сумленны чалавек павінен дачакацца паўналецця і жаніцца?”

Лагун сядзеў ні жывы ні мёртвы. І зноў, трэба ж, адзінае, што круцілася ў галаве і на языку – дурное: абяцаць не значыць жаніцца.

“Выставіць бы табе рахунак за такія справы. Нікому іншаму не дараваў бы. Але я не монстр. Ды і ты не падобны на гвалтаўніка, на аферыста, калі шчыра”.

Лагун не знайшоў нічога лепшага, як ціхім голасам падзякаваць.

“Толькі не будзь наіўным. Вучыся пазнаваць і пазбягаць такіх, як я з сястрою. Гэта я табе з мужчынскай салідарнасці раю. Не звязвайся больш з ёю. Табе трэба не такая дзяўчына. Яна ў дзяцінстве з арэляў упала, галавой стукнулася. Больш яна да цябе не будзе чапляцца. Тым больш нам ехаць неўзабаве”.

Асмялелы Іван кіўнуў. Ён ужо бачыў, разумеў, што чарговы раз пранесла хмару над ім, спрацавала яго маска наіўнай сціпласці, і слова “сірата” памагло.

“А скажы, гэты, – паказаў матацыкліст на Отчыка (латок быў відаць адсюль, Отчык, вогненна-руды, з бакенбардамі, як у ірландца, аддалёк пазіраў на іх), – моцна цябе эксплуатуе?”

Лагун гмыкнуў, што можна было разумець і так, і гэтак, адзначыўшы сабе, што, на яго шчасце, размова перакідваецца на іншую тэму і трэцюю асобу.

Матацыкліст сам адказаў:

“Я ведаю такіх людзей. Жмоты і скнары. Па ім відаць. Бойся рыжых і лысых, – дадаў шматзначна, з тыпова рускай бесцырымоннасцю. – Дык я чакаю”.

“Чаго?”

“Расказвай”.

І Лагун расказаў. Пра маланку, пра купца зямлі (утаіўшы тэлефонны званок, бо баяўся, і не без падстаў, што матацыкліст можа занадта ўвішна ўзяцца за разблытванне), пра перамену прозвішча. Апошняе матацykліста сама больш зацікавіла.

“Так проста прозвішчы не мяняюць. Значыць, ад нечага ці ад некага хаваецца. Каб заблытаць след пасля цёмных спраў. Можа, гэта бізнес яго – шукаць прадаўцоў зямлі, потым гаспадары загадкавым чынам знікаюць, ён жэніцца на ўдовах. А зямлю потым перапрадае. А можа, ён кінуў каго, сядзеў у турме і менавіта таму памяняў прозвішча. Можна вызначыць па наколках. У яго ёсць?”

Лагун успомніў абліванні Отчыка халоднай вадою.

“Няма, здаецца”.

“А можа, яшчэ прасцей, – працягваў разважаць матацыкліст. – Пад скурай льва хаваецца ліса. Мо ён толькі тым і займаецца, што жаніцьбамі. Гэта яго хлеб. Адзін мужчына, у якога трое дзяцей ад розных жонак, уцёк і залёг на дно, каб не плаціць аліменты, і яго пачалі лічыць зніклым без вестак. Не ведаю, наколькі праўда”.

Лагун слухаў і дзівіўся з такой нястрыманай фантазіі. Яму ў навіну была гэтая непадробная зацікаўленасць чужымі справамі, так уласцівая рускім, якая павінна раскрыць, паказаць славутую шырыню душы, разрыванне на грудзях кашулі дзеля блізкага свайго.

“Так і тут. Ты ўпэўнены, што ён у паліклініку ходзіць, а не да палюбоўніцы? Можа, ён ужо нагледзеў іншы ўчастак зямлі. Так што глядзі, каб неўзабаве твая маці і сёстры не апынуліся на вуліцы”.

“Што ж рабіць?”

“Я навучу”.

## 7

Ужо вечар лёг, цені сталі доўгімі, а яны ўсё сядзелі за столікам. Уладальнікі кіёскаў і латкоў згортваліся, Отчык таксама. Ён пазіраў на іх, чакаючы Лагуна, але паклікаць не асмельваўся. У матацыкліста былі адказы на ўсе да адзінага пытанні. Лагун не паспяваў задаваць іх. Матацыкліст ведаў літаральна ўсё, у тым ліку і тое, як далей Лагуну жыць.

“Вучыцца трэба. Выбірацца адсюль. З’язджаць. З такім характарам, з такой знешнасцю можна стаць, ну, не ведаю – знакамітым кінаакцёрам. Ніколі не думаў? Любіш кіно?”

“Люблю. Але не паступлю. Там конкурс вялізны”.

“А ты паступі на любое аддзяленне, дзе недабор. Цяпер жа не праблема – падаў дакументы і паступіў. Каб замацавацца. А там пяройдзеш на кінематаграфію”.

У яго так проста было ўсё.

“А грошы? На вучобу?”

“У яго возьмеш”.

“Не дасць”.

“Намякні, што ведаеш, куды ён ходзіць. Каб ён быў у тваіх руках. А як інакш? Толькі так”, – шчыра, з абсалютнай перакананасцю ў сваёй праваце вучыў матацыкліст.

“А калі не дасць?” – паўтарыў Лагун.

“А я на што? Я ўмею гаварыць з такімі. Спасылайся ва ўсім на мяне”, – і махнуў Отчыку рукой.

“А як з вамі звязацца, праз ВК?” – спытаў Лагун.

“Ніколі яго не меў, – адказаў матацыкліст. – Хрэнь поўная. Вось... набяры мяне, адбі нумар. Калі што, звяртайся. Толькі не цягні, хутка мы з’язджаем”.

Яны развіталіся сябрамі. Так Лагун пазбегнуў вялікіх непрыемнасцяў, акрамя таго нечакана, на голым месцы, набыў апекуна, заступніка, настаўніка, які падказаў, што яму рабіць далей.

Пасля таго Лагун добра падумаў. Увосень яму будзе васямнаццаць. Нічога больш яго тут не трымала. Падраслі сёстры, сталі памочніцамі маці, маглі замяняць яго. Ды і маці ўжо акрыяла. У сярэдзіне лета, нікому нічога не сказаўшы, ён паехаў у сталіцу. Выбраў прыборабудаўнічы факультэт – адзіны, дзе былі вакансіі. Яго 208 балаў хапіла з запасам – пры прахадным 169. У прыёмнай камісіі зноў былі пушчаны ў ход яго правераныя сродкі: чырвань, ціхі голас, апушчаныя вочы плюс слова “сірата”, хоць яго за язык ніхто не цягнуў.

Заставалася яшчэ адно, апошняе, дзеля чаго патрабавалася пэўная адвага – здабыць грошы. Хутчэй за ўсё, шантажом, як і вучыў матацыкліст. Але іншага шляху не было. Лагун не сумняваўся, што проста так Отчык не дасць яму ні капейкі. Ён прыдумаў тэкст і паўтараў яго сам сабе, як школьнік, якому трэба вывучыць на памяць верш, пракручваў у галаве, бы заклінанне:

1) хачу атрымаць разлік за лета (а тое лета было шчодрае на садавінугародніну, і Отчык някепска зарабіў);

2) я ведаю, куды вы ходзіце. І ўвогуле, што вы не проста так змянілі прозвішча – вы датычны да гібелі майго бацькі;

3) інакш я вымушаны буду паставіць у вядомасць... папрасіць самі ведаеце каго... паклічу сябра, ён прыедзе.

Лагун зайшоў у пакой. Отчык стаяў спінай да яго. Але Лагуну здавалася, што айчым бачыць яго нават спінай, прычым наскрозь; ён адзін ведае, да чаго знешнасць Лагуна падманлівая. Ад гэтага было яшчэ больш не па сабе. Лагун ужо адкрыў рот, каб пачынаць, як Отчык павярнуўся і пільна пачаў глядзець на яго. Усе падрыхтаваныя словы вылецелі з галавы. Лагун пачаў мямліць пра паступленне. Тады Отчык раптам пасвятлеў тварам. Было відаць, што сам ён і марыць не мог пра такі варыянт.

“Паступаць? Малайчына! – але тут жа асадзіў сам сябе. Яму не верылася, што так можна, што гэта так лёгка. – Куды ты можаш паступіць? У школе вучыўся ніжэй за сярэдняга. Дарэмна толькі грошы праездзіш”.

“А я ўжо”, – не без гонару паведаміў Лагун. – Паступіў. Цяпер не праблема. Падаў дакументы, і ўсё”.

“Вось як?!” – зноў узрадаваўся і зноў зараз жа астыў Отчык. Было відаць, як ён разрываецца паміж жаданнем пазбавіцца ад непрыемнага, абрыдлага яму пасынка і нежаданнем плаціць за гэта. А яшчэ больш яму не хацелася страчваць амаль дармовую рабсілу.

“Нават калі паступіў, першакурснік – гэта яшчэ не студэнт, – знайшоўся ён. – Пасля першай сесіі, памяні маё слова, будзеш ты тут, без капейкі, а можа і без штаноў. Ты ведаеш, што такое Сталіца?”

Лагун маўчаў, Отчык таксама памаўчаў і пагладзіў рыжыя бакенбарды.

“Зрэшты, не маю права затрымліваць”.

“Трэба грошы”, – сказаў Лагун пераселым голасам, пераступаючы.

“Грошы! Так я і ведаў! Што ж. Магу даць... вось, сто пяцьдзясят даляраў. Гэта вялікая сума”.

Лагун сказаў, што яму трэба мінімум тысяча. Як плата за ўсё лета.

“Тысяча?! – усклікнуў Отчык. – Гэта вельмі вялікая сума. А калі дам пяцьсот? І то толькі з павагі перад памяццю пра майго сябра, твайго бацькі (успомніў нарэшце)”.

“Тысяча”, – смялей сказаў Лагун.

Сам здзіўляўся, адкуль бралася смеласць. Отчык, хутчэй за ўсё, гатовы быў ужо даць. Але Івана, падбадзёранага поспехам, панесла. Словы паліліся з яго, як плаціну прарвала. Усе прадуманыя ім пункты змяшаліся ў кучу.

“Інакш я буду вымушаны... я звярнуся да сябра... а сябар ведае, куды вы ходзіце... бо вы датычныя да гібелі майго бацькі... калі не дасце разлік за лета...”

Кажучы ўсё гэта, Лагун пільнасці не губляў, стаяў напаўпаварота, кожнае імгненне гатовы даць драпака.

Тут адбылося тое, чаго ён не чакаў. У вачах у Отчыка адбіўся самы сапраўдны страх. Дык вунь яно што! Меў рацыю здагадлівы матацыкліст-псіхолаг: страшны монстр з крывавай тайнай аказваўся ўсяго толькі дробным аферыстам, жаночых спраў майстрам і баязліўцам у дадатак. Отчык адвёў вочы, адвярнуўся, дастаў з кішэні грошы, не паварочваючыся, кінуў на стол. Лагун адразу зграб іх.

“Дык вось ты які, Іван, удовін сын”.

Ён сказаў яшчэ нешта пра яблык і яблыню. Але Лагун ужо не чуў, бо быў далёка. Яго ўразіла, наколькі ўсё лёгка і проста вырашылася. Аж да расчаравання. У далоні храбусцелі жаданыя купюры. Аб адным толькі ён шкадаваў – што не папрасіў больш.

## 8

Лагун з такой лёгкасцю патрапіў у ВНУ, што думаў: унутраныя іспыты здаць – таксама раз плюнуць. Але гэтак жа лёгка заваліў першую сесію і апынуўся на мяжы адлічэння “ў сувязі з акадэмічнай непаспяховасцю”. Неяк надта хутка пачало збывацца прадказанне Отчыка. Ён ужо хацеў вяртацца. І куды? – зноў да Отчыка ў парабкі. Ён быў упэўнены, што калі вернецца, там і загіне. У дэканаце ён пачаў мямліць звыклае: сірата, няма куды вяртацца – і зноў падзейнічала. Гэтае яго спадзяванне на невядома што, на цуд, ужо столькі разоў спраўджвалася, што стала ледзь не заканамернасцю. Яго пашкадавалі, махнулі рукою і пакінулі з умовай – толькі на паўгода, да летняй сесіі, а там і армія.

Самае непрыемнае, што скончыліся грошы. Пакуль яны былі, Лагун гуляў па сталіцы, апранаўся, ад’ядаўся. Грошы раставалі, і разам з імі канчалася надзея дзе-небудзь іх зарабіць. Ні пра якую дапамогу ніадкуль не магло быць гаворкі. Ён гатовы быў на ўсё, акрамя як прасіць у сваіх. Ды і не пройдзе ў другі раз такое з Отчыкам.

Ён ляжаў у пакоі на ложку, слухаў чырыканне хвалістага жоўтага папугайчыка з бурштынавай дзюбкай, які, як лімон, скакаў у клетцы. Гаспадар папугайчыка, сусед па пакоі, старшагрупнік, быў з тых, хто ў людзях з першага знаёмства адзначае якуюсь адну рыску і на падставе яе робіць уяўленне ўвогуле пра чалавека. Пачуўшы, што Лагун здымаўся ў кіно і што нават рэжысёр яго хваліў, ён ухапіўся за гэта і толькі на такую тэму з Лагуном і гаварыў, ставіўся да яго як да аматара-энтузіяста і паблажліва, мо з падколкаю, а мо і ўсур’ёз, даваў парады – кшталту: “Трэба ставіць самыя высокія мэты, імкнуцца ў Галівуд, не менш!”

Лагун мала карыстаўся сацыяльнымі сеткамі, часткова ленаваўся, часткова таму, што там трэба ўвесь час хваліцца, а яму пакуль не было чым. Сусед заўважыў гэта і, насыпаючы свайму папугаю корм, мяняючы ваду, навучаў:

– Як жа ты збіраешся заваёўваць свет? Без гэтага нікуды. Нічога не атрымаецца, – казаў, у прынцыпе, правільныя рэчы. Тым не менш Лагун не вельмі ўступаў з ім у спрэчкі, увогуле ў размовы, бо з яго не было чаго ўзяць, а Лагун ужо навучыўся дзяліць людзей па такім крытэрыі. Аднак менавіта гэты сусед памог яму. Ён усё раіў:

– Любіш кіно, здымаўся – дык і едзь у кіно. Хаця б статыстам.

– Я глядзеў у інтэрнэце, не трэба ім.

– З’ездзі сам, – настойваў сусед. – Усё адно ляжыш.

Лагун паехаў. А раптам? Пахадзіў па калідорах. Падыхаў творчым паветрам. Бачыў шыльды на дзвярах. Паглядзеў у высачэнную столь. Пастаяў каля дзвярэй аддзела кадраў, зайшоў. Сапраўды, сказала строгая жанчына, пакуль не патрабаваліся нават статысты, ды і грошы былі мізэрныя. Каля студыі быў гіпермаркет. Лагун зайшоў купіць чыпсаў і вады. Каля дзвярэй – абвестка: “Патрабуецца... зборшчык вазкоў і кошыкаў у гандлёвай зале, праца 4 гадзіны”. Праца? Ён, канечне, звяртаў увагу, але нават не ведаў, што ёсць спецыяльны чалавек, які ходзіць па зале і збірае кошыкі. Прычым усяго 4 гадзіны, а потым тры дні дома. Ахоўнік правёў яго ў канец гандлёвай залы ў падсобнае памяшканне да, як ён выказаўся, начальніцы дворнікаў. Яна ўхапіліся за Лагуна вачамі, рукамі і нагамі. Ён сказаў завучана, як абавязковы штамп, ужо не чырванеючы і не саромеючыся: студэнт, сірата. Стыпендыі няма.

“Ды гэта для студэнтаў знарок прыдумана, – усклікнула начальніца. – Раней разгружалі вагоны, а цяпер кошыкі і вазкі ў гіпермаркетах збіраюць. Калі не саромеешся і не лянуешся, разлічвай на 150-200 даляраў. Практычна пад нагамі на дарозе валяюцца”.

– А праўда, што ўсяго чатыры гадзіны?

– Праўда. Лёгкая праца.

Банкаўская картка, сацыяльны пакет, працоўная кніжка, усё як належыць. Афіцыйна праца называлася “дворнік”. Вячэрняя змена, з 19 да 23. Праўда, далёка дабірацца, на другі канец горада, паўтары гадзіны, але сама праца напачатку была да несур’ёзнасці лёгкая. Лагун, як у фільме “Тэрмінал”, дзе галоўны герой тым самым займаўся, збіраў па зале, састаўляў адзін у адзін вазкі, наверх – кошыкі; а часцей дысцыплінаваныя пакупнікі самі вярталі іх куды трэба, на месца. У яго быў дзед-зменшчык, які працаваў ад раніцы да прыходу Лагуна; выконваў сёе-тое дворніцкае: прыбіраў ад паперак і акуркаў прылеглую да гіпера тэрыторыю, падмятаў задні двор. Там стаялі сметніцы, і Лагун раз бачыў, як дзед па-гаспадарску корпаецца ў іх. Пераадольваючы гідлівасць, Лагун падышоў бліжэй, паглядзеў і быў здзіўлены яго здабычай: усё якаснае, ва ўпакоўках каўбаса і сыр, садавіна-гародніна не горшыя, чым у краме ў скрынках.

Акрамя зменшчыка, Лагун меў справу з ахоўнікамі. Гэта была асобная каста. Яны стаялі каля касаў, у некаторых рукі за спінай ці складзеныя на грудзях. Усе ганарыстыя, асабліва тыя, хто сядзеў у апаратарскай – сядзелі, пільна ўзіраючыся ў маніторы. Лагуна адразу папярэдзілі, што ўсё пад камерамі назірання. Калі хто што ўбачыць ці знойдзе, імгненна дакладваць ахове. Таму, ведаючы, што кожны яго крок адсочваецца, Лагун знарок стараўся трымацца відных месцаў. Ён нават не заходзіў у пакой адпачынку – стол, дзве лавы, дзе пілі каву і перакусвалі. Тым больш, не было патрэбы, бо напачатку за чатыры гадзіны ён проста не паспяваў стаміцца і прагаладацца. Аднак неўзабаве стала ясна, чаму на такую нібыта лёгкую працу так мала ахвочых. Пачала балець, колам станавіцца спіна. Холад, скразнякі, голад да моташнасці. Твары, твары, рукі, рукі. У вачах мільгацелі каўбасы, масла, мяса, хлеб, звінелі бутэлькі спіртнога, галасы, касы, крокі, людзі. Начны аўтобус, метро, засынанне на лекцыях. І зноў кошыкі. Гэта было зусім не тое, аб чым ён марыў. Нейкая безвыходнасць, безнадзейнасць пачынала авалодваць ім. Што наперадзе, аб тым стараўся нават не думаць. І толькі зрэдку, урыўкамі, па-ранейшаму тупа верыў у нейкую сваю зорку, наіўна лічачы, што калі нешта моцна хацець, дык яно ўжо напалову выкананае. (Зрэшты, ён нават не ўяўляў, да чаго блізка быў ад ісціны і як крута неўзабаве зменіцца яго жыццё.)

Праз тыдзень пасля Новага года стаяў калядны мароз, дзьмуў вецер, мяла завіруха. Лагун сядзеў на кукішках каля камер захоўвання, прыхінуўшыся да сцяны. У жываце хадзілі моташныя хвалі ад голаду, па спіне беглі дрыжыкі. Ён глядзеў праз шкляныя дзверы на зоркі, якія таксама свецяць зараз над родным домам, і думаў: усё, хопіць, трэба вяртацца – хай сабе і пераможаным, ні з чым. Ён зайшоў у гандлёвую залу і ўбачыў у адным з вазкоў пальчаткі, а пад імі смартфон. Ён схапіў іх і кінуўся да дзвярэй. Каля выхаду сутыкнуўся нос у нос з задыханым дзедам.

– Успомніў, калі рукі замерзлі. Вось дзякую, добрая душа. Я твой даўжнік.

– Ну што вы. Тут відэакамеры паўсюль.

– Ну, не толькі ж камеры. Ёсць яшчэ такая рэч, як сумленне. Студэнт?

– Студэнт.

– Не мясцовы?

– Не мясцовы.

Дзед хацеў нешта яшчэ спытаць, ды не паспеў, бо Лагуна паклікалі. Скончылася змена. Гіпер вось-вось зачыніцца. Калі Лагун выпраўляўся дамоў, убачыў, што каля ячэек камер захоўвання яго чакаюць. Той самы дзед.

– Можна цябе папрасіць? Правесці мяне? Я жыву недалёка.

Пасля, калі ішлі, быў студзёны студзенькі калядны вечар, свяцілі ліхтары і іскрыўся сіні снег. Дзед гаварыў, Лагун напаўвуха слухаў.

– Мне галоўнае тэлефон, надта многа там інфармацыі, ён мне адначасова і блакнот, і дыктафон – так зручна, ідзеш сабе і надыктоўваеш ціха, ніхто ўвагі не звяртае, думаюць, проста размаўляе з кімсьці чалавек.

– А навошта вы надыктоўваеце? – спытаў Лагун.

– Для кінастудыі. Я там працую. Сцэнарыстам.

Лагун у гэтым месцы спатыкнуўся, ды так, што дзед прытрымаў яго. Сэрца адазвалася салодкімі ўдарамі. Зноў лёс мякка, але настойліва падводзіў яго, перасякаў з кіно; вось і гэтую сустрэчу інакш, як знак, не назавеш.

– Мы прыйшлі. Я тут жыву. Запрашаю да сябе, – сказаў дзед і паспяшаўся растлумачыць: – Жонка з дзецьмі ў Паставах, я адзін. Не бойся.

– Я не баюся.

Двухпакаёвая кватэра. Столік, на якім бутэлькі і закускі. Штучная елачка, па-старадаўняму ўпрыгожаная шклянымі цацкамі і гірляндай лямпачак. Цёпла. Светла. Утульна. Спіну можна расслабіць, ногі выдаўжыць. Страўнік бурчыць і галава злёгку кружыцца ад здаровага голаду, ад пахаў ежы. А наперадзе, гаспадар сказаў, ванна.

– А ведаеш што? – заставайся начаваць, – заявіў ён. – Куды ў такую ноч ехаць. Свежая бялізна, чыстая пасцель.

Нагадвала якуюсь калядную гісторыю. Лагун зразумеў, што трэба расказаць пра сябе, што дзед чакае гэтага. І коратка! Вельмі коратка! Каб не ўскладняць, расказаў усё, як і іншым: маўляў, сірата, дзве сястры, маці, працуюць на чужога дзядзьку; мары жыць па-чалавечы, жаданне выбіцца ў людзі; не забыў пра здымкі свае статыстам у масоўцы; сціпла паведаміў, што рэжысёр хваліў яго (чаго не было), прызнаўся, што і сюды прыязджаў знарок на кінастудыю (так і было), ды не атрымалася ўладкавацца. Дзед слухаў, вочы ў яго туманіліся, ён, пазіраючы перад сабой, нібы прыкідваў нешта.

– Сірата, – паўтарыў ён. – Значыць, ты ўжо з малых гадоў паспытаў горыч жыцця. А скажы, якія ў цябе планы? Надалей?

Лагун адказаў, што ніякіх асабліва планаў, да вясны перабіцца, а там, можа, у войска. І ў сваю чаргу спытаў:

– А цяжка стаць сцэнарыстам?

– Як табе сказаць. Трэба, па-першае, проста нарадзіцца творчым чалавекам. Затым стаць літаратарам. Для гэтага пажадана гадоў дзесяць чытаць адну класіку, вучыць на памяць, потым выкінуць яе з галавы, яшчэ гадоў пяць ездзіць, хадзіць, вандраваць па Беларусі і па ўсім свеце, слухаць, запамінаць, запісваць. Пажадана пасядзець у турме, адпачыць на Багамах, пабыць багатым, затым жабраком, выйграць у латарэю і прайграць у рулетку, як Дастаеўскі. Жаніцца, развесціся, нарадзіць дзіця, калі

зможаш. І вось тады, як застануцца жаданне і сілы, успомніць усё, што чытаў, перамяшаць з тым, што бачыў і пераҗыў, дадаць тое, што яшчэ хацелася б убачыць і пераҗыць, – і ўжо тады са спакойнай душой засесці за пісанне. Хоць і сцэнарыяў, бог з імі.

– А я б, здаецца, усё гэта з радасцю прайшоў бы, – вырвалася ў Лагуна. Выпітае віно і вялікі кавалак смажанага мяса разняволілі яго язык і думкі.

– Ты так моцна любіш кіно?

– Ага, – Лагун зглынуў. Што павінна было азначаць – больш за ўсё на свеце.

– І хочаш навучыцца пісаць сцэнары?

– З дзяцінства, можна сказаць, марыў.

– Ну што ж. Можа, сам лёс паслаў мне цябе. Падумаем, што можна зрабіць, як табе памагчы.

Лагун пасля нядоўгага маўчання спытаў:

– А нашто гэта вам? Ну, памагаць мне? Што вам з гэтага?

– Хачу проста дабро зрабіць табе. Харошы ты вельмі хлопец.

– Але з мяне няма чаго ўзяць. Я нічым не змагу вам адплаціць.

– Нічога не трэба. Я ўжо ў такім веку, калі трэба збіраць як мага больш добрых спраў. Мо і спатрэбяцца на апошняй таможні.

Лагуну гэтыя словы былі і незразумелыя, і падазроныя. Як праз сон, даносіліся гукі. А дзед працягваў.

– Першую частку жыцця атрымліваеш радасць, калі ўсё робіш для сябе. Другую – для сям'і, для дзяцей. А вось трэцяя, апошняя частка – і я акурат у ёй знаходжуся – радасць ад таго, што робіш дабро зусім чужым, незнаёмым.

У Лагуна галава хілілася на грудзі. Ён ужо амаль спаў. Якія перыяды якія часткі, калі жыццё неверагодна доўгае, яно бясконцае, а можа і ўвогуле вечнае. Назаўтра раніцай ён атрымаў каву на падносе ў ложак. “Сняданак на стале, пад ручніком”, – ці то іранічна, ці ўсур'ёз сказаў Вечка, Лагун ужо ведаў, як яго завуць. Дзед сядзеў каля ложка, падпёршы галаву рукой, з цікавасцю і з жалем пазіраў, як Лагун п'е каву. А потым працягнуў учарашнюю размову:

– Я за ноч усё абдумаў. У мяне прапанова. Хочаш мне памагчы?

– Гледзячы як.

– Не, не! Не падумай, што гэта якая афера!

– Я і не думаю.

– Мне сумленне не дазволіць, ты такі несапсаваны, чысты, наіўны, добры. Не магу ўявіць, у каго рука падымецца і язык павернецца пакрыўдзіць цябе.

– Тады што? – даволі бесцырымонна перапыніў яго Лагун.

– Ды справа няцяжкая. У мяне даўно задуманы адзін сцэнарый... Сцэнар для конкурсу. Ён хоць і абдуманы, але ў галаве пакуль. Я не надта сябрую з кампутарам. Я буду дыктаваць, а ты набіраць. Заадно і вучыцца. Згодзен? Хочаш?

– Вельмі хачу. Толькі як гэта будзе? Прыязджаць да вас, ці што?

– Не, не прыязджаць. Ты жыві ў мяне на гэты час. Кватэра, стол – усё маё. Як бы бонус табе. Я цябе не пакрыўджу. – І дадаў: – Толькі пры адной умове. Калі жонка прыедзе, табе давядзецца сысці.

## 9

Так Лагун пачаў жыць у дзеда – як сабака ў вядомым мультфільме, толькі нават яшчэ лепш. Хаця і ездзіць на рэдкія лекцыі па-ранейшаму было далекавата, затое за кватэру плаціць не трэба. Суха, цёпла, кормяць і зусім блізка да гіпера, да сваіх кошыкаў-вазкоў, якія ён не збіраўся кідаць, бо гэта былі лішнія 150-200 даляраў. Першых некалькі дзён ён проста адсыпаўся, адлежваўся ў цішыні. Гартаў ноўтбук ці смартфон, глядзеў абы-што: старонкі жыцця "зорак", дзівіўся на будынкі, машыны, адзенне.

Вечка пачаў заходзіць да яго ў пакой кожны вечар, калі Лагун быў не на кошыках. Прыносіў 1-2 старонкі тэксту. Лагун адкрываў выстаўленую ў "Ворздзе" "рыбу"-схему: экстэр'ер, інтэр'ер, сцэна першая, другая, трэцяя. Дзед пачынаў дыктаваць, Лагун механічна набіраць. Тое, што ён набіраў, здавалася яму страшэннай лухтой, немагчымай, у сон хілячай нудотай. Нейкія словы, словы. Ніякага дзеяння. А сцэнар павінен быць вось як баявік, кароценькія сказы і дзеянне. Мала таго, што тэкст складаны, дык ён да ўсяго быў задуманы дзедам Вечкам і запісаны на аркушыках па-беларуску. Дзед чытаў сказ, Лагун перакладаў у галаве ці пры дапамозе скарніка на рускую, вымаўляў уголас. Дзед узрадавана ківаў галавою: "Так, выдатна, усё правільна!" – і далей дыктаваў сказ па-руску зусім інакш, чым было ў Лагуна.

– А па-руску нашто? – спытаў Лагун.

– Там ніводзін чалавек па-беларуску не прачытае, – адказаў Вечка з некаторай грэблівасцю. – А калі прачытае, дык не зразумее. Затое яны шукаюць нацыянальны код. Яны шукаюць! Ім і ў галовы не прыходзіць, што яго і шукаць не трэба, яны топчуцца па ім.

На маўклівае пытанне Лагуна патлумачыў:

– Так, так, тая самая шматпакутная мова. Якая адначасова і код, і нацыянальная ідэя, і паветра, якім дыхаеш. Але яны будуць вынаходзіць мільёны складаных, абыходных шляхоў, толькі каб не ісці па адзіна правільным, дарэчы, і самым лёгкім, які найбліжэй і найхутчэй вядзе да мэты. Я, праўда, даўно зарокся не чапаць гэтай тэмы. Але калі-небудзь цярпення не хапае. Ну, шукайце далей.

Надыктаваўшы староначку, дзед адрываўся, прыносіў каву, бутэрброды, яблыкі. Хацеў пагаварыць, паслухаць Лагуна, які разумеў, што гэта і ёсць яго плата за жытло. Але атрымлівалася, што Вечка сам пачынаў гаварыць, ды так, што не мог спыніцца.

– Дык ты кажаш, – пачынаў ён (хоць Лагун нічога яшчэ не казаў), – працоўнае дзяцінства, вёска, прырода. Што можа быць лепш!

У яго загараліся вочы, цяплеў голас, па ўсім відаць, у яго ў галаве ўзнікаў вобраз яго самога малога, толькі перанесенага ў цяперашні час. Ва ўсім мінулым яму бачылася адна толькі настальгічная лірыка.

"Я больш за 30 гадоў патраціў на разгадку пытання: чаму толькі ў раёне 12-13 гадоў меў поўнае, шырокае, глыбокае, усеабдымнае шчасце, і дзе яно потым згубілася, растрэслася? Хоць у тыя гады быў бессярэбнікам і меў адны штаны, а потым займеў сёе-тое – не горш за іншых – матэрыяльнае? Што ж там такое было? І зразумеў: любіў тады (лепш сказаць, само любілася) не канкрэтыку, а агульнае, не дэталі, а панараму. Не было ні чалавека, ні дрэва, ні жывёліны, ні рэчы – словам, нічога таго, што можа знікнуць, сысці, што могуць адабраць, – да чаго б я моцна прывязваўся.

Дрэва спілуюць, чалавек памрэ, каханая кіне, дзіця вырасце... А хто можа адабраць неба, ваду? Паветра, сонца, месяц, туман і зоры? Мары і летуценні? Ніхто і ніколі".

Іншым разам расказваў, што шчасце і радасць часта маюць прыроднае, фізічнае тлумачэнне.

"Калі малымі бегалі па грыбы, яшчэ зацемна, бывала, што лягаў пад хвойку, каб хоць пяць хвілінак падрамаць. Але потым расходжваўся, разам з узыходам сонца, якое промнямі рассейвала туман і праганяла начныя цяжкія лясныя пахі. Сасновы лес напаўняўся тады чыстым кіслародам, і ўзнікала радасць, якая пакрысе рабілася ўсё большай, проста ненармальнай – як бы выпіў ці прыняў лёгкі наркотык. А чысты кіслярод ім жа і ёсць!"

"Тое самае, калі летнім днём лез з топняй у рэчку лавіць уюноў, з-пад ног, як толькі ўлазіў у ваду, падымаліся занізкі бурбалак – і зноў тая самая лёгкасць і ненатуральная, беспрычынная радасць! Толькі потым, дарослым ужо, даведаўся, што балотны газ – таксама наркатычны. Усё было ў самой прыродзе на радасць чалавеку, усяго ўдосталь хапала ў нашых беларускіх вёсках. Іншая справа, што самі вёскі як пачалі душыць яшчэ з канца 19 стагоддзя, так не супакоіліся, пакуль не прыкончылі дарэшты ў пачатку 21-га, і саму назву знішчылі, навязаўшы замест вёскі аграгарадкі, а замест вяскоўцаў – "сваты": хамаватыя, гарластыя, па-цыганску шумныя, якія суткамі не вылазяць з-за стала".

Даліся яму гэтыя сваты. Лагун слухаў і думаў: знайшоў аб чым плакаць. Нічога харошага ў той вёсцы, як цяперашняй, так і ранейшай, не было і няма, акрамя жадання хутчэй уцячы адтуль. Разумнікі. Дайце мне грошы і кватэру, я б не плакаўся па грыбах і ўюнах. І чаму так заведзена: хто ўмее распараджацца грашыма, той бедны, а ў каго яны ёсць, той дурны?

У самога яго ўжо склалася меркаванне пра дзеда Вечку. Такія тыпы яму і раней трапляліся. Гэта былі, у прынцыпе, вельмі добрыя людзі, інтэлігентныя, ціхія, наіўныя, якія мала чаго дабіліся ў жыцці, але затое і гора мала зналі; адпаведна, і жыцця як такога яны не ведалі. З імі было лёгка, але чамусьці вельмі хацелася карыстацца імі, падманваць іх.

Прайшоў месяц, пачаўся другі, і амаль кожны вечар была дыктоўка: "рыба", інтэр'ер, экстэр'ер, якія ўяўляліся Лагуну пародамі сабак. Вечка дыктаваў пра нейкага офіснага работніка, які доўга цярпеў самадурства начальніка, нарэшце ўзбунтаваўся, нагаварыў шэфу ўсё, што пра яго думае, і вымушаны быў пайсці з працы – страціць месца. Ён апынуўся на вуліцы. Спачатку сям'я – жонка, цешча, дачка і сын, сваякі, сябры, знаёмыя і калегі ганарыліся ім, яго геройствам. Але ішоў час. Працягваліся пошукі новага месца. Рассылка рэзюмэ, паходы на фірмы, званкі, пісьмы, просьбы ні да чога не прыводзілі, акрамя траплення героя ў розныя камічныя і трагічныя сітуацыі. Мала-памалу імпэт згасаў, а праблемы, наадварот, разрасталіся. Нявыплачаная іпатэка, куча крэдытаў. Сябры пачалі пазбягаць няўдачніка, знаёмыя перасталі пазычаць яму грошы. У яго апусціліся рукі. Ён вырашыў больш не змагацца. Насоўвалася беднасць. Не было чаго есці. Сын кінуў вучобу. Цешча з эканоміі вырашыла ўвогуле галадаць, чым давяла сябе да бальніцы і ўвагнала сям'ю ў яшчэ большыя траты. Дачка заяўляла, што гатова прынесці сябе ў ахвяру – завесці багатага палюбоўніка. Жонка, усё жыццё смірная і ціхая, пачала бурчаць, упамінаць мужавы грахі, упікаць, што, маўляў, усё тут яе, у тым ліку кватэра, а ў яго толькі домік на лецішчы, які застаўся яму ў спадчыну

ад цёткі. Скончылася тым, што туды, у той дамок, ён і перабраўся. Ляжаў днямі на старой канапе, варочаўся. Пакрысе зразумеў: справа не ў месцы, якое ён страціў, а ў тым, што выпушчаны джын з бутэлькі – адкрыліся сапраўдныя рысы характараў, паказаўся адваротны бок жыцця не толькі блізкіх людзей, дзеля якіх ён, як лічылася, жыў, а і яго самога. Ён ляжаў, перабіраючы ў памяці сваё мінулае, дзяцінства, школу, аднакласнікаў, настаўнікаў, каханую дзяўчыну... З невыказным сумам у сэрцы згадваў тых, каго пакрыўдзіў. Так ён пачаў пазнаваць сэнс жыцця, менавіта тое, што дарэмна заядаўся з начальствам, што поспех не ў тым, каб заняць цёплае месца, а ў тым, што без цуду, без умяшання “звыш” ніякі поспех немагчымы, ды і непатрэбны. І амаль увесь час ён праводзіў на канапе: спаў, ляжаў, варочаўся. Пад бокам усё муляла нешта цвёрдае, пакуль не выпала з-пад матраца на падлогу цяжкая скарбонка, да краёў поўная залатых вырабаў – з яшчэ таго, савецкага, дыхтоўнага золата найвышэйшай пробы. Такую спадчыну разам з домікам і канапай пакінула яму старая цётка. Адначасова падаспела прапанова вярнуцца зноў у тую ж фірму, з якой яго выгналі, толькі цяпер з павышэннем. Але яму ўжо не трэба было. Цяпер ён быў забяспечаны матэрыяльна да канца жыцця.

– Амаль як у Святым пісанні, – падвёў рысу Вечка. – Застаючыся на месцы і ў спакоі, уратуешся. Вось харошы тэглайн, ці слоган, да фільма. – І развіў: – Чалавек часта псуе сабе жыццё не тым, што не робіць нечага, як яму здаецца, патрэбнага, а тым, што энергічна робіць акурат непатрэбнае. І, можа быць, лежачы на баку, хутчэй дачакаешся ўдачы.

Як толькі была пастаўлена апошняя кропка і напісана курсівам слова Канец (прыемная падзея), Іван Барысавіч аб’явіў, што “прыязджаюць мае – жонка, сыны” (непрыемная падзея). Ці то так супаў канец дыктоўкі з прыездам, ці проста кватарант стаў больш непатрэбны. На развітанне дзед зайшоў у пакой, які Лагун ужо лічыў сваім, з тонкай папкай у руцэ.

– Прывык я да цябе. Не хачу проста так адпускаць. Увесь час думаў, чым табе памагчы. Хочацца, а як? Я нічога не магу табе даць. Акрамя латарэйнага білета.

– Білета?

– Вобразна кажучы. Гэта як адзін чалавек усё скардзіўся, што яму не шанцуе, нават у латарэю ніколі не можа выйграць, пакуль не пачуўся яму голас з вышыні: “ты для пачатку хоць латарэйны білет купі!” Вось я і хачу падараваць табе латарэйны білет. А ўжо выйграе ён, ці не, невядома. Гэта справа шанцавання. Хочаш паспрабаваць?

– А што мне яшчэ застаецца, – буркнуў Лагун. Ён ужо быў намерыўся тут жыць.

Вечка падаў яму папку. Там быў акуратна раздрукаваны тэкст і шчыльны, жоўтага колеру, канверт.

– На, бяры. Наш сцэнар. Гэта і ёсць латарэйны білет. Не факт, што атрымаецца. Але раптам. Падпісвай сваім іменем, і пашлем разам на конкурс.

– Сваім? На конкурс? А калі спытаюць, хто аўтар? – засумняваўся Лагун.

– Табе нічога не давядзецца хлусіць. Ты ж сапраўды набіраў, значыць, пісаў. Таму з чыстым сумленнем так і адказвай: я.

Вечка паказаў дзе, Лагун ручкаю надпісаў сваё імя, далей пад дыктоўку – кароткую біяграфію, адрас, кантакты.

– Гэта ўсё?

– Усё. Я сам аднясу на пошту і адпраўлю.

– А далей што? – Лагуну не верылася, што так празаічна ўсё канчаецца.

– Далей па абставінах. Далей я і сам не ведаю.

Расчараванню Лагуна не было межаў. Ён лічыў гэты тэкст незразумелай, нецікавай лухтой. Калі б дзед яму даверыўся, напрыклад, падараваў бы тэкст і папрасіў самому падпісаць і паслаць, ён хутчэй за ўсё нікуды б не паслаў – пасаромеўся б. Аднак варыянтаў не было. Лагун вымушаны быў вярнуцца ў інтэрнат, да радасці папугая і да здзіўлення суседа, які ўжо невядома што пра яго надумаўся.

– Дзе ты? што робіш? як поспехі?

– Сцэнарый напісаў і паслаў на конкурс, – адказаў коратка, каб не чапляліся да яго, Лагун.

– На што ты спадзяешся? Гэта не варыянт дабіцца поспеху. У той сферы на сто гадоў наперад усё занята.

Зноў пайшлі цераспалосіцай аднастайныя дні – дні асалавелых лекцый і вечары чакання. Добра яшчэ, хапіла розуму не кінуць свае кошыкі. Ён усё спадзяваўся ўбачыць дзеда, як тады, на Каляды, і пагаварыць з ім. У думках ён упікаў дзеда: што ж гэта вы? Прыручылі чалавека і кінулі? Але Вечка не з'яўляўся больш у гіперы. Значыць, сапраўды, відаць, прыехалі родзічы і яму няма патрэбы хадзіць самому.

Пазваніць яму Лагун не адважваўся. Між тым сакавік канчаўся. Мары Лагуна змяншаліся, спадзяванне на тое, што зноў пашанцуе яму, з'едуць дзедавыя і ён стане там жыць, раставалі як снег. Лагун ужо і чакаць перастаў. Жыццё цалкам вярнулася ў ранейшае рэчышча. Як раптам, у канцы сакавіка – чорныя шпакі хадзілі па салатавых газонах, шчыпалі траўку, ціўкалі, – тэлефон яго ажыў. Званок. Жаночы голас паведаміў, што непакоіць яго галоўрэд з кінастудыі, яна ж старшыня журы конкурсу. Трэба тэрмінова сустрэцца і пагаварыць наконт яго сцэнарыя. Лагун, які ўжо амаль забыў пра той конкурс, не адразу нават зразумеў, пра што гаворка. Іншае ўсхвалявала і напалохала яго. Гэты жаночы голас, крышку прастуджаны, але грудны, мяккі, прыемны, падаўся яму знаёмым. Ён зірнуў яшчэ раз. Гэта быў той самы нумар, па якім ён званіў пасля дэталізацыі, нумар, які ён ад страху сцёр з памяці тэлефона, але не са сваёй памяці; нумар, па якім званілі бацьку перад смерцю ў час навальніцы і, значыць, цалкам верагодна, паспрыялі тым самым яго пагібелі. Адзінае, што прыйшло яму ў галаву – гэта тая самая дама, якая вінавата ў смерці бацькі, хутчэй за ўсё палюбоўніца яго. А так як ён быў баязлівец, наш Лагун, ён жвава ўявіў звёны ланцуга: дзед – кінастудыя – званок дамы і, халадзеючы, падумаў: а што калі гэта – працяг? І ўсё гэта – знарок, яго заманьваюць кудысьці як чалавека, які здагадваецца пра злачынства, мо нават як адзінага сведку, каб расправіцца з ім? Ён спачатку нават выпусціў з-пад увагі, што цяпер гэты злавесны нумар звязаны не з бацькам, а са сцэнарам, тым самым, як Лагуну здавалася, бесталковым тэкстам, які нічога не можа выклікаць, акрамя сораму.

## 10

Конкурс сцэнарыяў, які "FilmBell'у" ўдалося перахапіць у асноўнай студыі, аб'явілі мінулай восенню, у кастрычніку, а вынікі падводзілі сёлета, у красавіку. Конкурс быў тэматычны. Ён усхваляваў многіх. Патрабавалася штось духоўнае, лірычнае, разам з тым патрыятычна-нацыянальнае, кштал-

ту “Любіць па-руску”, толькі на фоне арнаменту і ў аздабленні васількоў і рамонкаў. На тэму, аднак, мала хто звярнуў увагу. Гэта быў адзін з рэдкіх праектаў, які цалкам фінансаваўся дзяржавай. У выпадку, калі пашанцуе і фільм здымуць, ні ў кога не будзе балець галава, што з ім далей рабіць. Раз дзяржзаказ, дык няхай дзяржава і думае. З амаль дзвюх сотняў конкурсных твораў па традыцыі адсоткаў 80 складала кан’юнктура пра вайну, далей – перапеўкі КВЗ, “Камедзі-клабу”, “Уральскіх пяльменяў”, жарцікі-сцёб, любоў-маркоў, ёлкі-палкі, мамкі-таткі. Далей ішоў дружным шэрагам лубок, варыяцыі на тэму “Сватоў”, дзе жыхары аграгарадкоў спявалі рускія народныя песні, пакладзеныя на рэп, пускалі вянкі па вадзе і скакалі праз вогнішча: хлопцы былі ў касаваротках, картузах з бліскучымі брылямі і з кветкаю за вухам, дзяўчаты ў какошніках і сарафанах. Было трохі фэнтэзі, містыкі і “пападэнцтва” – перакіду ў іншы час; некалькі пошукаў скарбаў, з паўдзясятка ўтопій і антыўтопій; дзве, як выказаўся масціты сябра журы, заслужаны дзеяч мастацтваў Сцяпан Алесевіч, “лібідабеліберды”. Многа было агульных і буйных планаў, перапытванняў: “Як вас завуць?” – “Каго, мяне?” І над усім панаваў нястрыманы, бязмежны, ненармальны аптымізм. Героі ўвесь час смяяліся, дарэчы і недарэчы. Падводзячы вынікі, журы ўжо адчаялася нешта людскае знайсці. Як у канцы сакавіка прыйшоў яшчэ сцэнарый, дакладней, невялікая кінааповесць, пад назвай “Месца”. Напісаная ці, прынамсі, падпісаная нейкім студэнтам-першакурснікам. Знаўцы з журы растлумачылі недасведчаным назву. Што “месца”, “места” – гэта горад, а таксама кропка знаходжання, а яшчэ – састарэлае абазначэнне службы ці працы. Сінопсіс: тэма маленькага чалавека, офіснага, сярэдняй рукі супрацоўніка, сучасны варыянт гогалеўскага “Шыняля”. Сваёй непасрэднасцю ён, як раней казалі, “браў за душу”, уздзейнічаў, як нешта даўно знаёмае і незаслужана забытае, якое цяпер сустракаеш, як дарагога госця, ледзь не са слязамі замілавання. Слова ўзяў паважаны Сцяпан Алесевіч.

– З чаго пасмяешся, таму паслужыш, – пачаў ён. – Мы ўсё нечага чакаем. Нам падавай дык падавай. Пісаць – дык адразу “Вайну і мір”, здымаць – дык “Гульню тронаў”. У выніку ў нас поўна геніяльных шэдэўраў (ён паказаў пальцамі двукоссе), мы ўжо не ведаем, дзе іх дзяваць, гэтыя шэдэўры, што з імі рабіць. Бяда ў тым, што ў нас не стала проста нармальных мастацкіх тэкстаў.

Затым чарадою пайшлі выступленні іншых сяброў журы: акцёр, лаўрэат, празаік, паэт, рэжысёр. Сэнс іх слоў зводзіўся да таго, што, сапраўды, раптам некуды прапалі гэтыя лёгкія, добрыя, лірычныя і светлыя камедыі ў разанаўска-гайдаеўскім стылі, якія не неслі дыдактыкі і маралі, не ставілі глабальныя пытанні, ні на што не прэтэндавалі, але менавіта ў тым, як ні парадаксальна, была іх каштоўнасць.

Словам, сцэнар спадабаўся ўсім. Журы было адзінадушным. І толькі Інга Міхалевіч-Яравая, намесніца галоўнага рэдактара кінастудыі, яна ж намесніца старшыні журы Сцэнарнага конкурсу (старшынёй быў сам шэф, гендырэктар Хрушчанка, але ён ні ў што не ўмешваўся і цалкам давяраў шаноўнаму журы) – яна адна не спяшалася. Яе мастацкая, а больш жаночая інтуіцыя падказвала, што нешта тут не так. Надта ж малады, дужа ранні быў аўтар, у той час, як адчувалася вопытная рука. Пашукаўшы па ключавых словах і асноўных сказах у Інтэрнэце, пакруціўшы іх так і сяк, яна нічога нават прыблізнага не знайшла і чамусьці з палёгкаю ўспрыняла гэта. Не плагіят? А раптам дзіва? І гэты студэнцік сапраўды аўтар? Чаго ў жыцці

не бывае. Заходзіла на яго профіль у Фэйсбук, чытала скупыя звесткі, углядалася ў наіўную рудабельскую фізіяномію. Сінія вочы, белыя валасы. Падобны на Брэда Піта, толькі вушатага. Інга ўспамінала сваю паездку ў гэты Акцябрск-Рудабельскі, калі здымалі славуты фільм. Яе ніколькі не здзівіла супадзенне, што Лагун адтуль. Звычайна заўсёды ў тых месцах, дзе адбываліся здымкі, праз нейкі назіраўся прыток у тэатральна-мастацкія ўстановы, на акцёрскія, рэжысёрскія, сцэнарныя факультэты і курсы.

Увогуле, Фэйсбук студэнцік амаль не вёў. І гэта яна адзначыла плюсам. Усё ж не такі, як усе. Як мінімум, не балбатун. Або скрытны, або прадбачлівы, а значыць, разумны. Разумны не будзе вывальваць усё пра сябе. Так яна ні да чога не прыйшла. Тады, парушаючы ўсе магчымыя конкурсныя нормы і правілы, яна патэлефанавала яму. Ціхі, сарамлівы, нават як бы спалоханы голас, хвалюючыся, з выбачэннямі заявіў, што ў бліжэйшы час не можа сустрэцца, бо працуе па зменах пасля абеду. (Вось як – працуе.) А да абеду? Таксама заняты. Дамовіліся, што як толькі будзе вольны, няхай адразу пад'едзе, "важная размова", – папрасіла яна. Час ішоў. Ён не адклікаўся. Ні назаўтра, ні паслязаўтра. Між тым трэба было нешта вырашаць, бо яна затрымлівала журы. Людзі залежалі ад яе марудлівасці.

– Здарылася што? – спытаў муж, які любіў быць у курсе жончыных спраў ад адсутнасці сваіх.

– Нічога, – адказала яна. – Хаця... Хочаш глянуць адну рэч? – Калі-небудзь яна выкарыстоўвала яго ў якасці своеасаблівага эксперта, "свежага вока". – Цікава, што скажаш.

– Ахвотна. Але ты ж ведаеш мой густ, – прамовіў ён крыху какетліва, нібы набіваючы сабе цану. – Мне цяжка дагадзіць.

Ён быў старэйшы за яе на 15 гадоў. Высокі, мажны, непаваротлівы. Лысы, што, праўда, толькі маладзіла яго. Круглатвары, у акулярах з круглымі шкельцамі, за якімі плавалі цікаўныя шэрыя вочы. У шырокіх джынсах і белай сарочцы. Гэта знешне, а вось унутрана ён нібы перанёсся з XX, калі не з XIX стагоддзя, у наша дваццаць першае. Яго густы, калі яму верыць, застылі, закасцянелі гадоў 30 назад і больш не развіваліся. Усё, што стварылася за гэты час у літаратуры, музыцы і кіно, патрапляла пад яго з'едлівую крытыку. Ён сам прызнаваўся, што не ўспрымае нічога новага.

– Гэта не для майго сярэдняга розуму, – любіў казаць. І дадаваў: – Лепш быць ва ўсім дылетантам. Тады больш будзеш здзіўляцца, спазнаваць, і любіць жыццё.

Але Інга ведала, што гэта не так. Начытаны, адукаваны, з чэпкай памяццю, ён хутчэй быў эрудыт, чым невук, і насамрэч стараўся хаця б у асноўным не адставаць ад жыцця, быць у курсе ўсяго новага. Арыгінал, з дзівацтвамі, з заскокамі, па характары ён быў дабрак-сангвінік. Яго звычка, якой ён не толькі не саромеўся, а культываваў, была святая лянота. Да ўсяго ён з'яўляўся прыхільнікам малавядомага руху *slow life*: жыві марудна, спяшайся паволі; лепш не дарабіць, чым перарабіць.

Да 45 гадоў ён узначальваў прыватную турфірму, дзе не столькі працаваў, колькі бавіў час. Але пакрысе яму надакучыла нават гэта, і ў мінулым годзе ён вырашыў кінуць усё і не займацца нічым. Логіка была простая: на пенсію трэба выходзіць, пакуль малады адносна, здаровы, поўны сілы.

Так у 45 гадоў, не абцяжараны матэрыяльна, ён ператварыў сваё жыццё ў бязбеднае існаванне. Гэта была поўная матэрыяльная і духоўная незалежнасць ні ад кога і ні ад чога. Тым больш, весці такі лад жыцця

было яму лёгка і проста – сродкі дазвалялі. Яму само ўпала ў рукі тое, чаго іншыя так упарта і такім вялікім коштам дабіваюцца. Яго бацька, вядомы ў свой час архітэктар Яравы, які, праўда, не столькі набудаваў, колькі наламаў, прынёс больш шкоды, чым карысці, і гэтым пакінуў пасля сябе нядобрую памяць, што, аднак, зусім не перашкодзіла яму геніяльна спраектаваць уласны дабрабыт. Дзвюм жонкам, дзвюм дочкам (адна цяпер жыла ў Аўстрыі, другая ў Аўстраліі) і адзінаму любімчыку-сыну ён пакінуў спадчыну: дом, дзве дачы, тры кватэры, а таксама кругленькую суму, якую паспеў перагнаць у валюту і вывесці за межы радзімы ў надзейны еўрабанк, паспяхова абмінуўшы дэфолты і інфляцыі. Менавіта за гэтую суму паміж сёстрамі цяпер вяліся звады, ішлі нейкія бясконцыя суды і разборкі. Аўстрыйка ніколі тут не з’яўлялася, а аўстралійка з перыядычнасцю раз у год прылятала са свайго зялёнага кантынента. Гэта была сапраўдная аўстралійская змяя. Калі яна, не міргаючы, холадна глядзела на Інгу, тую паралізоўвала, як гіпнозам. Сам Яравы ў разборках не ўдзельнічаў, бо, па-першае, стаяў вышэй за мышыную мітусню, а па-другое, яго доля ў завяшчанні была абумоўлена персанальна, і яму нічога не пагражала.

Інга пазнаёмілася з ім 5 гадоў назад у Піцундзе. Яны, студэнты-выпускнікі Белдзяржакадэміі мастацтваў, у якой тады ўпершыню з’явілася спецыяльнасць “Кінатэлезнаўца. Сцэнарыст. Рэдактар”, здымалі ў гарах дыпломны дакументальны фільм, а Яравы прыехаў лячыцца ад захворвання правага лёгкага – дактары параілі не ў сухі Крым, а сюды, дзе ў містычных ваколіцах возера Рыца быў сусветна вядомы рэліктавы сасновы бор з гаючым, лекавым паветрам.

Ён хутка пазнаёміўся з землякамі-студэнтамі, назіраў, як праходзяць здымкі, вечарамі сядзеў з моладдзю каля вогнішча – чорная паўднёвая ноч, камары і цыкады, слухаў вечную гісторыю пра маладую абхазку, якая ад кахання ўтапілася ў возеры, і гэта не здавалася яму банальным, – як раптам адбыўся трагічны выпадак, загінуў, сарваўшыся са скалы, малады рэжысёр. Фільм згарнулі, здымачную групу распусцілі, усе раз’ехаліся, а Інга засталася.

Скончылася тым, што з Піцунды Яравы вярнуўся не толькі з вылечаным лёгкім, але і з маладой красуняй-нявестай – “па каўказскім звычаі”.

І вось ужо 5 гадоў яны мірна жылі ў сваім двухпавярховым невялікім дамку. У іх была шырокая тэраса, любімае месца, дзе яны праводзілі многа часу, асабліва як крыху пацяплее. Сюды, на тэрасу, Інга прынесла рукапіс.

– Толькі, калі ласка, да заўтра. Я затрымліваю людзей.

І пайшла спаць, яна рана клалася. Муж паглядзеў ёй услед, уздыхнуў і, паслініўшы палец, адгарнуў тытульную старонку. Назаўтра раніцай яны сустрэліся на тэрасе. Быў цудоўны сакавіцкі ранак. Ішла вясна, радасная пара. Але не для Інгі. Вясна, асабліва ранняя, прыносіла з сабой алергію. На вясновым актыўным сонцы падсыхалі пасля зімы і насіліся ў паветры рэагенты. Інга пакутавала, чыхала, кашляла, у горле пяршыла. Толькі кроплі – любімыя, надзейныя, заўсёды памагалі. Кожны год трэба было пераходзіць на іх, як на летняе адзенне. Флакон з кроплямі пасяляўся ў яе сумачцы, або, як цяпер, яна трымала яго заціснутым у далоні, нібы губную памаду. Яна дачакалася, пакуль муж паснедае (яечня, храбусткія, тонкія, да сухасці падсмажаныя кавалачкі сала, белы хлеб з маслам і мёдам) і дап’е каву. Збоку каля яго на стале ляжаў рукапіс.

Тэлевізар быў уключаны і гаварыў ціха. Паказвалі Ямала-Ненецкую акругу, снег, аленяў, сабак-лаек, ярангі. Маскоўская журналістка дапытва-

лася ў безбародага аленявода, нібы старалася выведаць ваенны сакрэт: як вы, паўночныя людзі, прадказваеце мароз? Хітры ямала-ненец адказваў: “А сцоцкі сцыплет – вот і молоз”. У садзе радасна перагукваліся птушкі. Ранішняе сонца наўскос клалася на дрэвы, на зямлю, на сцяну дома. На дрэвах яшчэ не было лісця, таму ценю было мала, і здавалася, што сонца задужа многа. Муж дапіў каву і, закрываючыся далоняй ад святла, то перагортваў старонкі, то загадкава пазіраў на жонку.

– Што ўва мне не так? – хмурачыся, спытала яна, выдатна ведаючы, што ён проста любуецца ёю. Часта ў якасці кампліменту кажуць: выглядае маладзей за свае гады. А трэба, каб чалавек адпавядаў свайму ўзросту. Інга выглядала роўна на свае 30. Усё ў ёй было гарманічна, усяго ў меру: касметыка – някідкая, але дарагая, адзенне – строгі офісны стыль. Чорнае з белым, прычоска-карэ пасавала да славянскага твару з чыстай скурай. Ад яе заўсёды прыемна пахла. Сваімі нейкімі надзвычай цнатлівымі рухамі і паводзінамі яна нечым нагадвала манашку, якая ведае сабе цану, але вымушана стрымліваць сябе. Што да мужа, дык за 5 гадоў ён так і не прывык, што яна цалкам яго. Ён, як і раней, кахаў яе ціхай спакойнай любоўю, якая замяняла яму ўсё, і не ўяўляў, як можна інакш.

– Што скажаш? – спытала яна.

– Не Спілберг і не Феліні, канечне, але цікава. Якасны тэкст. Я б сказаў, камерны. Знікаючая натура. Арт-хаўз.

– Такая была ўмова конкурса. Мы не пацягнем большага.

Тэлевізар ціха гаварыў паралельна з імі. “Как яблоцко сцоцкі класнеют”, – цярпліва тлумачыў настырнай журналістцы ямала-ненец. Інга націснула на чырвоную кнопку пульта.

– Ты верыш, што гэта напісаў васямнаццацігадовы хлопчык?

– Чаму не. Цяпер творчаму чалавеку зусім неабавязкова мець жыццёвы вопыт. Пры такой масавай інтэрнэтызацыі можна здабыць любую фактуру пачынаючы з дзіцячага садка. Што цябе бянтэжыць? – з усмешкай спытаў муж.

– Плагіят.

– А калі так паставіць пытанне: якая розніца? Па вялікім рахунку, усё нашае жыццё плагіят. Мы маем якасны прадукт – тэкст. Гэта галоўнае. А хто яго стварыў, ці не ўсё роўна? Марк Твэн казаў...

Яна перабіла:

– Чым лепшы сцэнар, тым большая верагоднасць, што ад яго нічога не застанецца.

– Але нашто так далёка заглядваць? Гэта ж не справа журы. Вам трэба ацаніць твор. А ўжо зробяць з яго фільм ці, як звычайна, скалечаць – гэта вас не тычыцца. Не трэба блытаць сцэнар і фільм.

Інга зморшчыла кірпаты нос, збіраючыся чыхнуць. І чыхнула.

– Падай, калі ласка, сурвэтку.

– Будзь здарова. Ты ж ведаеш, што табе паможа. Горнае паветра, плюс марское, – сказаў муж. – Я цябе павязу сілаю.

Кожны год, нават два разы на год, яны выбіраліся на Поўдзень, і там ад хваробы сапраўды не заставалася следу.

– Што ты збіраешся рабіць? – спытаў ён.

– Цярпець. Прымаць гістаміны. Капацца, – яна расціснула далонь і падала яму цёплы флакончык.

– Я сцэнар маю на ўвазе.

– Я хачу з ім сустрэцца. І паглядзець яму ў вочы. Зразумець, што ён з сябе ўяўляе. Я не павінна была б гэтага рабіць, але...
– А нельга яго запрасіць да нас?
– Не кажы абы-чаго.
– Шкада, што нельга зняць на камеру.
– Не будзь малым дзіцём.
Інга ўстала, выцягнула з мужавых пальцаў флакончык, які ён паспеў прысвоіць, увогуле маючы звычку блытаць сваё і чужое, узяла са стала рукапіс.
– Дзе аловак?
– Вось, прабач.
Яна пайшла, але спынілася і спытала:
– Ты ўсё ведаеш. Чаму лятаюць у сне?
Ён пачаў ахвотна і дэталёва, як той ямала-ненец цікаўнай журналістцы, тлумачыць, што заснавальнікі псіхалогіі разглядвалі гэта пад рознымі ракурсамі: Фройд, як заўсёды, звязваў з сексуальнымі памкненнямі, Альфрэд Адлер – з жаданнем прыгнятаць іншых, Карл Юнг – з імкненнем вызваліцца ад абмежаванняў і разарваць рамкі ўмоўнасцяў...
– Не, – перабіла яна. – Мне больш падабаецца, што гэта памяць пра нашы ранейшыя жыцці.

## 11

Кінастудыя жыла сваёй звычайнай хаатычнай мурашынай мітуснёй, якая называлася творчым жыццём. З кабінета ў кабінет, з курылкі да кава-аўтамата ці проста ўзад-уперад па доўгім калідоры з выцертым паркетам сноўдаўся, як непрыкаяны, творчы люд, у асноўным незанятыя рэжысёры кшталту Скіндзера. Яны з зайздрасцю паглядвалі на дзверы з шыльдамі-назвамі прынятых да вытворчасці фільмаў. У самым кутку калідора, пасля “Здымачнай”, “Апэратарскай”, “Агучкі” і “Кастынгу” ішлі запар тры кабінеты сцэнарна-рэдактарскага аддзела. Дамаседы, якія там працавалі, выгодна вылучаліся сярод іншых кінастудыйшчыкаў. Ім заўсёды быў гарантаваны занятак: чытаць, правіць і абмяркоўваць сцэнарыі, якія сцякаліся сюды кожны дзень неперасыхаючымі ручаінамі. Праца хоць і лічылася кабінетнай, была самая што ні на ёсць творчая, бо ў ёй немагчыма было вызначыць, а тым больш спланаваць, аб’ём работы. Усё залежала ад асабістых здольнасцяў рэдактара. Каму, як, напрыклад, Інзе з яе ўменнем прабягаць тэкст па дыяганалі, хапала гадзіны. Іншым, як малодшай рэдактарцы Рыце, мала было і двух дзён. Увогуле ж шлях сцэнарыя быў доўгі і бюракратычна-пакручасты: ад малодшага рэдактара твор паступаў вышэй па інстанцыі – проста рэдактару, ад яго – намесніку галоўнага, Інзе, ад яе – галоўнаму рэдактару Камару, адтуль – мастацкаму рэдактару. На кожным узроўні ішло скарачэнне, адсячэнне, адсейванне. Нарэшце сцэнар дабіраўся да гендырэктара Хрушчанкі, які не чытаў зусім, а накладаў рэзалюцыі: на рэдсавет, вярнуць аўтару, купіць ідэю або, вельмі рэдка – запусціць у вытворчасць.
Інга зайшла ў кабінет, набрала нумар, звыкла пачула “пакіньце паведамленне на галасавую пошту”. Пасядзела ў задуме, апамяталася ад уласнага чыху і зразумела, што сёння не зможа прымусіць сябе нават разгарнуць якуюсь папку. Яна рашуча, нават сярдзіта сабралася і сама паехала да гэтага

Лагуна. Каля інтэрната ледзь удалося прыпаркаваць машыну. Во студэнцтва пайшло. У вестыбюлі ёй насустрач з-за стала падняўся вахцёр – адстаўнік, пенсіянер, нібы паўстаў з часоў яе маладосці. Цюцелька ў цюцельку такі ж быў у часы яе вучобы. Калі яны нарэшце перавядуцца, калі ўжо абарвецца іхні род, перапыніцца іх дынастыя. Ёй падалося, што ён з двухсэнсоўнай усмешкай, адкрыта пахабным позіркам акінуў яе з ног да галавы. А калі спытаў: да каго, голас быў ліслівы і ліпкі. Раптам ёй, чаго з ёю не было даўным-даўно, стала лёгка і смешна. Ад таго, што яна, дарослая, адчула даўно забытае студэнцкае трымценне, нібы перанеслася на паўтара дзясяткі гадоў назад і вось прабіраецца сама ў забароненую зону ці хоча незаконна кагось правесці. Вахцёр назваў нумар пакоя. Яна знайшла і пастукала. Маўчанне. Яна піхнула дзверы, якія аказаліся незачыненымі, і ўвайшла. Блочная сістэма пакояў, таму і не чуваць было стуку. Да таго ж жоўты папугай у клетцы спяваў, як умеў. Больш нікога не было. Яна агледзелася. Балкончык, санвузел. Два ложкі, дзве тумбачкі. Не сказаць, каб па-спартанску. Малады чалавек увайшоў у пакой з балкона, трымаючы ў руцэ пачак цыгарэт. Гадоў на пяць старэйшы, чым на здымку з Фэйсбука. Ну, пачынаецца, падумала яна. Абсалютна непадобны. Аватарку іншую паставіў? Усё ж яна, адчуваючы ніякаватасць нязванай госці, паспела вымавіць падрыхтаванае:

– Добры дзень, я вам званіла, чаму вы не прыходзіце?

І толькі тут да яе дайшло, што гэта можа быць не ён, не адзін жа ён жыве ў пакоі.

– Мне ніхто не званіў, – неяк развязна і разам з тым ветліва сказаў малады чалавек. – Але я быў бы не супраць. Сядайце, калі ласка.

Яна адчула палёгку ад памылкі. Неўзабаве ад гаваркога суседа пад чырыканне папугая яна даведалася пра гэтага Лагуна ўсё, што трэба:

ціхоня, сірата, падпрацоўвае, апошні час мала жыве ў інтэрнаце,

што справы яго дрэнь, ледзь ліпіць, бедны, але ганарысты,

вучобу заваліў, але армія на носе, гэта разумеюць, таму і цягнуць яго, каб не псаваць хлопцу анкету і жыццё. Любіць кіно, здымаўся ў масоўцы, хваліў рэжысёр.

– Я вас вельмі папрашу, – на развітанне сказала яна, – перадайце яму, каб сам патэлефанаваў абавязкова.

– Без праблем.

Не паспелі зачыніцца за ёю дзверы, як сусед набраў Лагуна: “Ну, ты малайчына, – заявіў, прыцмокваючы. – Дабіўся-такі свайго. Такая дама прыходзіла... З самой кінастудыі!”

Лагун быў на сваіх кошыках у дзённую змену. Навіна ўжо не застала яго знянацку. Пара, вырашыў ён і, папрасіўшы начальніцу падмяніць яго, пайшоў на кінастудыю. Калі Інга вярнулася, ён стаяў каля дзвярэй яе кабінета. На гэты раз яна, яшчэ не сказаўшы ні слова, адразу пазнала, хто гэта. Хлопчык-анёл, з саламянымі валасамі, блакітам у вачах, вушаты, худы, хоць і па-падлеткаваму выцягнуты, з чыстым нявінна-наіўным тварам, з па-вясковаму апушчанымі рукамі, як у людзей, якія фізічна працуюць.

– Чаму вы не адказваеце на званкі?

– Нумар памылкова апынуўся ў галасавой пошце, – хрыпатым падлеткавым баском адказаў ён, падняў на яе вочы і – пачырванеў. Ён умеў чырванець! “Сцоцкі класненькіе”, – успомніла Інга ранішняга ямала-ненца і ледзь стрымала смех, адвярнулася. У кабінеце запрасіла яго сесці, стараючыся непасрэднасцю раскаваць яго.

– Сядайце. Не трэба быць такім сарамлівым.

Ён прысеў. Усе прыгатаваныя ёй словы вылецелі з галавы. Надта ж ён быў не падобны на хітрага, закаранелага плагіятара.

– Вы ж гэта самі напісалі? – не столькі спытала, колькі сцвердзіла яна.

– Напісаў? Сам.

Вушы ў яго на святле пунсавелі.

– Вы былі на моры?

– На жаль, не. – І дадаў. – Не меў матэрыяльнай магчымасці. Я сірата.

– Гэта я ўжо ведаю. Аднак вы, ніколі не быўшы на моры, здорава яго апісваеце. І ўсё астатняе. Скажыце, а як вам прыйшоў у галаву сам сюжэт? Адкуль у вас такі вопыт?

Ён дастаў з кішэні смартфон.

– У асноўным з інтэрнэту. Усё ж гэта даступна. Цяпер нават лепш нідзе не бываць. Вастрэй будзе адчуванне.

Падобнае раніцаю казаў яе муж. "Так і ёсць, – падумала яна. – Не свае словы кажа. Навучыў нехта".

– Скажыце шчыра: нашто вам гэта?

Ён падняў на яе сінія нявінныя вочы.

– Навошта вам быць сцэнарыстам? Вам хочацца перамог, прэмій, фестываляў, славы, лёгкага жыцця? Я таму захацела пазнаёміцца з вамі, каб вызначыць, у вас гэта сур'ёзна, ці так сабе?

– У сэнсе – ці сур'ёзна гэта ў мяне? Так. Сур'ёзна.

Яго няспешная, крыху тармазнутая рэакцыя падабалася ёй. Калі гэта і не ён напісаў (а гэта не ён, канечне), у плюс яму, што даволі ўдала маскіруецца.

– Вы ж разумееце, што ваш сцэнарый наўрад ці можа перамагчы на конкурсе.

– Разумею.

– І вы так лёгка з гэтым згаджаецеся? Не збіраецеся змагацца?

– Я не чакаў, што будзе так складана.

– А чаго вы чакалі?

– Не ведаю.

– А вы не спяшайцеся так адразу здавацца. – Ёй нават неяк прыкра стала. – Чаму вы не хочаце спрачацца, адстойваць? Яшчэ раз паўтару: у вас харошы сцэнарый! Цікавая прырода! Жывыя дыялогі. Можна сёе-тое абдумаць, падправіць, пагаварыць. Не будзьце такім кісялём!

Ён маўчаў. Яна змяніла тон і нечакана для сябе спытала зусім не тое, што хацела:

– Раскажыце пра сябе. Я з Фэйсбука ведаю, вы з Акцябрскага родам? Я прыязджала ў вашыя мясціны. Мы не маглі бачыцца?

– Маглі. Я здымаўся ў эпізодзе.

– Цяпер зразумела, адкуль у вас любоў да кіно. Такая рэч, што ўцягвае. Альбо любоў на ўсё жыццё, альбо нянавісць.

Яна казала ўсё гэта і адначасова прыслухоўвалася да сябе. З ёю, як толькі яна яго ўбачыла, пачало адбывацца тое самае, што і пры чытанні яго сцэнарыя, і пры паездцы яе ў інтэрнат – нібы працягваўся той дзіўны настрой лёгкага суму, развітання, настальгіі па нечым далёкім, даўно – так даўно, што яна думала, назаўсёды – страчаным. Ён усё больш падабаўся ёй менавіта сваёй закамплексаванасцю, сарамлівасцю, старамоднасцю, нібы не з гэтага веку ўзяўся, а з мінулага; падабалася яго ўменне чырванець, яго ветлівасць,

несапсаванасць, наіўнасць; было ва ўсім гэтым нешта звычайнае, чалавечае, і ад таго надзвычай сімпатычнае, якое так не вязалася з кіношнай атмасферай, дзе не было нічога натуральнага, сапраўднага, а была адна гульня, акцёрства, бутафорыя, панавалі падхалімства, нахабства і барацьба за выжыванне. Гледзячы на гэтага хлопчыка, размаўляючы з ім, Інга з сорамам разумела: яна не тое што адвыкла – яна ўжо нават забыла, калі апошні раз сутыкалася з такім. Ёй нават не хацелася з ім развітвацца. Акрамя таго яна бачыла, што ён не надта верыць ёй і не збіраецца нічога даказваць і адстойваць.

– Дайце мне слова, што вы не расчаруецеся.

Інга да гэтага сядзела нага на нагу, прасачыла за яго вачыма і прыбрала ногі пад стол.

– Заўтра... не, лепш паслязаўтра я вам пазваню. Дамовіліся?

Лагун выйшаў з кабінета бокам, з апушчанай галавой. Але паспеў уважліва разгледзець яе. І ў сваю чаргу падумаў: “Дык вось ты якая, палюбоўніца бацькі! Але як жа яна так здорава трымаецца! Ну і вытрымка ў яе. Нібы нічога не ведае. Яна ж ні рысачкай сябе не выдае”. Мог бацька ў такую закахацца? Здраджваць з такой? Мог. Магла такая пазваніць і тым самым забіць? Магла. Ці... не магла?

Гэта быў зусім новы паварот яго думак.

Цяпер, пасля сустрэчы і размовы з Інгай, яго ўпэўненасць у яе віне пахіснулася. Можа, выпадкова? Мо яна не хацела? Мо яна ўвогуле не вінаватая? І не ведае да гэтага часу нічога? “Нават таго, што бацькі ўжо няма на свеце”, – падумаў ён. І потым: бацьку ж зусім неабавязкова было расказваць ёй сваю біяграфію ці нават называць сваё прозвішча – ён мог назвацца кім заўгодна. І яна проста не здагадваецца, што я яго сын. Было і яшчэ сёе-тое. Падалося яму, што заўважыў ён у яе вачах той самы, такі знаёмы яму, агеньчык. Няўжо і яна? Як усе?

Вось як далёка зайшоў у сваіх думках Лагун.

Неахвотна, праз сілу, ён зрабіў кароткі званок-справаздачу дзеду Вечку; сказаў, што хвалілі, перазвоняць.

– Дык гэта ж здорава! Ты правільна робіш усё. Памятаеш, я казаў: сцэнарыст – самая бяспраўная істота? А з табой вунь як носяцца. Усё ідзе па плане.

“Па чыім?” – падумаў Лагун.

А ў Інгі тым часам, хаця і больш пытанняў, чым адказаў, засталося пасля знаёмства, саспела канчатковае рашэнне. Яна, вядома, дасць яму першае месца. Заставалася толькі атрымаць подпіс гендырэктара Хрушчанкі – фармальная працэдура, бо ён адразу запэўніў, што цалкам давярае аўтарытэтнаму журы, самае большае – прабяжыць вачамі сінопсіс. Паколькі сёння быў панядзелак, а па панядзелках Хрушчанка на працы не бываў, яна са спакойнай душой паехала дадому. На пытанне мужа: “Ну як?” – адказала:

– Баюся, я памылілася. Ты меў рацыю – гэты хлопчык сапраўды аўтар. Я вырашыла даць яму першае месца.

Яна расказала пра сустрэчу, прамаўчаўшы, што ездзіла да яго.

– І як ён табе? Спадабаўся? – раптам спытаў муж панылым голасам.

– Перастань. Ён сціплы. Бедны. Сімпатычны. Сірата. Я нават ездзіла да яго, – усё ж не вытрымала.

– Ты ездзіла? Навошта?

– Я ўжо шкадую, што сказала табе. Зрэшты, можа хоць такім чынам дачакаюся ад цябе рэўнасці.

На самой справе Інга пацвельвала яго. Надта ж спакойныя, ідылічныя, руцінныя былі адносіны паміж імі, і ў гэтую стаячую ваду калі-небудзь хацелася кінуць камень. Хай хоць так раўнуе; рэўнасць, асабліва ў пачатку, гэта домыслы, фантазіі, гіпотэзы, – творчасць, словам. Тым больш, калі шчыра, што прычыны для рэўнасці былі. Хлопчык сапраўды ёй спадабаўся; больш за тое – ёй нават падалося, што і яна яго цікавіць больш, чым сцэнарый.

Не, не – нічога лішняга. Калі б, не дай бог, штосьці здарылася, гэта была б катастрофа. Вельмі лёгка ўсё страціць. А траціць было што. Жылося ёй добра, нават вельмі добра і лёгка. Дом, утульнасць, супакой, усё такое ціхае, знаёмае, і ад таго ўпэненасць, што і далей будзе так, як заўсёды. Сняданкі і вячэры, добры, разумны, хоць і надакучлівы муж.

Тады аб чым яна цяпер марыла? Ці не пра вясну? Не пра маладосць? Не пра каханне? Час быў самы спрыяльны – красавік, сярэдзіна месяца, сонца, трава, дзьмухаўцы.

Яна ўздыхнула і падумала, як увогуле цудоўна было б жыць, каб не алергія, а яшчэ больш – каб не гэтае адчуванне незавершанасці, няскончанасці, недаведзенасці да канца: і на кінастудыі, і дома, і ў душы. Увесь час як бы не хапала нейкай адной маленечкай драбязы, але без якой усё складвалася не так.

Гэтае адчуванне было з ёй заўсёды, вось як нібыта маланка бліснула, і чакаеш грому, ужо нават адкрыўшы рот, каб не аглухнуць ад раптоўнасці. А грому ўсё няма.

## 12

У адным рамане іранічна, паказваючы абсурд сітуацыі, была апісана ўніверсітэцкая кафедра французскай мовы і літаратуры, загадчык якой меў цікавую асаблівасць: ён ніколі не размаўляў па-французску і не любіў і не разумеў французскай літаратуры. Менавіта так, толькі зусім не ў гратэскна-іранічным плане, і гэта была не “цікавая асаблівасць”, а панылая заканамернасць, адбывалася і на нашай г. зв. нацыянальнай кінастудыі.

Гендырэктар “FilmBella” Хрушчанка быў пераведзены ў кінавытворчасць са сферы ідэалогіі, у якую ў сваю чаргу патрапіў з сельскай гаспадаркі. Так рабілі знарок, бо лічылася, што вузкія спецыялісты-прафесіяналы замыльваюцца, а чалавеку збоку відней, таму ён лепш і хутчэй разбярэцца. Апынуўшыся на кінастудыі, Хрушчанка імгненна зразумеў, якія тут правілы, што ад яго патрабуецца, і старанна, нават апантана пачаў выпалваць усё нацыянальнае. Ужыванне белмовы ў фільмах ён дапускаў толькі адмоўнымі персанажамі. Для станоўчых рабіў адзіную саступку: замест *отец* – бацька, замест *ребята* – хлопцы. Яшчэ была ў яго звычка: віншаваць любога, у тым ліку якогась зусім малавядомага рускага акцёра ці рэжысёра, нават не з круглай датай, а проста з будзёным днём нараджэння, і цалкам ігнараваць сваіх тутэйшых кінадзеячаў, не віншуючы іх нават з юбілеямі. З гэтай яго звычкі дабрадушна пасмейваліся і, сярод іншага, лічылі яе бяскрыўднай. Вось да гэтага чалавека выправілася Інга, каб атрымаць подпіс. З тонкай папкай у руцэ яна зайшла ў прыёмную. Сакратарка папрасіла пачакаць, бо ў гэты момант гендырэктар даваў інтэрв’ю па тэлефоне. У прачыненыя дзверы, на якіх вісела прыгожая, выгравіраваная вітымі прапіснымі літарамі таблічка, чулася:

– ...Так, існуюць пэўныя цяжкасці, і мой калектыў пра іх ведае. Кожны тыдзень я праводжу дзве нарады, на якіх знаёмлю мой калектыў з усімі праблемамі кінастудыі. – Гендырэктар убачыў Інгу і запрашальна паказаў рукою, каб заходзіла. Інга зайшла, ён кіўнуў на крэсла, а сам працягваў: – Студыя ў складаным становішчы... дэбітарская запазычанасць... але, нягледзячы ні на што, мы спрабуем працаваць, так – працаваць.

Нарэшце паклаў трубку.

– Слухаю вас.

Хрушчанка быў маленькі, кучаравы, з птушыным, завостраным на канцы носам, з чорнымі шчотачкамі броваў, якія варушыліся, з чарнявымі круглымі вочкамі, якія бегалі за празрыстым шклом акуляраў. На ім быў тонкі паласаты швэдар пад карычневым пінжаком. На стале, сярод папераў, Інга заўважыла нешта вельмі знаёмае – белы флакончык. Яна ведала, што ў Хрушчанкі таксама алергія, таму і акно зачынена, і ён карыстаецца такімі ж, як і яна, сродкамі – кроплямі ў нос. Ён перахапіў яе позірк.

– Мы з вамі калегі. У плане алергіі.

– Спадзяюся, не толькі ў гэтым плане.

Яна паклала перад ім папку, дзе была выпіска з вынікамі конкурсу, пратакол-заключэнне журы і старонка сінопсіса “Месца”. Хрушчанка прабег усё вачамі, упіўся ў сінопсіс, прачытаў і адклаў асадку.

– Сучасная тэма?

– Паводле ўмоваў конкурсу.

– Як па мне, – сказаў ён, – уся гэтая сучасная тэма лішняя. Я б яе ўвогуле адмяніў.

– Што вы прапаноўваеце?

– А чым вам не падабаецца, дапусцім, вось гэтая рэч: “Світанкі над Прыпяццю ціхія”? Па-мойму, цікавая, надзённая рэч.

Інга ўважліва на яго паглядзела, гонячы ад сябе нядобрае прадчуванне. Гэтыя “Світанкі” быў амаль слова ў слова перадраны сюжэт з вядомага савецкага фільма пра жаночы батальён, які ў карэльскіх лясах і балотах пад кіраўніцтвам немаладога старшыны адбіваецца ад фашысцкага дэсанта.

– Харошая тэма, – сказала яна. – Галоўнае, арыгінальная.

– Я ведаю, – улавіў ён іронію, – вы маеце зуб на мяне. Не вы канкрэтна, а ўсе. Думаеце, стары рэтраград і таму падобнае.

– Не час пра гэта, – перабіла яна. – У нас жа быў нядаўна ваенны фільм. Па вашым сцэнарыі, дарэчы.

– Ну і што? Яшчэ адзін здымем. Ваеннай тэмы многа не бывае. Ці вы лічыце, што гэта так ужо бездапаможна? – з лёгкім дакорам спытаў ён.

– Проста нікчэмна. І па тэме не падыходзіць. Тэма конкурсу: кранальны лірычны сучасны фільм.

– Але ж і патрыятызм ніхто не адмяняў. Падумайце самі. З аднаго боку праверaны, абкатаны, надзейны сцэнар, з другога – малазразумелы тэкст нейкага нікому невядомага першакурсніка. Я ўжо не кажу, што на вайну заўсёды ёсць заказ, а значыць, і фінансаванне. А нашы фінансавыя справы ахавыя.

Звычайна Інга ніколі ні з кім не ваявала, нервы даражэй. Але тут найшла каса на камень. Надта рэзала вочы несправядлівасць. Яна сказала:

– Добра. Калі ласка. Я асабіста згодная. Але што рабіць з меркаваннем журы? Там маўчаць не будуць. Абавязкова паўстане пытанне наконт нашай прафесійнай прыдатнасці. А так як фармальна старшыня журы вы...

– Пачакайце, – маладушны, як і ўсе такія людзі, Хрушчанка імгненна здаў назад. – Я ж не супраць! Я проста выказаў сваю сціплую думку. Цалкам магчыма, што і ваш сцэнарый нечага варты.

– Ён не мой.

– Мы вось як зробім. Прынясіце мне гэты сцэнар.

– Увесь? Вы ж ніколі не чытаеце.

– На гэты раз хачу парушыць традыцыю. Я прачытаю, падумаю. І вы падумайце.

Аднёсшы яму сцэнар, па дарозе назад Інга заглянула да галоўнага рэдактара, Камара, і застала там Рыту. Інзе ад аднаго іх выгляду стала лягчэй. Гэта былі свае людзі, аднадумцы, сябры. Сярод іх Інга адтайвала. Паміж сабой яны маглі гаварыць практычна на любыя тэмы, хоць і напаўголаса. Камар, ці, як некаторыя называлі яго, – Комар, з бародкай на вузкім твары, з пазалочанымі тонкімі акулярамі на хударлявым носе, хоць і лічыўся сярод студыйшчыкаў тугадумам і кар'ерыстам, быў затое добры, інтэлігентны, прыстойны. Рыта – наіўная, мілая яе малодшая сяброўка, шчырая, без задніх думак... І трэба ж, цяжка паверыць, што нейкі нягоднік скарыстаўся гэтай дабрынёй і наіўнасцю. Як такую можна было кінуць? І яшчэ горш – як такую можна звальняць?

– Вось, – нібы апраўдваючыся, сказаў Камар, – ламаю галаву, як памагчы чалавеку. Звальняюць па сканчэнні дамовы.

– Я ведаю, – сказала Інга. – Я таксама пастараюся памагчы.

– Што з вамі? – спытаў Камар. – Вы бледная.

– Уяўляеце, што толькі што адбылося.

Яна ўсё расказала ім, сваім людзям, і закончыла:

– Так усплыло, што ёсць яшчэ сцэнар, які актыўна, проста падазрона актыўна падтрымлівае Хрушчанка.

– Яшчэ б яму не падтрымліваць, – пасміхнуўся Камар. – Гэта яго сцэнар.

– Як?!

– Так. Мы самі вінаватыя. Забылі ва ўмовах конкурсу ўказаць, што свае, кінастудыйныя, не маюць права ўдзельнічаць.

– Але ж гэта і так само сабой было зразумела. Што ў людзей хопіць сумлення, этыкі...

– Вы не ўлічылі, з кім маеце справу.

– Як жа так можна? Да такога апускацца?

Камар гмыкнуў, што азначала – можна, яшчэ і не такое можна.

– А на якую тэму ў яго? – пацікавіўся ён.

– На ваенную.

– Зразумела. Што б ні пісалі, атрымліваецца АКМ.

– У яго проста элементарная зайздрасць да маладога, да гэтага Лагуна, – уставіла Рыта.

Усе былі настроены супраць абрыдлага гендырэктара. Галоўнае, яму пад восемдзесят, а ён сядзіць і не думае сыходзіць.

– І нічога з гэтым не зробіш!

– Тут сістэму мяняць трэба.

– Разумею, грэх такое казаць, але калі-небудзь думаеш: хутчэй бы Бог яго прыбраў.

– Такія не паміраюць.

– З іншага боку, новы начальнік рэдка лепшы за папярэдняга.

– Чаму? – стрымана пакашляў Камар. – Горшага не будзе.

– Мне таксама здаецца, што хто заўгодна, абы не ён.

Так яны абмывалі чужыя костачкі. Інга супакоілася, акрыяла і адлегла душой. На развітанне яшчэ перапытала проста так, дзеля парадку:

– Дык я, калі што, магу на вас спадзявацца? Калі дойдзе да рэдсавета, падтрымаеце мяне?

– Што за пытанне!

– Мы адна каманда.

Наколькі лягчэй у Інгі стала на душы, настолькі ж горш фізічна. Яна ледзь даехала дахаты. Праклятая алергія не праходзіла. Тым жа вечарам Інга захварэла па-сапраўднаму, з тэмпературай, з выклікам доктара, які прапісаў лекі і пасцельны рэжым.

## 13

Калі Лагуну пазванілі з кінастудыі і голасам Рыты папрасілі “тэрмінова з’явіцца на рэдсавет”, ён успрыняў гэта як працяг – працяг таго новага, хвалюючага і захапляльнага жыцця, у якое быў куплены яму дзедам Вечкам выйгрышны латарэйны білет і якое цяпер само развівалася, і без дзеда.

Увесь апошні тыдзень пасля знаёмства і гутаркі з Інгай Лагун думаў толькі пра яе. Яна вельмі яму спадабалася, гэтая дама ў манаскім аблiччы. Ён гатовы быў нават закахацца ў яе. Ды яшчэ калі сусед з небывалай раней павагай пачаў да яго ставіцца, гонар зусім закружыў яму галаву. Нікуды не дзелася, не знікла з памяці тая іскрынка ў яе вачах, якая бліснула тады, у кабінеце. Тут ён не мог памыліцца. Ён думаў пра яе, але зусім не так, як пра сваіх аднагодак, школьніц і студэнтак. Гэта была не пажадлівасць, а новага, іншага кшталту жаданне, не столькі фізіялагічнае, колькі сацыяльнае, якое б узвышала яго і надавала сэнс яго існаванню. І ў гэтых новых варунках некуды далёка адплываў дзед Вечка. Таму калі тэлефон ажыў званком і ў трубцы пачуўся знаёмы голас, Лагун паморшчыўся.

“Дык цябе можна віншаваць? На рэдсавет ідзеш”.

“А што такое рэдсавет?” – спытаў Лагун.

“Пабачыш. Прайдзі ўсе кругі пекла.

“Я ж маю права ведаць. Што са мной там будуць рабіць?”

“Хутчэй за ўсё будуць прасіць зняцца з конкурсу, а ім прадаць ідэю”.

“Як гэта: прадаць ідэю?”

“Заплацяць невялікія грошы, забяруць сцэнар, і ўсё. Але памятай – як толькі прагучаць чароўныя словы “купіць ідэю”, імгненна згаджайся”.

“Забяруць сцэнар? – перапытаў Лагун. Не надта яму ўсё гэта падабалася. – І што з ім зробяць?”

“Пакладуць на паліцу, ці пойдзе на запчасткі – настрыгуць з яго кавалкаў для рускіх серыялаў”.

“А далей што?”

“Адразу звані мне. Я ўсё растлумачу”.

Суседу Лагун важна сказаў, што яго выклікаюць на кінастудыю заключаць кантракт. І паехаў. Знаёмы калідор. Стары паркет. Высокая столь, але ў той жа час адчуванне, што вузка, цесна, цісне адусюль. Вялізная студыя-павільён, як цыркавая арэна, з паваротным кругам. Кава-аўтамат. Другі паверх. Кабінет дырэктара Хрушчанкі. Лагун зайшоў, ветліва павітаўся і прысеў там, дзе яму паказалі, каля сцяны па цэнтры, акурат насупраць гендырэктара. Тое, што гэта менавіта гендырэктар, лёгка было

здагадацца – ён адзін сядзеў за сталом, а ўсе астатнія – чалавек дзесяць, мо пятнаццаць, каля сцяны і пры дзвярах.

– Так як у нас форс-мажор, – пачаў Хрушчанка, – журы наша ў асобе Міхалевіч-Яравой захварэла, на бальнічным, так што... Дарэчы, пра бальніцу, – адразу нечакана звярнуўся ён да Лагуна. – Як пачынаецца ваш сцэнарый?

– А як ён пачынаецца? – спалохана спытаў Лагун.

– З бальніцы і дажджу. Ну што гэта такое. Нібыта ў нас мала сонца і санаторыяў. Нашто адразу ўганяць гледача ў панываласць?

– І то праўда, – падтрымаў нейкі падхалім. – Скажу шчыра: я не змог дачытаць да канца.

– Ваш сцэнарый спадабаўся журы. Але гэта нічога не значыць. Гэта сімпатычная літаратурная гісторыя, аповесць. Але, як правіла, такія рэчы ўяўляюць мала цікавасці для кіно. У кіно свае законы.

Тут у кабінет уляцела Рыта, задыханая, папрасіла прабачэння і прысела на вольнае крэсла.

– Калісь былі ў модзе лёгкія лірычныя ці камедыйныя фільмы паводле мастацкіх твораў. Але тыя часы даўно мінулі. Цяпер трэба шоў, чым прымітыўнейшы сюжэт, тым лепш. А з такім матэрыялам, як у вас, працы нямерана. Трэба запрашаць людзей, прафесіяналаў, якія б яго асучаснілі...

– Каб ад яго нічога не засталося, – дадаў нехта.

Усе засмяяліся, у тым ліку і Лагун сваім разгубленым, сімпатычным смехам. Наступны выступоўца сказаў, што цалкам згодзен з папярэднім, і крыху развіў яго:

– Асабіста я лічу, што літаратура і кінематограф – розныя жанры. З літаратурных шэдэўраў, за вельмі рэдкімі выключэннямі, ніхто нічога людскага не зрабіў. Па адной простай прычыне: літаратурны твор самадастатковы. У таго, хто чытае, ствараюцца свае ўласныя вобразы, асацыяцыі, а рэжысёр жорстка, сілком навязвае свае, тым самым разбураючы чытацкія, якія, можа быць, склаліся яшчэ ў дзяцінстве.

Трэці выступоўца яшчэ шырэй развіў тую ж думку.

– Сапраўды, рэжысёр часта хапаецца за мастацкі твор, прываблены няўлоўным духам чагось сапраўднага... А вось паспрабуй злаві.

Як толькі ўзнікае інтэр'ер, ды музычка, ды акцёр вымаўляе першую рэпліку – ад мастацкага твора нічога не застаецца.

Далей пачалі выступаць справа, і злева, і ззаду за Лагуном – ён баяўся павярнуцца, каб пагдядзець, – і сыпалі словамі:

– ...Ніхто дасюль так і не адказаў на пытанне, які сцэнар лепшы: чытэльны, выпісаны да драбнюткіх дэталяў-падрабязнасцяў, ці павярхоўны, проста пункцір, намёк...

– ...Чым прымітыўней сюжэт, тым лепш. Асабіста я лічу, што сцэнарыя не трэба ўвогуле. Ён збівае рэжысёраў з толку. Дастаткова ідэі і імправізацыі акцёраў, вось як, напрыклад, у "Міміно" Данэлія...

Усе выступоўцы нібы казалі гэта аднаму Лагуну, да яго аднаго звярталіся, у нечым яго пераконвалі і ад чагосьці адгаворвалі. Разам з тым было відаць, што ўсе яны азадачаны яго пакораю, нежаданнем абвяргаць і спрачацца. І сапраўды, асалавелы, сціплы, чырванашчокі Лагун нічога не прасіў, ні на чым не настойваў, з усім маўкліва згаджаўся. З усяго нагаворанага ён толькі і зразумеў, што журы на чале з Інгай, аказваецца, нічога не вырашае, а вырашаюць вось гэтыя людзі, якім з яго сцэнарыем ушчыльную працаваць, – рэдактары, рэжысёры і асабіста гендырэктар.

Цяпер, пасля таго, як яны пераканалі Лагуна і самі сябе, які кепскі ў яго сцэнарый, ён ужо не сумняваўся, што так яно і ёсць, і яму ўжо нават абяцаная дзедам Вечкам "пакупка ідэі" здавалася за шчасце. Ён не ведаў, што насамрэч перад ім проста разыгралі спектакль, адзін з тых, якія часта як па нотах разыгрываюцца перад нявопытнымі наіўнымі аўтарамі. Слова папрасіў галоўны рэдактар Максім Камар.

– Усё так. Але першааснова кіно ўсё ж – мастацкі твор. У цэнтры якога – сціплы аўтар, творчы чалавек, – паказаў ён пальцам на Лагуна. – А хто заступіцца за творчага чалавека? Ніхто. Мы не павінны так насядаць на яго. Ён, несумненна, таленавіты малады чалавек, у якога ўсё наперадзе, і перамогі ў конкурсах таксама. А вам, малады чалавек, хачу параіць – не варта займацца вынаходніцтвам веласіпеда і адкрываць Амерыку. Чаго ад нас чакаюць асноўныя спажыўцы? – і ён паказаў пальцам цераз плячо на ўсход. – Правільна: карнавальнасці. Пусканне вянкоў па вадзе, васількоў, рамонкаў, карагодаў і песняў...

– Па-руску? – спытаў нехта ззаду. – Рускіх песняў?

– Няважна. Пераагучыць не праблема, – адказаў Камар. – Ды і на тое цітры ўнізе існуюць. Я хачу сказаць, што нічога іншага, акрамя карнавальнасці, ад нас не чакаюць і проста не прымуць. А на купальскія вянкі заўсёды ёсць попыт. Так што менш гонару, малады чалавек, больш працы над сабой!

– Што вы прапануеце? – спытаў Хрушчанка.

– Каб аўтар зняў сцэнарый з конкурсу, а за гэта мы купім у яго ідэю. Усё, – закончыў Камар і сеў.

Адбывалася слова ў слова, як прадказваў дзед Вечка. Прычым яшчэ зімой ён гэта ведаў. Як людзі ўмеюць так – напярод бачыць? Вось бы самому навучыцца.

– Давайце выслухаем аўтара.

– Вы як, згодны? Прадаць ідэю?

Лагун сказаў, што так, згодзен. Ён ні на што не прэтэндуе. Усе з палёгкаю, з адабрэннем зашумелі.

– Малайчына!

– Не пашкадуеце. Выгодная справа.

Ён спытаў, што яму цяпер рабіць.

– Чакаць званка з бухгалтэрыі. Падрыхтуюць дамову і патэлефануюць вам. Прыедзеце, падпішаце і атрымаеце вялікія грошы.

– Колькі?

– Прыкладна 350 у. е.

Лагун разлічваў на пяцьсот. І ў гэты ж самы момант ён успомніў Інгу, яе: "Не згаджайцеся!" Павагаўся і падумаў, што ўсё роўна позна ўжо.

– Пытанні ёсць? – спытаў Хрушчанка.

– Ёсць адно, – азвалася Рыта.

– Калі вы наконт загаду аб звальненні, дык тут не месца...

– Я не магу да вас патрапіць. Так што цяпер спытаю. Ці законна звальняць чалавека з маленькім дзіцём?

– Я адказваў ужо. Не звальняць, а аптымізоўваць штат. Скарачаць па заканчэнні працоўнай дамовы. Вы ж ведаеце, якія цяпер часы. Я вымушаны...

– Мне ад гэтага не лягчэй.

– У нас прававая дзяржава. Звярніцеся да юрыстаў. Яны вам тое ж скажуць. Тым больш вы ведалі, на што ішлі, падпісваючы кантракт.

Лагун азірнуўся на Рыту, і падалося яму, што пачуў ён ці то прачытаў на яе харошанькіх вуснах мацернае слова.

Усё было скончана. З вялікай палёгкай Лагун выйшаў на свежае паветра. З аднаго боку прыемна, аказваецца, быць у цэнтры ўвагі дарослых, важных людзей, якія цябе ўгаворваюць, схіляючы да рашэння, ад якога нешта важнае залежыць; з другога – усё ж было адчуванне падманутага, несправядліва пакрыўджанага. Штосьці з ім рабілі, і ён сам рабіў – не тое. Няўжо так празаічна, нават не пачаўшыся як след, скончыцца яго кінаэпапея? Ён успомніў, што абяцаў пазваніць дзеду Вечку, і аж уздрыгнуў, так не хацелася. І Інгу падвёў. Канечне, варта было з ёй параіцца. А цяпер позна. Узнікла раптам крыўда на сябе, а яшчэ больш – на дзеда. Нашто ён слухае яго? Апраўдваецца і адчытваецца перад ім? Калі яно і так, само па сабе, нядрэнна складваецца. А гэты мітуслівы дзед толькі перашкаджае. Абурэнне падымалася ў ім. Што за людзі! Сам жа падараваў мне, сам сказаў, што гэта мой сцэнар. І я што захачу, тое магу рабіць з ім. “Не – ну вы ж самі сказалі! Што сцэнар мой, – у думках спрачаўся з дзедам Лагун. – Казалі? А цяпер што ж – задні ход? Не трымаеце ўласнага слова?”

## 14

Перад выздараўленнем Інга зноў лятала ў сне. Гэта было невыказна прыемна і, аказваецца, вельмі лёгка. Трэба толькі прыўзняцца на дыбкі, адштурхнуцца кончыкамі пальцаў ад зямлі – і ты ў бязважкасці, без аніякіх крылаў. Асалода яшчэ была ў тым, што ў сне зусім не адчувалася часу. Яна не ведала, колькі ёй гадоў, і ведаць не хацела. Разбудзіў яе сонечны прамень. Яна разгледзела яго праз сон і з заплюшчанымі вачамі. Ён прасачыўся праз шчыліну ў шторцы і цяпер з цікаўнасцю, як кацяня, асцярожна краўся па ламінаце. Інга, лёгкая, у лёгкай начной сарочцы, устала з ложка. Ад хваробы не засталося і следу. Яна расчыніла шырэй вакно. Сонца – ужо не сакавіцкае, а больш упэўненае, колерам і нават памерам, як яечны жаўток, свяціла. Пачатак траўня. Шпак спяваў у іхнім ужо зялёным садзе. Яна зноў нырнула пад коўдру, яшчэ знаходзячыся ў прыемным паўтрансе, калі цела ў салодкім здранцвенні. Але тут рэальныя, дарослыя думкі нехаця пачалі выцясняць сонна-дзіцячыя. Давялося ўспомніць, што ёй не 13, а 31. Затым думкі пачалі выстройвацца ў знаёмым парадку, палавініцца, расслойвацца, дзяліцца на прыемныя і не вельмі. Трэба было прачынацца.

Раптам яна ўспомніла ўсё. Учарашні званок ад Лагуна, яго блытаны расказ пра тэрміновы рэдсавет. Пра тое, як ўсё скончылася, як без яе хуценька ўсё вырашылі. Як ціснулі на аўтара, ламалі яго. Яна жыва ўявіла, як з яго здзекваліся. Ды і з яе заадно. Уколаты гонар, абражанае самалюбства, адчуванне, нібыта не чужы сцэнар зарэзаны, а яе ўласны. Сама супакойвала аўтара:

“Нічога страшнага, Усё можна паправіць”, – а на душы было моташна.

Здрада сяброў, Рыты з Камаром, нават не прыйшла ёй у галаву. Што яны могуць? Як і гэты хлопчык. Які цяпер каецца. Злосць ці, хутчэй, іншае пачуццё, неўразуменне – было толькі на Хрушчанку. Як жа ён усім абрыд і ўсіх дастаў. Раніцай, на любімай тэрасе, яна сярдзіта расказвала мужу.

– Памятаеш той сцэнарый? Дык вось: узялі, без мяне правялі рэдсавет, на якім прымушалі аўтара прадаць ім ідэю і, па сутнасці, адмовіцца ад уласнага твора...

– Як Джардана Бруна?

– Табе смешна. Тут, уяўляеш, у чым подласць і нізкасць: не ў тым, што без мяне, а ў тым, што я паабяцала яму, што ўсё будзе добра. Дала надзею.

– Як Фрыдзе ў Булгакава? – але тут муж зразумеў, што перайграе, і змяніў тон. – І што, няможна ніяк выправіць?

– Чаму, можна, канечне. Ён нічога яшчэ не падпісаў.

– Дык чаму ты марудзіш? Трэба ехаць да яго. Паспрабаваць адгаварыць.

Яна няўпэўнена сказала:

– А што. Гэта ідэя. Бадай, я так і зраблю. Цяпер ужо з прынцыпу я павінна давесці справу да канца.

На гэты раз яна паставіла машыну ў дварах, не даязджаючы да інтэрната, і пайшла пешкі. Раніца была ясная і сонечная. Пасля хваробы злёгку кружылася галава. На дарожцы, выкладзенай пліткамі, пад ногі траплялiся каменьчыкі. Інга ішла, па-школьнаму стараючыся не наступаць на швы паміж плітак. Пліткі былі розных формаў: то падобныя на спінныя костачкі ў шкілеце, то як тоўстыя беларускія “і” без кропкі, то – пчаліныя соты, а то нават, як сэрцайкі, нібы лайкі ў Фэйсбуку. Дзве птушкі нізка праляцелі, і два цені прабеглі па дарожцы – нібы было 4 птушкі. Маленькая дачка з брусочкам крэйды ў пальцах пытала ў бацькі, якую пароду сабакі яны толькі што бачылі. “Двортэр’ер”, – адказваў бацька. З газона перад Інгай, проста з-пад зямлі, як крот з чэшскага мультфільма, паказалася галава ў будаўнічай касцы – там быў у траве каналізацыйны люк, з якога па лесвіцы і вылез рабочы. Воддаль яго напарнікі ў аранжавых камізэльках прылеглі ў цяньку пад дрэвам адпачыць. У інтэрнаце той самы вахцёр з тым самым пахабным позіркам пазнаў яе. “Дома. Адзін”, – прамовіў з ухмылкай, абсалютна двухсэнсоўна. Іншым разам яна пакрыўдзілася б, а цяпер увагі не дала. Стук. Дзверы адчынены. Ёй зноў не спадабалася гэта. Увайшла. Шум вады з душа. Знаёмы папугай – лімоннага колеру шарык з бурштынавай дзюбкай. Яна падышла да клеткі, папугай зачырыкаў і павіс уніз галавой. Студэнцкі, мулкі нават на выгляд ложак. Інга паспрабавала яго рукой. Прысела. Адчула раптам сябе такой стомленай, што захацелася прылегчы, як Машы ў “Трох мядзведзях”. Бог ведае, якія думкі палезлі ў галаву. Ёй падумалася, што гэты ложак, гэтыя прасціны, і матрац, і капа зусім не цнатлівыя. Аб чым могуць расказаць, што бачылі гэтыя светленькія шпалеры з рассыпанымі па іх, як па лузе, дробнымі рамонкамі? Выйшаў з душа Лагун, захутаны ў махровы вялікі ручнік, застыў, убачыўшы госцю, і раскрыў рот у вінаватай усмешцы. Яна засталася сядзець на ложку.

– Чаму вы не зачыняеце дзверы? І потым: чаму вы так лёгка здаліся? Я ж прасіла не спяшацца. Кіно складаная штука...

– Я не чакаў, што настолькі складаная.

– Нічога не страчана, – дзелавіта казала яна. – Нават калі б вы падпісалі, існуе працэдура адклікання подпісу. А вы нічога пакуль не паспелі.

Ямачкі на шчоках, цёплыя жывыя вочы, прыгожыя ногі; аказваецца, і душа таксама. Ад яе прыемна пахла надзвычай ахайнай, здаровай, пажадлівай чалавечай самкай. Гэты пах прабіваўся праз ледзь улоўныя духі, якімі яна карысталася ў вельмі рэдкіх выпадках.

– Вы мне паможаце?

– Я дзеля гэтага прыехала.

А калі ён пачаў дзякаваць, яна нечакана закрыла далонёй яму рот і пагладзіла па мокрай галаве. Тады ён, зноў шырока ўсміхнуўшыся, прыцяг-

нуў яе да сябе, даволі ўмела і вопытна для таго хлопчыка, які склаўся ў яе ўяўленні. Яна не паспела ні пакрыўдзіцца, ні абурыцца, як яго рука ўжо ссоўвала набок яе трусікі, і ўсё, што ёй заставалася, гэта прашаптаць:

“Ну не цяпер жа... Дзверы! Замок!”

Пазней, успамінаючы ўсё, яна не магла ўзяць у толк: што гэта было? Насланнё? Нейкі памарак? Вясна? Радасць ад жыцця, энергія, якая ўзнікае пасля хваробы і падвойвае сілы? Гулкая цішыня на калідоры, веданне, што ўсе на занятках, перанос у студэнцтва, настальгія па ім? Ці, можа, наадварот, менавіта таму, што вакол поўна небяспекі, усё забаронена, кожную хвіліну маглі пастукаць, увайсці; нават тое, што дзе-небудзь можа аказацца прыхаваная відэакамера – усё гэта толькі абвастрала памкненне і, можа, менавіта таму так хацелася гэтую небяспеку паспрабаваць на смак?

Ці гэта быў той выпадак, калі нешта адбываецца без прычыны, бяздумна; нібы загадвае нехта, штурхае чорт пад руку, – так баязлівец у пэўныя хвіліны робіць тое, што сам пасля не можа вытлумачыць, напрыклад, скача ў ледзяную ваду, каб выратаваць тапельца, ці ўбягае ў ахоплены агнём дом, і наадварот – моцны, рашучы чалавек дранцвее ад страху, убачыўшы мыш, і гэтак жа сама не можа пазней даўмецца, чаму.

А можа, яшчэ прасцей. Мо Інга адчула да яго тое самае, што і іншыя асобы жаночага полу: аднакласніца, і дзяўчына з поўдня, і настаўніцы, і дама з прыёмнай камісіі, і выкладчыцы на сесіі, і камендантка інтэрната, і начальніца па кошыках у гіпермаркеце – гэта было пачуццё шкадавання, ці то пяшчоты, ці спакуса яго безабароннасцю (падманнае пачуццё!), адпаведна, і адчуванне ўласнай бяспекі – такі нічога нікому не раскажа.

Папугай сціх, прыслухоўваўся, нахіліўшы лімонную галоўку, і, здавалася, уважліва сачыў за тым, што адбываецца.

“Ён не раскажа?” – прашаптала Інга. А потым, прыводзячы сябе ў парадак, строга казала:

– Цяпер паслухай. Тое, што здарылася, не павінна было здарыцца. Але гэта нічога не значыць. Раз ужо адбылося, першае – маўчаць. Не ўздумай нікому хваліцца.

– Я і не збіраўся.

Але яна паўтарала:

– Не будзеш хваліцца? Хаця я ўпэўнена, што будзеш. І, канечне, табе не павераць.

Села, падабраўшы пад сябе нагу, гледзячы ў люстэрка смартфона, папраўіла валасы. Лагуну прыйшло ў галаву, што ён не павінен маўчаць, што нешта ж робіцца і кажацца ў такіх выпадках. Падзякаваць, ці што. Ён выціснуў з сябе:

– А я вас даўно ведаю, – сказаў і не схлусіў.

– Як даўно?

– Тры гады, шэсць месяцаў і тры дні. Вы прыязджалі да нас на здымкі.

– Не, не памятаю, – паціснула яна плячом. – Хаця здымкі, канечне, помню. Прыроду. Потым – няшчасны выпадак нейкі, з маланкай і з тэлефонам звязаны.

Лагун застыў, баючыся паварушыцца. Ва ўсе вочы глядзеў на яе, каб злавіць кожнае слова, чакаючы, што яна скажа і зробіць далей. Яна сказала:

– Цяпер – муж.

– А што... муж?

– Як усе яны – раўнівы. Ведаеш, як мы пазнаёміліся? У Піцундзе.

Мы, студэнты, здымалі там дыпломны фільм. У мяне быў закаханы рэжысёр, аднагрупнік. А ён, будучы муж, адпачываў там. І аднойчы здарыўся няшчасны выпадак. Рэжысёр разбіўся, сарваўшыся са скалы, пры нявысветленых, дзіўных абставінах.

– Не можа быць, – жахнуўся Лагун.

Інга не схлусіла ні слова, рэжысёр сапраўды разбіўся; проста яна крышку па-свойму перайначыла – так бы мовіць, расставіла патрэбныя знакі прыпынку.

– Вось так, адным махам, расправіўся з невінаватым чалавекам. Выключна ад рэўнасці. – І спакойна, як ні ў чым не бывала, працягвала: – Някепска было б вам пазнаёміцца.

– Нашто?

– Паказаць, што сумленне чыстае. Што нам няма чаго баяцца. Можа, прыдумаць, што ты гей? Старая штука, ды раптам спрацуе. З тваёй непасрэднасцю і, трэба прызнаць, рашучасцю можа і атрымацца. Калі не перайграваць, не перагінаць палку, а проста пусціць слова, яно можа патрапіць у мішэнь. Бо часта ўсё губіць залішняе паляпшэнне – чым больш хлусіш і апраўдваешся, тым больш верагоднасці, што цябе раскусяць.

Ён спалохана слухаў яе.

– Дай мне слова – паводзіць сябе нібыта нічога не адбылося. Як бы цябе ні прыцiскалі да сцяны, адмаўляй усё на свеце, самае відавочнае. Ніколі нікому ні ў чым не прызнавайся. Пад страхам смяротнага пакарання, ведаючы, што маўчанне цябе губіць, што злавілі цябе на месцы злачынства, знялі на камеру, зафоткалі, прывялі сотню сведкаў, калі ўсе і ўсё супраць цябе – стой на сваім, тупа, упарта сцвярджай: не, нічога не было, я не вінаваты, усё падман, фэйкі, усё падстроена, сведкі падкуплены. Дамовіліся?

І, бачачы, што зусім запалохала яго, паспрабавала супакоіць:

– Ды не бойся, да гэтага не дойдзе. Я пастараюся, каб вы з ім не перасекліся. У любым выпадку я заўсёды буду побач.

Дома, апярэджваючы роспыты мужа, яна кінула на хаду: “Угаварыла. Усё атрымалася”. Але мужа цікавіла ўсё: падрабязнасці, развіццё, дэталі. Давялося прысесці, падрабязна расказаць, як ён, гэты аўтар, жыве, нават пра вахцёра і папугая.

– Я ўсё чакаю, калі ты нас пазнаёміш.

– Хіба я абяцала?

– Не. Але муж я ці не муж? Я маю права ведаць, чаму ты ім так апякуешся? Гэта наводзіць на падазрэнні. Ты не закахалася?

– Што за глупства. Неверагоднае, – сярдзіта бліснула яна вачамі. А сама ўся сціснулася. І адразу ж перавяла размову на Хрушчанку. – Сёння, уяўляеш, пазваніў і запрасіў на дзень нараджэння, на фуршэт. Пасля ўсяго, што адбылося! Як так і трэба!

– Калі фуршэт? – дзелавіта спытаў муж.

– Заўтра. У яго кабінеце.

– Пойдзеш?

– Трэба ж сказаць, што аўтар перадумаў.

– А сам аўтар будзе?

– Перастань. Нікога не будзе. Чаму ён там павінен быць?

– Табе відней.

Інга прапусціла гэта міма вушэй і працягвала пра Хрушчанку:

– Іншы на яго месцы пасаромеўся б, а з яго як з гусі вада.
– Ну, так робіць не адзін Хрушчанка.
– У сэнсе?
– Не адзін Хрушчанка кажа адно, а робіць другое.

Яна ўнутрана сцялася. Муж паводзіў сябе так і гаварыў так, нібыта ўсё ведае. Ён нібы чытаў яе думкі, і хоць, дзякаваць богу, пакуль рабіў з гэтага прачытання не тыя высновы, але ўсё адно. Яна злавіла сябе на тым, што баіцца крамольна нават падумаць і адчувае сябе, як распранутая. І дзіва дзіўнае, усе словы, якія яны маглі сказаць адно аднаму яшчэ сёння раніцай і якія тады былі самымі звычайнымі, цяпер набывалі нейкі падтэкст, намёк, падвойны сэнс; нават нейкай пагрозай дыхала ад іх.

Раптам да яе дайшло, што цяпер, з гэтага вось часу, яна не зможа быць сама сабою, што не будзе ёй супакою, давядзецца ёй ламаць сябе, падстройвацца, хітрыць, і што яна сама, уласнымі рукамі, без прычыны, на ідэальна роўным месцы стварыла гэтую сітуацыю. Яна зразумела, што цяпер, пачынаючы вось ад гэтага вечара, ніводнае слова ад яго яна ўжо не зможа ўспрымаць, як раней, і будзе заўсёды мучацца пытаннем: ён ведае ці яшчэ не?

“Што я нарабіла?” – падумала яна самае банальнае, што можна падумаць у такіх выпадках.

## 15

Лагун паспеў забыць словы і папярэджанні Інгі, таму з неўразуменнем утаропіўся на мужчыну, які на другі дзень прыкладна ў абед узнік у дзвярах пакоя. Мужчына быў мажны, у шырокай белай сарочцы, у джынсах, у якія ўлезлі б два з паловаю Лагуны. Узнік і, не вітаючыся, з цікавасцю агледзеў сцены, ложкі, тумбачкі, клетку з папугаем. Нагледзеўшыся, толькі тады перавёў вочы на Лагуна і прамовіў:

– Значыць, так жывуць пачынаючыя сцэнарысты?

Пасля чаго з годнасцю прадставіўся:

– Муж нашай агульнай знаёмай. Міхалевіч. Вас я ведаю.

Ён паляпаў рукой па ложку, акурат, як Інга, нібы правяраючы трываласць яго. Без дазволу прысеў, ад чаго ложак заскрыпеў і прагнуўся.

– Начуты, начуты. І начытаны. Даўно хацеў з табой пазнаёміцца. Нічога, што на ты? Улічваючы тое, што нас звязвае, можна і на ты.

– А што... нас звязвае? – зглынуў Лагун камяк у горле.

– Агульная любоў.

Гэта было невыносна.

– Да творчасці, – удакладніў Міхалевіч. – Вось захацелася пазнаёміцца з маладым талентам. Паглядзець яму ў вочы. Можа, нават пасябраваць, калі атрымаецца. Я чалавек адзінокі. Цяжкі для сяброўства, бо не ўмею хваліць, таму і мяне няма каму пахваліць у адказ. Але і аднаму жыць можна. Нікога не хачу пакрыўдзіць, але некаторыя даўно памерлыя для мяне жывей за жывых, я з імі размаўляю, раюся, яны заўсёды са мною. І наадварот, некаторыя так званыя жывыя для мяне нібыта ўвогуле не нараджаліся.

Лагун маўчаў. Адно, што мільгала ў яго галаве: усё падстроена Інгай, знарок ёю спланавана, менавіта такая мэта і была ў яе. А муж працягваў:

– Вось так, малады чалавек. Тое, што не адразу нас забівае, робіць нас мацнейшымі. Я б толькі замяніў мацнейшымі на мудрэйшымі.

– Я... разумееце, да жанчын не вельмі, – драўляным, не сваім голасам вымучыў Лагун. Атрымалася зусім недарэчы.

– А вось гэтага не трэба. Ніякіх такіх штучак. Сяброўства – вось што галоўнае. Чыстае мужчынскае сяброўства. Спытаеш: нашто мне гэта трэба? Адкажу: цікавасць плюс няма чаго рабіць. Проста нястрымна захацелася пабачыць рамантыка сённяшняга дня. Можна сказаць, апошняга рыцара. З якой мэтай? Для наладжвання больш цесных кантактаў. І, калі мы бліжэй адзін аднаго пазнаем...

– Бліжэй? – непаслухмянымі вуснамі перапытаў Лагун.

– Бліжэй і цясней. Хаця я цябе ўжо і так завочна ведаю і амаль люблю за творчасць. Таму хачу зрабіць табе маленькае дабро. Мы любім тых, каму прыносім дабро, і ненавідзім тых, каму – зло.

Лагун не разумеў, дзе ён, сон гэта ці ява. Прычым ён адчуваў, што яму кажуць разумныя рэчы; іншым разам ён бы з задавальненнем такое паслухаў. Цяпер жа ўсе гэтыя двухсэнсоўныя заўвагі і афарызмы, гэтая манера Міхалевіча пасля таго, як скажа, чакаць ад субяседніка рэакцыі і не спускаць з яго вачэй, прыводзілі Лагуна ледзь не ў жах. Міхалевіч пастукаў па руцэ з гадзіннікам.

– Таксі стаіць, чакае. Так што давай. Збірайся. Ключ не забудзь.

– Куды?

– Я цябе запрашаю ў госці. Заадно жонцы зробім сюрпрыз.

Дарогу Лагун не помніў, большую частку сядзеў з заплюшчанымі вачамі і бледны. Спыніліся каля дома. Сцежка вяла сярод кустоў і кветак да тэрасы. Двор, фантан. Флігель, вежы. Дом, які не агледзець, такі вялікі. Тры паверхі. Гараж. У ім, як пахваліўся муж, тры машыны, але сам ён не ездзіць і нават правоў не мае. “Сабака на сене... затое жонка ездзіць... “Жук”, вінтажны, жоўты, такіх цяпер не купіш”.

Экскурсія па доме пачалася з падвала. Бетонная ці цэментная падлога. “Мой бацька, архітэктар, выдумляў рознае абы-што. А ліфт не здагадаўся спраектаваць”.

Лагун патроху прыходзіў у сябе. Па набытай на сваіх кошыках у гіпермаркеце звычцы ён першай справаю паўсюль, дзе апыналіся, шукаў вачамі відэакамеры. Ад падвала па вінтавой лесвіцы пачалі падымацца на першы паверх. Муж працягваў каментаваць.

“Я не проста так паказваю. З далёкім прыцэлам...”

Дабраліся да прасторнага кабінета, дзе Міхалевіч невядома чаго дастаў з шуфляды і паказаў Лагуну пісталет, куплены, як ён патлумачыў, яшчэ ў 90-я за сто даляраў у Смаленску на базары.

Другі паверх. Бібліятэка. Вокны ў сад.

– Вось бы тут жыць і тварыць, праўда? Кнігі, пісьмовы стол, гарачая кава, духмяная цыгарэта... Што яшчэ трэба маладому пісьменніку? Ды яшчэ на такім узлёце славы? Але гэта ў тым выпадку, калі жыць. Жыць добра, праўда?

Скончылі экскурсію тэрасай. Прыселі за сталом.

– Наша не хутка будзе. У іх сёння карпаратыўчык. Так што мы з табой аб усім паспеем пагаварыць. Давай, расказвай.

– Аб... чым?

– Ты ж творчы чалавек, а не я. Не сумняваюся, што ты разумны, назіральны, дапытлівы, накапіў многа каштоўнага матэрыялу. Давай, смялей.

Лагун, адчуваючы сябе як злачынца на судзе, дзе кожнае слова можа

яго ўратаваць або пагубіць, асцярожна пачаў заводзіць старую заезджаную пласцінку пра сірату, катаржную працу, жаданні-мары выбіцца ў людзі; уставіў і гісторыі дзеда Вечкі (чужыя здаваліся лепшымі, цікавейшымі) пра грыбы, уюны, лясны кісларод і балотны наркатычны газ; паскардзіўся, як цяжка вучыцца і адначасова пісаць сцэнарыі плюс яшчэ падпрацоўваць на кошыках.

– Чакаю вось позву ў армію, – закончыў ён.

– А не позна?

– Веснавы прызыў цягнецца да мая...

– Гэта яшчэ пытанне. Мо і ў армію ніякую не пойдзеш.

– ...А пачатак восеньскага прыпадае на канец лета, на жнівень, і да лістапада, – працягваў Лагун недарэчы і невядома чаму.

– А як ты наконт мора?

– Мора?

– Ты так апісваеш яго, а сам, я ведаю, ніколі не быў. Не хочаш пабываць?

Лагун так адчайна матлянуў галавой, што аж хруснула нешта ў шыі.

– А мо з'ездзім? Напрыклад, у Піцунду. Праўда, у мяне ад яе засталіся не вельмі прыемныя ўспаміны, – ён тройчы пастукаў сагнутым пальцам па стале. – Вось мы іх і выцеснім, заменім прыемнымі.

Лагун ледзь не плакаў ад страху. У гэты момант з двара пачуліся крокі, і ў тэрасу хуткім крокам увайшла Інга. Лагун ускочыў з месца, як вінаваты вучань пры з'яўленні строгай настаўніцы. Міхалевіч не зварухнуўся. Убачыўшы мужа з палюбоўнікам разам, за адным сталом, Інга, канечне, спатыкнулася, застыла, але змагла патушыць у вачах трывогу.

– Прабач, – сказаў Міхалевіч, – але ты так жыва яго апісвала. Я не ўтрымаўся, з'ездзіў да яго і запрасіў. Спадзяюся, ты не супраць?

– Што вы тут рабілі? Чым вы займаліся столькі часу?

– Пасядзелі, пагаварылі. Вось прашу застацца вячэраць. Мо ён цябе паслухае?

– Не, не! – замахаў рукамі Лагун.

Калі ён, забыўшы развітацца, сышоў на ватных нагах, Інга кінула сумачку на канапу і стомлена апусцілася побач.

– Пазнаёміліся?

– Яшчэ як. Цяпер я цябе разумею.

– Пра што ты?

– Пра аўтара. Харошы ён вельмі хлопец. Толькі сціплы аж цераз край. Баюся, я перастараўся, хацеў яму спадабацца ды перахваліў. А ты чаму так рана? – нарэшце спытаў муж. – Здарылася што?

– Здарылася.

## 16

А здарылася наступнае. Яшчэ некалькі гадзін назад стол з закускамі і featured рознакалі獎бернымі бутэлькамі падзяляў папалам вялікі, на чатыры шырокія акны, кабінет гендырэктара. Было вельмі душна, як бы ціснула нешта, не хапала паветра, хоць усе вокны былі расчынены і вецярок варушыў жалюзі і лісткі на вазонах, якія ляпіліся на падаконніку. Каля супрацьлеглай ад вакон сцяны стаялі асобныя столікі з крэсламі і скуранымі канапкамі, каб можна было прысесці – для пажылых ці самых ганаровых гасцей. Увогуле людзей было даволі многа. Пакуль прытрымліваліся ранжыру:

наперадзе каля стала займалі месца чыноўнікі з вышэйшых сфераў, бамонд; ззаду тапталася менш ганаровая публіка, другі, так бы мовіць, гатунак: рэжысёры-няўдачнікі, сцэнарысты-эпігоны, безгалосыя акцёры. Аднак усе запрошаныя, незалежна ад рангу і сацыяльнага статусу, былі аднаго поля ягады, людзі творчыя, паміж сабой знаёмыя. У пачатку, як чамусьці заўсёды на такіх мерапрыемствах бывае, ішло не надта гладка. Не назіралася радасці, уздыму, госці былі заціснутыя, скаваныя. Але патроху расслабіліся, развязаліся языкі; пайшлі тосты, паляцелі здравіцы, панесліся кампліменты імянінніку.

Інга стаяла побач з Рытай, да якой з нядаўняга часу адчувала своеасаблівае сваяцтва душ. Яна падняла вочы. Насупраць, праз стол, ёй усміхаўся сцэнарыст Вечка. Ён стаяў разам з рэжысёрам Скіндзерам. На студыі падсмейваліся з іх дзіўнаватага сяброўства – старога з маладым. Інга міла ўсміхнулася яму ў адказ і падумала, як ён, гэты Вечка, да смешнага не падыходзіць на ролю творцы. У яго вясковы, просты твар. Дужыя рукі, хоць і белыя, якія даўно не ведалі фізічнай працы. Не новы касцюм. Бачыліся яны не часта, але Інзе заўсёды было няўтульна, ніякавата пад яго нібыта цёплым, а насамрэч пранізлівым, як рэнтген, позіркам. І цяпер Інга, усміхнуўшыся яму, прашаптала Рыце:

– Непрыемны тып. Нашто такіх трымаць на кінастудыі?

– А чаму ён так на цябе пазірае?

– Зямляк мой нібыта. З-пад Гомеля. Прынамсі, набіваецца ў землякі.

– Ён падобны на вясковага дзядзьку, – ціха падхапіла Рыта, – які прыехаў у госці ў горад і засядзеўся.

– Адзін палец адначасова тры клавішы на ноўтбуку разам захопіць.

– Нізашто не паверу, што ён можа нешта людскае стварыць.

– Асабліва калі ведаеш, якая таленавітая цяпер моладзь. Узяць хоць бы гэтага Лагуна. Уся біяграфія – школа ды паездка ў цягніку. А як піша!

– Не кажы. Я неяк...

Так яны ціха пляткарылі, а чарговы выступоўца важна і важка казаў:

– ...Такая дата бывае раз у жыцці! – і, пачаўшы з гэтага глупства, бо нібыта любая іншая дата бывае некалькі разоў у жыцці, працягваў: – Наш дарагі... не толькі падняў на новую вышыню... але і ўнёс свой вагомы ўклад... аб чым сведчаць такія рэчы, як... магутны, толькі ў апошні час раскрыты талент выдатнага сцэнарыста...

– Оха-хо, – ціха ўздыхнуў Вечка. Скіндзер пачуў і нахіліўся да яго.

– А вы паслядоўны чалавек, – сказаў ён. – Ваш пратэжэ паказвае поспехі.

– Прашу цябе, не трэба, – спалохаўся дзед. – Я ў ім так расчараваўся!

– Не бойцеся, я нікому не скажу. Аднак як ваш план? Як рухаецца справа з трыма зайцамі?

– Ніяк, – адказаў Вечка. – Хочаш насмяшыць Сапраўднага Сцэнарыста, раскажы яму пра свае планы.

Яму было сорамна, што яго, старога, вопытнага, разумнага, якім ён сябе лічыў, чалавека, так лёгка і прымітыўна падманулі. Лагун абяцаў “прадаць ідэю”, ды не прадаў, а ўрэшце і зусім перастаў адказваць на званкі. Тым часам падняўся з чаркаю ў руцэ імяніннік, сам Хрушчанка, чырвоны, абсыпаны кропелькамі поту.

– Сябры, – расчулена прамовіў. Хацеў сказаць яшчэ нешта – не змог, паспрабаваў зноў – і зноў не змог, як чалавек, які без паперкі забывае тэкст. Паглядзеў тужліва на вокны, паправіў гальштук на шыі і раптам,

выгнуўшыся ўсім целам, як акцёр у кіно, споўз пад стол на падлогу. Як пасля ўспаміналі тыя, хто стаяў блізка і ўсё бачыў, найбольш іх уразіла, што, падаючы, Хрушчанка не выпусціў чарку з рукі і не разбіў яе. Усчаўся пярэпалах.

– Кепска чалавеку!

– Душна! Вокны адчыніце!

А вокны і так расчыненыя.

– Ён мёртвы! Не дыхае!

– Не, ён жывы.

Перанеслі непрытомнае цела з пасінелым тварам да вакна на канапку, выклікалі хуткую. Госці не разыходзіліся. Гаварылі амаль шэптам. Хадзіць стараліся ціха, каб не стукаць нагамі. На дальнім канцы стала сёй-той, карыстаючыся момантам, выпіваў і закусваў. Вельмі хутка прыбыла брыгада медыкаў з трох чалавек, у бурачковага колеру камбінезонах, схіліліся над целам. На руцэ, пальцы якой нарэшце разагнулі і выслабанілі з іх чарку, пульс не прамацваўся.

– Ну, што, доктар? – нецярпліва спытаў нехта.

Доктар разагнуўся:

– Усё.

Як толькі гэтае слова прагучала, на некалькі хвілін усталявалася мёртвая цішыня. Парушыў яе доктар.

– Падобна на атручванне, – сказаў ён. – Усе сімптомы. У яго была алергія?

– Была, была!

– Яшчэ як была!

– Я б вам параіў нічога не чапаць на стале, – сказаў доктар.

Узніклі насілкі, цела, накрыўшы казённай прасцінай, вынеслі. Тут і пачалося. Рыта заўважыла, як Інга пабялела і прыклала да рота насоўку. Ззаду пачуўся шэпт: “Гэтую с... даўно трэба было атруціць”. Рыта хутка азірнулася. Усе стаялі панурыўшыся, з сумнымі сур’ёзнымі тварамі. Няўжо пачулася, няўжо гэта яна сама падумала ці, яшчэ горш, вымавіла ўслых? Ды не – ціхія галасы ледзь чутна лунал у паветры.

“Добра, што ён ужо нічога не чуе”. – “Ён і пры жыцці быў глухі як пень. Да мастацтва”. – “Якія мы ўсё ж цынікі”. Галоўны рэдактар Камар раптам гучна сказаў:

– Вось дык фокус. Я не думаю, каб у каго-небудзь быў зуб на нашага гендырэктара.

Усе прыціхлі і нават як бы працверазелі. Спадылба пачалі паглядваць адно на аднаго. Кожны сам пра сябе ведаў, што ён не вінаваты, але ведаў, што і іншыя думаюць таксама, падазраючы суседа. Кожны ліхаманкава ўспамінаў, ці не сказаў што лішняе ў кабінеце, каля кава-аўтамата, у курылцы, на вуліцы, і калі сказаў, дык якія могуць быць наступствы?

– Не чапайце нічога на стале! – зноў пачуўся тонкі голас Камара. Ён яўна забіраў ініцыятыву ў свае рукі.

Пасля гэтых слоў усе моўчкі пачалі разыходзіцца.

*(Заканчэнне будзе).*

паэзія

## Леанід Дранько-Майсюк



*...Як вывучыш мову ракі, чалавек,*
*Тады і шчаслівым ты станеш...*

# Сіняя царква пад навальніцаю...

## Не ўвесь твор

*Аднойчы наведаў я прыстань –*
*Звычайную стайню чаўноў,*
*Якія няўрымсліва грызлі*
*Цуглі цяжкіх ланцугоў...*

1978 г.

**Тлумачэнне**

У траўні 1978 года, адслужыўшы і вярнуўшыся з войска ў Давыд-Гарадок, я спаліў пяць вялікіх нататнікаў са сваімі вершаванымі творамі, якія ці не штодня, калі выпадала зручная хвіліна, складаў па-беларуску то ў салдацкай казарме, то на тэлеграфнай станцыі, на якой у асноўным і праходзіла мая служба.

Так, амаль кожны дзень накідваў на паперу па радкоў шаснаццаць, а то й больш, дбаючы перш за ўсё аб адным, – каб жыла ў душы беларуская мова.

З той немалой армейскай творчасці ўцалелі асобныя рыфмаваныя запісы, можна сказаць, пайшло прахам усё, – у першую маю кніжку “Вандроўнік” (1983) трапіла толькі адно практыкаванне “...Хто раскажа пра гаспадара”.

А от вершы, якія складаў у Маскве, калі вучыўся ў Літаратурным інстытуце, крыху захаваліся, але й напраўду зусім крыху, бо іх таксама шмат панішчылася.

Не, не паліў іх, проста не збіраў да купы, і яны неяк самі пагінулі...

У верасні 2018 года ў Маскве на Цвярскім бульвары, непадалёку Літінстытута, я сустрэўся са сваім колішнім сябрам Сяргеем Казначэевым; мы разам вучыліся, жылі ў адным інтэрнацкім пакоі на вуліцы Дабралюбава, – дзеля дробнага заробку, а найперш, каб паглядзець спектаклі А. Эфраса, мылі падлогу ў Тэатры, што на Малой Броннай (квіткі ж на пастаноўкі А. Эфраса было не дастаць!), і тады ж, у 1978 – 1982 гадах, шмат чыталі адзін аднаму са сваіх агульных сшыткаў і паэзіі, і прозы.

І вось у той гаворцы (у верасні 2018-га!) ён, рускі чалавек, народжаны на берагах Волгі, раптам нагадаў мне па памяці мае радкі, якія я забыў суздром, пра якія вось ужо якое дзесяцігоддзе і думаць не думаў...

Аднойчы наведаў я прыстань –
Звычайную стайню чаўноў,
Якія няўрымсліва грызлі
Цуглі цяжкіх ланцугоў...

Такі пачатак аднаго з маіх студэнцкіх вершаў, і толькі гэтыя радкі (як шкада, што не ўвесь твор!) засталіся ў памяці майго колішняга сябра.

## *ЗНІКАЮЦЬ РЭКІ БЕЛАРУСІ…*

Знікаюць рэкі Беларусі...
Як тыя людзі, і яны,
Відаць, прайсці таксама ж мусяць
Шлях ад калыскі да труны.

І вось праходзяць і знікаюць,
Была рака – няма ракі,
І крыўду... Не, не пакідаюць,
Што лёс пасланы ім такі.

Аб тым, хто вінаваты ў гэтым, –
Ці чалавек? Ці сатана? –
Сказалі іншыя паэты,
Не мне казаць, чыя віна...

Па ўсёй радзіме – рэк магілы,
Рудых канавак жабін крэкт,
І на ўказальніках пахілых
Ржавеюць назвы мёртвых рэк.

Здавалася, з надзеяй знаўся:
“Нішто не прападзе дарма...”
Аднак прапала...
Ты застаўся,
Але ракі тваёй няма.

*10 красавіка 2020 г., пятніца, 12 г. 00 хв.; Менск.*

### *РОЗНЫЯ*

І вас, і нас адно імгненне страшыць,
Ды розныя мы ўсё ж, як ні круці, –
Да трыццаці жылі паэты вашы,
А нашыя да дваццаці пяці.

Імгненне тое, поўнае адчаю, –
Адзінае, і нам яго стае...
Сяргей-пакутнік лёс ваш вызначае,
Максім-пакутнік вечнасць нам дае.

*6 верасня 2021 г., панядзелак, 20 г. 36 хв.; Менск –*
*22 кастрычніка 2021 г., пятніца, 13 г. 14 хв.; Менск.*

### *СЭРЦА*

Варта пакласці на сэрца руку,
Каб зразумець, – і яно ў неспакоі...
Хай супакоіцца хоць пад рукою,
Як птушаня ў травяным халадку.

Лепш усміхніся, як робіцца горш...
Супакаенне – адзінае шчасце...
Шмат прападзе, ды ўсяму не прапасці...
Што ацалее – ратуе найбольш!

Добра ісці і не бачыць усіх –
Тых, што наўкола б'юць гвалту паклоны...
Шыльды чужыя, чужыя законы...
Ты заставайся на межах сваіх.

Радуйся лодцы і роднай вярбе,
Роднаму слову і роднай Гарыні.
Сэрца – твой сябар; цябе ён пакіне
Толькі тады, як не стане цябе.

*7 лістапада 2021 г., нядзеля, 12 г. 29 хв.; Менск.*

### *ЗДАРОЎЕ*

Людзі не бедныя... Скрыня,
Куфар, камода, дзве хаты...
Рада дабру гаспадыня,
І гаспадар вельмі рады.
Шыла яна і нямала,
Хто ні папросіць, абновы;

Ён жа камоднік удалы,
Знаўца, – мябляр адмысловы.

Скрыні рабіў па-майстэрску,
Куфры струніў пад лінейку...
І мазалём (не зладзействам!)
Добрую збілі капейку.

Дзеці ў Амерыцы недзе,
Жыць навучыліся самі, –
Цешаць, бо родныя дзеці,
Скайпаўскімі галасамі.

Бацька і маці ў гуморы,
Тое, што будзе – не ўбудзе...
"Добра, што гэтак..." – гавораць
Гэтыя слаўныя людзі.

"Добра, што гэтак..." – прыслоўе
І ад зямлі, і ад неба...
От жа каб трохі здароўя, –
Болей нічога не трэба!

*11 лістапада 2021 г., чацвер, 19 г. 22 хв.; Менск.*

## *СНЕГ І НЕРВЫ*

Ёсць у снезе радасць ночы...
Гэтай радасці раўня
Ты жыві, як жыў, на ўзбоччы, –
Гоіць нервы цішыня.

Хай гадзіннік гоніць стрэлкі,
Я табе адно скажу:
Ты налі сабе гарэлкі
І сагрэй сваю душу!

Мучыцца душа...
Святое
Некалі пакрыўдзіў ты,
Хоць яно, святое тое,
Не было святым тады.

Век не скончаны манерны,
І таму свой помні грэх,
А твае суцешыць нервы
Чарка, ноч і гэты снег.

*23 студзеня 2022 г., нядзеля, 18 г. 40 хв.; Менск.*

## ЗАЛАТЫЯ ІСТОТЫ

Хочаш сонца – сонца свеціць,
Хочаш месяц – месяц вось.
Бог нам даў усё на свеце –
Кветкі, зоркі, слёзы, лёс...

Даў цярпенне з гэткай мэтай:
“Так, як ёсць, хай будзе так!”
Ды цярпець – рабоце гэтай
Не навучымся ніяк.

Не навучымся малою
Жыць капейкай, ціхім сном;
Хлеб свой запіваць вадою,
Пашанцуе – дык вiном...

Так, у кроў сваю заразу
Мы пусцілі ў сэнсе тым,
Што патрэбна ўсё адразу
Нам, істотам залатым.

*30 студзеня 2022 г., нядзеля, 13 г. 54 хв.; Менск.*

## “РОДЗІ́НА”

Хату ставілі. Старанне
Памятаю той пары.
Ад світання да змяркання
Працавалі цесляры.

Падваліны, кроквы, латы...
Я, малы, усёй душой
Даху радаваўся хаты,
Роднай столі, не чужой.

Дзверы, шыбы, аканіцы,
Комін, ганак, два шчыты;
Ад празрыстае жывіцы
Дух ішоў ва ўсе куты.

І бацькі за тратай трату
Шырылі без лішніх слоў,
Каб улезці ў сваю хату
Да зімы, да халадоў.

Так і сталася. Паспелі
Сесці за накрыты стол, –
Як дарогі пабялелі,
І зіма лягла наўкол.

Незабыўная часіна,
Незабыўная сям'я
Ці па-нашаму "родзі́на":
Бацька, маці, трэці – я.

*1 лютага 2022 г., аўторак, 15 г. 10 хв.; Менск.*

## БАЦЬКА І МАЦІ

Грошай менш было, чым слоў,
Слоў было багата.
Мовай памятнай бацькоў
Поўнілася хата.

Сняцца мне такія сны:
Бацька з маці ў сіле,
Працы клалі шмат яны,
Шмат і гаварылі.

Лёгка ў сэрца мне ішло, –
І ў двары, і ў хаце, –
Іхняй гутаркі святло,
Звонкае багацце.

Меў я школьны лемантар
(Там – партрэт Хрушчова!),
А нібыта чуў: "Шкаляр,
Слухай наша слова!"

Слухаў, і ў вачах маіх,
Як і ў кожнай жыле,
Словы кніжныя жывых
Слоў не атруцілі.

Так рабіў і так раблю,
Як і бацька з маці,
Каб яе, сваю зямлю,
Пад сабой не страціць.

Гэткіх і не склаў радкоў,
Каб забыў, што ў хаце

Грошай менш было, чым слоў...
Бацька быў і маці...

*6 лютага 2022 г., нядзеля, 13 г. 37 хв.; Менск.*

## З БАЦЬКАМІ

Я сваю дарогу маю
І святло сваё, і цень,
І з бацькамі размаўляю,
Як з жывымі, кожны дзень.
Не ляжаць яны ў магіле,
А ў маёй жывуць душы;
Просяць, як раней прасілі:
“Пра сябе нам раскажы...”

Шмат пытаюць. Ад бацькоў я
Ўжо нічога не таю,
Пра сваё кажу здароўе,
Пра сваю кажу сям’ю...

І штодня вяду бяседу...
У гаворцы, як у сне...
І бацькі (“Калі прыеду?..”),
Не пытаюцца ў мяне!

*7 лютага 2022 г., панядзелак, 17 г. 57 хв.; Менск.*

## УГАДВАННЕ ЧАСУ

Пасля работы дзве матулі,
Як сонца легла да зямлі,
На ганку селі, уздыхнулі
І ціха песню завялі.

Яны спявалі пра каліну,
Што ўсё чырвонаю была,
І пра вясёлую дзяўчыну,
Якая звабіла арла.

Па-маладому так спявалі,
Адпачываючы, яны,
А побач песні той стаялі
Два хлопчыкі, іх два сыны.

Матулі песняю ля ганка,
Нібыта ўгадвалі іх час.

А іх сыны – Кастусь і Ясь...
Два песняры – Якуб і Янка!

*10 лютага 2022 г., чацвер, 11 г. 24 хв.; Менск.*

## МОЦНАЕ ЦЯПЛО

Дзяцінства моцнае цяпло,
Што нават сёння грэе грудзі,
Найбольшай радасцю было –
Такой, што большай і не будзе...
Сарока. Сонца. Плот. Бязлюддзе...

Святло праз дзверы і акно
На куфар падала і скрыню,
І за адрынаю яно
Было, і нават у адрыне.

Лічыў я промні, траціў лік,
Ля плота чуў канцэрт сарочы,
А ў плоце плешкай кожны цвік
Адсвечваў сонца проста ў вочы.

Я вочы засланяў рукой
І ў яркім тым далёкім цудзе
І не здагадваўся: такой
Ужо мне радасці не будзе!

*12 лютага 2022 г., субота, 15 г. 00 хв.; Менск.*

## ЗНОЎ ПРА ДУШУ

Рагозам, змяінай лускою,
Якую ці лёгка дастаць,
А можа, дубовай карою
Павінна душа абрастаць?

Павінна ж яна бараніцца
У гэтым нядобрым жыцці,
Як нельга спакоем акрыцца,
Тады хоць імхом абрасці!

Магчыма, імхом непрыгожа,
Бярозавым лісцем хаця б?!
Аднак ахінешся й рагожай,
Калі не паможа ядваб.

Як мала спагады сардэчнай...
Праз гэта і кідае ў страх,
Праз гэта баліць ёй адвечна,
Таму што – душа, а не прах!

Душа не на месцы заўсёды,
А дзе тое месца, скажы?
Магчыма, з ласкавае згоды
У іншай такой жа душы?!

*13 лютага 2022 г., нядзеля, 13 г. 06 хв.; Менск.*

## ЗАБЫВАЦЦА

Усяго ў душы стае...
Да таго багацця
Крыўды лішнія свае
Не прысоўвай, браце!

Тое лішняе заўжды
І пячэ, і раніць,
І душы лягчэй тады,
Як яно не ў памяць.

А само ідзе на дно, –
Радуйся і годзе.
Вельмі добра, што яно
З памяці сыходзіць...

Над сваёй не стой душой,
Адпускай у прочкі,
І душа з усім, што ў ёй,
Разбярэцца моўчкі.

Хай сабе і злосць, і млосць,
Хай сабе трывога, –
Ты – жывы... Вось гэта й ёсць
Шчасце, ласка Бога.

Каб цякло жыццё лягчэй,
Каб яснела ў хаце, –
Забывайся найхутчэй
На ўсе крыўды, браце!

Ідучы далей, спазнай
Простае мастацтва:

І на пекла, і на рай
Варта забывацца.

*14 лютага 2022 г., панядзелак, 20 г. 12 хв.; Менск.*

## МЛЫНАР

Там, за возерам-ракою
І за лесам-пушчаю,
Багацеў млынар мукою
З жонкаю хітрушчаю.

Жонка дбала-патурала
Млынару-заможніку
І муку недасыпала
Кожнаму завозніку.

На кабету-млынарыху
Мужыкі сварыліся,
А млынар у кут паціху
Сплёўваў: “Прычапіліся!..”

І за возерам-ракою,
І за лесам-пушчаю
Жонкай цешыўся такою:
“Добра, што хітрушчая!”

*15 лютага 2022 г., аўторак, 15 г. 57 хв.; Менск.*

## ПРОСТАЕ ВЫЙСЦЕ

Спахмурнелы, я б хацеў
Адпусціць на волю
Радасці празрысты спеў
Без тугі і болю.

Каб той песні кожны гук
Сонечнай сцяблінай
Плыў у сэрца, нібы стук
Дзюбкі салаўінай.

Ды няўлоўнае, відаць,
Не ўкладзеш у вершы, –
Каб душою акрыяць
Маю спосаб лепшы.

Простае ў сваім жыцці
Я знаходжу выйсце:
Па Музычным трэба йсці,
Да Зыбіцкай выйсці.

І над Свіслаччу-ракой
Лаўскі мост ажурны
Калыхне сваёй дугой
Мой настрой пахмурны.

*17 лютага 2022 г., чацвер, 13 г. 29 хв.; Менск.*

## ПАЧЫНАЛАСЯ ПЕСНЯ

Пачыналася песня з туману
І спявалася ў ёй пра туман,
Што заслаў за палянай паляну
І закрыў за парканам паркан.

Свет наўкола зрабіўся нябачны
І нібыта зрабіўся глухі,
Свет вясковы, сталічны і дачны
Страціў раптам дарогі-шляхі.

Але песня, яна без падману,
І таму, нібы шклянка віна,
Пра туман кажа ўсё і з туману
Зноў жа выведзе толькі яна.

Тая песня, як зорка, яснее...
Што відно за туманам, што не...
Над крыніцаю дуб зелянее
І навек застаецца ва мне.

*18 лютага 2022 г., пятніца, 13 г. 40 хв.; Менск.*

## ПРАС

Знак даўняй таямніцы –
Свой пераҗыўшы час,
У сцёпцы, на паліцы,
Стаіць забыты прас.

Не ў хаце... У кладоўцы,
Дзе павута ў кутку,
А дзверы на засоўцы
Пры самым вушаку.

Увесь ад пылу срэбны,
Знайшоў апошні спрат
Халодны, непатрэбны
Музейны экспанат.

“А быў такі гарачы!
Не дакрануцца, не!” –
Мой успамін дзіцячы
Мяне не падмане.

Напальвалі паволі
У печы й для таго,
Каб зыркае вуголле
Насыпаць у яго.

А перад прасаваннем
Махалі ім, цяжкім;
Празрысты, з лёгкім ззяннем,
На кухні чуўся дым.

Быў лад, і ўсё да ладу
У хаце йшло якраз,
На ўсю махалі хату,
Каб разагрэўся прас.

Чыгунны ён? Жалезны?
Заўжды быў у цане!
Маломы мне – цяжэзны,
Але для маці – не...

Як працы пільнай мала
Ў гародзе ёй было,
Тады і прасавала –
Уся, нібы святло!

Хваліла прас матуля,
І з-пад яе рукі
Ён хусткі грэў, кашулі,
Фіранкі й ручнікі.

Разгладжваў складкі, строчкі,
Рубцы, у гестцы шво,
Любыя там уточкі...
Не прас, а хараство...

Я помню тое шчасце...
Тады, што ні кажы,
Яго было не ўкрасці
З дзіцячае душы.

Такое дарагое...
І ўсё яно прайшло
Туманам ці смугою,
Нібыта й не было.

А прас... Ён тут... У схоўцы...
Халодны стаў такі
Ў закінутай кладоўцы,
Дзе змрок і павукі.

Няхай і не ў святліцы
Былога часу госць,
А ў сцёпцы на паліцы...
Галоўнае – ён ёсць!

Як даўняя надзея,
Што страчана няўзнак,
Якую зразумее
Такі ж, як я, дзівак...

Спыняючы гамонку,
Прамоўлю да ўсяго:
На сметнік ці ў палонку
Не кінулі яго!

І добра, і даволі,
Ён – знак, а можа – дух,
Мяне вучылі ў школе:
"Кажы не прас – уцюг..."

А я глядзеў наўкола,
Да мовы бег жывой...
О, дарагая школа,
Я кепскі вучань твой!

*21 лютага 2022 г., панядзелак, 13 г. 45 хв.; Менск.*

## СЯСТРА ВАРОНА

Варона паглядзела на мяне
Тады, калі зірнуў я на варону,

І, з долу скокнуўшы, на валуне
Яна ўжо рыхтавала абарону.

А раптам нападу я на яе,
Відаць, падумала з крывой трывогай,
І вочы звераватыя свае
Наставіла: ідзі сваёй дарогай!

Вароны... Як пільнуюцца яны!
Усё ім служыць – коміны і трубы,
Парэнчы, дрэвы, дахі, валуны,
А калі трэба – кіпцюры і дзюбы...

Я адышоў ад валуна і верш
Пачаў складаць, і завяршыў натхнёна:
"Хоць братам ты сваім не назавеш,
А я не вораг твой, сястра варона!"

*15 ліпеня 2022 г., пятніца, 15 г. 29 хв.; Менск.*

## ТОЙ ЧАС І МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Я быў малы, а поруч – бацька, маці,
І ўсё было салодкім, нават страх;
Згубіўшы вір на бліжнім перакаце,
Гарынь цякла ў мядовых берагах.

Служыла ўсё тады – рашоты, сіты,
І дзверы зачыняліся як след;
І дошкі ў плоце, як і трэ, прыбіты –
Парадак поўны і спакойны свет.

Падруба кожная, як звон, звінела;
Мурла́та кожная, нібы струна;
Падмурак моцны радасць хаты цэлай
Трымаў звідна, як кажуць, давідна.

І кожнае акно закітавана,
На шыбінах ні плямінкі нідзе,
Вясною ў агародзе ўсё ўскапана,
А ўлетку зоры на любой градзе...

О, не... Не паддаюся я адчаю,
І не сказаць, што зло душу ўзяло.
"Няма таго, што раньш..." – я знаю, знаю
І вельмі рады, што яно было.

*18 ліпеня 2022 г., панядзелак, 14 г. 56 хв.; Менск.*

## *ВЯСЕЛЬНЫ ЦУКЕРАК*

Музыканцікі, хапіўшы зелля,
Ціснулі на звонкія лады.
Светла йшло па вуліцы вяселле –
Госці, маладыя, малады.

Па баках стаялі шчыльна людзі,
І пад звон святочнай гаманы
Людзі выглядалі, нібы суддзі, –
Маладых ацэньвалі яны.

Маладая ж кідала цукеркі,
А вяселле йшло сабе, ішло...
Пад гармонік, бубен і талеркі
Золатам паблісквалі цукеркі...
Божа мой, як хораша было!

Тыя залацістыя дарункі
На ляту лавілі, хто як мог;
Тыя незабыўныя ласункі
Сняцца мне і сёння, далібог.

Я, тады хлапчук пяцігадовы,
Ля вяселля цёрся не на смех;
Я цукерка быў злавіць гатовы,
І злавіў, і з ім дамоў прыбег.

Тая радасць вельмі многа значыць,
І ў люстэрка, што ў душы на дне,
Сёння я дзіўлюся, каб убачыць
Тое, што хвалюе так мяне.

Памажы, чароўнае люстэрка,
За вяселлем колішнім прайсці,
Каб злавіць ізноў таго цукерка –
Самага салодкага ў жыцці!

*20 ліпеня 2022 г., серада, 12 г. 36 хв.; Менск.*

## *ЗАКАМОРСКАЯ ЦАРКВА*

У мястэчку родным, не ў сталіцы я
Гэты вобраз бачу зноў і зноў –
Сіняя царква пад навальніцаю,
У святле маланак і грамоў.

Памяць на прыгожае трывалая –
Ці спакой, ці сварка, ці вайна...
Сініх цэркваў бачыў і нямала я,
Тая ж – родная, яна адна.

Закаморская царква. Гісторыя
Тут майму падказвае пісьму:
Узвялі за мытнаю камораю,
Закаморскай і завуць таму.

Яснай далікатнай таямніцаю
Кроў маю хвалюе больш і больш
Сіняя царква пад навальніцаю –
Як прыгожа і трывожна ўсё ж!

*22 ліпеня 2022 г., пятніца, 20 г. 54 хв.; Менск.*

## ЗМЕНА СЛОЎ

Ідзеш наперад ці ідзеш назад,
А лад? Ён застаецца тым жа ладам!
Як будзе называцца белы сад?
Ён будзе называцца белым садам!

Усё вяртаецца туды, адкуль прыйшло.
Нічога новага, хіба што навіною
Уявіцца апошняе святло
І змена слоў, відаць, жыццю на зло –
Калыска там завецца ўжо труною.

*12 лістапада 2022 г., субота, 04 г. 32 хв.; Менск.*

## АНІ СЛОВА

У праўдзе няпраўды віруюць віры,
Таму нават сотае долі
Ад праўды ад тое ты не гавары
Ні сёння, ні заўтра, ніколі.

Каго ні пабачыш (і тута, і там!) –
Маўчы, ані слова нікому,
Ні родным сваім, ні так званым сябрам,
А нават і духу святому.

Стрымайся. Ураз гаварлівасць адкінь.
Ці ў рэк ты вучыўся няўдала?!

Успомні, як мудра маўчала Гарынь,
І гэтак жа Прыпяць маўчала!

У свет у вялікі імкнула вада,
Глыбелі гасподнія далі...
Ці радасць навокал была, ці бяда,
А рэкі цяклі і маўчалі.

Праўдзівыя словы спакою на здзек,
Адхлання праз іх не дастанеш.
Як вывучыш мову ракі, чалавек,
Тады і шчаслівым ты станеш.

Пакуль ты жывеш, не глядзіш у зямлю,
Здаецца, не вінны душою –
Спяшайся, бо рэкі (хоць лезь у пятлю!)
Знікаюць адна за адною.

*8 лютага 2023 г., серада, 21 г. 51 хв.; Менск.*

## СЯБЕ САМОГА ЎЗНЕСЦІ

Падумай так: што б ні было,
А трэба жыць, як і жылося,
Аддаючы дабро, цяпло
Сваім – і дома, і ў дарозе.

Няхай удачы не стае,
Няхай бясконцай талакою
Чужыя йдуць, а не свае,
Парою змрочнаю такою.

Няхай разлад...
Аднак разлад
Карысны тым, што прымушае
Сябе самога ўзнесці над
Лянотай, крыўдай і адчаем.

У час благі і ў добры час,
У думках нават несвабодны,
Суцешся простым: "...хто за нас –
Той самы родны, самы родны..."

*2 сакавіка 2023 г., чацвер, 22 г. 02 хв.; Менск, –*
*3 сакавіка 2023 г., пятніца, 17 г. 00 хв.; Менск, –*
*4 сакавіка 2023 г., субота, 21 г. 42 хв.; Менск.*

Уладзімір Сцяпан



…там нехта ёсць,

і ён за намі сочыць…

# Я сёння ў школу не прыйду…

***Навелы***

### Ластаўкі

Галя амаль уляцела ў кабінет сваёй начальніцы. Тая сядзела за сталом і чытала лісты карэктуры. Падняла вочы, зняла акуляры, паклала паўзверх карэктуры, уважліва паглядзела на Галю.

– Сімакоўская, тут павінен быў быць твой артыкул... – указальны палец начальніцы дзеўбануў у карэктуру. – Які сёння дзень?

– Серада, – з усмешкай адказала маладая жанчына.

– Табе тэлефанавалі ў панядзелак, шукалі ў аўторак... Што здарылася, дарагая: захварэла, суседзі залілі, тэлефон згубіла? – Пытанні гучалі здзекліва.

Галя са стрыманай усмешкай паказала тэлефон, які трымала ў руцэ. Рот яе быў прыпухлы, а на белай шыі, пад завушніцай, чырванеў след жарснага пацалунку. І ўся яна, Галя, выглядала перапоўненай шчаслівай стомай, якую нават

не старалася схаваць. Галі – дваццаць пяць, а яе начальніцы – дагледжанай, крыху паўнаватай прыгажуні – трыццаць сем.

– Святлана Пятроўна, я не буду пісаць тлумачальную, – сказала Галя.

– А што так?

Сімакоўская паглядзела на сваю начальніцу, якая нерухома сядзела за сталом, на вялікае вакно злева. За вакном блакітнае неба з белымі паўпразрыстымі хмаркамі.

– Можна звольніць і так – без тлумачальнай...

– Ластаўкі!

– Што?

– Ластаўкі прыляцелі, глядзіце-глядзіце! – сказала Галя і зрабіла два крокі да вакна.

Там, над горадам, на блакітным небе, імкліва мільгалі чорныя рыскі маленькіх пташак: крыжыкі, коскі, нажніцы, кропкі...

– Не магу напісаць тлумачальную...

– Пісаць развучылася?

– Я ў нядзелю сустрэла мужчыну, таго самага... Твар у твар... Дзевяць гадоў прайшло... Разумееце? Мне тады было шаснаццаць, а яму дваццаць... Ён прыехаў у Мінск на нейкія курсы...

– Можна звольніць і так... Загадам. Ідзі...

Калі за Сімакоўскай зачыніліся дзверы, то начальніца грэбліва адсунула лісты карэктуры на край стала. Падумала пра свайго клапатлівага мужа, старэйшага за яе на дзевятнаццаць гадоў, пра дачку-першакурсніцу, якая ніяк не вызначыцца "па жыцці", пра тое, што ў машыне нешта падазрона папісквае, пра тое, што...

Левай рукой пацерла шыю пад вухам. Паднялася з-за стала, абаперлася на падваконне і пачала глядзець у неба. Яна хацела ўбачыць ластавак, але іх не было.

*Красавік-травень 2023 г.*

## Чужая гісторыя пра каханне

Святлана курыла і расказвала...

"Я тады працавала на тэлебачанні, на Поўначы, у Мурманску... Маладая, прыгожая. Год як замужам... Ён – высокі, дужы, маёр... Яго накіравалі ў Афганістан, а я ў Мурманску засталася. Праз чатыры месяцы мне патэлефанавалі і паведамілі, што маёр Краўцоў Сяргей Мікалаевіч – цяжка паранены... Ляжыць у шпіталі... Я падарвалася, пачала бегаць па вялікіх начальніках-камандзірах, падняла ўсе знаёмствы і свайго дамаглася... Праз тыдзень ляцела на ваенным самалёце ў Ташкент, а яшчэ праз дзень у Афганістан. Знайшла той шпіталь. Хачу ўбачыць Сяргея, а ўсе дзіўяцца, мяне да яго не пускаюць. Я псіхую, то плачу, то смяяцца пачынаю... Памятаю, белыя дзверы адчыніліся і да мяне высокая ў белым халаце маладая жанчына выйшла. Паглядзела, як на дзіцё, і кажа: "Нашто ты сюды прыперлася? Не для цябе я параненага Сяргея на плячах цягнула! Не для цябе... Едзь адсюль... Ён – мой!" Развярнулася і пайшла. Дзверы зачыніліся..."

– І што ты, Света?

– Нічога... Якая мы прыгожая пара былі!

– Веру!

– Вярнулася ў Мурманск, звольнілася і ў Мінск прыляцела...

Праз год спакойна развяліся... Потым я зноў замуж выйшла і разышлася... Потым сустрэла свайго цяперашняга. Ён палкоўнік... Афганістан прайшоў... На пенсіі, але працуе... Бывае, той самалёт сніцца, на якім да Сяргея ляцела. Так холадна ў ім было, што прачынаюся і зубы ляскаюць".

*Сакавік 2023 г.*

## Чужая гісторыя пра страх

Вясна. Цёпла. Сонечна. Цені дрэў, на маладой траве і сцежках, яшчэ празрыстыя. Мы сядзім у парку. Побач шуміць праспект.

"Я ў тую ноч амаль не спаў... Хадзіў па кватэры, ваду піў, курыў... Потым падышоў і ціха адчыніў дзверы ў яго пакой. Увайшоў і пачаў на сына глядзець. Ён спаў. Абдымаў падушку і спаў. Не памятаю, колькі я так стаяў і на яго глядзеў. Рабілася святлей і святлей. На сцяне з'явілася вузкая сонечная паласа. Шторы хоць і ссунутыя, але не шчыльна... Я ўзяў крэсла, паставіў да тахты, сеў побач з Паўлам. Зусім блізка, каб чуць, як ён дыхае. Мне так хацелася дакрануцца да яго стрыжанай галавы, пагладзіць, але я баяўся яго пабудзіць. Прахопіцца, спалохаецца... Я лысы, як тое калена, а ў яго валасы чорныя, густыя, як шчотка... Я тады сваю голую лысіну памацаў і падумаў, што і ў мяне ў дваццаць гадоў валасы былі зайздросныя... Былі ды сплылі. Паўлік высокі – метр дзевяноста, дужы..

Успомніў, як ён выйшаў з ваннага пакоя, сеў да стала, жонка спалохалася, калі на яго паглядзела, – сынаў твар у чырвоных драпінах. А я пачаў смяяцца. Наш Паўлік пачырванеў. Я адразу здагадаўся, што ён першы раз у жыцці пагаліўся...

Потым я паказаў яму, як трэба галіцца, нават сваю электрабрытву аддаў...

Можа, гадзіну я так сядзеў і глядзеў на сына – дыхаў з ім адным паветрам. Нешта прыемнае яму снілася, усміхаўся часам...

Яго стары заплечнік, як той руды сабака, чакаў гаспадара побач з ножкай стала. Там усё было складзена, усё, што трэба, каб з'явіцца ў ваенкамат. Будзільнік цікаў, стрэлка рухалася. Вочы мае былі мокрыя...

І тут раптам мне падалося, што я гляджу на яго так, як глядзяць на нябожчыка, як на забітага салдата... І гэта мой сын, мой Павел, той, каго я навучыў ездзіць на ровары, плаваць, чытаць...

І яшчэ я падумаў, што пабудзіць яго не змагу, бо як можна мёртвага пабудзіць...

Я ж не веру ў Бога...

Ніколі ў жыцці я так не палохаўся... Не паверыш, але я толькі на пяты раз змог запаліць пліту і паставіць на агонь чайнік.

Потым затрашчаў будзільнік, а маё сэрца сціснулася, і я стаяў нерухома, пакуль будзільнік не змоўк, а сын не выйшаў са свайго пакоя... Ён глянуў на мяне, перасмыкнуў плячамі, слова не сказаў і пайшоў у прыбіральню, а потым у душ.

Праз гадзіну прыехалі яго сябры на машыне. Я глядзеў на іх з кухоннага вакна і стараўся не заплакаць...

Табе добра, у цябе дачка... Навошта я гэта расказваю? Прабач..." – вінавата прамовіў мой таварыш і паглядзеў паверх акуляраў. Потым зняў іх і твар яго зрабіўся нязвыкла разгубленым.

Ён папрасіў правесці яго да аўтобуснага прыпынку. Мы дайшлі да Нямігі і там развіталіся. Гэта была наша апошняя сустрэча.

Навошта ён мне ўсё гэта расказаў?

*Красавік 2023 г.*

## a love story

Да Станіслава прыйшоў калега-архітэктар, каб павіншаваць з мінулым днём нараджэння. Доўга сядзелі за сталом. Няспешна пілі, смачна елі. Глядзелі ў вялізнае ад падлогі да столі вакно і ціха гаварылі.

За шклом бязгучна рухаўся вераснёўскі вечар. Побач з альтанкай згасала вогнішча.

– ...мне было васямнаццаць... А ёй, маёй першай жанчыне, трыццаць восем... Я – студэнт, яна – выкладчыца. Уяўляеш? “Present perfect, present perfect continuous, memory”... Я – малады, тонкі-звонкі, а яна – замужам... – са змрачнаватай усмешкай, нават крышку злосна гаварыў гаспадар лецішча.

Яго госць, крыху маладзейшы, але такі ж сівы і грузны, паглядзеў уважліва, бо зразумеў, што зараз пачуе нешта важнае і нечаканае. Ён адклаў запальнічку і круціў у пальцах тонкую цыгарэту – не запальваў.

– Месяц доўжылася ўся гэтая шчаслівая ліхаманка... Цэлы месяц мяне калаціла, і я жыў як у тумане... А потым яна з’ехала. З бацькамі, з мужам, дачкой. Нечакана. У ліпені восемдзесят восьмага. Чарнобыль, радыяцыя... Казалі, што спярша ў Аўстрыю, а потым у Амерыку.

– І што, ты яе больш ніколі не бачыў?

– Ніколі...

– Можа, і добра.

– Апошнім часам я шмат пра яе думаю... Памяць увесь час падкідвае нейкія дэталі, гукі, пахі...

– Калі табе шэсцьдзесят тры, то ёй сёння...

– Ведаю... Сам лічыць умею... Ёй – заўсёды трыццаць восем! Гэта мне шэсцьдзесят чацвёрты... Цікава, а яна, хоць калі, пра мяне думае?

– А якая розніца?... Налівай, Станіслаў Пятровіч!

Станіслаў выкалаціў з пачка цыгарэту, а Леанід шчоўкнуў запальнічкай. Мужчыны моўчкі курылі, і было ім ніякавата. Станіславу зрабілася сорамна, што разгаварыўся. А ў Леаніда разбалелася галава, і ён не мог зразумець – ад выпітага, ці ад зайздрасці.

*15.02.2023 г.*

## Акоп

– А мне дзед расказваў, што даўней, калі ён быў малады, то нам так добра і сытна жылося, што і словамі не пераказаць... Глядзі-глядзі, у цябе вочы маладыя, пільна глядзі, каб не прамінуць...

– Ды гляджу я, дзеда...

– Тады добра... І не ляці ты так, а то я за табой не паспяваю.

– І дзяцей тады шмат нараджалася, сем‘і былі вялікія, бо ежы было столькі, што ўсім хапала, – стомлена хрыпеў стары...

Яны няспешна размаўлялі.

Дзед вучыў жыццю, успамінаў маладыя гады і маладыя жаданні... Унук

слухаў балбатню старога няўважліва, бо чуў яе сто разоў. Яму хацелася толькі аднаго – есці...

І, нарэшце, апоўдні ён убачыў на далёкім пагорку цёмную плямку. Угледзеўся, запаволіў свой рух, змяніў напрамак, каб пераканацца, што не памыліўся, а потым нягучна і ўзрадавана крыкнуў, чым і спыніў старога.

– А цяпер не спяшайся... Трэба добра агледзецца... Тут і стрэліць могуць! – усхвалявана папярэдзіў стары.

– Нікога ж, дзед, усе машыны за лес паехалі!

– Пашанцавала...

Два крумкачы, стары і малады, чарнейшыя за ноч, пачалі павольна разварочвацца пад вецер, каб апусціцца побач з акопам, у якім ляжаў прыцярушаны снегам, быццам соллю, паўголы, забіты і забыты салдат. Якой ён краіны, якога ён войска – крумкачам было без розніцы...

*08.12.2022 г.*

## Я сёння ў школу не прыйду…

Туман апусціўся на возера і агарнуў мяне сваёй халоднай вільгаццю. Пачаў сыпацца, хоць я і сядзеў нерухома, з высокага трыснягу на плечы, у ваду.

Калі я прыйшоў на сваё месца, то яшчэ трохі было відаць. Цяпер жа я ледзь бачыў уласныя пальцы выцягнутай рукі. Заставалася сядзець, слухаць бомканне кропель, чакаць, калі падымецца сонца, падзьме світальны вецер і разгоніць гэты туман. Думалася пра елачную цацку, абгорнутую ватай і схаваную ў кардонную скрыню, пра нябачных рыб і качак... Колькі я так сядзеў? Можа, чвэрць гадзіны, а можа, і больш. Восеньскі туман і не думаў разыходзіцца. Зрабілася зябка. Нацягнуў капюшон і схаваў рукі ў кішэні.

Спачатку пачуў ціхае і аднастайнае плёханне вёслаў. Нябачная лодка набліжалася да майго берага. Падумаў (узрадавана), што дурняў на белым свеце хапае, што вось яшчэ адзін рыбак плыве, і гэткі кастрычніцкі туман яго не спыніў.

Праз колькі часу пачуліся з туману ціхія галасы: мужчынскі і насцярожаны хлапечы.

– Здаецца, тут недзе, але нешта не бачу... Глядзі, можа ты заўважыш, сынок!

– А ты дзве ставіў?

– Гэта ж трэба такі туман... Там алешына сухая на беразе, ведаеш? Але хіба цяпер яе ўгледзіш? – казаў мужчына і плёхаў вяслом, спрабаваў зачапіць і знайсці ў возеры свае сеткі.

Мяне рыбакі-браканьеры бачыць не маглі, а пра маё існаванне не здагадваліся. Я чуў кожны, самы ціхі гук, бо ўсё адбывалася за некалькі крокаў ад майго месца. Сухая алешына, пра якую гаварылі браканьеры, і для мяне заўсёды была знакам і арыенцірам, да якога я веславаў ад тых далёкіх берагоў. Тая чорная алешына нагадвала разгорнуты веер.

– Слухай, а калі нас зловяць з сеткамі? – спытаў падлетак.

– Ага... Так і зловяць... Не кажы дурное... Папруцца яны такім туманам на возера... Ні дарогі, ні берагоў не відаць... Пакуль мы сюды плылі, ні адна машына па шашы не праехала...

– А чаму сёння такі туман?

– Восень... Нам з табой гэткі туман – добра... Толькі я стаміўся вяслом боўтаць.

– Давай мне.

Было чутно, як сыпаліся кроплі з вясла, як уздыхаў падлетак, як патрос скрыначку з запалкамі, а потым чыркануў і зацягнуўся мужчына. Можа, я і ведаў гэтых вяскоўцаў, бачыў калі на возеры, мог бы і лодку пазнаць, але я толькі чуў галасы і розныя гукі. Сядзеў і ўзіраўся, як у вату, спрабаваў уявіць, што адбываецца ў шчыльным і халодным тумане... Плёханне вёслаў то аддалялася, то набліжалася. Рыбакі плавалі ўздоўж сцяны трыснягу і ўпарта шукалі свае сеткі. Да чорнай алешыны было крокаў сорак, але яны яе не бачылі, а вызначыць сваё месца ў такім тумане немагчыма.

– Вось яна... Зачапіў! – узрадавана сказаў малец.

– Я ж табе казаў – тут яна недзе... Я дзве ў адну звязаў... Давай вяроўку, буду выбіраць, а ты вяслуй памалу, ціхенька.

– Добры акунь і плотка ладная! Не спяшайся ты так, Мікіта! – узбуджана папрасіў мужчына.

– А Зіна колькі дома пабудзе? – спытаў падлетак.

– Дні тры яшчэ пабудзе... Падлешчык і яшчэ плотка, добра так убілася, пакруціла сетку, не выдраць...

– Давай я дастану.

– Вяслуй... Гэта ж столькі людзей збярэцца, і ўсіх трэба накарміць...

– Слухай, у мяне ёсць грошы, калі трэба – дам... – ціха прапанаваў хлопчык і ўздыхнуў.

Было чуваць, як падскоквае на дне лодкі вялікая рыбіна, пляскае хвастом па мокрых дошках, кідаецца, як падлетак яе хапае і закідвае ў мех...

– Грошы я ў панядзелак і сам атрымаю... Паеду ў раён і атрымаю... А твае няхай табе і будуць... Нешта цяжка ідзе, торгаецца... Шчупак! Глядзі ты, пад самым берагам. Добра ўзялі. Можа, табе дома трэба было застацца, з сястрой, а то застудзішся ў гэтым тумане, захварэеш...

– Зіна сказала каб я з табой пайшоў... Глядзі, два ляшчы... Відаць, як ішлі адзін за адным, так і ўбіліся ў нашу сетку.

Нябачная лодка хоць і аддалялася, але я ўсё чуў.

Было ў гэтых гуках, тумане, возеры, мокрым трыснягу, рыбе, сетках і галасах бацькі з сынам-падлеткам такое адвечнае і знаёмае, што думалася – адбываецца гэта ўсё сто, ці нават тысячу гадоў назад. Было ж гэта возера і тады... І плылі па ім ў хісткім чаўне рыбакі – бацька з сынам, і выбіралі свае сеткі... І радаваліся злоўленай рыбе, і неслі яе дамоў, каб накарміць сям'ю...

– Усё, выбраў... Хопіць нам і гэтай рыбы... Паўлаўна з Тамарай дапамогуць стол зрабіць... Давай мне вясло, Мікіта! Што ты нашаторыўся так?

– Там нехта ёсць, і ён за намі сочыць.

– Давай вясло... Туман адно вакол... Нават рыба не плёхае...

Лодка пачала аддаляцца.

Тэлефон заблямкаў так гучна, што я спалохаўся, быццам гэта аджыў смартфон у маёй кішэні.

– Вольга Пятроўна, я сёння ў школу не прыйду... Мамка памерла... – пачуўся з кастрычніцкага туману хлапечы голас.

Аднастайнае плёханне вёслаў аддалялася і аддалялася.

*Кастрычнік-лістапад 2022 г.*

## Галя і рудая кошка

У дзіцячым садку мы спалі на суседніх ложках. Галя была ціхая чарнявая дзяўчынка. Аднойчы, калі бацькі нас забіралі і вывелі ў двор, то Галя ўзяла мяне за руку і сказала сваім і маім бацькам, што цяпер яна – мая нявеста. Дарослыя з яе слоў адно пасмяяліся...

Пасля дзіцячага садка мы вучыліся ў розных школах, але калі-нікалі сустракаліся. Галя хадзіла ў музычную, а я ў гурток малявання. Пасля заняткаў маглі сустрэцца, і я тады праводзіў сваю кучаравую "нявесту" дамоў, на другі канец гэпэ. Мяне заўсёды дзівілі яе валасы, бо яны блішчэлі і здаваліся мокрымі. Нёс яе ноты і маўчаў, а яна гаварыла...

Пасля восьмага я з'ехаў у сталіцу, каб вучыцца на мастака, а Галя скончыла школу і паступіла ў медыцынскі (у яе і бацькі былі медыкамі). Я спытаў, а чаму не ў кансерваторыю? Галя падумала, сціснула вусны і сказала, што быць кепскім музыкантам не хоча, а сапраўднай піяністкі з яе не атрымаецца.

Халодны лістападаўскі вечар 1976-га. Вецер ганяе абляцелае лісце, а я куру і чакаю Галю побач са спартыўным комплексам. Калі надакучвае хадзіць, спыняюся і ўглядаюся ў правінцыйную цемру вуліцы. У мяне ў руцэ торбачка, у ёй вялікі махровы рушнік, плаўкі і шампунь. Мы дамовіліся з Галяй пайсці і паплаваць позним вечарам, лічы, ноччу, калі са спартыўнага комплексу ўсе сыдуць: трэнеры, спартоўцы, прыбіральшчыцы. Усе-ўсе... У вялікім і ярка асветленым басейне будзем толькі мы.

Чакаю, мерзну, злуюся, спрабую ўявіць хуткую будучыню і трохі хвалююся. Са шкляных дзвярэй выходзяць каржакаватыя і стомленыя штангісты. Некаторыя са мной вітаюцца, пытаюць, каго чакаю. За цяжкаатлетамі вывальваюцца на вуліцу потныя валейбалісты, за імі гімнасты. І я зноў чую тое ж пытанне. Адказваю загадкавым узмахам рукі і адварочваюся.

Чаканне доўжылася больш за гадзіну. Цыгарэты скончыліся. Галя не прыйшла. Я вярнуўся дамоў, а на наступны дзень з'ехаў у Мінск. Яна, праз маю маці, перадавала прывітанні, цікавілася маімі справамі.

Мы сустрэліся на самым пачатку ліпеня 1987-га года. У Гомелі, побач з чыгуначным вакзалам, дзе я набыў квіток на заўтрашні начны цягнік і няспешна ішоў на тралейбусны прыпынак.

Сутыкнуліся твар у твар і аслупянелі.

– Ты?

– Вачам сваім не веру.

– Нечакана... – сказала Галя і зірнула на гадзіннік. – Ты такі дарослы... Але амаль не змяніўся. Гэта ж колькі мы не бачыліся? Я тады вучылася на другім курсе.

– Адзінаццаць гадоў...

– А я пра цябе думала... Каб сустрэла тры дні назад, то аддала б табе старую кніжку. "Камень" Мандэльштама. Дарэвалюцыйная, між іншым... Калі шчыра, то марыла, што ты яе будзеш чытаць і калі-нікалі думаць пра мяне. Ведаеш, мы больш не ўбачымся. Паслязаўтра мы з'язджаем. Тут нельга жыць. Тут радыяцыя. Усе, у каго ёсць магчымасць, уцякаюць.

– "Камень"? У Ізраіль?

– Не... Спачатку ў Вену, а потым далей, у Амерыку...

– Зразумела...

– А наша ціхая бабуля рогам уперлася і сказала, што нікуды з Гомеля не паедзе. Спачатку была згадзілася, нават свае рэчы складала, а потым кінула, перадумала. З бацькам размаўляць перастала – вось характар. Сказала, што тут усе свае ляжаць і яна застанецца з імі... Я стамілася за апошнія месяцы. Што ты на мяне так глядзіш?

– Валасы...

– А, разумею, заўсёды так, “як толькі не нафарбуюся, то абавязкова кавалера сустрэну” – так бабуля кажа. Не магу сваю кошку вывезці. Нельга. Памятаеш рудую Басю? Не магу забраць, а як я там буду без яе? – Яна гаварыла так, быццам мы ўчора бачыліся і я ведаю пра ўсе яе справы.

На Галінай руцэ не было заручальнага пярсцёнка, а ў мяне быў. Галя ўзяла мяне за руку, і мы адышлі ўбок.

Спяшаліся на вакзал цёткі з клункамі, мужчына каціў дзіцячы вазок, у ім стомлена плакала дзіця, па дарозе павольна ехала блакітна-белая палівачка “ЗіЛ”, нечым падобная да хрушча, і мыла асфальт. У белым вееры пырскаў з’яўлялася і прападала вясёлка. Толькі што прайшоў хуткі і моцны дождж, а палівачка ліла ваду на бліскучы асфальт... Усё гэта плыло, ляцела, рухалася, а мы стаялі.

– У цябе ёсць дзеці? Ты любіш жонку? З’язджайце адсюль... Куды заўгодна, але хутчэй і далей. Чуеш?

– І што з кошкай? Гэта тая самая?

– Бася з бабуляй будзе... – Галя зноў глянула на гадзіннік. – Мне да натарыуса трэба... З’язджай адсюль, як доктар табе кажу... Потым будзе позна. Правядзі мяне, тут недалёка.

Яна ўзяла мяне пад руку, і мы пайшлі па мокрым і бліскучым асфальце. Часам у шкле вітрын, у лужынах, праз якія пераскоквалі, мільгала і праплывала наша адлюстраванне.

– Адзінаццаць гадоў назад я цябе чакаў... А ты не прыйшла. Чаму?

Галя спынілася. Застыла на месцы. Паглядзела мне ў вочы.

– Мая Бася тады была малая і дурная... А мае ногі і рукі былі спрэс у драпінах... Паглядзела я на сябе і зразумела, што не змагу перад табой распранучца... Ты ж – мастак... А цяпер назад нічога не вернеш...

Галя нервова засмяялася, хутка пацалавала мяне, адштурхнула, развярнулася і амаль пабегла да дзвярэй выканкама.

Я стаў прыкурваць. Загарэлы да тарфянога колеру ліквідатар у злінялай гімнасцёрцы папрасіў цыгарэту. Мы пакурылі і пайшлі ў розныя бакі.

*Травень 2023 г.*

Ціхан Чарнякевіч



...Я тут жыву. Жыццё маё, быць можа,
нікога асабліва не трывожыць...

# Вершы спадзявання

## *ПАКАЦІГАРОШАК*

*А.І.Ф.*

Глыбака ў вадзе, ды на самым дне,
Закаваны куфар, пакрыты глеем.
Не дастаць яго ні табе, ні мне –
Пакацігарошак адно здалее.

І стаіць заклён, парудзеў замок,
У траве мітусяцца рачныя д'яблы.
Мы чакаем тут, мы глядзім здалёк –
Пакацігарошак раскусіць яблык.

Ён ужо ідзе, ён ужо ў курсах.
Небяспека тлуста цвіце і пахне,
І напруга ў датчыках на максах –
Дваццаць дзве хвіліны, і ўсё бабахне.

Застаемся тут, не ідзем туды.
Ён ляціць – бач, воблачка палымнее?
Цішыня й спакой у вірах вады
І паверхня чырванню зелянее.

* * *

Па-над мокрым радном гарадскога гнілля,
васьміногамі вуліц і пусткамі пляцаў,
даміношкамі мікрараёчкаў жылля
невідочны атрад капытамі праклацаў.

Храпы грозна хрыпяць, і сціскаецца брук,
прасядае ў ямы асфальт на бульвары.
Воін воіну кораш і верны сябрук,
і адзінаю мэтай скажоныя твары.

Спіць усё. Але вершнік пагоні не спіць.
Выклікае агіду, брахню і пагарду.
Не дамовіцца з ім, з панталыку не збіць,
Не ўручыць гасударсцьвенную нагараду.

Ён цябе не забыў, ён ведае шмат,
бачыць Бог, ён не наракае на памяць.
Ты дарэмна чысціш свой аўтамат –
старадаўняй пагоні ніхто не заваліць.

Прамільгне сілуэт за вакном – пажагнай.
Усміхніся. Далёка не ўсё яшчэ страчана.
Не самотныя, ды і не будзем, бадай, –
Наша срэбная гвардыя вулкамі скача.

* * *

На Даўгінаўскім тракце без перамен:
Вузкагорлыя коркі, раствор і цэмент.
Сінявокія мальцы ў пульсацыі вен
Адчуваюць эфекты плацэба.
А далей, у прагалы міжрэбравых сцен,
Вырываюцца душы ў свой эпіцэнтр –
Лабірынта-тэатр з тысячай сцэн,
Светлы церам з балконам на неба.

У Выгоцкага звоняць званы – гэта знак,

Што ў пякарні пячэцца чарговы праснак,
А мысленне з маўленнем сплятаюцца ў смак
Ісіхазма й кіслай капусты.
Што ты бачыш, айцец благачынны, у снах:
Незалітыя сцяжкі ў пяці карпусах,
Пару свежых магіл у прылеглых лясах
Ці старую з бялілямі густа?

На адным пятачку планетарны парад:
Шэра-чорныя расы й белы халат,
Роджэр Бэкан, Скарына і Гіпакрат –
Традыцыйны сюжэт інтэрмедый.
Дактары прышчапляюць і лекуюць сад,
Пацыенты імкнуцца трапіць назад,
Манастыр перачытвае ліст да Галат
І не надта верыць у веды.

Выйдзі ў новы прастор, на разлог на пусты,
Там, дзе Танкавых скібаў кладуцца пласты.
Дождж абмые і купал, і блокпасты,
І цябе на гэтым абрыве.
Мы жывем і не чуем, што робяць краты.
Рэкі перасыхаюць – будуем масты.
Ну, дык стой і чакай ад Пілата лісты,
Пакуль цемрай горад накрые.

## САНЕТ

На трыццаць восьмы сонечны тралейбус
спазніцца, як заўсёды, неўпрыцям.
Таму што яву іншасвет працяў,
а ў пераходзе плакаў нечы бэйбус;

сысці пад мост, а потым пад другі,
аглухнуць ад мазуты й паскарэння,
заблытацца ў трох соснах пакалення,
другім кальцом зразаючы кругі.

Я тут жыву. Жыццё маё, быць можа,
нікога асабліва не трывожыць
і метадычна ходзіць па трындзе.

Ратуе, што і балі ў доме дожа,
дрымлэнд, надоі, кніксэны вяльможаў,
Кастор, Палукс – усё туды ідзе.

### *TOM WAITS' BLUES*

На табло ці 2, ці 5.
Толькі п'яніцы не спяць.
Дэфілююць па двары,
Берагуць цяпло ўнутры:
Цыгарылы, скотч і ром.
Як ты знойдзеш дом, Том?

Ногі танчаць крэндзелі,
Па мазгах валоў вялі,
Ў роце ротай ночылі.
Гэй, Том, няўклюда-Том.
Што ты чуеш, спеў ці стогн?
Азірніся на свой дом, Том.

Неістотна ўверх ці ўніз,
Газ і тормаз – твой капрыз.
Не працуе антыфрыз.
Гэй, Том, няўклюда-Том –
Не ўставай на той карніз,
Не ідзі на кампраміс.

Фуры едуць у Медзінінкай,
Фуры едуць у Каменны Лог,
А ты недзе ў небакрай
Закруціўся і залёг.
Ты ўпаў і ляжыш пад мастом,
Хай прысніцца табе дом, Том.

* * *

*А., Ю., М.Б.*

вы з'ехалі
і пакінулі мне свае дрэўцы

дзеля праўды я не вялікі арнітолаг
ці як там называюць людзей
што гадуюць дрэвы ў гаршчках

два гады мыназіраем адно за адным
я нібыта й не забываюся
паліваю там
мыю лісце
кратаю пальцамі зямлю

правяраю ці не засохла
але зеляніна паводзіць сябе як хоча
то жухне яўна раздражнёная
то ўсміхаецца
то памірае цэлымі галінкамі
то маўчыць
не зразумець чаго ёй трэба

месяц за месяцам я змяняю пакоі
рэгулюю доступ паветра
тэмпературу
святло
усё роўна ніякай стабільнасці

можа тут штосьці з паветрам
святлом
тэмпературай
можа штосьці не так з зямлёю

але нядаўна ў адным гаршчку
выштурхнулася кветка
нечакана і хутка
нібы дыназаўр прыўзняў галаву
і паглядзеў на нас у ложку

«глядзі коцік –
сказаў я жонцы –
відаць з таго што я рабіў
не ўсё было непатрэбным
і ў нашым доме з'явіліся кветкі
пры гэтым – мы яшчэ не памерлі»

## *ПАМЯЦІ СТРЭЛЬНІКАВА*

гэта заўжды як стрэл
з будучыні ў цэнтр
снайпер не намякне
вочы не прамакне

тут усё тая ж зіма
месі чэмпіянат
будзе адліга але
потым ізноў калець

вечная стома вачэй

што запомню яшчэ
спакойны і сумны тэмбр
непаспешлівы тэмп

так аляксей так
тэлефануйце так
эспрэса на два глыткі
усмешка поціск гудкі

## *З ЛЕАНАРДА КОЭНА*

Працаваў заўсёды чыста
І сыходзіўся ў цане
Пераміргваліся часта
Маркс і Езус на сцяне
Вось і свечку загасілі
Бо агонь не палымнеў
Раскажы сваім месіям
Што вымерла ўва мне

На два месцы рытуальна
Паркаваўся ў тумане
І адбор быў натуральным
Ён ніводнай не міне
Быццам дробязь і пустое
А шкрабеш – не адстае
Прыгадаў і спраўдзіў тое
Што вымерла ўва мне

Гандляваў святой аплаткай
Апрануты на панэль
Спаў у ложку з кацяняткам
І з пантэраю ў труне
Быў знаёмы многім следчым
У Касталіі ў турме
І нідзе не мусіў сведчыць
Што вымерла ўва мне

Куды рухаецца справа
Я выдатна разумеў
Непрамоўленая драма
У вачох жыла й раней
Мы ўдавалі закаханых
Ды званочак празвінеў
Гэтак гідка й неахайна

Што вымерла ўва мне
У анёлаў трубы мокнуць
У люцыпара – кларнэт
Душы – дробненькі пясочак
І галовы як цэмент
Цалкам выбітыя вокны
Але ў доме ўсё цямней
Дык хіба не відавочна
Што вымерла ўва мне

Я быў вучнем валацугі
У расхрыстаным майне
Спаласованую скуру
Твой пазногаць не кране
Ўсе маралі гэтай байкі
Пахаваныя на дне
Валацужнае брыдоты
Што вымерла ўва мне

Працаваў заўсёды чыста
І сыходзіўся ў цане
Негалосная дамова
Як пянька ў верацяне
Запрашэнню да каўчэга
Ціха моўленае «не»
Я занадта добра ведаў
Што вымерла ўва мне

Ёмка лёг у рукі браўнінг:
Спадчына, з бацькоўскіх рэчаў.
Я апошняй праўды прагнуў,
А не права запярэчыць.

* * *

Салёным малаком
Туман за кадыком
Куродым прышласці
Ў слупках і цераспалосіцы
Выштукуй лецішча люляй абломак
Вясловазлучэ не канчатак
Зіма-пліска

Манахромная

* * *

*Н.К.*

Шпацыруем у парку
І пінаем лісты.
Паваротак у арку,
Дзе «Салон красоты».

Разыходзіцца рэха.
Сіні знак на слупе.
Палавінкі арэха
У адной шкарлупе.

Сціжма перагародак,
Пераціснуты лёх,
І так смажыць прырода,
Што хапіла б на трох.

Тут жа сіберны холад,
Золь са снегам у твар.
Сустракай, шэры горад,
Кантрабандны тавар –

П’ецца поўнаю чарай,
Аплаўляе прыпой,
Уздымаецца парай
Над табой, нада мной,

У аблокі ўзлятае,
Дзе ў тым горадзе сад.
І ніхто не спявае.
І не прыйдзе назад.

* * *

калі пастаянна проста – ў горадзе шмат святла
дваццаць два кіламетры тваёй рукі
справа налева па венах падземка вяла
тромбафлебітныя сінія цягнікі

дарога на захад мінае дарогу на ўсход
горад шырэе – дзякуй водару пустаты
як пражылі мы ўвесь гэты брыдкі год?
зрэшты, ніякага мы – толькі я і ты

“адное і тое, адное і тое”, – скардзіцца кроў
шкрабаю каля ‘’Рыгі’’ ліхтарны слуп
анатамічны тэатр – надзейны схоў
для забітых герояў і медных труб

плачу ў сэрцы тваім і курыць не выходжу на
тут, унутры, заўсёды было цяплей
ў клетках без храмасомаў, каля вакна,
скурчаным пытальнікам ля батарэй.

## З ДАВАЕННАГА

Усё скарачаецца і скарачаецца.
Лётае ў кубку чорная чаіца.

Котка высоўвае патрабаванні.
Загаварылі адтуліны ў ванне.

Хтось на паверсе пляснуў дзвярыма.
Цягне з балкона гродзенскім дымам.

Сварацца злева, будуюцца знізу.
– Можа, мы ўстанем, спакуем валізу,

Фарсіруем рэкі, прарэжам кардоны,
Спынам прыедзем у край невядомы,

Будзем скакаць пад гукі тамтамаў
Сярод алеутаў і гіпапатамаў,

Львы і гарылы, слон і пантэра –
Далей ад радзімага СССРа?

А можа – гуляць у барочных завулках,
Без пэўнае мэты і знакаў прытулку,

Піць шарданэ на заснежаным пляцы?
– Сёння я вырашыла не падымацца.

## БЯССОННЕ

### 1.

паветра між пальцамі здзіўляе
хіба можа быць штосьці паміж

калі ўсё запоўненае табой
ты як закаркаваная аптэчная бутэлечка
можна глядзець на святло
пераліві субстанцый
змены станаў выдуманага сусвету
неварожага
і непранікальнага

я магу толькі выпіць цябе
і падкінуць у вышыню
і пачуць звон шкла
ў вышыні

***2.***

ты пачынаеш дыхаць часцей
часцей і часцей
скаланаешся
як адрываешся ад зямлі
і ўрэшце паволі ляціш
так спакойна й глыбока
сканчаецца фаза хуткага сну

стомленая маленькая птушка
пад тоненькай коўдрай
з заўсёднымі вокнамі насцеж

вокнамі ў чорны свет
які нам нічога не вінен

***3.***

Вецер твайго дыхання,
Кароткі ліловы ўзвеў.
У шасцістопным ямбе
Стрэмка на трэцяй стапе.

Вясновыя перамены.
Знікае панылы лёд.
У цэлым па Мінск-Арэне
З дакладнасцю наадварот.

Ірвуцца знутры пакеты
І звонка спявае дрозд.
Вінтажныя кабрыялеты
Купляюцца навырост.

На ўлонні тваёй прыроды,
Сівы беларускі леў,
Сплю, ліловабароды,
Крэпка. Нібы ацалеў.

***4.***

прачынаешся ў халодным клімаце,
праводзіш рукою па твары –
вада.

тваё:
дыханне, сны, прыкметы будучыні, –
кандэнсавалася.

бо тое, што па-за табой,
шукае цёплае,
шукае, кім укрыцца.

вецер
усю ноч галасіў,

а раніцай устанеш,
за вакном – белы кіт
скандэнсаваўся ў горад.

Валеры Гапееў



...самае разумнае цяпер:
не супрацiўляцца, не здзiўляцца
i не распытваць нi пра што...

# Дзень Дуэлi

***Апавяданне***

Гэтае невялiкае мястэчка з насельнiцтвам недзе ля 20 тысяч чалавек знаходзiлася не тое што ўбаку ад чыгунак i аўтатрас, але ўбаку ад дарог добрых i ўсякiх. У мяне засталося два тыднi адпачынку, i я выпраўляўся ў сваю апошнюю перад кабiнетнай працай над дысертацыяй этнаграфiчную паездку – у ваколiцах мястэчка захавалася некалькi дробных вёсак, дзе льга было пачуць аўтэнтычныя спевы.

Выехаўшы з ранiцы з Мiнска, толькi надвячоркам я трапiў у мястэчка. Мясцовы гатэль аказаўся нечакана высокага ўзроўню: у прасторным, з высокiмi столямi фае быў бар, стаяў більярдны стол. Жанчына гадоў сарака за стойкай была апранутая ў густоўную форму. Кошт аднаместнага нумара аказаўся прымальным, сам нумар уразiў мяне не беднасцю, але стыльнасцю. Унiтаз быў цэлы i ззяў, ванна без iржы, краны працавалi спраўна, гарачая вада – ў наяўнасцi. Гэта надало мне настрою. З асалодай памыўшыся, пераапрануўся i бадзёра спусцiўся ўнiз.

Тут усё ажыло: каля бара таўклося з дзясятак маладых людзей, акружыўся гульцамі і заўзятарамі більярдны стол, стукалі шары. На мяне сёй-той азірнуўся, зрэшты, добразычліва. Даведаўся пра месца бліжэйшага рэстарана (а такіх было, аказваецца цэлых пяць у гэтым горадзе, што мяне здзівіла невымоўна: у такой глушы?), выйшаў на вуліцу – пешкі было хвілін пятнаццаць хады.

Быў аўторак, я чакаў, па досведзе, убачыць практычна пустую залу, але наўздзіў яна была запоўненай, гучала прыемная музыка – у адведзеным куце граў квартэт, некалькі пар кружыліся ў танцы. Мяне сустрэлі, што яшчэ больш мяне здзівіла, спыталі, якому месцу я аддам перавагу, і самае дзіўнае: невялікі стол на дваіх знайшоўся, да якога мяне і правялі. Абрус быў чыстым да той ступені, калі баішся пакінуць на ім потныя адбіткі сваіх рук, прыборы зіхацелі.

Калі прынеслі напоі, ля стала прыпынілася дзяўчына.

– Вы, здаецца, адзін, не будзеце супраць, калі я прысяду і складу кампанію на гэты вечар?

Я крыху асалапеў, але тут жа кіўнуў з усмешкай, у якой, спадзяваўся было больш прыязнага разумення сітуацыі, чым хвіліннай разгубленасці. Афіцыянтка без словаў прынесла яшчэ адзін прыбор. Дзяўчына прадставілася:

– Іна.

– Андрэй.

– Надоўга да нас?

Мяне не здзівіла яе пытанне, я зразумеў: у невялікім мястэчку з такім наведваннем кавярняў і рэстаранаў (не было падстаў думаць, што ў іншых падобных месцах цяпер бязлюдна) няцяжка пазнаць прыезджага. Мы пачалі гутарку, якая мне падабалася: дзяўчына не была сарамлівай, але і балбатлівай роўна ў той меры, якая дапушчальная пры першым знаёмстве са зразумелымі планамі на далейшы час. Ёй было за дваццаць, мілы твар у апраўленні блакітных валасоў з ружовай пасмай, трошкі кірпаты носік над роўнымі вуснамі, адкрытыя прыгожыя плечы, рукі з доўгімі пальцамі. Невялікая рамантычная прыгода заўсёды ўваходзіла ў мае планы палявых выхадаў, так што я ўпотай радаваўся, што не трэба рабіць самому асаблівых намаганняў. Намеры дзяўчыны не былі двухсэнсоўнымі, пра што казалі і гуллівыя позіркі, і жэсты.

Мы нязмушана гутарылі за ежай. Я зразумеў яе планы на сённяшні вечар і ноч, яна, відавочна, зразумела, што я зразумеў, а я ў сваю чаргу зразумеў, што яна зразумела, што я зразумеў – і ніякай ніякаватасці між намі не было.

Мінула каля дзвюх гадзін, святло ў зале прыглушылі, на сталах гарэлі цёплыя свечкі. Мы танчылі, прыцiснуўшыся досыць інтымна. Штуршок у маю спіну быў дастаткова адчувальным, каб на яго не азірнуцца. Хлопец майго веку, але вышэй і буйней за мяне разы ў паўтара, кінуўся выбачацца.

– Нічога, бывае, – прыняў я яго прабачэнні.

– Не-не, я павінен вас пачаставаць, – не спыняўся ён.

– Не варта, – адказаў я ўсмешкай.

– Што вы, як я буду выглядаць у вачах землякоў, калі так паступлю з прыезджым?

– Бачу, вы паважаеце гасцей... – злёгку разгубіўся я.

– Мы безумоўна паважаем і любім прыезджых!

А вось гэта цягнула на нейкую асаблівасць мястэчка, і ўва мне абудзіўся вучоны-этнограф, які тузануў за язык:

– Прабачце, а за што? Мы нейкія асаблівыя?

Хлопец усміхнуўся дабрадушна.

– Ну, таму што вы заўсёды падбіраеце тое, чым мы не цікавімся, і такім чынам, у нас няма пакінутых без увагі...

Сэнс фразы даходзіў да мяне, як сталёвы шарык апускаецца на металічную пліту: удар-адскок-удар-адскок-удар...

– Ведаеце, мне не трэба вашага пачастунку ні пад якой падліўкай, – стрымана адказаў я. – Дадам толькі, што ў іншым свеце ў іншы час вас бы выклікалі на дуэль.

– Дуэль? – вочы ў хлопца выкаціліся ў здзіўленні, косая ўсмешка распаўзалася па твары. – Вы хочаце выклікаць мяне НА ДУЭЛЬ?

Ён выгукнуў апошнія словы.

Танцуючыя вакол пачалі заміраць і паварочвацца ў наш бок адзінай хваляй, якая ўзнялася з цэнтра.

Раптам змоўкла музыка.

Уключылася зыркае святло.

Краем вока я бачыў, што ўсе вакол глядзяць на мяне. Некалі было ацэньваць гэтыя позіркі: перада мной стаяў хам, які, відавочна, прагнуў бойкі.

– Я б выклікаў вас, але тыя часы мінулі. На жаль, крытычна ацэньваючы сябе, я разумею, што вы зваліце мяне адным ударам. Можаце пакалечыць, а мне трэба вярнуцца ў тэрмін і скончыць працу над дысертацыяй.

Мне было сорамна хавацца за сваёй вучонасцю, але больш пужала думка аб магчымай бойцы. Але тут...

– А нашто нам біцца? – амаль па-дзіцячы наіўна здзівіўся здаравяк. – Дуэль – гэта ж са зброяй! Давайце!

– З якой? – лёгкая абсурднасць сітуацыі пачала мяне забаўляць – твар суразмоўцы не быў злым, я, падобна, памыліўся ў яго намерах зламаць мне рэбры.

– Дык выберам! Ну, вы выклікаеце мяне на дуэль? Мяне завуць Цімафей.

– Я Андрэй. Добра, я выклікаю вас на дуэль, – не надта раздумваючы над далейшым, праз сілу ўсміхнуўся я.

– Ду-э-э-эль! – тут жа віскнула нейкая жанчына побач, і раптам уся зала ўзарвалася радаснымі, узбуджанымі крыкамі:

– Дуэль! Дуэль! У нас будзе дуэль!

– Выдатна, Андрэй! – здаравяк схапіў мяне за руку, затрос яе. – Заўтра раніцай да вас прыйдуць!

Мы ішлі з Інай да століка, яна трымалася ганарліва, глядзела ва ўсе бакі з усмешкай каралевы. Я быў ушчэнт разгублены. Мы прыселі, я адчуў незвычайную смагу, у горле перасохла. Трэба было выпіць, думаць – потым. Але дацягнуцца да бутэлькі не паспеў – ля століка апынуліся дзяўчына-афіцыянт і распарадчыца залы:

– Дазвольце-дазвольце!

Яны ў адно імгненне ўсё прыбралі са стала і нават знялі абрус, забралі нашы сурвэткі. Я не паспеў на гэта зрэагаваць, як стол зноўку быў засланы новым чысцюткім абрусам, а афіцыянткі тут жа заставілі яго самымі разнастайнымі стравамі, бутэлькамі з віном, вадой і графінам з каньяком, садавіной і прысмакамі.

– Стойце-стойце, – агаломшана паспрабаваў я пратэставаць: – Я не заказваў... У мяне няма з сабой...

– Што вы, не хвалюйцеся, – з мілай усмешкай адказала распарадчыца. – Гэта вам ад нашага рэстарана. Вельмі рэкамендую грыбныя біточкі – асабісты рэцэпт нашага кухара. Прыходзьце заўтра ў гэты ж час – вам у нас бясплатна, будзем бязмерна рады бачыць. Прыемнага вечара!

Я адмовіўся думаць – вельмі хацелася піць. А потым і есці. Біточкі грыбныя аказаліся не толькі апетытнымі на выгляд, але і незвычайна прыемнымі на смак.

Першай да нашага століка падышла жанчына гадоў шасцідзясяці ў блакітных брыджах і чорнай блузцы:

– Прабачце, калі ласачка, для мяне гэта, напэўна, апошні выпадак... Ці можна мне зрабіць з вамі сэлфі?

Напэўна, каньяк у той порцыі, якую я спажыў, зрабіў сваю справу, і я адказаў зухавата:

– Вядома!

Гэта быў той каменьчык, які абрынуў плаціну – да нашага століка выстраілася доўгая чарга з тым жа імкненнем: зрабіць сэлфі са мной, са мной і Інай. Потым з'явіўся хлопец з цяжкім хвастом валасоў за спінай, фотаапаратам з даўжэзным фотааб'ектывам, і з ім дзяўчына ў акулярах і джынсах з дзіркамі. Яны здымалі і пыталіся: адкуль я, чым займаюся, мае планы і гэтак далей – аказалася, журналісты мясцовай газеты. Я адмовіўся над нечым раздумваць і пакорліва, шчыра адказваў.

На выхадзе з залы нас ветліва спыніў мужчына сярэдніх гадоў:

– Таксі пададзена!

Я не пярэчыў.

У гасцініцы нас з Інай сустрэлі служачыя, якія падкацілі столік, устаўлены шампанскім і фужэрамі. Уся публіка, пакінуўшы свае месцы за барам і ля більярднага стала, захоплена глядзела на нас. Шампанскае было адкрыта пад радасныя крыкі і выпіта. Затым былі ўжо звыклыя сэлфі. Мне ўручылі ключы і сказалі, што цяпер я ў люксе, мне дазволена пакінуць госцю на ўсю ноч і ўвесь час знаходжання тут. Нумар аплачаны.

Усё, чаму я змог яшчэ здзівіцца гэтым вечарам – нечакана далікатная страсць Іны, якой яна накрыла мяне, быццам набегла цішком цёплая і пяшчотная марская хваля.

Я выспаўся. Дзяўчыны ўжо не было. Глядзеў у столь, згадваў, спрабаваў аналізаваць. Пакуль мелася адзінае тлумачэнне: у гэтым мястэчку ўтварыўся па невядомай прычыне культ дуэлі. Цікава і нечакана, варта раскапаць карані. Добры артыкул можа атрымацца, нешта не помніцца, каб дзе яшчэ сустракалася падобнае. Цягне на амаль адкрыццё. Што ж, самае разумнае цяпер: не супраціўляцца, не здзіўляцца і не распытваць ні пра што – дайсці да ўсяго цягам дзеі. Гэта будзе разумны падыход, які льга захаваць і ў артыкуле.

Я пачаў апранацца, калі ў дзверы пастукалі. Мілая дзяўчына ў гасцінічнай форме стаяла, прытрымліваючы столік, няцяжка было здагадацца, са сняданкам. За дзяўчынай стаяў мужчына ў сінім гарнітуры, пад гальштукам. Ён быў усмешлівы і дзелавіты. Паведаміў мне, што праз гадзіну мяне чакаюць у гарсавеце. Дадаў, што таксі будзе каля гатэля. Тым часам дзяўчына накрыла стол. Мне заставалася падзякаваць іх абодвум.

У гарсавеце мяне сустрэлі на першым паверсе, мілая дзяўчына ў цеснай

спадніцы, круглявыя калені з-пад якой свяціліся гарэзлівымі мячыкамі, правяла мяне на трэці паверх, просячы прабачэння за адсутнасць ліфта.

То была зала пасяджэнняў, поўная мужчын у гальштуках і жанчын з начосамі. Я разгубіўся, паколькі ніяк не чакаў гэтага. Я быў упэўнены, што мяне выклікаюць з прычыны ўчарашняга інцыдэнту, скажам так, і рыхтаваўся ўбачыцца з намеснікам кіраўніка горада ці кімсьці з яго памочнікаў, патлумачыць нечаканасць для мяне ўчарашняга і тое-сёе распытаць.

Калі дзяўчына ўвяла мяне, усе ў зале раптам усталі, павярнуліся ў наш бок і запляскалі ў ладкі. Мяне правялі і пасадзілі ў першым радзе. Праз адно пустое месца сядзеў учарашні здаравяк з рэстарана. Ён шырока ўсміхнуўся мне і, ледзь нахіліўшыся, сказаў:

– Вітаю! Выбачайце, не магу падаць рукі, дуэль жа ў нас.

Я прамаўчаў. Усміхнуўся.

За трыбуну падняўся мужчына і пачаў гаварыць:

– Паважаныя калегі, дамы і спадары! Вы ўсе ведаеце: учора вечарам у нас адбыўся выклік на дуэль. Сёння нам трэба вырашыць надзвычай важную справу. Яе сутнасць – выбар зброі для дуэлянтаў. Створана гарадская камісія па прыёме прапаноў, іх можна адправіць у наш тэлеграм-канал. Вельмі просім улічыць найважнейшую дэталь: спадары дуэлянты павінны знаходзіцца ў максімальна роўных умовах. Цяпер ідзе збор і апрацоўка інфармацыі на кожнага з іх, але ўжо папярэдне магу вам сказаць: нашы дуэлянты ў рознай фізічнай катэгорыі і форме, маюць розныя месцы нараджэння і сталення. Такім чынам, іх базавыя навыкі таксама розныя. Ёсць розніца ў выхаванні, эрудыцыі, адукацыі і атрыманым жыццёвым вопыце. Ужо ёсць першыя прапановы, паслухаем вайсковага камісара.

За трыбунай стаў чалавек у ваеннай форме.

– Ніякай іншай зброі, акрамя як пісталет, не прымальны. Праз тыдзень падрыхтоўкі двух удзельнікаў на стрэльбішчы гарантую роўнасць у двубоі. І ўсё вырашыцца так, як і павінна.

– Ужыванне пісталета зніжае сектар гледачоў на адну сёмую!

– Бар’ерная загарода за дуэлянтамі для спынення кулі не эстэтычная!

– Дуэль можа прайсці за адну хвіліну! Не відовішчна!

Запрасілі другога выступоўцу.

– Шпагі і шаблі мы адпрэчылі адразу, бо дасягнуць прымальнай аднолькавасці валодання імі немагчыма. Таму прапаную: дроцікі. Не доўгія дзіды, але дроцікі.

– Лёгка ўхіліцца! Розныя па памерах!

– Мы зноў губляем сектар для гледачоў!

– Нехта будзе бачыць адно спіну аднаго і твар другога!

Далей ішлі паляўнічыя адназарадныя стрэльбы (дроб), бензапілы і іншая тэхніка (балгаркі, паркетніцы, лобзікі). Я паспрабаваў уявіць, скалануўся. Мяркуючы па твары майго дуэлянта, яму гэтая прапанова таксама не спадабалася. Перапыніліся на хвіліну, спыталі нас з Цімафеем, ці не абралі мы самі нечага з пачутага. Мы абодва адмоўна пакруцілі галовамі. Нам падзякавалі і праводзілі на выхад. Праца пасяджэння працягнулася.

На першым паверсе мяне чакала жанчына ў цёмным дзелавым гарнітуры, без усмешкі, з тэчкай пад пахай. Яна суха папрасіла праехаць з ёй у страхавую кампанію для заключэння дагавора. Мы селі ў машыну, везлі нас нядоўга, але я ўбачыў, што гэта – паліклініка. Страхоўшчыца паведаміла, што для заключэння дагавора спачатку неабходна прайсці поўнае

медыцынскае абследаванне. Дактары былі вельмі ветлівыя, медсёстры загадкава ўсміхаліся вачамі з-пад масак. Праз тры гадзіны, прайшоўшы незлічоную для мяне колькасць кабінетаў і працэдур, я быў вольны. Калектыў паліклінікі выйшаў праводзіць мяне на ганак, дзе ўжо хадзіў туды-сюды мужчына з фотаапаратам. Здымка заняла паўгадзіны...

У страхавой кампаніі мяне сустрэлі кветкамі і вялізным тортам, які адразу ж прыняліся рэзаць. Чаяванне і складанне дагавора, якое вялося паралельна, заняло каля гадзіны.

Потым мяне адвезлі ў гатэль, дзе я літаральна паваліўся на канапу. Ні пра які паход у вёску ў пошуках аўтэнтычных тэкстаў песень бабулек ужо не думалася. Але я змірыўся, цікавасць і маё рашэнне нічому не супраціўляцца перамаглі.

Спаў да шасці вечара. Прачнуўся, пабачыў, што мой касцюм пачышчаны і адпрасаваны разам з вымытай кашуляй. Нібы хтосьці чакаў майго абуджэння пад дзвярыма – тут жа пастукалі. Гаспадыня гатэля з усмешкай прынцэсы, якая даўно перасядзела свае гады ў замку і вось, нарэшце, атрымала прапанову выйсці замуж, перадала мне запрашэнне ад кіраўніка гарадскога ўпраўлення на прыём. Праз гадзіну. Таксі – ля ўваходу.

Гэты вечар застаўся ў маёй памяці шэрагам усмешлівых, проста шчаслівых асоб чыноўнікаў, дам у вячэрніх сукенках з вельмі адкрытымі дэкальтэ, у нацыянальных строях дзяўчат, якія разносілі напоі.

Пад канец вечара злёгку п'янаваты чыноўнік ад лішку пачуццяў абдымаў мяне і шаптаў на вуха:

– Міленькі вы мой! Збаўца наш! Я дванаццаць гадоў выбіваў грошы пад новы стадыён, праект зроблены, а не давалі! А зараз – на 15 тысяч гледачоў! Каб увесь горад мог убачыць дуэль. Штучны газон, трыбуны з абаронай ад дажджу, віп-ложа, распранальні!

– І... калі пабудуеце?

– Ужо будуем! Катлаван да вечара быў гатовы, пайшло заліванне падмурка пад трыбуны, за ноч паспеем. Толькі застыне, адразу ўсталёўваем канструкцыі пад трыбуны – іх ужо вараць. І тут жа будзем слаць. Збаўца мой! За вас! – ён выпіў шампанскае, элегантна адставіўшы локаць у бок.

Падышла мажная маці сямейства:

– Андрэй, міленькі! – яна абхапіла мяне, маючы нейкія толькі ёй вядомыя правы на такую фамільярнасць. – Я б цябе пацалавала, ды баюся, задушу ў сваіх абдымках! Я цябе выйграла! Заўтра будзь гатовы. Мой час першы, за гадзіну да апоўдня. Фотасесія. Хлопчык мой, мы з табой зробім гэты горад!

– Прабачце...

– Ах, дарую, я ўсё табе гатова дараваць. Што, мілы?

– Здымацца... для чаго?

– Зайчык, ах... Жаночая бялізна! У нас невялікая фабрыка літаральна штучных вырабаў. Мы не гонім вал. Мы робім рэчы! На жаль, пасля абеду я павінна цябе саступіць... Але я яшчэ пазмагаюся за цябе!

Да канца прыёму я даведаўся аб яшчэ адной фотасесіі – мясцовая трыкатажная фабрыка атрымала правы на лінейку маек з маімі фатаграфіямі. Заўтра я павінен буду здымацца з сапраўдным дуэльным пісталетам у руках, у батфортах і пры шпазе і яшчэ ў нечым...

У гатэль мяне правялі праз чорны ўваход – перад ім сабраўся натоўп, захапленне якога залятала ў мой люкс нават праз зачыненыя вокны ціхім

ровам акіянскага шторму. Здалёк я паспеў убачыць шыльду, якая абвяшчала, што ў гэтым гатэлі пражывае... Я пражываю.

Я ўпаў у крэсла, калі ў дзверы ціхенька пастукалі, сіл устаць не было, крыкнуў, што адчынена. Увайшоў мужчына, назваўся: начальнік грамадскай паліцыі, намеснік яшчэ нейкага начальніка. Ветліва і па-мужчынску падміргваючы, пацікавіўся: ці не лічу я магчымым для маладога здаровага і сімпатычнага мужчыны правесці тры-чатыры гадзіны ў адным цікавым месцы?

Я патэлефанаваў Іне, аказалася, яна чакае мяне ў фае. Праз паўгадзіны мы апынуліся ў загараднай хаціне, дакладней, доме ў два паверхі з нечасанага бярвення, што сачылася смалой, дзе на першым паверсе размясцілася ўтульнае па-хатняму казіно. Нам з Інай трохі і пашэнціла: выйгрышу хапіла на выпіўку.

Добры быў дзень, думаў я, засынаючы, зняможаны ад доўгага, на гэты раз нечым вар'яцкага ў сваёй бязмежнасці сэксу побач з такой жа зняможанай Інай. Лёгка варушыліся ў галаве сумныя думкі аб старых бабулях у вёсцы, якія напяваюць самі сабе свае сумныя песні ў надзеі дачакацца хоць некага, хто запіша іх на дыктафон.

А палове адзінаццатай па мяне прыехалі. Я сумняваўся, ці можа мая фізіяномія быць у гэты час фотагенічнай, але запрошаныя майстры з тамтэйшага салона прыгажосці чаравалі нада мной тры чвэрці гадзіны не дарма – я сам з цяжкасцю паверыў у тое, што магу быць такім сімпатычным, брутальным і сэксі адначасова. Фотасесія, мне сказалі, прайшла ўдала.

Першы выраб з маёй адрэтушаванай мордачкай, размешчанай на той частцы трусікаў, якая прыйшлася на правую ягадзіцу, былі тут жа надзеты на адну з работніц, і яна дрыжала ад хвалявання, калі на другой ягадзіцы (на трусіках, вядома) я ставіў свой росціс чырвоным фламастарам. Усе ззялі ад хвалюючага шчасця. Быў падпісаны кантракт, пасля – абед.

Пакуль мяне перавозілі ў іншы фотасалон, я паспеў убачыць горад. І паглядзець на сябе. Я быў усюды на плакатах, якія заклікалі: любіць хатніх жывёл, збіраць смецце раздзельна, своечасова плаціць падаткі. Шматлікія расцяжкі запрашалі ўсіх на саму дуэль, якая неўзабаве адбудзецца. Мая першая знаёмая ў гэтым горадзе дзяўчына Іна ззяла на велізарным бігбордзе сваімі блакітнымі валасамі з ружовай пасмай нездарма – на вуліцы мноства дзяўчат былі пафарбаваныя ў два колеры самых розных спалучэнняў.

Нейкі радасны рух ахапіў увесь горад: паўсюль капалася, вешалася, нацягвалася, фарбавалася, усталёўвалася. Цэнтральная плошча ператварылася ў руіны: асфальт быў зняты, усё знесена: тут укладвалі новую плітку, залівалі падмурак пад фантан, манціравалі вялізную сцэну. Мне ахвотна расказалі: на плошчы пройдзе тэатралізаваны пралог дуэлі. Што гэта такое і як яно будзе выглядаць, я не пытаўся. Даведаюся.

Пасля чарговых рэкламных здымкаў мяне перахапілі тэлевізійшчыкі – яны рабілі перадачу для вячэрніх навін. Потым у гатэлі я доўга сядзеў перад сівавалосым мясцовым пісьменнікам – ён будзе пісаць пра мяне кнігу. Пісьменнік запомніўся нечаканай цікавасцю да маіх сексуальных пераваг, а менавіта: якія грудзі ў дзяўчат мне больш падабаюцца? У адказ на маё "невялікія", ён пачаў нудна, але з гонарам ад сваіх ведаў і вопыту, даказваць, што вялікія грудзі хаваюць асаблівае задавальненне, якое трэба адчуць. І стаў успамінаць аб тым, колькі і якіх грудзей на сваім вяку яму пашчасціла патрымаць, метадычна пры гэтым спусташаючы мой міні-бар,

смакуючы як вымаўленыя словы, так і напоі, і атрымліваючы сапраўдную асалоду ад уласнага апаведу. Пісьменнік піў прама з маленькіх бутэлечак, відавочна настальгуючы пры гэтым.

Потым была вячэра з Інай ў прыватным рэстаране. Я быў госцем за кошт буйнога прадпрымальніка, ён трымаў свіную ферму і краму "Сала-мяса". За год бясплатнага наведвання мной гэтай крамы ён атрымаў ад мяне згоду на размяшчэнне майго фотаздымка на фасадзе крамы на ўсе два паверхі.

Першая палова наступнага дня была афіцыйнай: спачатку я быў запрошаны на закладку першага каменя ў падмурак лядовага палаца і плавальнага басейна. На цырымонію звезлі безліч юных спартсменаў: бегуны, футбалісты з мячамі, хакеісты з клюшкамі, фігурысты на каньках, барцы на татамі, гімнасткі на пераносных брусах, шахматысты з дошкамі ў руках. Было шмат сцягоў і ўзнёслых прамоў. З часовай трыбуны мне было даручана ўзмахнуць нечым белым, я ўзмахнуў – і адразу, схаваныя за пагоркам, зараўлі бульдозеры, выпаўзлі на ўчастак і ўзрылі першыя пласты зямлі. Сюды ж чарадой пацягнуліся экскаватары, самазвалы, міксеры з бетонам, краны, вагоны-бытоўкі...

Дзеянне скончылася фуршэтам у вайсковым намёце, дзе кожны з чыноўнікаў у аранжавай касцы лічыў за гонар са мной выпіць.

Потым была закладка новага Дома культуры. Усё праходзіла амаль па тым жа сцэнарыі, толькі замест юных спартоўцаў пляцоўку атачалі артысты ў касцюмах незразумелых нацыянальнасцей. Фуршэт праходзіў у старым доме культуры, які, дарэчы, прасіўся быць названым стайняй.

Асвячэнне і закладка першага каменя ў падмурак новага гарадскога храма «Усіх Святых заззялых» мне спадабаліся сур'ёзнасцю і трапятлівасцю: тут часцей згадвалі імя Божае, чым маё. Гаварылася шмат, але толькі адным святаром, часта спявалі, а вось пілі куды больш, і замест еўрапейскага фуршэту было звычайнае славянскае разгульнае застолле, на якім «Многая лета» ў мой гонар выконвалася цягам усяго часу з рэдкімі перапынкамі для закусвання.

У гатэлі мне далі адпачыць толькі гадзіну. Пераапрануўшыся ў светлы гарнітур з «матыльком», які немаведама адкуль з'явіўся ў шафе, я адправіўся ў суправаджэнні чарговага чыноўніка спачатку ў дзіцячы сад – там дзеткі пад замілавальнымі позіркамі дарослых гледачоў ставілі дуэльныя сцэнкі на пісталетах, шпагах, шаблях і мячах; потым мы адправіліся ў школу на конкурс чытальнікаў. З хвалюючым прыдыханнем дзяўчаткі чыталі лісты Таццяны да Анегіна, юнакі – Анегіна да Таццяны. Ключавым момантам ішло інсцэнаванае чытанне дуэльнай часткі паэмы.

Далей адбыўся візіт у адну з пахавальных фірмаў, якая выйграла тэндар. Там я павінен быў выбраць сабе труну і надмагілле. Шчыра сказаць, мяне гэта трошкі заказытала, але ветлівы гаспадар фірмы растлумачыў: «Так прынята». Я зрабіў свой выбар на вонкава простай, але элегантнай труне, аздобленай шпонам з моранага дуба, чым выклікаў усеагульнае захапленне. Мяне пераконвалі, што ляжаць у гэтай труне вельмі зручна, прапанавалі настойліва праверыць, ад чаго я не змог адмовіцца. Труна сапраўды была раскошная для ляжання, са зручнай падушкай.

Тут жа з мяне знялі меркі для пашыўкі касцюма для пахавання. Колер я абраць не мог – для дуэлянтаў ён павінен быць толькі незвычайна пунсовага колеру. Адразу прынеслі тканіну, прыклалі да мяне, і ў адзін голас усе запэўнілі, што пунсовы вельмі пасуе да майго твару.

Усе выдаткі на магчымае пахаванне, у тым ліку забеспячэнне жанчын хустачкамі для выцірання слёз, брала на сябе пахавальная кампанія.

Былі моманты, калі мне хацелася крычаць і тупаць нагамі, патрабаваць спынення таго абсурду, што ўжо пеніўся вакол мяне, але я стрымліваў сябе простай згадкай: ты навуковец, прайдзі шлях, атрымай досвед, фактычны матэрыял...

На часопісным століку майго люкса мяне чакала мясцовая газета, дзе мой твар упрыгожваў усю першую старонку. Я бегла прачытаў нумар, прысвечаны мне, і шмат чаго даведаўся пра сябе. Аказваецца, я: не люблю вустрыц і позы ў сэксе “наезніца”; у дзяцінстве выратаваў котку ад хуліганаў; першы верш напісаў у пятым класе, ён быў пра каханне; у маім жыцці было ўжо тры выйграных дуэлі: на рагатках у піянерскім лагеры, на палках там жа і слоўная дуэль ва ўніверсітэце. З мясцовых навін галоўнай была тая, што жыхары адной з вуліц мястэчка на вулічным рэферэндуме вырашылі пераназваць сваю вуліцу ў гонар мяне. Для чатырох гарадскіх школ аб’яўлена спаборніцтва за права насіць маё імя. Былі абвешчаныя гарадскія конкурсы мастакоў на лепшы малюнак мяне, пісьменнікаў на лепшае эсэ пра мяне, паэтаў на лепшы верш, прысвечаны двубоям наогул і майму ў прыватнасці.

Вечарам прыйшла Іна. Яна свяцілася шчасцем. Каля дзвярэй майго люкса стаяў вымуштраваны мужчына спартовага целаскладу. Ён сказаў, што з гэтага вечара ён – мой асабісты целаахоўнік, і зараз за межамі нумара я магу быць толькі ў яго прысутнасці. Я не стаў пярэчыць. Тым больш, што целаахоўнік быў кіроўцам аўтамабіля для нас з Інай.

Целаахоўніка звалі Віктарам. Ён быў вымуштраваны не толькі знешне, але і ўнутрана. На пытанне, дзе б мы маглі пабыць з Інай без назойлівай увагі, прапанаваў адрас.

Там пачастунак з правам выбару любых страў і напояў каштаваў для мяне ўсяго толькі аўтографа на асобнай, толькі што абтынкаванай сцяне. Я, па просьбе гаспадара, зрабіў усё максімальна размашыста. Тут жа майстар пачаў ператвараць пакінутыя мной лініі ў глыбокія баразёнкі. Калі нам прынеслі гарачае, да сцяны для фатаграфавання на фоне майго, ужо па-майстэрску выгравіраванага на сцяне, аўтографа выстраілася чарга з наведвальнікаў. Плата была невялікай. Але да нас, як і абяцаў Віктар, ніхто не набліжаўся. Сам ён стаяў побач увесь вечар японскім непарушным самураем.

Раніца наступнага дня пачалася з візіту двух чалавек. Адзін быў лёгкапазнавальным чыноўнікам гарадской управы, другі нагадваў звычайнага рабацягу.

– Шаноўны дуэлянт! – пачаў пафасна чыноўнік. – Мне дадзена права паведаміць вам, што зброя для дуэлі абрана!

– Так? Вельмі цікава! – мне сапраўды ўпершыню за апошнія дні было цікава даведацца хоць нешта. – Што за зброя?

– Экскаватары!

Лёгкі шок ад паведамлення не паспеў дасягнуць кропкі крытычнага асэнсавання, як чыноўнік пачаў ветліва тлумачыць: выбар прадыктаваны першым чынам найвялікшай відовішчнасцю, усебаковым аглядам, магчымасцю роўных умоў. Аказалася, ні я, ні мой супернік Цімафей не мелі навыкаў кіравання экскаватарам, нам даецца тры дні на навучанне. І гэты на выгляд рабацяга – мой настаўнік.

Увесь дзень я правёў у кабіне грукатлівага монстра. Да вечара ў мяне трэслася ўсё, што магло трэсціся: ногі, рукі, дробна дрыжала галава, асобна вібравала пячонка, ва ўнісон трапяталі ныркі. Але, на сваё здзіўленне, я змог адчуць, што магу кіраваць грудай жалеза. Гэта акрыляла.

У гасцінічны люкс мяне беражліва ўнёс Віктар. Дзве пакаёўкі распранулі і паклалі ў ванну, якая пахла, як царква падчас урачыстай службы. Я зрабіў выгляд, што не заўважыў, як яны крадком рабілі сэлфі са мной, ляжачым у ванне.

Другі дзень на экскаватары даўся лягчэй. Я ўжо лёгка мог рухаць гэты гмах, рабіць дакладныя павароты. У трэці дзень мне далося кіраванне зубастым каўшом на страле.

Дзень дуэлі быў прызначаны. Горад да гэтага часу па вечарах пачаў выглядаць адной велізарнай навагодняй ялінай. Увечары ўсё зіхацела, міргала, іскрылася, выбухала салютамі. Целаахоўнік Віктар даверліва паведаміў, што вячэра за столікам у тым рэстаране, дзе я выклікаў на дуэль Цімафея, роўная яго тром месячным заробкам. Але чарга ўжо на год.

Вечарам мне прынеслі касцюм дуэлянта – белы смокінг. Я крыху здзівіўся: як у гэтым кіраваць экскаватарам, але гарнітур прымерыў. Ён сеў ідэальна. Белыя пальчаткі прыемна халадзілі скуру рук.

Надышоў дзень дуэлі. Не, вось так: Дзень Дуэлі, таму што так было напісана літаральна ўсюды. Сцэна на гарадской плошчы была ўзнята метраў на пяць, каб усе ўбачылі дзейства. Я не мог акінуць позіркам усё мноства людзей.

У пачатку, калі апусціць усе ўзнёслыя выступленні, было адкрыццё новага фантана. Збудаванне паднімалася метраў на пяць і было прыхавана белым. Калі гэта белае прыгожа заслізгала ўніз, вачам адкрыліся тры аголеныя постаці – мая, Цімафея ды Іны. Іна трымала два нахіленыя збаны на плячах і стаяла пасярод. Нашы з Цімам геніталіі былі зроблены ў грэцкай манеры, але з-за большага росту суперніка мае здаваліся большымі. Вада пацякла са збаноў струменямі па невялікай дузе, паліваючы дзве мужчынскія фігуры. Забілі тонкія струмені знізу. Было прыгожа.

Пралог быў падобны да балету і оперы разам, я не разбіраюся ў гэтым. У ім было задзейнічана больш за сотню чалавек, і цягнуўся ён добрых дзве гадзіны. Я шчыра стаміўся глядзець.

Потым вывелі на сцэну мяне і Цімафея. Натоўп унізе плакаў і смяяўся ад захаплення. Зачыталі правілы дуэлі.

Мы спусціліся са сцэны прама на памосты. Памосты паднялі і панеслі на руках па два тузіны юнакоў і дзяўчат, апранутых ці то ў грэчаскія тунікі, ці то ў адзенні славянскіх вешчуноў.

На памостах былі поручні, за якія мы трымаліся, але гэта было лішнім: памост ішоў плаўна, нібы плыў.

Пакуль гледачы займалі месцы на стадыёне, я выслухоўваў апошні інструктаж: дазволена ўсё, акрамя выхаду за межы поля. Поле было футбольным, але пакуль без газона, проста пясок.

Калі я ўбачыў экскаватары, зразумеў, чаму мы апранутыя ў белае: гэта былі не старыя разбоўтаныя рабацягі з залітым чорным маслам рухавікамі, але новенькія *JCB-300*, яны ззялі чысцінёй усіх фарбаў, пахлі ўсярэдзіне скурай сядзенняў. Кіраванне было знаёмым – ніякіх складанасцяў. Мы рушылі насустрач адзін аднаму з супрацьлеглых канцоў поля ў атачэнні кола дзяўчат у кароткіх спадніčках. Мяне ўсё больш ахоплівала хваляванне.

...І мы сышліся. Першы ўдар вялізнага каўша прыйшоўся па маёй кабіне збоку, машына выстаяла, хоць моцна хіснулася, балазе, страла майго каўша знаходзілася ў тым баку, каб супрацьстаяць перакульванню. У гэты момант у галаве завібрыравалі словы настаўніка: «Ты машыну пачуць далжон! Як бы яна – гэта ты». Думка білася і праходзіла з галавы ў цела, у ногі і рукі распаленым дротам, а далей у самае нутро машыны, у кожную яе дэталь і шрубку. І раптам мне зрабілася амаль балюча фізічна ад удару па метале. Я ад'ехаў крыху назад, замахнуўся каўшом і абрынуў удар па страле Ціма.

Дасягнуў поспеху – страла ў месцы ўдару прыкметна сагнулася. Яшчэ два трапныя ўдары, і яна не зможа выгінацца.

Мы наступалі і адступалі, білі адзін аднаго стрэламі, адхіналіся ад удараў па корпусе, чапляліся за гусеніцы, спрабавалі зайсці з тылу.

У нейкі момант я паспеў у адным месцы грызнуць зямлі і шпурнуў яе ў кабіну Ціма, асляпіўшы яго на кароткае імгненне, якога мне хапіла, каб зайсці за спіну суперніка і стукнуць зверху па кабіне. Яна вытрымала, але змялася і страціла вытанчанасць.

Натоўп на трыбунах бушаваў. Ягоны роў даходзіў у кабіну скрозь шум матораў. За каго хто заўзеў, было незразумела. Усе стаялі, махалі рукамі, скакалі і самі рваліся на поле.

Ямка, якую я зрабіў на полі, нарадзіла нечаканую думку. Я стаў капаць быццам дзе патрапіла, часам кідаючы зямлю ў суперніка, часам губляючы яе. Цімафей ганяўся за мною, я ўцякаў, агрызаючыся, паспяваючы капнуць і кінуць. З трыбуны неўзабаве ўбачылі мой таемны план, людзі шалелі, каб дакрычацца да Ціма і папярэдзіць яго аб небяспецы. Ён сам убачыў. Але ўжо амаль закончаную канаву, якая акружала яго, з адной дарожкай, на якой стаў я. Мне не хапіла хвіліны, каб перакапаць і тут і тады цікаваць за Цімафеем: як ён будзе пераязджаць канаўку – і ўдарыць загадзя ўзведзеным каўшом...

Цімафею не было з чаго выбіраць і нельга было марудзіць. Ён зразумеў гэта і рынуўся наперад шалёным быком. Мы сутыкнуліся каўшамі, сыпанулі іскры. Удар адгукнуўся на трыбунах рэхам дзікага крыку. Яшчэ і яшчэ. Бакавыя ўдары каўшамі, націск, удар па гусеніцах. Я адчуваў напружанне сталі зубоў, калі яны чаплялі гусеніцы ворага, у маіх жылах зараз цякла не кроў, а густое машыннае масла.

Бітва на вузкай дарожцы працягвалася хвілін дваццаць. Мы стаміліся. Раз'ехаліся не змаўляючыся. Мы адпачывалі. Рухавікі скінулі абароты і млява лашчыліся пад халодным паветрам з радыятараў. Стрэлы прыхінулі да зямлі галовы каўшоў, застылі. Зуб'і сышлі ў зямлю, якая выцягвала боль напружання.

Мае вочы заплюшчыліся. Я не чуў, як крыху павялічыў абароты Цім. Не ўбачыў, як замільгалі гусеніцы. Цім рухаўся да мяне, не ўстаючы ў баявую стойку. Ён наехаў гусеніцай на мой коўш, ірвануўся і падняў сваю стралу для ўдару. Я паспеў зрабіць самае лепшае – ірвануць назад. Подлы ўдар прыйшоўся ў пустое месца.

Пот сляпіў вочы. Патрэсканае шкло вокнаў накрыла пылам. Дворнікі не працавалі. У нейкі момант мы зразумелі, што чыстай перамогі не будзе. І рынуліся зноў адзін насустрач аднаму, высока падняўшы стрэлы з каўшамі. Мы ўздыбіліся, караскаючыся адзін на аднаго. Яшчэ, яшчэ і – абрынуліся на зямлю разам...

На нейкі момант я страціў прытомнасць. Ачухаўся, пабачыў постаць у белым халаце, схіленую нада мной. У мяне, ляжачага на зямлі, правяралі пульс.

– Як там Цімафей? – спытаў я.

– О, ён у поўным парадку, – адказаў доктар, устаў і гучна крыкнуў: – Гэты дуэлянт мёртвы!

Гучны голас дыктара паўтарыў фразу. Роў дзясяткаў тысяч глотак быў без радасці і без суму – гэта быў проста фінальны роў.

– Доктар, але я жывы, – усміхнуўся я і паспрабаваў падняцца.

У той жа момант я адчуў дзве пары рук на сабе, якія мякка, але настойліва ўгаворвалі ім падпарадкавацца.

– Нічога, міленькі, так трэба, разумееце? Вы мёртвыя. Так трэба.

Я кіўнуў. Чорт з вамі, працягвайце свой спектакль.

Думка аб тым, што ўсё ўжо скончылася, засталася толькі фінальная частка, дала згоду розуму і целу на іх падпарадкаванне ўсяму.

Мяне пераапранулі ў новы пунсовы касцюм і паклалі ў труну, у якой я нарэшце адчуў такія жаданыя лёгкасць і спакой. Я чуў жалобную музыку аркестра, рыданні, адчуваў лёгкае калыханне – мяне неслі. Потым была доўгая грамадзянская паніхіда, падчас якой я думаў пра заўтрашні дзень, у якім нарэшце будзе пешы шпацыр і доўгія, як іх жыццё, песні вясковых бабуль.

Калі зачынілі вечка і труну плаўна апусцілі ўніз, шамаценне першых прыгаршчаў пяску, якія кідаюцца па традыцыі людзьмі ў магілу, здалося мне шамаценнем дажджу за начным акном.

паэзія

Віктар Слінка



...Так хочацца дажыць
Да іншых дзён...

# Ліставанне

* * *

Калі адстоіцца
Боль,
Келіх з ім –
Да святла:
Гэтак празрыста і чыста
Было й тады,
Калі не ведаў,
Як будзе смылець мне,
Шкамутаць
І тузаць
Цела й душу.
Але й цяпер
Няма шкадавання,
Што мяжуе
З амаль хваравітым

Дзівацтвам, –
Выпіць
Ізноў...

Калі адстоіцца
Боль
Да святла.

### *ЛІСТАВАННЕ*

Быццам нехта забраў у канцы
Сустрэчу, што мусіла завяршыць гештальт.
Ён жа (хто?)
Перахапіў дыханне табе – і ты
Ледзь не пракаўтнуў галоўнае слова:
Не гучнае, не звонка-грымучае;
Народжанае снежным паркам
У цішыні, калі маўклівасць
Становіцца чалавекам
Яшчэ адным, акрамя цябе;
Гукамі, што пасяляюцца разам з вамі.
Зараз (цяпер) ужо не згадаць нічога,
Што магло б быць, але – суцяшэнне ёсць:
Ты і тады не думаў, што часу даволі.
Давер да яго перавысіў ступень зваротнага.
А смерць не бывае роўнай жыццю, якая б яна ні была.
Весткі адтуль даходзяць, – пералётныя птушкі душ, –
І таму берагу пяро,
Пакуль засмяглыя вусны абліжа язык.
Рупіць табе... Вось, – увага твая ў наступным:
Старацца трымаць радок на нелінаванай паверхні
Нататніка, – і самому прыемна глядзець.
Радок да радка, – а ўнутры адольваюцца прыступкі
Да месца, адкуль неабсяжна далёка відаць,
І там табе ўсё, што хацеў, акрамя адпачынку.
І ў баразне затравелай
Продкаў магілы.

*12-13 кастрычніка 2021*

* * *

Пралітае, быццам шнур,
Трымае на плітах мур.
Трывалы і тонкі след,
Які пакідае свет.

Pралітае, быццам шнар,
З каністры цякло, як дар
Паверхневы, знак мяжы.
Сябе ты ёй пакажы.
Так нехта ступаў сцяной –
Не ведаў, дзе і якой,
І – невядома як
Здолеў праліць няўзнак.
Не здзерці брытвай, нажом,
Што прыплыло, прыйшло,
Нібыта цёмны алмаз
Расплавіўся – і пагас.
Прыцягвала да сцяны,
Быццам імгненне – сны,
Быццам замова – боль;
Над следам, сцяною – столь
Часу... І ты прынік
Да шкельца, дзе промень знік
Сонца.

*28 жніўня 2021*

* * *

Паварушы
Вуснамі.
Толькі пачні казаць –
І не спынішся ад працягу.
Гэта важней
За важнае й няважнае,
За голад і холад,
Наталенне цяплом і ежай,
Пошук пяшчоты,
Утрыманне ці страту яе.
Толькі пачні казаць –
Гэта
Пракладанне маршрутаў
У весніх барах,
Выступ вады,
Які адкрывае далеч.
Лодка і бераг, – ён не прычал.
Бераг жадае адплысці
Да іншага берага,
Што ў дарозе
Высушыць ветру
Яго валасы.

*12 верасня 2021*

* * *

Цікава ісці за радком
Не хаваючыся, не крадком.

Але – не навідавоку.
Туды не сягае вока.

Маешся
Быць
Спадкаемцам
Уласных
Думак – і сэрца.

І не кажы такое:
“Можна спаткаць другое”.

Марыў адно
Пра вечар,
Што не згарэў, як свечка,
Пакінуўшы след
Вакол...

За гукам, словам, радком.

*24 жніўня 2021*

* * *

Пачнеш губляць – і згубіш, што не меў.
А гэта значыць: і тваім нашчадкам,
І дзецям іх, і дзецям, дзецям іх,
Пачварны – шмат нулёў і шмат адзінак, –
Рахунак выстаўлены будзе на вякі.
Што ты не ўзяў, – дык зробіцца здабыткам
Пустэчы... Скарыстаецца табой
І ад імя твайго скрадзе наступнасць
Усіх тваіх, на свеце хто не жыў,
Калі ты страціў момант – і магчымасць.

Але не гавары, што гэта ўсё, –
Мацнейшы за цябе
З табой не згодны.

*22 верасня 2021*

* * *

Учора я развітаўся з кавай,
Каб не яна са мной.
Сэрца ў мяне спытала: “Цікава
Голас адрозніць мой?”

Далоні злучаю, разводжу далоні,
Іх на калені кладу.
Учора – сягоння, сёння – сягоння.
Я не ўпаду, не ўзыду.

Адмацваю лаўку – шурпатасць
Рэльефу,
На дрэве – няроўнасць кары.
Але гэта лепшае за барэльефы, –
Пары
Безгустоўнай дары.

Лішайная котка хоча на рукі,
Прыцiснуцца да грудзей.
Лепшае ўсё аддаем без прынукі,
Бо мы – з пароды людзей.

Мой вершык
Жаночыя вусны кранае,
Няўлоўнай усмешкай жыву.
На ворага
Рулю
Вяду, падымаю,
З падзякай прымяўшы траву.

*2021*

* * *

Над плячом праляцеў кляновы –
Коса, плаўна, у бок Зямлі...

Датклiва ставішся
Да слова кожнага,
Быццам Той, з кім размаўляеш,
Здольны пачуць. Iначай – навошта?..
Быццам Той, з кім размаўляеш, існуе.
Быццам Той, з кім размаўляеш, можа
Даведацца нешта новае

Пра створаны Ім
Свет...

Узважваеш
Мэтазгоднасць?
А мэта з табой не згодна.
Мэта драпаецца галлём
У твой аконны праём.

*Кастрычнік 2021*

* * *

Каменнай прастакутнай кладкай
Абкружаныя краты, і праз іх
Ніжэй зямлі, дзе цокальны паверх,
Відно акно; а збоку
Матыль вялізны на сцяне.
Святло ліхтарні
Колер дадае
У вермут вечара.
Я нечага хачу.
У цеплыню адчыненых дзвярэй
Чаму ён не забіўся,
Адкуль прыйшоў
Я сам?
І ведаю, што апрача мяне
Ніхто яго не бачыў...
Як гэту ноч перажыве
І ейны холад? Ці
Ён адмыслова хоча
Так?

*10 лістапада 2021*

* * *

...Няхай Прадвосень
Нас з Табою
Абміне,
Як чара з воцатам
Альбо цыкутай.
Няхай адразу
Залаты Гамер
Нас адпяе ў гекзаметрах
Раскутых.

Няхай ніхто нікому
Не ланцуг,
І кожны дзень –
Адно апора
Крылам...
Ці пройдзем разам
Розны шлях
Удвух
І застанемся з сэрцам
Неастылым?

* * *

Ад сутыкнення паверхні з паверхняй
Нараджаецца іскра. Жыве
секунду.
Застанецца драпінай на жалезе
Маленькі слядок, на парэз падобны.
Чырвонаю ржой – у прасторы і часе
Жалеза крывавіць... Дзяўчынка
сумуе.
Яно ад вачэй назаўжды схавана, –
Ніхто каб не піў толькі ейны смутак.

Гэта голле аголеных постацяў дрэў.

*3 лістапада 2021*

* * *

Праекцыю
Вакна
На столі
Святло начное
Пакладзе.
А хтось
Не ведае
Ніколі,
Навошта ён,
Каму
І дзе.
Калі ж
Знаходзіць недарэмна
Свае – і мэту, і спачын, –

Святла, што па́дае
Нядрэмна,
Аб гэтым з ноччу
Памаўчыць.
Але яно
І не раскажа,
Як мы аспрэчылі
Прысуд,
І сорамам, нібыта
Сажай,
Пакрые тых,
Хто мучыў
Тут.

*18 верасня 2021*

* * *

Няхай змярцвелы поўдзень ляжа ў труны тых,
Хто змайстраваў іх для яго.
Няхай гучыць
У нас
Раскрылены матыў,
Які не ведае, адкуль ён, для каго.

Няхай цвіце памкненне нават пад сярпом
І адгукаюцца і велічнасць, і жаль
Таму, каго жыццё, бы келіх, п’е нагбом...

*Студзень 2022*

* * *

прагне ахвяр
гоіць гонар
неадступнае я
сухія сняжынкі кружаць

вышэй
за цішыню над ракой
з горных абрысаў аблок
долу
апякаюць холадам рукі
твар
я нясу пад крысом вясну
мілажальна

разам з сабою ў хату
грэю ваду
запарваецца напой
адкідваю зашчапку з форткі
востры подых паветра
сняжынка
на аркушы
чаму ты адна
ці паспееш
хоць штосьці сказаць
о голас бясконцасці
мне
ў цёплым кутку
перад полем
паперы

*18 студзеня 2022*

* * *

Сесці б на цягнік, які не прыйдзе,
І сказаць памерламу: “Дабрыдзень!..”
Разам з уваскрослым памаўчаць.
Быццам кот шкадлівы, май сумленне:
Па́даюць пад ногі дрэва-цені,
Жук-вусач вымервае паленне.
Сіні вечар ля твайго пляча.

Дарагая знае, што не мае.
Знаеш ты: не мае дарагая...
Што казаць, калі нішчымны сам?
Праплывае воблака над хатай,
Дзе старая ліпа, клён кашлаты,
Ня мяху з картопляй свецяць латы.
З цёмнай чаркі выпіты бальзам.

Я хачу, каб немач мела веліч
Выйсці з трун, – і ў гэтае паверыш...
Не з падземных, а з жыццёвых трун.
Хлебадайным позіркам бязмежжа
Жылы нашай смерці перарэжа.
Толькі крок, – да поля, што над вежай...
Ды не перацісні цела струн.

*28 ліпеня 2022*

* * *

Так хочацца дажыць
Да іншых дзён, –
Але далёкі бераг не відзён.

Сляпы сляпога зноўку за руку.
Я ад сябе самога не ўцяку.

Махлярства розум замяніла тым,
Хто не паспеў пакарыстацца ім.

Ці ставіць ветразь, ці ісці пад мост,
Ці проста скіравацца на пагост...

Не стомлены, гатоў адпачываць?
Ды аднаго даволі, каб пачаць.

## ***ВЕЦЕР***

Я спусціўся, каб падняць з зямлі
Пахі кветак, што на ёй цвілі;
Перанесці
Семя дзьмухаўца
Ад Нароўлі – і да Астраўца;
Пыл дарожны
На дзіцячы след
Наганю, пакуль крывавіць свет;
Памяць іх – сатлелае радно;
Буду гладзіць хутка
Рэчак дно;
А з нябёсаў сыдзе херувім, –
Пылам след не замяту за ім.

проза

Змітрок Кузменка



…мы паказалі ўсёй Еўропе,
што жывыя…

# Зялёны мост

***Аповесць***

*У межах літаратурнага праекту "Слаўная кампанія: рэANIMAцыя".*

## I.

Тарашкевіча арыштавалі.

Гэта не змяшчалася ў галаве. Яніна безуважна мінула Катэдральны пляц і выйшла на Маставую. Блізу муроў касцёла святога Юрыя было зацішней, але толькі не на сэрцы. У тлуме цэнтральных вуліц дыхалася чамусьці лягчэй. Да моста заставалася зусім недалёка. Навошта яна ішла сюды? Там, у драўляным дамку на процілеглым беразе Вяллі, яе ніхто не чакаў. Акрамя прывідаў мінулага. А ці патрэбныя ёй тыя прывіды? Трэба жыць цяперашнім, сапраўдным. У яе за плячыма бліскуча абароненая дысертацыя, наперадзе чакае стажыроўка ў Сарбоне. Яна будзе вучыцца ў мэтраў еўрапейскай неўралогіі, а потым – атрымае магчымасць рабіць кар'еру жанчыны-навукоўца. Навукоўца-медыка ў незалежнай Польшчы. Неверагодныя юнацкія мары станавіліся рэальнасцю, усе думкі апошнім часам былі толькі пра гэта. І вось...

Пра арышт Тараса ёй паведаміў адзін са студэнтаў, і вестка тая проста агаломшыла.

Некалькі гадоў Яніна жыла, нібы ў кокане. Усё важнае адбывалася толькі ў сценах універсітэцкай клінікі. Вядома, яна сачыла за падзеямі ў краіне: праглядала «Дзённік віленскі», пра многае ведала з размоваў калег – ды гэта ўсё было далёка ад яе, недзе на перыферыі. Чула і пра ўціхамірванне беларускай меншасці, але ўспрымала пацыфікацыю як вымушаныя захады дзяржавы. Маладая жанчына спачувала беларусам, толькі навошта гэты радыкалізм? Жывучы ў Польшчы, трэба паважаць польскія законы.

Яніна дайшла да сярэдзіны моста і спынілася, прыхінуўшыся да парэнчаў. Праваруч над горадам панавала гара Гедзіміна, на якой яшчэ зусім нядаўна тапырылася зброяй расійская цытадэль, а насупраць, з левага боку, пад шчодра занесенымі снегам шатамі дрэў мірна драмала такое роднае ёй прадмесце Пірамонт. Амаль вёска. Бацька некалі распавядаў, што Пірамонтам называўся багаты палац, які стаяў тут у даўнія часы. Потым замак ці то згарэў, ці то быў разбураны ворагамі, і на правым беразе Вяллі засталіся толькі бедныя селішчы рыбакоў. Але назва захавалася.

Ходнікі на мосце выступалі за межы канструкцыі і навісалі над ракой. Летняй парой і ў іншым настроі гэта давала адчуванне палёту. Цяпер крылы разгарнуць было немагчыма. Нерухомая белая стужка ракі цягнула ўніз – тут можна было крочыць, перамагаючы супраціў снегу і калючага сівернага ветру, але не ляцець.

Пахла дымам.

Тры месяцы таму яны стаялі на гэтым мосце з Тарасам.

Тарас... Так клікалі Бронюся самыя блізкія сябры, і яна таксама. Нават калі паміж імі не стала колішняй сардэчнай блізкасці.

Тады ўсё тут выглядала іначай, хаця гэтаксама нявесела. Наваколле набрыняла шэрым. Неба, рака, дрэвы, горад – усё здавалася бясколерным. Колераў не было і сёння. Панылая шэрасць змянілася сляпучай аднастайнай беллю. І яшчэ невядома, што з гэтага горай.

Тарас расказваў пра беларускія справы, пра пад'ём Грамады, пра пярэпалах уладаў, пра бясконцыя ператрусы і арышты, пра жорсткасць паліцыі і нялюдскія здзекі з арыштаваных беларусаў у пастарунках. Яе гэта раздражняла, і хвалі раздражнення накатвалі з кожнаю хвілінай усё мацней. Чамусьці ніхто з яе родных і знаёмых нічога падобнага не казаў. Вунь, ейная родная цётка трымае ў вёсцы беларускую школку – і нічога. Проста так ніхто арыштоўваць не будзе, бо ёсць закон, і калі паліцыянт пацягне да казы[1] нявіннага ды яшчэ падыме на яго руку, дык сам апынецца пад судом. А калі Тарас, раз-пораз перарываючыся, стаў распавядаць пра тое, як аднаму беларускаму хлопцу ў пастарунку нібыта залілі ў горла расплаўлены свінец, Яніна выбухнула гневам.

Цяпер ёй было сорамна за сябе, а тады яна літаральна крычала. Маўляў, гэтага не можа быць; не можа Польшча, якая сама перажыла стагоддзі здзекаў і прыніжэнняў, здзекавацца з беларусаў толькі за тое, што яны беларусы. А калі на крэсах арыштоўваюць і саджаюць у турмы тэрарыстаў – дык і правільна робяць! Няма чаго слугаваць саветам ды шпегаваць на іхнюю карысць! Тарас спрабаваў запярэчыць, але яна не супакойвалася. Усярэдзіне ўсё кіпела. Яшчэ некалькі год таму гэты інтэлігентны чалавек

[1] Do kozy – у турму (*польск.*).

у акулярах быў яе блізкім сябрам, прыхільна ставіўся да Польшчы. Што ж з ім сталася такое? Адкуль у яго словах пра новую Рэч Паспалітую гэтулькі нянавісці? Ну, анягож... Ён жа ажаніўся з дачкой нейкага крэсовага этнографа! І жывуць пры самай савецкай мяжы!..

Матка Боска, што на яе ў тую хвілю найшло...

Тут, на гэтым мосце, яна абвінавацціла жонку Тараса ў тым, што тая з прыстойнага чалавека, пасла польскага сойма, зрабіла інтрыгана, плеткара ды бальшавіцкага агента... І асеклася...

Госпадзе-Божа!

Ён не пакрыўдзіўся, не... Толькі сумна паглядзеў ёй у вочы сваім сур'ёзным, праніклівым позіркам і прапанаваў... з'ездзіць у Радашкавічы.

Сказаў, што піша аповесць пра дзядзьку Адама.

За высачэзным жалезным пераплётам моста праехалі гружаныя сані. Фурман прыкрыкнуў на каня, і Яніна азірнулася. Гэтае ўдавана пагрозлівае панокванне беларускага селяніна аднекуль з-пад Вільні нагадала ёй іхняга фурмана Сцяпана, які менавіта вось так – моцным, але незласлівым словам – праспешваў коней, калі яны аднойчы рушылі ў Ваўкалату да касцёла. Успаміны сягнулі глыбей, у гады маленства. Яніна памалу пайшла далей па мосце. Колькі яму год? Трыста? Чатырыста? Гледзячы, як лічыць. Зялёны мост насамрэч самы стары ў Вільні. Але гэтая ягоная рэінкарнацыя – ейная равесніца. Новы мост адкрылі якраз у той самы год, калі яна нарадзілася і памёр дзядзька Адам. Яна не памятала ані дзядзькі, ані таго старога моста. Здаецца, драўлянага, на каменных быках. То быў дзядзькаў мост. Цяжка ўявіць, колькі разоў ён прабягаў ці праязджаў па ім. Мабыць, у апошні прыезд дзядзьку давялося перапраўляцца праз Вяллю паромам, бо ягоны Зялёны мост ужо быў разабраны, а новага дзядзька Адам так і не пабачыў. Чаму паміж імі такая моцная повязь? Чаму ёй так цікавыя дзядзькавы справы? Тое, чым ён жыў? Што ён думаў і пісаў? У гэтым свеце нярэдка дзеці цураюцца бацькоў, а пляменнікі – і пагатоў. А можа, яе з дзядзькам злучае гэты мост – адначасна і стары, і новы? Які адышоў у нябыт разам з ім і нарадзіўся нанова разам з ёю?

Глупства, вядома...

Але ў кожным выпадку цяпер гэта яе мост.

На супрацьлеглым баку стаяла старое віленскае прадмесце Снiпішкі, да якога пазней прысуседзіўся Пірамонт. Над самым берагам узвышаўся касцёл Святога Рафала, а побач, літаральна пры выездзе з моста, на невялікім пагорку сярод аголеных дрэў клікала да сябе святая капліца.

Паволі абмінуўшы святыню, Яніна прайшла яшчэ трохі і зноў спынілася. Тое, што клікала яе сюды, раптам замоўкла, нібыта апынуўшыся ззаду. Ісці далей не было куды. Наперадзе дарога выходзіла ў палі, дзе пачынаўся шлях да Кальварыі, а за некалькі крокаў праваруч між сумётаў адгаліноўвалася нешырокая Пірамонцкая вуліца. Колішні Пірамонцкі завулак, дзе і цяпер стаіць невялікая хатка, што памятае і дзядзьку Адама, і яе малую. Хатка, якая даўно стала чужой. Так бывае. Нейкі прамежак жыцця мы глядзім праз адныя вокны, потым – праз іншыя. І вярнуцца да тых, першых вокнаў часам немагчыма.

Ды і няма сэнсу.

Яніна азірнулася назад. Снег тут быў нашмат чысцейшы, чым у горадзе. Разгублены беспрытульны позірк зноў затрымаўся на капліцы, і яна

раптам зразумела, што клікала яе на Сніпішкі. Прыгорбленая пад цяжарам крыжа постаць пана Езуса нібы гаварыла. І гаварыла яна не толькі пра драматычны эпізод з жыцця Збаўцы, але пра лёс многіх падобных да яго будзіцеляў, прарокаў. Колькі сыноў Польшчы прайшло сваім крыжовым шляхам да Галгофы, пакуль краіна вярнула незалежнасць? А колькі прайшло і яшчэ пройдзе... Беларусаў... Такіх, як Тарас...

Цяпер яна не сумнявалася, што гэта Езус на Сніпішках вярнуў яе да розуму тым непрыветным шэрым днём і прымусіў зусім нечакана для сябе пагадзіцца з'ездзіць з сябрам юнацтва ў ягоныя Радашкавічы.

Інакш яна б і не ведала, што Тарас – не толькі заця́ты (аж да немагчымасці!) беларус, не толькі палымяны прамоўца, дасведчаны палітык, мовазнаўца, але і таленавіты пісьменнік. Інакш не здарылася б ейная сустрэча з дзядзькам Адамам. Несапраўдная, вядома, сустрэча, уяўная. Але такая пачуццёвая і праўдзівая.

## II.

Ці былі татары пад Полацкам?

Былі, і нават займалі дзяржаўныя пасады. Мой прапрадзед Васіль дaслужыўся да крайчага Полацкага ваяводства. Традыцыйна абавязкі ягоныя палягалі ў наразанні страў за сталом ваяводы, але часы, калі прыдворныя асабіста прыслугоўвалі свайму пану, тады ўжо сышлі ў мінулае. І пасада крайчага сталася проста ганаровым тытулам, які надаваў свайму носьбіту дадатковы ўплыў і прывілеі. Для выхадцаў з чужых земляў гэта было асабліва пачэсна.

Мой род вядомы тут з XVI стагоддзя. Мабыць, першыя Гурыны з'явіліся на Літве пасля Клецкай бітвы як палонныя. Зрэшты, хто ведае? Можа, гэта сталася яшчэ стагоддзем раней, за Вітаўтам Вялікім... Ад тых далёкіх продкаў у мяне амаль нічога не засталося. Хіба што прасталінейнасць, выбуховая запальчывасць, гонар ды герб роду з залатым ільвом над замкавай сцяной. Спадчынны маёнтак Федарцова на Полаччыне нам ужо даўно не належыць, а за расейскім панаваннем нават правы на шляхецтва давялося некалькі разоў даказваць.

Цяпер наш дом – Віленшчына. Але ці надоўга?

Пяць гадоў таму, рыхтуючыся ехаць на вучобу ў Пецярбург, я перапісваў патрэбныя для паступлення ў інстытут дакументы. І чамусьці моцна адбіліся ў памяці радкі касцельнай метрыкі. Можа, таму, што тыя сціслыя словы – першае сведчанне майго існавання ў гэтым свеце.

*«У Вайкалацкім рыма-каталіцкім касцёле ксяндзом Аўдонам Андрэйкавічам ахрышчана немаўлятка імёнамі Адам і Гіляры, народжанае ў 1869 годзе студзеня 13 дня ў фальварку Кавалі, сын законных сужэнцаў роду шляхецкага Калікста Гурыновіча і Элеаноры з Сяняўскіх. Трымалі дзіця да хросту шляхціц з суседняй вёскі Бакачы Ануфры Барысовіч і паненка Пелагея з Гурыновічаў».*

Нічога асаблівага тут няма: такія запісы зроблены пра многіх людзей, якія жывуць ці жылі на гэтай зямлі і сто, і дзвесце гадоў таму. Але ж запомнілася чамусьці.

Бацька мой памёр ад запалення лёгкіх, калі мне было сем гадоў. Жывым я яго памятаю слаба. Нібыта ў тумане, стаяць перад вачыма безаблічныя постаці сур'ёзных заклапочаных людзей, якія то тут, то там сноўдаюцца па

хаце, заплаканая маці ў чорным, доўгая фарбаваная труна і шэрая гурма сялян ля брамы фальварка. Сяляне шанавалі бацьку. Гэта шмат значыць у свеце, дзе паміж панам і мужыком звычайна пралягае прорва.

Калі на Літве выбухнула апошняе паўстанне, па хатах у навакольных вёсках пяклі для інсургентаў хлеб. Бацька збіраў свежаспечаныя боханы і разам са сваяком адвозіў у паўстанцкі лагер. Неўзабаве пра тое дазналіся маскалі. Травеньскай раніцай на маёнтак наляцелі казакі, перавярнулі ўсё дагары нагамі і забралі бацьку з сабой. Ці то ў Свянцяны, ці то адразу ў Вільню.

Па часах, калі бязвіннага чалавека маглі лёгка запраторыць на Урал, а то і далей, абвінавачванне было страшнае: блізкія зносіны з мяцежнікамі, прыём іх у сваім доме, неаднаразовая дастаўка бунтаўшчыкам правіянту і шпіянаж на карысць мяцяжу. А дзве знойдзеныя пад страхой адрыны паляўнічыя стрэльбы рабілі становішча зусім безнадзейным. З пачаткам паўстання ўсю агняпальную зброю было загадана здаць у царскія цэйхгаўзы, і непадпарадкаванне загадам «законнай улады» было відавочнае. Следчыя маглі гаварыць не толькі пра спачуванне Калікста Гурыновіча бунтаўшчыкам, але і пра імкненне далучыцца да апошніх са зброяй у руках. Аднак сяляне не толькі адмовіліся даваць паказанні супраць бацькі, але і выступілі ў яго абарону. Вядома, гэта не гарантавала вызвалення – калі сведчанні сялян не задавальнялі, іх можна было проста ігнараваць. Пры адсутнасці рэальных доказаў турэмшчыкі лёгка прыдумлялі фальшывыя. Але тут здарыўся сапраўдны цуд. Следчая камісія не стала займацца фальсіфікацыямі, і бацьку адпусцілі на парукі.

Нібыта ўсё абышлося.

Толькі вось месяцы турмы і д'ябальскія метады дазнання падкасілі бацькава здароўе. Каб не турма – ён мог бы адужаць хваробу.

За нямногія адведзеныя скупым лёсам гады бацька паспеў закласці трывалы падмурак дабрабыту для нашай сям'і. Неўзабаве пасля майго нараджэння ён здаў матчын фальварак Кавалі ў арэнду, і мы пераехалі ў Крыстынопаль. У латыфундыю[1] Гурыновічаў, як жартам гаварыў Юзаф. Латыфундыя не латыфундыя, але маёнтак тамтэйшы сапраўды ўдвая большы за Кавалі. Па дакументах Крыстынопаль належыць дзядзьку Абдону, ды гаспадарылі яны там разам з бацькам. Той у адсутнасць свайго брата часцяком сам парадкаваў многія пільныя справы. Акрамя таго, да Крыстынопаля прысуседзіўся невялікі фальварак Курнікі, ужо непасрэдна бацькава ўласнасць. Так што як ні кажы, а то было агульнае валоданне двух сыноў дзеда Ёзафата.

Гэтыя мясціны на поўдзень ад Свіры – мара для заўзятага паляўнічага. Бясконцыя балоты і лясы, вялікае Вішнеўскае возера заўсёды абяцаюць добрую здабычу. Немагчыма не любіць тамтэйшыя бадзёрыя летнія світанні і крыху разамлелыя ад утомы ліпеньскія вечары з раннімі зоркамі на жоўта-сінім небе.

Сцямнела на двары і ціха кругом,
Казельчыкі толькі ў мураўцы крычаць,
І здалёку нейдзе, не йнакш за лугом,
Вясковых начлежнікаў гоман чуваць...

---

[1] Латыфундыя – вельмі буйное прыватнае землеўладанне.

А невымоўную прыгажосць краявідаў Крыстынопаля ранняй восенню не здолее напоўніцу перадаць ніводзін самы таленавіты мастак, не кажучы ўжо пра навамодную фатаграфію, нават калі нехта навучыцца рабіць яе каляровай.

Дом у нас самы звычайны, на два канцы, такія на Літве ледзь не ў кожным фальварку. Крыты гонтаю, з абавязковымі калонамі на ганку. У прасторных сціплых пакоях пад невысокай столлю з цёмнымі бэлькамі заўсёды прахалодна ў летнюю гарачыню і цёпла ў самыя лютыя маразы. На стале пад белым ручніком тут заўсёды ляжыць бохан свежага хлеба. Дзядзька Абдон пры кожным выпадку пакепвае з гэтай мамінай завядзёнкі – маўляў, гэта ўсё старамодныя штукі. Можа, яны і старамодныя, але так здорава было ў дзяцінстве забегчы з двара, адрэзаць добрую лусту, крута прысаліць – і гайда з гэтай лустай назад на вуліцу.

З гадамі дзіцячыя забаўкі змяніліся сур'ёзнымі дарослымі клопатамі і справамі. Нудзіцца ў Крыстынопалі звычайна няма калі. Але доўгімі зімовымі вечарамі тут бывае сумна. Проста за агароджай фальварка пачынаецца вялікае балота Бярозавік, якое пераходзіць у некранутыя лясныя ўрочышчы. І калі перад Калядамі зацята і няспынна выюць ваўкі, на душы становіцца моташна. Здаецца, ваўкі выюць пад самымі вокнамі. Чытаць і пісаць што-кольвек у такім стане немагчыма, трэба проста заняць нечым рукі. Найлепшы паратунак тут – бацькава сталярня, дзе ніколі не выветрываецца цёплы пах свежага дрэва, дзе ў ідэальным парадку чакаюць умелае рукі разматыя інструменты і дзе заўсёды можна паспрабаваць змайстраваць што-небудзь самому.

Аднак Крыстынопаль – не адзіны наш дом. Калі мой старэйшы брат Юзаф паступіў вучыцца, мы мусілі з восені да вясны жыць у Вільні. І каб не марнаваць грошы на здымнае жытло, бацькі купілі там уласны дамок. На ўскраіне, за Вяллёй, збоч ад Сніпішак. Там якраз забудоўвалася новае Пірамонцкае прадмесце.

Месца тое адметнае. Проста на супрацьлеглым баку Вяллі б'ецца параненае і заняволенае сэрца старадаўняй сталіцы – гара Гедзіміна, дзе на руінах знішчанага амаль тры стагоддзі таму замка чужынцы ўмацавалі сваю цытадэль. А на правым беразе, побач з Пірамонтам, атабарыліся гусарскія казармы, далей за якімі разлягаецца нешта накшталт іпадрома і поля для муштры.

Ці не гэтае суседства звабіла Юзафа паступаць у юнкерскую вучэльню?

Па Пірамонцкім завулку часта скачуць на конях вайскоўцы, цягнуцца вазы з фуражом ды амуніцыяй, аднак пры гэтым ён усё адно застаецца зацішным і спакойным. Гэта амаль вёска – з невялікімі драўлянымі хатамі, якія зімой хаваюцца ў снежных сумётах, а ўлетку патанаюць у засені садоў. У нас таксама вялікі сад. Мама выпісала некалькі дрэўцаў аж з Варшавы. Але большасць гатункаў свае, мясцовыя. Бацька цудоўна рабіў прышчэпкі на дзічках. Мы з Юзафам таксама пасадзілі ля самае хаты дзве грушыны – кожны сабе...

І аднойчы ўсё абарвалася.

Я не адразу адчуў гэта напоўніцу: бацька быў скупы на пяшчоту, увесь час займаўся нечым важным, а дзіцячы свет несумяшчальны з дарослымі клопатамі. Страшная пустата ў хаце не так адчуваецца, калі ў галаве поўна розных фантазій і забаваў. Але маленства хутка канчаецца, і чым больш я сталеў, тым выразней разумеў, кім для нас быў бацька. Не, мы не жабравалі. Крый Божа, ніхто не выганяў нас з Крыстынопаля, мы

па-ранейшаму жылі ў маёнтку, як у сваёй хаце. Па-ранейшаму ў нас быў дом у Вільні. Але што такое нястача, мы спазналі. І галоўнае нават не тое, што цяпер мы не маглі дазволіць сабе ўсё, што маглі раней. Па вялікім рахунку, без усіх гэтых прыхамацяў можна жыць. Галоўнае – адносіны з боку бацькавай радні. Дзядзька Абдон, вядома, шмат дапамагае нам. Не ведаю, як бы мы ўвогуле жылі без ягонай падтрымкі. Ён наймаў мне хатніх настаўнікаў, дагэтуль аплочваў рахункі... Але ўсё гэта з паблажлівым выглядам салоннага дабрадзея, які робіць вялікую ласку. Тое праўда, мы многім абавязаныя дзядзьку Абдону, і я ўдзячны яму. Толькі навошта пры кожнай нагодзе папікаць сваёй дапамогай? Удзячнасць – гэта ж не рабалепства. Ды дзядзька яшчэ няхай, ён ніколі не пераходзіць межаў прыстойнасці. А вось цётка Мар'яна – гэта проста жах. Вечна незадаволеная, з'едлівая, звяглівая. Мы па яе словах ледзьве не абібокі-нахлебнікі, на якіх марнуюцца апошнія грошы. Аднойчы проста за велікодным сталом папракнула маці за тое, што яна апранула надта дарагую сукенку. Тады я ледзь стрымаўся, каб не шпурнуць у цётку талерку.

Таму паступленне ў віленскую вучэльню стала для мяне палёгкай. У доме на Пірамонцкім завулку цётка Мар'яна бывала рэдка і надоўга ў нас не затрымлівалася. Дый сам я дадому прыбіваўся хіба к вечару. Кожнага ранку ішоў праз стары Зялёны мост на заняткі. Часам спыняўся пасярод моста, абапіраўся на парэнчы, і глядзеў на раку. Такую несупынную і пераменлівую, як жыццё. Дарога да вучэльні шмат часу не займала, мо чвэрць гадзіны хуткай хадой да Юр'еўскага пляца. А там – якая сотня крокаў па шырокіх прысадах міма Аляксандраўскай капліцы, і ты на месцы.

Тое можа падацца дзіўным: пляц завецца Юр'еўскім, а капліца на ім – Аляксандраўская. Але такое спрэс бывае ў паняволеных краінах, дзе заваёўнік замяняе спрадвечныя назвы сваімі, імкнучыся паўсюль паставіць знакі сваёй улады. Пампезная васьмікутная будыніна на пляцоўцы з чырвонага граніту выглядае тут чужой. Здаецца, яе прынеслі сюды з якой-небудзь Візантыі і проста паставілі пасярод пляца, не зважаючы на ўсю недарэчнасць гэтага. Але віленчукі не любяць Аляксандраўскую капліцу не таму, што яна залішне напышлівая. Да любое недарэчнасці можна прызвычаіцца і нават знайсці ў ёй пэўную арыгінальнасць. Рэч у тым, што капліца не толькі выглядае чужой. Гэта насамрэч чужая святыня для тысячаў месцічаў, сімвал прыгнёту і пакутаў Айчыны. Кажуць, капліца прысвечана князю Аляксандру Неўскаму, але тое няпраўда. Збудавалі яе ў гонар імператара Аляксандра II, які задушыў апошнюю спробу нашага краю скінуць з сябе чужацкае ярмо. Ну і адначасна – у памяць пра жаўнераў імперскай арміі, палеглых у баях з тутэйшымі патрыётамі.

Бацьку, напэўна, было б цяжка штодня праходзіць паўз гэты манумент чужой памяці і славы, калі магілы многіх сапраўдных герояў заставаліся неаплаканымі. А мы... Мы прызвычаіліся і неўзабаве амаль не заўважалі тую капліцу. І калі яе паставілі перад фасадам вучэльні адмыслова, каб закладаць у падсвядомасць юнакоў пашану да імперыі, то задума гэтая правалілася. Прынамсі, у выпадку мяне і маіх сяброў.

Паступаць у рэальную вучэльню параіў апошні мой хатні настаўнік, які заўважыў у мяне схільнасць да тэхнічных практыкаванняў. Ведаў бы пан дарэктар, што «будучы вынаходнік», як ён мяне часам называў, пасталее і ... пачне крэмзаць вершыкі ды запісваць мужыцкія песенькі. Ды ў выніку апынецца ў арыштанцкай камеры. Вось і ўся кар'ера!

Вучыцца на Юр’еўскім пляцы было нескладана. Зрэшты, я не прыкладаў да вучобы вялікіх намаганняў. Дома амаль ніколі не займаўся: каб пераходзіць з класа ў клас, мне ставала таго, што я чуў на лекцыях. Дый калі там займацца! Варта было толькі прагучаць апошняму слову выкладчыка, як мы з сябрукамі ўжо былі на вуліцы. Нас клікала Вільня: непаўторная, таямнічая і па-ранейшаму няскораная. Так весела было гойсаць з Казікам і Юзікам па дахах, хаваючыся адзін ад аднаго за комінамі; рыбаліць на абрывістым беразе Вяллі ці па чарзе апавядаць толькі што прыдуманыя страхавітыя байкі пра вадзянікоў і русалак; палохаць дзяўчат у Бернардынскім садзе, выпраўляцца ў далёкія вылазкі на Цагельню, а ўзімку ладзіць там снежныя бітвы... Па-добраму, варта было б ужо тады як след натаўчы Юзіку Бураку, але хто ведаў, што ён акажацца такім... гжэчным кавалерам.

Маці ўшчувала, дзядзька пры кожнай сустрэчы рабіў суворы выгляд і прарочыў, што з такой вучобай мне не бачыць ніякага інстытута, што мяне чакае незайздросны лёс п’яніцы і абібока. Ды мне – анігадкі.

Быццам ён сам не быў калісьці такім жа... вісусам.

Вучэльню я скончыў у васямнаццаць год з вельмі пасрэднымі адзнакамі. На выдатна здаў толькі «Закон Божы», бо з маленства любіў хадзіць да касцёла і добра ведаў катэхізіс. Няблага было таксама з геаграфіяй і гісторыяй. А вось з дакладнымі навукамі, да якіх у мяне нібыта меліся здольнасці, атрымаўся, па словах дзядзькі Абдона, жуда і сорам. І калі я абвясціў пра намер вучыцца далей, ён толькі скептычна пасміхнуўся. Але адгаворваць не стаў. Маўляў, правалішся – то будзе твая няўдача.

Гэтак я апынуўся тут, у Пецярбургу.

Халодная і вечна сырая сталіца імперыі агаломшыла тлумам. Калі раней знаёмства з вялікім горадам пачыналася ля ўязной брамы, то цяпер яно пачынаецца з вакзала. Пецярбургскі вакзал, куды мы прыехалі з нашай ціхай Вільні, – велізарны, з каляінамі на два бакі. Закрыты ад непагадзі высокім бляшаным дахам, умацаваным на адмыслова пераплеценых жалезных прутах. І ўсярэдзіне – гурмы людзей, якія мітусяцца, заходзяць, выходзяць, гукаюць, пішчаць, перакрыкваючы шыпенне машыны і свіст выпушчанай пары. А ўверсе пад дахам дзяруць горлы вароны ды галкі. Адным словам, суцэльнае вар’яцтва. У першае імгненне вакзал уражвае, але мінае некалькі хвілін, і хочацца як найхутчэй выбрацца вонкі, аддыхацца. Ды знадворку не нашмат цішэй. Хіба што не пыхкае і не гудзе побач распаленае і натомленае нутро паравоза.

Мне спатрэбілася некалькі дзён, каб збольшага прывыкнуць да тлумнага віру на пецярбургскіх вуліцах, да рознагалосай гаманы на ходніках, да нязмоўчнага грукату вазоў і экіпажаў, што ўвесь час на шалёнай хуткасці праносяцца міма, да пагрозлівых воклічаў рамізнікаў. Разявакам тут месца няма. Загледзеўшыся на што-кольвек на дарозе, можна лёгка патрапіць пад колы чарговаму аматару хуткай язды. Ці пад капыты ягонага каня.

Першыя тыдні я з цікаўнасцю аглядаў славутасці Пецярбурга. Шпацыраваў па Фантанцы, глядзеў на шматлікія параходы, Егіпецкі мост. Дзівіўся на Траецкі сабор і высачэзную калону з анёлам наверсе. А потым даведаўся, што калона гэтая называецца... Аляксандраўскай, і нават трохі смешна стала. Як жа многа манументаў у гэтай дзяржаве маюць такую назву.

Прыгадваю зараз свае першыя шпацыры па Пецярбургу і думаю сам

сабе: варта было аглядаць тады не параходы на рацэ, не саборы ды калоны з анёламі, а Шпалерную турму і Петрапаўлаўскую цытадэль. Як аказалася, менавіта гэтыя будынкі – галоўныя ў закамянелай прасторы горада, халоднага і абыякавага не толькі да гасцей, але і да сваіх жыхароў.

Навошта я ўсё гэтае пішу?

Што гэта ўвогуле? Дзённік? Запіскі? Мемуары?

Каму цікавыя мае ўспаміны, апроч мяне самога?

Пішу, каб не звар'яцець ад бяздзейнасці і цішыні, якая пануе ў гэтых мурах бязмежна і самаўладна. Калі нехта ў ранейшым жыцці любіў цішыню, за некалькі дзён знаходжання тут ён яе люта ўзненавідзіць. Цішыня тут абсалютная і таму зусім не рамантычная, а цяжкая, гнятлівая. І ад яе нікуды не схаваешся, не ўцячэш. Наглядчыкі ў лямцавых камашах бязгучна соўгаюцца па калідорах. Пакуль з ціхім шоргатам не адкінецца невялікае акенца ў вузкіх дзвярах камеры, ты нават не ведаеш, што да іх хтосьці падышоў. Жывое слова тут можна пачуць толькі раз на некалькі дзён, калі прыходзіць начальнік турмы і пытаецца: «Ці будуць якія пажаданні?». Ён моўчкі выслухоўвае цябе і сыходзіць гэтаксама ціха, як і ягоныя падначаленыя. І больш – ні гуку, ні слова. Толькі праз адчыненую фортку ў непагадзь можна ўчуць стогн ветру і плёскат Нявы. А яшчэ штогадзіны б'юць куранты на Петрапаўлаўскім саборы. Звычайна званы граюць нейкі хваласпеў, але апоўначы і апоўдні з сабора ў турэмную фортку здзекліва далятае: «Божа, цара храні...» Нібыта адмысловая насмешка з палітычных арыштантаў, зняволеных у гэтым маўклівым бастыёне.

Ніколі не думаў, што бываюць катаванні цішынёй. Аказалася, яны вельмі дзейсныя. Асабліва калі чалавека пакінуць сам-насам з мёртваю цішаю без магчымасці чым-небудзь заняць свой розум. Вядома, можна мераць крокамі камеру ці прыдумваць словы на пэўную літару. Можна, нягледзячы на забарону, спяваць уголас ці дэкламаваць вершы. Можна складаць вершы ў галаве. Але гэта дапамагае толькі па першым часе.

Мяне перавялі сюды са Шпалернай неўзабаве пасля спаткання з братам. Можа, пільнае вуха жандара пачула, як я прасіў Янука забраць і спаліць паперы, пакінутыя ў інстытуцкай буфетчыцы Мар'і Арцымовіч? Так ці не, але больш я амаль ні з кім не размаўляў.

Першыя тыдні два тут, у камеры, было адно расейскае Евангелле. На мае скаргі і просьбы прынесці паперу ды кнігі начальнік турмы толькі моўчкі ківаў галавой. Ён сыходзіў, і нічога не мянялася. Урэшце я запатрабаваў сабе хаця б польскае Евангелле. Тут пан начальнік падняў брыво і ўпершыню за некалькі нашых сустрэч перапытаў:

– Вы хочаце Евангелле на польскай мове?

– Ну дык беларускага ў вас жа, напэўна, няма...

Ён з хвілю лыпаў вачыма, а потым павярнуўся і сышоў.

Відаць, у начальніцкай галаве склалася ўражанне, што я пачынаю пацціху вар'яцець, бо назаўтра мне раптам прынеслі паперу з пяром і атрамантам ды томік Някрасава.

Гэта было шчасце! Нарэшце можна чытаць, занатоўваць свае разважанні. Я нават пераклаў, перапісаў па-наску чатыры даўно ўпадабаныя вершы. Некалькі дзён абрыдлыя беспрытульныя думкі не звіваліся ў атрутны пачварны клубок. Некалькі дзён мне не хацелася крышыць голымі рукамі ўсё ўбогае начынне ў камеры ды біцца галавой аб сцяну. Дарэчы, сцены тут таксама адмысловыя, крыху мяккія. Пад пажоўклымі, абвіслымі ад

вільгаці і месцамі абарванымі шпалерамі пракладзены слой лямцу, але гэта не клопат пра звар'яцелых сядзельцаў, якраз наадварот. Лямец на сценах патрэбны, каб заглушыць гукі, якія могуць далятаць з суседніх камер.

Гэтую турму ўвогуле можна назваць лямцавай.

Яшчэ на Шпалернай я зразумеў, што ў астрозе важна не згубіць адчуванне часу. Тут гэта асабліва важна. Кожны дзень трэба рабіць невялікую засечку або пазнаку. Дзе заўгодна і чым заўгодна. Хоць лыжкай, хоць пазногцем. Пакуль ведаеш час – ты чалавек, а не жывёліна, загнаная ў брудную клетку.

Бязгучна прынеслі абед.

Меню арыштанцкае залежыць ад дня тыдня. Сёння серада, значыць, даюць гарохавую поліўку і прасяную кашу з салам. А заўтра тады будзе вараная капуста і грачнёўка. Ежа хоць і казённая, але ўвогуле непаганая. На час абеду прыбраў свае паперы на ложак. Трэба будзе вярнуць ім гэты някрасаўскі томік, мо дадуць што іншае. Мусібыць, поўны вар'ят следчым не патрэбны.

Але дзе яны, тыя следчыя?

Магчымасцю чытаць і пісаць я цешыўся дзён дзесяць. Потым зноў пачала наплываць роспач. Турма ціcне на грудзі, не дае дыхаць. Неяк паспрабаваў заспяваць – і спалохаўся ўласнага голасу, не пазнаў яго. Ён стаў нейкі слабы, перарывісты, сіпаты. Учора нават не браў у рукі пяро: увесь дзень тупа ляжаў ці хадзіў па камеры.

Я ў няволі ўжо амаль пяць месяцаў. На допыты мяне не выклікаюць, нават ніхто не сказаў, у чым менавіта мяне вінавацяць. Калі ў распаўсюдзе рэвалюцыйнай літаратуры – дык бярыце, судзіце, карайце. Навошта так доўга трымаць у невядомасці, у гэтай густой, бязлітаснай і ліпкай, нібы павута, цішыні?

Зноўку хаджу па камеры... Зразумела, надта ў ёй не пашпацыруеш. Ад аднаго вугла да другога наўскасяк – дзесяць крокаў па голай бетоннай падлозе. Тут трохі чысцей, чым на Шпалернай, але ў астатнім – жытло арыштанта ёсць жытло арыштанта. Вышэй чалавечага росту пад скляпеністай столлю невялікае закратаванае акно з маленечкай форткай. Прыкручаны да падлогі жалезны ложак, на якім адно лямцавая посцілка (куды ж тут без лямцу!) ды падушка, напханая саломай. Каля ложка – прымацаваны да сцяны дзвюма падпоркамі бязногі жалезны столік з цяжкім драўляным зэдлікам. Каб быў аматарам гімнастыкі, дык узяў бы той зэдлік замест гіры. На століку па вечарах мігціць газоўка, асвятляючы няпэўным святлом цьмяны і маленечкі, як тая фортка ў акне, святы абраз. У куце ля дзвярэй прыладжаная рукамыйніца, а насупраць яе – драўляная сядушка для натуральных патрэб. Вось і ўсё багацце інтэр'еру.

Яно б і нічога, калі б не гнятлівая цішыня і страшэнная вільгаць, ад якой усё часцей даймае глыбокі пакутлівы кашаль. Малю Бога, каб не прыхапіць тут сухотаў. Апошнім часам баліць і ные ўсё цела: жалезныя прэнты ложка пад тонкай посцілкай за ноч так даюцца ў знакі, што з раніцы трэба некалькі хвілін пакандыбаць па камеры, перш чым цягліцы і суставы пачнуць цябе слухацца.

Тут мне часта сніцца адзін і той жа сон. Нібыта ў маёй камеры сядзіць маладая жанчына гадоў трыццаці. Прыгожая, светлавалосая, з высокім разумным ілбом. Яна сядзіць на ложку і глядзіць некуды праз сцяну. Вусны ейныя пагардліва сціснутыя, а на спалатнелым, амаль празрыстым

абліччы відаць прыкметы невымоўнай душэўнай пакуты і няроўнай унутранай барацьбы. Раптам яна ўстае і похапкам бярэ са століка лямпу. Чорнае, выстылае акно абыякава назірае, як зняволеная аблівае сябе газай. А потым – барвова-аранжавая ўспышка і жахлівы ўсёпаглынальны боль. Я не бачу полымя, але ведаю: гэта гарыць маё цела. Яно ўжо не належыць мне і рухаецца само па сабе. Я крычу, але за жудасным болем не чую ўласнага крыку. Не адчуваю смяротнага паху паленай плоці, не ўспрымаю запозненых спалоханых воклічаў турэмшчыкаў за дзвярыма. Маю свядомасць цалкам паглынае боль, якому няма ні канца, ні меры. Нясцерпны ад самага пачатку, ён узмацняецца больш і больш, паралізуючы нават апошнія інстынкты. І раптам усё правальваецца ў цемру. Я прачынаюся ў халодным поце на збітай, скамечанай посцілцы і некалькі хвілін не магу аддыхацца.

Што гэта, як не вар'яцтва?

Калі шчыра, то я ўжо і сам разы два ў ачмурэнні глядзеў на тую газоўку. Не ведаю, што мяне ратавала. Мабыць, абразок на сцяне. Цьмяны і бляклы, ён нібыта выцягваў з прорвы, вяртаў да жыцця, нагадваў: многім у гэтым горадзе, на гэтай зямлі, у гэтым свеце значна горш. І потым, здацца – гэта значыць прызнаць перамогу турэмшчыкаў. Не гэтых лайдакаватых ёлупаў у калідорах і не іх непасрэдных начальнікаў, а тых, хто ў раскошных палацах адным росчыркам пяра выносіць выракі тысячам людзей і нават цэлым народам.

Хлопцу грэх скардзіцца на сваю нядолю, калі ад такой самай нядолі пакутуюць дзяўчаты. На Шпалернай іх было нямала. Ёсць і тут. Я б не ведаў гэтага: тутэйшыя ахоўнікі водзяць вязняў па калідорах так, каб нікога на шляху не сустрэць. Пераходы наперадзе заўсёды пустынныя, бязлюдныя. Але аднаго разу гэтая завядзёнка парушылася, нехта з турэмшчыкаў схібіў. Мяне выводзілі на шпацыр, калі раптам з-за павароткі паказаліся дзве постаці. Насустрач ішла пад канвоем дзяўчына. Ахоўнікі, відавочна, на імгненне збянтэжыліся, аднак усё ж правялі нас адно паўз аднаго. Мы моўчкі прайшлі міма, абмяняўшыся позіркамі. Вочы ў дзяўчыны былі шэрыя. Гаварыць не дазвалялася, ды каб і можна было – пра што я мог сказаць ёй, а яна мне ў тое нечаканае імгненне?

Пасля гэтага выпадку я доўга думаў пра Ружу. Яе забралі амаль адначасна са мной, і што з ёй, дзе яна – я не ведаю. Можа, на Шпалернай... А калі Ружа таксама тут, у гэтым маўклівым бастыёне, поўным жудасных прывідаў і думак?

Мабыць, яна адзіная, хто мяне сапраўды кахае... Але ці прынясе гэтае пачуццё каму-небудзь шчасце? Усё атрымалася, як у рамане: нарачоная малодшага брата закахалася ў старэйшага. Я спачатку нічога не прыкмячаў. Адно здзівіўся, калі братавая нявеста раптам стала часта пісаць мне, падпісваючы часам свае лісты: «чужая Ружа». Упершыню згледзеўшы незвычайны подпіс, задумаўся: чаму «чужая»? Але вялікага значэння гэтаму не надаў – у дзяўчат свой спосаб мыслення, і зразумець іх бывае няпроста. Больш я пра тое не згадваў: ці мала прычын магло быць у дзеўкі так падпісацца. Можа, дзеля смеху. Але праз нейкі час Ружа мяне проста агаломшыла, спытаўшыся, якую я нашу кашулю? Маўляў, хачу вышыць свайму каханаму. Помню, тады страшна на яе насварыўся. Усё раптам стала зразумелым: і частыя лісты, і дзіўны подпіс. Нягледзячы на маё рэзкае патрабаванне выкінуць з галавы дурное, дзяўчына выявіла ўпартасць і...

адмовілася ісці да шлюбу з нямілым. Прызнаюся, гэта выклікала ў мяне павагу да яе, хоць той «нямілы» – мой брат. Адважыцца на такі шалёны крок і наклікаць тым самым на сябе пагарду многіх людзей здольны толькі моцныя асобы. Пасля разрыву заручын мама на гарматны стрэл не падпускае Ружу да нашага дома... Ці кахаю яе я? Дзіўнае пытанне, абураецца розум: як можна кахаць нявесту брата? Але сэрцу не загадаеш, Ружа не дазволіць схлусіць. Вось толькі маё сэрца, дзякуй Богу, маўчыць.

Дзякуй Богу?!

А ці здольны я наогул каго-небудзь пакахаць? Ці магу толькі прысвячаць каханню сентыментальныя вершыкі пра белую бярозку над ракою? Або такія вось... павучальныя?

Бегма, хлопча! Бегма, дружа!
Глянь, там руж кусты.
Дык сарві каханай ружу,
Паспяшайся ты!

Наўздагад ляціш, пры людзях
Зрэзаць пахкі квет.
Ёсць уцеха – жонкай будзе,
Кпіць вакольны свет.

Хоць здалёку ружа вабіць,
Ды ў шыпах яна.
Пах салодкі хутка слабне,
Боль даецца ў знак.

Бо хто схопіць вобміг ружу –
Раніць пальцы ўсе.
Хто кахання прагне дужа –
Той атруту п'е...

Па-добраму, нам варта было б спыніць ліставанне, але... Колькі разоў я крыўдзіў Ружу ўласнай нястрыманасцю, бязглуздымі кепікамі. Паводзіў сябе, нібыта якое спешчанае дзіця. Што гэта ўва мне? Неўтаймоўная гарачлівасць крымчакоў? Прыродны выбрык характару? Кепскае выхаванне? А можа, усё разам узятае? Колькі разоў я дакараў сябе, адаслаўшы дзяўчыне з'едлівы, фанабэрысты ліст. Колькі разоў я кусаў сабе локці, каб потым усё паўтарыць зноў. А Ружа... Яна можа быць калючай і нават жорсткай да таго, кім пагарджае, ад каго адчувае небяспеку, але мне... Мне яна даравала ўсе выбрыкі. Пісала цёплыя пісьмы на паперы з выціснутымі ружачкамі. Па-хатняму называла Юркам. Нават рыфмавала вершы.

Вершы... Ці не яны прычына гэтай акрутнай цішыні? Хто ведае, можа, мяне марынуюць тут без допытаў і спатканняў з-за вершаў на беларускай мове? Вунь як ускінуўся жандар, калі знайшоў тыя мае сшыткі.

Зрэшты, хіба пісанне вершаў па-беларуску – гэта злачынства?

Першы свой вершык я напісаў у Вільні на лекцыі па трыганаметрыі. Тут, на піцерскіх калялітаратурных сходках, любяць паўтараць, нібыта ў Расіі паэт – нешта большае, чым проста паэт[1]. І ёсць у гэтым нейкае самалюбаванне, нават пыха. Бо калі ў Расіі паэт – нешта большае, чым

[1] Пройдзе некалькі дзесяцігоддзяў, і гэтая думка выльецца ў вядомы радок Яўгена Еўтушэнкі.

паэт, то што ўжо казаць пра мой заціснуты паміж Масквой і Варшавай край, дзе сваё ўласнае паэтычнае слова – гэта нешта дзіўнае, нечуванае; дзе паэзія вымушаная прабівацца да чытача ажно з Аўстрыі па небяспечных кантрабандысцкіх сцежках на памежжы дзвюх імперый?

Хто я? Якой нацыі? Мае сямейнікі лічаць сябе палякамі. Але дзіўныя мы нейкія палякі. Карані ў нас татарскія. Стагоддзі жылі на Полаччыне, потым пераехалі бліжэй да Вільні. У Польшчу ніколі на стала не выязджалі, хіба толькі па службовых справах. А казаць, што мы палякі, бо гаворым дома па-польску, – трохі смешна. Сто гадоў таму ледзь не ўсё рускае дваранства гаварыла па-французску, і што? Яны ж не сталі ад гэтага французамі.

Цікава, на якой мове размаўляў мой прапрадзед Васіль у сваім маёнтку Федарцова? Ці ўмеў ён, ці бацька ягоны, хоць трохі па-татарску? Наўрад ці... Напэўна, ужо да таго часу наш корань паспеў моцна ўрасці ў магутнае дрэва Літвы, паяднацца з ёю шматлікімі роднаснымі атожылкамі.

Значыць, я – ліцьвін?.. А якая прыродная мова ў гэтай зямлі? Ну ніяк жа не польская, іначай увесь просты люд таксама гаварыў бы па-польску. Але ён размаўляе... па-мужыцку. Прынамсі, так называюць усе гэтую гаворку. Адно Мацей Бурачок піша, што мужыцкай могуць яе называць толькі цёмныя людзі, а завецца яна насамрэч беларускай. Некаторыя кажуць, што яшчэ тры ста гадоў таму на гэтай мове гаварылі і вялікія князі, і ўсё тутэйшае панства. Калі сапраўды так, дык мае продкі, атабарыўшыся на Полаччыне, мусілі пераняць менавіта гэтую мову. Выходзіць, яны гаварылі па-беларуску і толькі потым перайшлі на польскую? Але тады якім чынам гэтая мова аказалася выкінутай з вяльможных палацаў ды гарадскіх камяніц і была загнаная пад стрэхі курадымных мужыцкіх хат? Ды яшчэ літаральна ў адзін момант, бо па-польску мясцовая шляхта гаворыць ужо вельмі даўно? Гэта нешта нерэальнае, так не бывае! Ну, няхай шляхта загаварыла па-польску, каб не надта адрознівацца ад кароннай, прывісленскай. А гарады? Так не бывае, каб месцічы за нейкае дзесяцігоддзе ці два адмовіліся ад спаконвечнае мовы сваіх дзядоў і загаварылі на іншай. Гэта не паддаецца ніякай логіцы, ніякаму тлумачэнню. Калі толькі... Калі толькі ўсіх іх не знішчылі.

У нашай сям'і ёсць паданне пра вялікую вайну з Масковіяй, якая доўжылася ці то дваццаць, ці то трыццаць гадоў. Кажуць, падчас яе загінуў кожны другі жыхар Літвы-Беларусі. Гэтаму цяжка даць веры, але памяць сямейная малюе яшчэ больш страшную карціну. Дзядзька Абдон расказваў, што наш родавы маёнтак быў тады разбураны дазвання, а Полаччына цалкам ператварылася ў бязлюдную пустыню. Усе гарады і мястэчкі былі спаленыя, а іх жыхароў забілі або вывелі ў палон. Такі самы лёс напаткаў і многія вёскі. Па былых вуліцах гойсалі ваўкі і здзічэлыя сабакі, зарасталі лесам уробленыя палі. А каго пашкадавала варожая зброя – забралі паморкі і пошасці. Добра, калі ацалеў адзін чалавек з дзесяці. Можа, у агні крывавага патопу разам з народам гэтае зямлі згарэла і яго мова? Здолеўшы выжыць толькі ва ўбогіх сялянскіх хацінах, да якіх нікому не было справы? І стаўшы мужыцкай? Плойма фанабэрыстых гісторыкаў, мабыць, насмешліва запярэчыць: маўляў, усё не так, няма доказаў. Нібыта ў іх ёсць доказы, што гэтай страшнай катастрофы не было. Трагедыі, вартай паказу нашчадкам на шырокім палатне эпічнай паэмы. Хацеў бы я напісаць такую, але... Яе мог бы напісаць хіба Міцкевіч. Ці Шаўчэнка.

Пранізлівую, магутную паэму пра гібель цэлага свету. Дзе ў чорным дыме пажараў, у барвовых сполахах крыві і полымя, у безнадзейнай роспачы і адчаі жыве неадольная вера ў будучае адраджэнне, уваскрашэнне з попелу. Падобна да птушкі фенікс.

Думаў, сёння шпацыру не будзе: звычайна выводзяць перад апоўднем, а ўжо, здаецца, чацвёртая гадзіна. Аж раптам дзверы адчыняюцца, на парозе стражнік у шынялі. Значыць, павядуць. У чым прычына затрымкі – не ведаю, пытацца пра штосьці тут бессэнсоўна. Моўчкі выходжу, радуючыся, што можна скінуць абрыдлы арыштанцкі халат з зялёнае фланелі ды велізарныя жоўтыя туфлі, якія ўвесь час звальваюцца з нагі; апрануць людскую вопратку і дыхнуць свежага паветра. Хаця свежасць паветра ва ўнутраным дворыку любой турмы – рэч умоўная. Тым больш тут, дзе нават імжа, што час ад часу сыплецца з безуважнага шэрага неба, пахне панурасцю і няволяй.

## III.

– Ты непапраўны, – нягучна сказала Яніна, сумна ўглядаючыся ў павольную рачную плынь, якую праз два-тры тыдні каля берагоў ужо магло ўсур'ёз атачыць першым лёдам.

Бронюсь паправіў на носе акуляры.

– Пра што ты?

– Упарта робіш з дзядзькі Адама беларуса.

– А нехта тут упарта лепіць з яго праўдзівага паляка, – пасміхнуўся Бронюсь.

Яніна прамаўчала. У словах Тараса не адчувалася ні з'едлівасці, ні задзірыстасці, толькі жартоўнае сяброўскае пацвельванне. Спрачацца з ім не хацелася. Зрэшты, хто сказаў, што менавіта яна мае рацыю? Хаця пляменніца, вядома, куды больш ведае пра тое, кім быў ейны дзядзька, чым зусім незнаёмы з ім беларускі інтэлігент. Зусім незнаёмы? А хіба яна знаёмая са сваім дзядзькам? І ўсё ж, і ўсё ж...

Міма плыла восеньская рэчка. Праз якія дзень-два гэтая самая вада пройдзе пад віленскім Зялёным мостам і пацячэ далей, да невядомага мора, разам з незлічонымі струменямі і струменьчыкамі іншых рэк і рачулак гэтай зямлі. Але пакуль яна тут, каля іх. Крыху зеленаватая, нетаропкая, але разам з тым – нястрымная. З цёмнымі залацінкамі нізкага сонца ў дробнай, ледзь заўважнай рабізне на паверхні. Краявід поўніў сэрца сумам, аднак гэта быў не той беспрасветны сум, ад якога наплывае роспач і цяжэюць рукі. Гэта быў урачысты сум, які нараджае думкі, жывіць успаміны. Дзіўна ўсё-такі, як залежыць настрой чалавека ад надвор'я. У Вільні некалькі дзён таму ўсё здавалася бясколерным ды шэрым, тут – малюнак быў зусім іншы. Здавалася, час бабінага лета даўно і незваротна мінуў, але прырода, мабыць, вырашыла зрабіць старадаўняму мястэчку апошні сёлетні падарунак. Было незвычайна цёпла і светла. Глыбокую восень на дварэ выдавалі хіба аголеныя дрэвы, толькі на вяршалінах якіх дзе-нідзе яшчэ захаваліся невялікія рудыя пасмачкі лісця, ды само сонца, што адразу пасля апоўдня стала імкліва хіліцца долу, спяшаючыся схавацца за небакраем далёка ад таго месца, дзе звычайна хаваецца ўлетку.

Яны сядзелі на драўлянай лаўцы, укапанай у бераг ракі за пару дзя-

сяткаў крокаў ад Бронюсевай хаты. На падворку паказалася Вера з сынам на руках. Славік нечага капрызіў.

– Слухай, а нічога, што мы тут з табой сядзім паўдня?

Бронюсь здзіўлена паглядзеў на Яніну.

– Мне здавалася, табе цікава.

– Мне праўда цікава, але Вера там адна...

– Хутка ж ты перамяніла стаўленне да маёй жонкі.

Былы сябра зноўку пацвельваў яе. Гэтым разам кпіў за тую дурную сцэну, амаль істэрыку, якую яна ўчыніла яму надоечы на Зялёным мосце. Але "падшпільваў" ён незласліва, нібы жартуючы. І раптам сур'ёзна дадаў:

– Яна амаль заўсёды адна, Яна. Калі я тут бываю?..

– Тады тым больш, Тарасе!

– І гэта гаворыш мне ты? – паспрабаваў аджартавацца Бронюсь, але тут жа асекся, зразумеўшы, што дазволіў сабе недаравальную нетактоўнасць.

Некалькі хвілін мінула ў маўчанні. Яна засяроджана сачыла за сцішанай рачной плынню. Ён – нервова перабіраў пальцамі стос аркушаў у сябе на каленях. Немату перарваў нечакана хрыплы Бронюсеў голас:

– Скажы, што з намі сталася? З-за чаго?.. Няўжо з-за таго злашчаснага артыкула ў «Беларускім звоне»?

Што тут адкажаш? Хіба яна ведала? Яніна шукала адказ на гэтае пытанне ўвесь учарашні вечар, пакуль разам з гасціннымі гаспадарамі сядзела за сталом ва ўтульным пакоі прасторнай радашкавіцкай хаты. І не знаходзіла. Ёй было сорамна перад гожай добразычлівай Верай за свае таемныя думкі, за нядаўнія словы. Але словаў тых не вернеш і думак уласных не зацугляеш. Іх можна стрымаць на кароткую хвілю, ды неўзабаве яны вырываюцца з палону і лятуць далей па сваіх непрадказальных шляхах. Справа, вядома, была не ў Тарасавай публікацыі пра дзядзьку Адама. Артыкул той стаўся проста зачэпкай. Запалам, які выклікаў непазбежны выбух. Непазбежны, бо па-ранейшаму ў іх ужо нічога быць не магло. Паміж імі пралеглі гады рэвалюцыі і войнаў. Гады, калі знікла адна імперыя, а на яе месцы пачала набіраць моц новая – яшчэ больш змрочная. Тарас за гэтыя гады хіба толькі крыху пасталеў з выгляду, а вось Яніна змянілася моцна. Яна ўжо нічым не нагадвала колішнюю паненку – выхаванку віленскай Марыінкі[1]. Ні знешне, ні характарам.

А пачыналася ў іх усё вельмі рамантычна.

Спатканні насупраць вучэльні, доўгія прагулкі па старым горадзе і размовы, размовы, размовы. Штопраўда, яна больш маўчала, слухала. Гаварыў Тарас. А расказваць ён умеў. Легенды пра князёў-волатаў і князёў-здраднікаў, пра закаханых рыцараў і паннаў, пра зачараваныя скарбы. Найбольш яе ўразіла расказаная сябрам гісторыя пра замураваную ў сцяну кляштара дзяўчыну. Сцяна тая ўвесь час разбуралася, давесці яе да ладу ніяк не маглі, і будаўнікі, каб залагодзіць злых духаў, дамовіліся замураваць туды першага, хто прыйдзе да іх. Прыйшла дачка аднаго з муляраў...

А яшчэ Тарас чытаў вершы. Не свае, сам ён не пісаў. Але чытаў цудоўна: Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Цётку. Мова, якую Яніна кожны раз чула на вёсцы і якую часам можна было пачуць сярод ідышу, польскай і расейскай на вулках Вільні, раскрывалася новымі гранямі. У стройнай

[1] Марыінская вышэйшая жаночая вучэльня, дзе дзяўчаты атрымлівалі сярэднюю адукацыю.

будове рытму, арганічна падкрэсленай ліштвамі рыфмаў, нараджалася то пранікнёная песня, то драматычная балада, то традыцыйнае беларускае галашэнне. Яна пытала Бронюся, чаму ён сам не спрабуе пісаць, мо ў яго атрымалася б, упрошвала напісаць хоць чатыры радкі – толькі для яе. Але той заўжды аджартоўваўся ці папраўляў сваім характэрным рухам акуляры на пераноссі і змаўкаў на некалькі хвілін. Хто мог падумаць, што праз нейкі час для яе напіша некалькі радкоў Янка Купала?

Тое было ўжо ў Пецярбургу, дзе яна вучылася ў жаночым медычным інстытуце. Яшчэ паўстагоддзя таму жанчына-доктар лічылася вялікай рэдкасцю. На паненак, якія марылі звязаць жыццё з медыцынай, глядзелі насмешліва ці са шкадобай. Самае большае, што ім магло быць наканавана, – гэта роля шпітальнай медсястры. Ды – Матка Боска! – навошта вытанчанай і далікатнай паненцы такая цяжкая праца!

Але пад напорам часу ломяцца нават тыя звычаі, што здаюцца непарушнымі. Настроі ў свецкіх салонах і ўладных кабінетах паступова мяняліся, і ўрэшце ў сталіцы імперыі адкрыўся жаночы медычны інстытут. Вядома, той-сёй яшчэ па-ранейшаму ўспрымаў жанчын-лекараў як недарэчнасць, асабліва ў правінцыі. Але агульнае меркаванне ўжо змянілася канчаткова: жанчына можа быць не горшым лекарам, чым мужчына.

Першыя гады вучобы былі шчаслівыя. Яніна ахвотна вучылася, старанна рыхтавалася да практычных заняткаў ды іспытаў. У вольны час (яго было небагата) хадзіла на сустрэчы польскіх суполак, часта ўдваіх з Бронюсем. Часам яны разам наведвалі беларускія вечарыны. Не такія шматгалосыя, як польскія, але не менш зацятыя і цікавыя. І яна зусім не пачувалася там чужой, нават гаварыла трохі па-беларуску. Вось на адной з такіх вечарынак Купала і прысвяціў ёй верш. Было тое, мусіць, ужо ў вайну.

Спярша ніхто не думаў, што гэтая вайна надоўга. Многія нават радаваліся, чакалі хуткай перамогі. Ніякай пагрозы не адчувалася, фронт пралягаў недзе вельмі далёка. Але мірнае жыццё ў час вайны хісткае. Баі з кожным тыднем набліжаліся да яе дома, і неўзабаве над мясцінамі, дзе яна расла, ужо ляцелі артылерыйскія снарады. Паехаць туды было немагчыма, і да ўсяго дадалася трывога за лёс многіх блізкіх людзей. Вучоба стала проста абавязкам, які трэба выконваць – хочацца табе гэтага ці не.

А на апошнім курсе раптам грымнула рэвалюцыя. Спачатку была надзея, што Расія стане вольнай краінай, што больш не будзе прыгнёту, палітычных турмаў... Праз паўгода стала зразумелая ўся прывіднасць гэтай надзеі, а кастрычніцкі пераварот пахаваў яе канчаткова. Яніна ненавідзела царскую імперыю, але за бальшавікамі стаяла штосьці яшчэ больш цёмнае.

Цяпер Тарас гаворыць пра прыгнёт і палітычныя турмы ў Польшчы. Польшча, якая сама зведала жудасны ўціск, велізарныя страты і пакуты, сама прыгнятае іншыя народы? Як такое можа быць? І ці можа наогул быць іначай у гэтым жорсткім і абыякавым да чужой бяды свеце?

– Чаму ты не паехаў тады са мной з Пецярбурга?

Бронюсь неўразумела паглядзеў ёй у вочы.

– Што?.. Ты ж ведаеш, я не мог.

Яніна сумна ўсміхнулася. Вядома, Тарас не мог. Яму трэба было яшчэ год давучвацца на сваёй філалогіі. А яе закруціла няўмольная паводка вайны. Сусветная бойня нібыта скончылася, але мір на землях былой імперыі так і не наступіў. Можна гаварыць, што новая вайна была барацьбой вольнага свету з бальшавікамі або бальшавікоў з уласным народам,

аднак гэта будзе толькі палова праўды. Бальшавікі таксама называлі сябе «вольным светам».

Насамрэч ваявалі там усе супраць усіх.

Гэта быў час, калі адраджалася, а потым адстойвала сваю незалежнасць Польшча, і маладое дзявочае сэрца адгукнулася на покліч Айчыны. Папрацаваўшы трохі ў гарадскіх бальніцах, яна далучылася да польскай сібірскай дывізіі, якая ваявала супраць «чырвоных» на баку Калчака. Зусім маладая, нявопытная. Адзіная жанчына сярод тысячаў жаўнераў. Было ўсяго: і добрага, і благога. Але яна вытрывала, загартавала сваю волю, характар. Кіраўніца і адначасна доктар палявога шпіталя не мае права быць распешчанай, кволай паненкай, таму што гэта не звычайная бальніца. Калі ў акопах на перадавой б'ецца пачварнае сэрца вайны, то ваенны шпіталь – яе агіднае аблічча. Пах карболкі тут перамяшаны з жудасным пахам крыві, спаражненняў і гарэлай чалавечай плоці. Хто хоча ведаць, што такое вайна, – няхай завітае сюды і паглядзіць на адарваныя рукі ды ногі, распоратыя асколкамі жываты, збрыджаныя апёкамі твары і невідушчыя вочы. У вайне няма нічога рамантычнага. Уся рамантыка заканчваецца з заціханнем удалечы бравурнага маршу падчас адпраўкі на фронт. Далей навокал цябе толькі боль і смерць.

Страшнейшым за вайну можа быць толькі бальшавіцкі палон. У дывізіі, дзе яна служыла, таксама з палоннымі не надта каб цырымоніліся, але тут... Тут ты проста не ведаеш, што будзе з табой праз гадзіну. Ейная жаноцкасць ды званне капітана выклікалі шквал здзекаў, і яна ціха спарола пагоны, каб схаваць куды далей. Пагроза трохі зменшылася, але бясконцыя непрыстойныя жарты ды пажадлівыя позіркі сведчылі, што цалкам небяспека нікуды не знікла.

Пацягнуліся поўныя прыніжэнняў месяцы ў лагеры для ваеннапалонных у Верхняўдзінску – сталіцы марыянеткавай Далёкаўсходняй рэспублікі.

Бальшавікі ўвогуле любяць ствараць на сваіх межах марыянеткавыя дзяржавы, каб пакарыстацца з іх уяўнае незалежнасці, а потым, калі неабходнасць у існаванні чарговай кішэннай рэспублікі адпадзе, – адным росчыркам уладнага пяра далучыць яе да сваёй Савецкай Расіі. Праблемаў з тым ніколі не было і не будзе, бо ў тых фальшывых дзяржавах усё вырашае Масква.

Яніна не ведала, колькі яна можа пратрымацца ў няволі. Ніводзін чалавек гэтага не ведае. У стане пастаяннага нервовага напружання злом можа адбыцца кожную хвілю. Дзякуй Богу, сярод бальшавіцкіх камандзіраў знайшоўся прыстойны чалавек. Дазнаўшыся, кім служыла ў польскай дывізіі капітан Гурыновіч, ён прызначыў яе лагерным лекарам. Тут ужо было лягчэй і больш бяспечна. А праз нейкі час яе вывезлі з няўтульнага і змрочнага Далёкага Усходу супрацоўнікі Чырвонага крыжа. Тое вяртанне на радзіму праз Японію, Індыю, Францыю і Нямеччыну нагадала ёй падарожжы Марка Пола. Можа, варта паспрабаваць напісаць пра гэта кнігу? Чаму не? Вунь Бранюсь піша, мо атрымаецца і ў яе.

Яніна не была ў Вільні шэсць гадоў. Пакідала расійскі горад, а вярнулася ў польскі. Як ваеннага доктара яе накіравалі ў віленскі вайсковы шпіталь. Але працаваць там яна не змагла, бо пасля пражытага ненавідзела ўсё, што звязана з вайной. Цяпер Польшча здабыла волю, і не дай Божа дзяржаве ўвязацца ў новую бойню. Халера з ёй, з гэтай вайсковай кар'ерай, абрыдла несвабода і дурное часам салдафонства. Калі чалавека вабіць навука, то чаму ён мусіць займацца чымсьці іншым?

А тут гэты непапраўны ідэаліст і рамантык Тарас са сваімі беларускімі праектамі. Даць усходнім крэсам аўтаномію? Ну добра, чаму не? Але дзе гарантыя, што потым крэсовыя беларусы не захочуць аб'яднацца з Саветамі? Мае рацыю пан Уладычка. Тыя не прапусцяць зручнага моманту, каб падбухторыць. Мабыць, дзеля гэтага і трымаюць пакуль гэтую марыянеткавую беларускую рэспубліку, не забіраюць яе наўпрост да Масквы. І што тады? Зноў вайна?! Матка Боска, ведалі б гэтыя рамантыкі, да чаго можа прывесці іхні рамантызм.

Гэта ж трэба, зрабіць з патомнага польскага шляхціца – беларускага паэта!

Яніна глядзела на свет зусім іначай, чым Бронюсь. Нават гэтую зеленаватую водную плынь дванаццаць год таму яна, напэўна, бачыла б па-іншаму. Самыя блізкія людзі, калі ім наканавана пражыць некалькі год на адлегласці ў тысячы вёрст, аддаляюцца адно ад аднаго.

– Калі ты гэта напісаў?

– Улетку, – падняў вочы Бронюсь. – Ніяк не магу прыдумаць фінал.

Альтанка, спавітая даўно пажоўклым ад начных прымаразкаў дзікім вінаградам, яшчэ памятала тое лета і клікала да сябе, а яны сядзелі на лаўцы па-над ціхай восеньскай рэчкай.

Такія блізкія і такія чужыя.

## IV.

Ці даўно Броня стала мне чужой? Я нічога не заўважаў да самага апошняга: тады мяне ўвогуле мала што цікавіла, акрамя народных песень і падпольнае працы. А можа, я быў занадта ўпэўнены ў сваёй бясхібнасці. Куды яна падзенецца, мая малая Пяткевічанка? Мы насамрэч былі амаль роднымі; калі я кагосьці кахаў у сваім жыцці, дык толькі яе. Ці кахала яна мяне? Не ведаю... Здаецца, што так. Але ў гэтым свеце, мабыць, самае гарачае пачуццё лёгка астуджаецца і чэзне ад грубасці і насмешак. Напэўна, Броня чакала ад мяне рамантычных слоў і прызнанняў, планаў на супольнае жыццё, свой дом, поўны дзіцячага смеху. А атрымлівала бязглуздыя дачэпкі ды кепікі. Сорам сказаць, але ў пазнейшых лістах да Ружы я не дазваляў сабе й паловы таго, што дазваляў тут. Што гэта? Несусветнае глупства? Дурная беспадстаўная рэўнасць?

«Хто каго любіць, той таго й чубіць», – кажуць у народзе.

Спрэчна, вядома.

Калі ты віншуеш дзяўчыну са святам і фанабэрыста дадаеш, маўляў, вымушаны скласці вам віншаванні – дык на якія адносіны з яе боку можна разлічваць? Калі ўсе гэтыя святы, на тваю думку, ёсць непатрэбным перажыткам мяшчанства, дык тады не віншуй зусім...

Той ліпеньскі ліст, атрыманы два гады таму, стаўся для мяне грымотамі сярод яснага неба. Браніслава пісала, што выязджае ў нейкі маёнтак блізу Вількаміра... Салькаў ці што... А ўжо праз пару тыдняў адбудзецца шлюб...

То быў удар. Пана-студэнта Тэхналагічнага інстытута скінулі з вышыні, на якую ён сам сябе паставіў. Спачатку я не паверыў – мала што можа напісаць малое неразумнае дзяўчо. Потым разззлаваўся і накрэмзаў у адказ жорсткі гняўлівы ліст, абвінавачваючы сваю (сваю?!) Пяткевічанку ў хлуслівасці і здрадзе. Добра, што хапіла розуму не адпраўляць, бо неўзабаве прыйшло асэнсаванне. Усведамленне таго, што ніякай хлусні і ніякай

здрады не было. Броня нічога мне не абяцала, мы не былі заручаныя, з майго боку ніколі не прагучала нават намёку на магчымую жаніцьбу. То чаго я хацеў? Нас можна было назваць блізкімі прыяцелямі, ды і тое пад пытаннем, бо што гэта за блізкае сяброўства, калі адзін глядзіць на другога звысоку.

Але менавіта тымі душнымі ліпеньскімі начамі я ўпершыню адчуў, як гэта, калі баліць сэрца. Апошнім часам у бастыёне гэты боль азваўся зноў.

Прагулка тут доўжыцца паўгадзіны. Я хаджу вакол турэмнай лазні пад пільнымі позіркамі стражнікаў. Уверсе вісіць сувора аточанае непрыступнымі мурамі вязніцы шэрае неба. Неба тут амаль заўсёды шэрае, рэдка бывае чыстым, але яно – свабоднае. Яго няможна падначаліць, падпарадкаваць або забараніць. Гляджу на ахоўнікаў, якія прыхінуліся да сцяны, і мне раптам становіцца смешна. Я разумею, што яны зусім не бачаць гэтага неба. Яны не бачаць нічога, акрамя таго, што ім загадана бачыць! Ні мурашкі, якая паўзе па зямлі да вядомай ёй адной мэты, упарта адольваючы перашкоды. Ні травы, якая штовесну настойліва прабіваецца праз цвёрды скамянелы грунт.

Куранты на саборы б'юць сваю абрыдлую мелодыю, тут іх чуваць добра. Значыць, час шпацыру выйшаў, і трэба вяртацца ў камеру, зноўку пераапранацца ў ненавісную арыштанцкую вопратку.

Дзе цяпер Броня? Па-ранейшаму ў тым Салькаве? Як жывецца ёй у нешчаслівым шлюбе? Зрэшты, з чаго я ўзяў, што ейны шлюб нешчаслівы? Прыдумляю сабе немаведама што...

Кажуць, хлопцы часта выбіраюць дзяўчат па імені. Хтосьці больш любіць Ганулек, камусьці даспадобы Аленкі... Але каб нехта выбіраў сабе дзеўку па прозвішчы! Мая Стася – таксама Пяткевічанка. Я ўпарта пераконваў сябе, што маю да яе пачуцці, часам нават сам верыў у гэта. Хоць лучыла нас толькі агульная справа: жаданне працаваць на карысць простага рабочага люду, дзеля яго прасветы і шчасця. Ды... Са Стасяй я хоць на нейкі час забываўся пра Браніславу.

Іду па турэмным калідоры, і мяне вядзе набок, я прыхінаюся да сцяны. Гэтак ужо было заўчора. У вачах разліваецца бэзавая смуга, кожны крок адгукаецца болем увушшу. Ледзьве дацягваюся да камеры і валюся на лямцавую посцілку. Чую, як шалёна тахкае ў грудзях сэрца. Паступова яно суцішваецца. Што гэта са мной? Нешта такое было ў пачатку маёй першай зімы ў Пецярбургу, калі я захварэў на тыфус. Але ж на тыфус двойчы не хварэюць.

Восень перад той зімой была цяжкай. Пачыналася ўсё вельмі добра: амаль усе экзамены я здаў на «выдатна» (уяўляю сабе твар дзядзькі Абдона, калі ён прачытаў пра тое ў лісце). Перад шчаслівым студэнтам-тэхнолагам адкрываліся новыя далягляды. Навокал віраваў вялікі горад, хай сабе фанабэрысты, халодны і тлумны, аднак па-свойму прыгожы. Меўся даволі ўтульны пакойчык з крэсламі, столікам і кветкамі на абодвух вокнах. Праўда, каб яго знайсці, давялося цэлы дзень, высалапіўшы язык, у жнівеньскую гарачыню караскацца па незлічоных лесвіцах. Але ж знялі ўсё-такі добрую кватэру, і па прыстойным кошце. Не танна, вядома, але і не занадта дорага. А яшчэ – побач былі старыя віленскія сябры.

Першыя дні я з заміраннем сэрца заходзіў у будынак Тэхналагічнага інстытута на рагу Забалканскага і Загараднага праспектаў. Дзівіў строгі абрыс велічэзнай трохпавярховай будыніны, у якой няма нават параднага

ўваходу: патрапіць усярэдзіну льга толькі праз вузкія дзверы з левага боку фасада, нібы праз якую шчыліну. А за тымі дзвярыма схаваная, мабыць, не адна вярста скляпеністых калідораў і пераходаў, дзясяткі прасторных аўдыторыяў і залаў з масіўнымі драўлянымі крэсламі, на спінках якіх выразана эмблема інстытута. І паўсюль студэнты ў аднолькавай шэра-зялёнай уніформе з меднымі гузікамі на куртках.

Душа спявала ад таго, што я цяпер далучаны да гэтага свету, што я ёсць яго часткай і праз некалькі гадоў выйду адсюль зусім самастойным інжынерам-тэхнолагам. Але радасць ад паступлення была нядоўгай. Неўзабаве пачаліся шэрыя будні навучэнца-сіраты з увесьчаснай эканоміяй і нястачай.

Грошай не ставала катастрафічна.

Найперш неабходна было аддаць паўсотні рублёў за навучанне. А да таго ж выявілася, што трэба тэрмінова набыць поўны камплект той самай шэра-зялёнай уніформы. Менавіта поўны камплект, бо да таго, што зазвычай носяць студэнты ў аўдыторыях, дадаецца яшчэ зімовы шынель і два рабочыя касцюмы. І ўсе гэтыя рэчы каштуюць грошай, якія таксама мусіш заплаціць як мага хутчэй, інакай табе не выдадуць студэнцкі білет. А тое, што ў цябе ў кішэні пасля аплаты кватэры вось-вось засвішча вецер, ну то што ж – пішы дадому, няхай вышлюць яшчэ рублёў пяцьдзясят.

І пісаў, і прасіў. І ашчаджаў на ўсім, на чым толькі мог.

Ежа тут дарагая, таму купляў адно хлеб ды гарбату. Суседзі-прыяцелі часта прапаноўвалі мне масла ці сыр, але браць што-колечы ад іх, не даючы нічога ўзамен, было няёмка. А ў золкую непагадзь пецярбургскай восені мяне напаткала новае выпрабаванне: я застаўся без абутку. Куплёныя ў Вільні камашы разлезліся ад першай слаты. Давялося сшываць іх ніткамі, каб хоць трохі трымаліся на назе, але ад мокрадзі тое не ратавала. Вада адразу працякала-прасочвалася праз мае саматужныя швы і агідна хлюпала пад ступакамі. Кажуць: трымай ногі ў цеплыні, а тут... Яшчэ крыху, і злашчасныя камашы пагражалі сапсавацца зусім, так, што неўзабаве не засталося б там чаго і рапараваць. Грошай на новыя ў мяне не было. Добрыя камашы каштуюць тут рублёў сем. Вядома, ёсць і таннейшыя, але хто паручыцца, што яны не распаўзуцца гэтак жа хутка, як віленскія? Да таго ж надыходзілі халады, і немінуча трэба было купляць боты.

Зноў пісаў дадому, зноў прасіў...

Грошы на абутак мне прыслалі, але разам з тым я добра атрымаў на арэхі ад дзядзькі з цёткай, нібыта я нейкі мантач. Гэта было невыносна крыўдна. Хіба я шыкаваў? Хіба не разумеў, як цяжка матулі адной? Што грошы патрэбныя не толькі мне, але і маім братам ды сёстрам? З мяне зрабілі закончанага эгаіста-марнатраўцу, але як мне было жыць галоднаму ды босаму ў чужым горадзе?

Вучыцца ў такіх варунках было няпроста: думкі пастаянна саслізгвалі на іншае. Але я стараўся. Па вечарах пад неўразумелымі позіркамі сяброў упарта рыхтаваўся да семінараў, атрымліваў ад выкладчыкаў добрыя і выдатныя адзнакі. І калі напачатку зімы адчуў сябе блага, падумаў, што проста пepaтаміўся. Сон чамусь перастаў вяртаць сілы, раніцай я прачынаўся такім жа стомленым, якім быў вечарам. Праз пару дзён да страшэннай млявасці дадалася дрыготка. У вялікае люстэрка насупраць ложка на мяне глядзеў зусім іншы чалавек: з цёмнымі ямінамі пад вачыма, запалымі шчокамі, завостраным носам і крыху жаўтаватай скурай на ненатуральна бледным твары.

А далей я мала што памятаю.

Кароткія ўспышкі свядомасці захавалі схіленыя нада мной твары, нейкую цьмяную карэту, цоканне конскіх падковаў аб брук і столь вялікай хаты. Нібыта сялянскай, але зусім пустой, у якой няма ані печы, ані ўнутраных перагародак. Адно столь. Але чамусь надта высокая, ды яшчэ з падвешанай на ёй сляпучай лямпай. Часам чуліся нечыя галасы, няясныя незразумелыя гукі і пахі, а потым памяць зноў правальвалася некуды глыбока ў цемру, адкуль не відаць і не чуць нічога.

Пазней мне сказалі, што я два тыдні ляжаў на мяжы жыцця і смерці. Калі хвароба адступіла і збольшага вярнулася прытомнасць, стала зразумела, што мяне прывезлі ў лякарню. Тое, што ў трызненні падалося дзіўнай сялянскай хатай, на яве аказалася даўжэзным баракам. Усю прастору будыніны займаў адзін доўгі пакой, без ніякіх перагародак, таму мне і бачылася толькі столь. У памяшканні было холадна. Хоць каля ўваходных дзвярэй стаялі ажно дзве высокія круглыя печы, абабітыя бляхай, але палілі іх нямоцна, так, каб нельга было змерзнуць. Спярша я думаў: шкадуюць дроваў, а потым дазнаўся, што ў холадзе тыфус пераносіцца лягчэй, і ў хворага болей шанцаў акрыяць. Натуральна, я быў тут не адзін. Уздоўж сценаў з высокімі вузкімі вокнамі стаялі два шэрагі ложкаў, на кожным з якіх пад цёмнай коўдрай пазнаваўся спакутаваны, высмактаны страшнай хваробай чалавек. Хтосьці ляжаў ціха, хтосьці кідаўся ў ліхаманцы. Юнаку насупраць мяне, відаць, было зусім цяжка, ля яго ўвесь час завіхалася медсястра. Зусім маладая, танклявая, яна здавалася такой безабароннай перад бязлітаснай пошасцю. Глядзеў на яе і думаў: мабыць, калі я ляжаў у бяспамяцтве, гэтаксама яна схілялася і нада мной.

Паступова сталі вяртацца сілы, і недзе пасля Трох Каралёў[1] я першы раз выйшаў у двор. Памятаю, мяне хіснула. Ці то ад свежага паветра, ці то ад пабачанага. Паабапал нядаўна пракладзеных і абсаджаных дрэўцамі дарожак раўнюткімі шэрагамі стаялі два дзясяткі такіх жа самых баракаў, а непадалёк месцілася капліца, дзе выпраўлялі ў апошнюю дарогу тых, каму не пашэнціла выйсці адсюль жывымі.

Мне пашэнціла.

Ударылі званы на Аляксандра-Неўскай лаўры побач з барачнай лякарняй. І лякарня тая таксама называецца Аляксандраўскай. Зноў Аляксандраўская! Як жа інакш у гэтай дзяржаве, дзе за адно стагоддзе тры імператары – Аляксандры? Але простыя людзі завуць тую бальніцу «боткінскімі баракамі», бо заснаваў яе Сяргей Боткін – знакаміты вучоны доктар. Мабыць, яму я і абавязаны тым, што жыву дагэтуль.

Выпісалі мяне з лякарні ў канцы студзеня, пратрымаўшы паўтара месяца. Зразумела, пра вяртанне ў інстытут не магло ўжо быць і гаворкі, давялося падаваць прашэнне аб звальненні і прасіць пра новае залічэнне на першы курс пасля летніх вакацый. Адказ я атрымаў не адразу, але ў выніку дырэкцыя пагадзілася пакінуць студэнта Гурыновіча ў інстытуце. Увосень я зноў мусіў прыступіць да заняткаў, ужо без уступных іспытаў.

Можна было ехаць дадому набірацца сіл.

Гляджу ў амаль цёмнае неба за закратаваным акном і думаю: якое ж яно ўсё-такі рознае, гэтае неба. Там, на радзіме, у Вільні, у Крыстынопалі,

---

[1] Тры Каралі – народная назва каталіцкага свята, прысвечанага адведзінам нованароджанага Хрыста трыма мудрацамі. Святкуецца 6 студзеня.

яно зусім іншае, чым тут, у Пецярбургу. Чаму я гэтага не заўважаў раней? А можа, мне тое толькі здаецца, і нябёсы паўсюль аднолькавыя?

Учора не пісаў нічога. Думаў верш пра гэтую д'ябальскую цішыню, пра глухую адзіноту і фальшывую ад холаду мелодыю курантаў, якая бесцырымонна і нахабна трапляе ў прачыненую фортку, нібы твар наглядчыка... Чаму я не зачыняю акно ў халадэчу? Таму што сталі паліць у печах, і некалькі гадзін на дзень у маім «нумары» стаіць страшэннае пекла і задуха. Скардзіўся, прасіў не паліць так моцна – сапраўды сталі цяпліць слабей, але ўсё роўна пры шчыльна зачыненай фортцы няма як дыхаць.

Верш не складаўся. Вобразы барукаліся з рыфмамі і ніяк не маглі прыйсці да згоды, ламаўся рытм. Пры адсутнасці натхнення нахлынулі думы. Я глядзеў, як згасае па той бок кратаў нягеглы восеньскі дзень, і ўспамінаў сваё лета пасля шпіталя. Ужо ссутонела, сцямнела, а я сядзеў у цемрыве, не запальваючы газоўку. Навошта яна мне была? Для ўспамінаў святло не патрэбнае. Колькі часу так мінула, не ведаю. Куранты за мурамі бастыёна чарговы раз завялі свой вернападданніцкі перазвон, калі дзверы з нязвыклым грукатам расчыніліся, і ў камеру літаральна ўбег наглядчык. Твар ягоны ў ценю ад бляклага святла з калідора разгледзець было немагчыма, але мне ён падаўся спалоханым. Мабыць, яшчэ і таму, што служака раптам забыўся на забарону размаўляць з вязнямі і нервова выгукнуў у мой бок:

– Чаму не паліце агню?!

– А што? Думалі, я памёр?

Чамусьці мне стала надта весела. Вочы наглядчыка яшчэ не прызвычаіліся да цемры, і ён не мог мяне бачыць. Я ж добра бачыў яго постаць у светлым праёме дзвярэй, і ў мяне ўзнікла шалёная думка: неспадзеўкі кінуцца на турэмшчыка, паваліць на падлогу і ўцякаць. Але ўсё гэта, вядома, было дурноццем. Часам адчайныя авантуры канчаюцца поспехам, ды толькі не ў гэтым выпадку. Нават калі б мне, змарнеламу і кволаму, удалося адужаць гэтага плячыстага стражніка, дакуль я мог уцячы? Паміж дзвярыма маёй камеры і воляй – яшчэ не адны краты і дзверы з моцнымі засаўкамі і замкамі. Дый хіба там, за ўсімі гэтымі мурамі і кратамі, – воля? Калі ўся краіна – турма, і няма каму тую турму разбіць, зламаць.

Пераканаўшыся, што я не ўцёк, што са мной наогул нічога не сталася, стражнік паспакайнеў, зноўку нібы набраў у рот вады і прыняў паважны выгляд. Ён прасачыў, пакуль я запалю газоўку, акінуў пільным вокам усе закуткі маёй вязніцы і з годнасцю выйшаў, замкнуўшы за сабой дзверы. Парадак у адной асобна ўзятай камеры бастыёна быў паспяхова адноўлены.

А тое маё лета надарылася сапраўды шчаслівым.

За вясну я зусім акрыяў, да Сёмухі ад хваробы не засталося і знаку. Інстытут чакаў мяне ўвосень без ніякіх дадатковых іспытаў – рыхтавацца не трэба было, а значыць, можна займацца ўлюбёнымі справамі. Чытаць, спрабаваць пісаць што-кольвек сваё. Не для друку, вядома, а так, для сябе. Неяк сярод бацькавых кніг мне трапіўся том «Запісак рускага геаграфічнага таварыства». Разгарнуў яго наўздагад, і ў грудзях перахапіла дыханне. У кніжцы былі надрукаваныя народныя песні на мове нашых сялянаў. На нашай мове. Я чытаў яе ўвесь дзень, вяртаючыся да асобных песень зноў і зноў, уяўляючы напевы і чыстыя дзявочыя галасы, якія гэтыя напевы выводзяць. Часцей за ўсё сумныя, журботныя, а часам гарэзлівыя ды вясёлыя. Сабралі тыя спевы пад кніжную вокладку Павел Шэйн ды Іван Насовіч, славуты аўтар таўшчэзнага беларускага слоўніка.

І гэта сапраўдны скарб!

Матка Боска, думалася мне, а ў нашых вішнеўскіх ваколіцах песні ніколькі не горшыя, проста ніхто не даўмеўся іх запісаць. Ёсць падобныя ды тых, што ў «Запісках», а ёсць і зусім не падобныя. Ці спяваюць іх яшчэ дзесьці, акрамя прывялейскага краю? Вось жа з раніцы наша пакаёўка Кася з суседніх Золькаў ціха напявала нешта такое шчымлівае і жаласнае, што, нават не чуючы слоў, хацелася слухаць і слухаць. Чаму не падышоў, не папрасіў праспяваць на поўны голас? Пасаромеўся? Ці мо пагрэбаваў, як многія вяльможныя паны?

Зараз жа пабег да яе і запатрабаваў, каб прапяяла мне тую песню, што спявала сама сабе ўранні. Маўляў, такая харошая песня, я яе запішу, надрукую ў кніжцы... Спачатку дзеўка не ўцяміла, пра што я наогул кажу, а потым перапалохалася: «Не, не... Што пан такое ўдумаў... Мужыцкія спевы – ды ў ксёнжку, гэта ж людзі засмяюць... Дый не памятаю тую песню зусім, і няма ў ёй нічога вартага панскай увагі». Як я ні ўгаворваў, што ні рабіў, і «Запіскі» тыя паказваў: «Паглянь, – кажу, – колькі тут песенек мужыцкіх надрукавана, а твая ж у сто разоў прыгажэйшая», – усё марна. Кася і слухаць нічога не хацела. Давялося мне ісці на хітрыкі: назаўтра зноў падышоў да яе і папрасіў праспяваць проста для мяне. Прысягнуў на святым крыжы, што не буду нічога запісваць і друкаваць, сказаў, нібыта перадумаў, бо гэта сапраўды глупства, але песня так мне спадабалася, што вельмі хочацца яе пачуць ад пачатку і да канца. Не адразу, але Кася пагадзілася. Дзяўчына спявала для мяне расчырванелая, а я слухаў, імкнучыся запомніць кожнае слова, каб потым запісаць у сваім пакоі, і думаў: якая яна прыгожая. У тую хвілю было мне вельмі сорамна за свой падман. Спадзяюся, Пан Бог даруе мой гэты грэх, яно ж было дзеля добрае справы.

Каліна-маліна, чаго ў лузе звяла?
Ці ветру баішся, ці дажджу жадаеш?
– Вятроў не баюся, дажджоў не жадаю,
На тваю дзяўчыну вялікі жаль маю.
Вялікі жаль маю: калінку ламала;
Калінку ламала – лісток пацярала,
А ў роўненькім полі царкоўка стаяла,
Там жа дзяўчына з нялюбым шлюб брала...

З тае першае песні пачалася мая праца. Я хадзіў на сялянскія палеткі і вясковыя вечарынкі. Напачатку моладзь на тых вечарынках старанілася мяне: што робіць паніч сярод мужыкоў? А потым прызвычаіліся, лічылі амаль за свайго. Навучаны горкім досведам з Кацярынай, я стараўся не падаваць выгляду, што цікаўлюся песнямі, запісваў іх таемна. Калі хто пытаўся, што там такое пан запісвае ў сшытачак, – аджартоўваўся. Але былі сярод сялян і такія, хто хутка здагадваліся пра маю задуму і, тым не менш, ахвотна спявалі для мяне, каб я, не хаваючыся, мог спакойна занатаваць кожнае слова. Такім быў Аляксандр Шляпа. Проста на ўласным падворку ён прапяяў мне безліч цікавых прыпевак. Ставала там і горкага, і смешнага, і нават... не надта прыстойнага. Гэты ўсмешлівы, гуллівы мацак з густой саламянай чупрынай і гарэзлівым, але ў той жа час праніклівым позіркам адкрытых сініх вачэй нават пытаўся ў мяне: а ці можна, каб у ксёнжцы адціснулі, маўляў, так і так, прыпеўкі гэтыя запісаныя ад вольнага чалавека з сяла Дзям’янавічы Ляксандра Шляпы...

Я запісваў народныя спевы цягам кожных вакацый, прыязджаючы з Пецярбурга, і выхадзіў ці не ўсе ваколічныя сцежкі-дарожкі. Шмат разоў бываў у самім Вішневе. У тамтэйшым маёнтку раней жыў пан Карловіч, вучоны чалавек, які вельмі прыхільна ставіцца да народнага слова. Там я і пазнаёміўся з ягоным сябрам – адзіным на ўсю Беларусь сапраўдным беларускім паэтам Францішкам Багушэвічам. Ён, як я зразумеў, юрыст і прыехаў у Вішнева, каб упарадкаваць нейкія справы, здаецца, падрыхтаваць маёнтак да продажу, бо гаспадары даўно ўжо жывуць за мяжой. Пан Багушэвіч зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Моцны, каржакаваты, з чорнай, месцамі падсветленай сівізной барадой, ён нагадваў заможнага працавітага гаспадара з якой-небудзь недалёкай вёскі, але ў глыбіні вачэй ягоных пад высокім, пасечаным шматлікімі зморшчынамі лбом хаваліся самота, боль і стома. Так бывае толькі ў паэтаў і паўстанцаў, якія так і не дачакаліся ўвасаблення сваіх мараў. Пан Багушэвіч падахвоціў мяне ў маёй працы, параіў збіраць не толькі народныя спевы, але і паказкі, загадкі. З таго часу я браў з сабой нататнік паўсюль, нават выпраўляючыся на паляванне ці пакатацца на чоўне па возеры. Ніколі не ведаеш, калі табе трапіцца пачуць цікавае выслоўе ці прымаўку.

Пачутае я пераносіў на паперу менавіта так, як яно гучыць: не *głowa* або *голова*, але *галава*. Усё рабіў паводле інструкцый, надрукаваных у кракаўскай «Вісле». Начамі перапісваў гэтыя інструкцыі і перадаваў добрым знаёмым, каб яны таксама далучаліся да збору народнай творчасці. Усё сабранае адсылаў Яну Карловічу ў Варшаву. Пан Карловіч абяцаў, што мае матэрыялы будуць выдадзеныя цалкам, за выняткам толькі непрыстойных песенек. Уяўляю сабе няшчасны твар майго жартаўлівага гаваруна Шляпы, калі б той дазнаўся пра гэткі вердыкт шаноўнага рэдактара. У апошнім лісце пан Ян напісаў, што справа зрушылася, і ў кракаўскіх «Зборах паведамленняў аб айчыннай антрапалогіі» рыхтуюць да друку мой зборнік беларускіх рэчаў. Але ці выйшаў ён – хто ведае... Вельмі хачу, каб у назве захавалася слова «беларускі». Каб не памянялі на «крэсовы» або «народны». Я казаў Карловічу, што гэта прынцыпова для мяне, але ці прыняў той маё пажаданне да ведама і ці перадаў яго ў Кракаў? А калі перадаў, дык ці прыняў яго пад увагу кракаўскі рэдактар, які займаецца выпускам тых «Збораў»?

Чым даўжэй я збіраў па навакольных вёсках песні і выслоўі, тым бліжэйшым мне станавілася жыццё простага люду, ягоныя думкі, клопаты. І тым выразней я разумеў, што аднаго збірання народнай творчасці мала.

На маёй зямлі паралельна існуюць два розныя сусветы. Такога не мусіць быць, але так ёсць. У кожнага з гэтых сусветаў свой лад, свае прымхі, нават свая мова. Яны абыякавыя, а часам і варожыя адзін аднаму. У меншым з іх жыве прывілеяванае саслоўе, чынавенства, камерсанты і багацейшае мяшчанства, якія маюць усё: выгоднае жытло, добрую ежу, магчымасць вучыць сваіх дзяцей, цешыцца літаратурай ды музыкай. У большым – гаруюць тыя, хто не мае нічога, акрамя працы з цямна да цямна ды беднай хаціны пад саламянай страхой. Пра гэтыя два сусветы я і сам ніколі не думаў, пакуль мне не адкрыў на іх вочы аповед пані Ажэшкавай «Малюнак з галодных гадоў».

*«Паслухайце, стройныя паны і пані, раскажу я вам кароткую повесць. З бліщучых вышак вашых ці глянулі калі-кольвек на дол, нізка, у глыбіну гэных слаёў обшчэства, каторыя цёмныя, нэндзныя, з стройных абдзёртыя, цяжка*

*працуюць? Ці відзелі, якія цярпення нуртуюць на гэных днах глыбокіх, якія мукі раздзіраюць грудзі гэтай смутнай для нас вайны людзей жывых?..»*

Бываюць у літаратуры творы, што пераварочваюць душу. Гэты кароткі і знешне просценькі аповед – якраз той выпадак. Гісторыя пра каханне простых і працавітых людзей, якія гінуць ад голаду, бо вышэйшы свет бляску і багацця не заўважае іхняй страшнай бяды. Пан і пані з суседняга маёнтка, здаецца, неблагія гаспадары: не лаюцца, не б'юцца, культурныя. Але гора чалавечага па-за сценамі свайго палацыка яны не прыкмячаюць. Адзінае, на што іх стае, – расказаць пра заўчасную смерць хлопца і дзяўчыны сваім выкшталцоным гасцям, павохкаць хвіліну-другую і тут жа забыцца пра няшчасных закаханых. Нібыта бяду гэтую няможна было прадухіліць. Бог даў – Бог забраў.

Я і раней бачыў пустэчу і фальш свецкіх салонаў, але цяпер яны мне сталі проста агіднымі. Не магу там бываць, не магу глядзець на гэтых спешчаных лялькападобных паняў ды паненак, на расфранчаных фанабэрыстых паноў, якія сыплюць направа і налева кампліменты або з выглядам вялікіх знаўцаў разважаюць пра малазнаёмыя ім рэчы. Аб чым гавораць гэтыя людзі, пра што думаюць? Які ў іх клопат, акрамя таго, каб знайсці сабе чарговую забаўку ды весела правесці час?

Каб два супрацьлеглыя сусветы нашага грамадства спачатку зблізіліся, а потым зліліся ў адзін праўдзівы нацыянальны сусвет, недастаткова перакласці на народную мову апавяданне пані Ажэшкавай. Мала перакладаць на гэтую мову чужыя вершы ды спрабаваць пісаць на ёй свае. Мала апісваць цяжкую працу на заводах і фабрыках, рэзкія гудкі якіх палохаюць нават звыклых да ўсяго гарадскіх птушак. Мала збіраць народныя спевы. Усё пералічанае важна, але гэтага недастаткова. Трэба працаваць над народнай асветай, каб просты чалавек ведаў, хто ён ёсць у гэтым свеце. Што ён нічым не горшы за пана, а пан нічым не лепшы за яго; што ўсе людзі роўныя ад нараджэння і мусяць мець аднолькавыя правы. Толькі на такім падмурку можа існаваць моцная і справядлівая дзяржава – без прыгнёту і чыноўніцкай сваволі.

Балазе, я быў не адзіны, хто так думаў.

Разам са мной у інстытут ехалі старыя гімназічныя сябры Казік і Юзік. Дый я сам ужо не быў тым сарамлівым старанным першакурснікам, які годам раней упершыню пабачыў Пецярбург. Кажуць, сапраўдныя студэнты цягам года ў кніжкі нават не зазіраюць, а пасля чарговых іспытаў выглядаюць нібыта знятыя з крыжа. Гэта недалёка ад праўды. Мяне заўсёдныя перадэкзаменацыйныя ўсяночныя таксама не абмінулі, аднак не сказаць, што я зусім не заглядаў у кнігі. Заглядаў, і часта, але пераважна не ў тыя, якія вымагала інстытуцкая навука.

Мяне цікавілі паравозы. Гэта сапраўдны трыумф чалавечай думкі – магутная машына, здольная хутка і без вялікіх выдаткаў перавозіць на далёкія адлегласці сціжмы людзей і тавараў. Я марыў зрабіць паравозы яшчэ больш хуткімі, меў на гэты конт некалькі ідэй. Некаторыя з іх давялося адкінуць з-за непрыдатнасці: яны аказаліся добрымі адно ў тэорыі, але адна ідэя выявілася цалкам рэальнай, і мне ўдалося даволі далёка сягнуць у яе распрацоўцы. Сёлета я ўжо стаяў на парозе адкрыцця, толькі ўсе запісы, разлікі, накіды чарцяжоў засталіся ў той скрынцы, якую я наказаў брату забраць у буфетчыцы Арцымовіч. Папярэдзіць, каб ён захаваў паперы пра маё вынаходніцтва, у кароткае турэмнае спатканне неяк не прыйшло ў

галаву, і Ян, мабыць, даўно спаліў змесціва той скрынкі. Шкада, вядома, але нічога – усё можна будзе аднавіць.

Абы толькі выйсці адсюль.

Аднак часцей за ўсё я трымаў у руках не кнігі пра паравыя машыны, клапаны ды кулісы, не даведнікі пра металы і сплавы, а літаратуру, чытаць якую ў гэтай краіне няможна. Бо яна выкрывае бязлітасную эксплуатацыю чалавека чалавекам і асуджае дзяржаўны лад, што грунтуецца на завуаляваным рабстве. З многімі рэчамі, выкладзенымі ў гэтых кнігах, нельга не пагадзіцца, і мне хацелася, каб іх праўдзівую навуку спазнаў просты люд. То была б сапраўдная народная асвета маіх мрояў. Навука, якая б падняла велізарную частку нашага грамадства з багны забітасці і невуцтва. Ведаю, многім старым панам тое будзе не даспадобы, але кожны чалавек мусіць усведамляць, што ён – чалавек, а не быдла. І жыць згодна з гэтым усведамленнем.

Неўзабаве да нашай непадзельнай віленскай тройцы далучыліся іншыя аднадумцы: Макс Кіліянскі, Ігнась Непакайніцкі, Антось Міхальскі, Бронюсь Урбановіч... З цягам часу нас стала вельмі шмат, і неяк сама сабою ўтварылася нефармальная зямляцкая суполка моладзі, якая хацела лепшай долі для простага люду сваёй зямлі і гатовая была працаваць дзеля гэтага. Калі я быў на трэцім курсе, наша суполка канчаткова набыла рысы патаемнай арганізацыі: са сваёй структурай, праграмай, статутам. Над назвай доўга не думалі, вырашылі, каб было проста: “Гурток моладзі польскай, літоўскай і беларускай”. Мы меркавалі, што прытрымліваемся канспірацыі, але наіўна разлічваць, што сярод сяброў суполкі, куды можа лёгка ўвайсці кожны студэнт інстытута, і без паручальніцтва, якое патрабуецца для людзей звонку, не знойдзецца ніводнага агента паліцыі. Відаць, за намі сачылі амаль ад самага пачатку.

Ці былі мы рэвалюцыянерамі? Гэта трохі смешна... Якія рэвалюцыянеры са студэнтаў, што проста спрабавалі распаўсюджваць сярод працоўнага люду іншую праўду – не тую замшэлую, прапахлую цвіллю казёншчыны самаўладную традыцыю, якую так адстойвае чынавенства ўсіх рангаў, а жывую праўду, запатрабаваную новым часам. Мы не назапашвалі зброю, не рыхтавалі (крый Божа!) ніякіх тэрактаў. Мы не збіраліся ўзнімаць паўстанне і кагосьці зрынаць. Мы проста хацелі вучыць людзей думаць і разважаць. І патрабаваць справядлівасці. Ды ў гэтай дзяржаве вальнадумства заўсёды было страшным злачынствам.

Калі паміж вальнадумствам і рэвалюцыяй паставіць знак роўнасці – так, мы рэвалюцыянеры. Але папраўдзе менавіта забарона свабоднай думкі спараджае рэвалюцыю, сілкуе ў глыбокім падзем’і яе зародак. Чалавек робіцца рэвалюцыянерам, толькі не маючы шанцаў дамагчыся справядлівасці іншым шляхам. І калі такіх людзей набіраецца вялікая маса – адбываецца выбух. Ніхто і ніштo не робіць для рэвалюцыі столькі, колькі самаўладны тыран і нахабны чыноўнік. Калі людзі становяцца рэвалюцыянерамі, у гэтым заўсёды вінаватая дзяржава. І забаронай кніг «злачыннага зместу» тут не ўратуешся, як не ўратуешся ні блакітнымі мундзірамі жандараў, ні маўклівымі турмамі, ні шыбеніцамі на гарадскіх плошчах. Бо немагчыма бясконца ўладарыць з дапамогаю бізуна. Рана ці позна бізун зломіцца, і тады гнайнік прарве.

Я ніколі не лічыў сябе нейкім жаўнерам рэвалюцыі, але жыў апошнім часам у сапраўдным логвішчы рэвалюцыянераў – у доме Цярэнція Бялугіна

на вуліцы Падольскай. То мой апошні пецярбургскі адрас. Гэты масіўны пяціпавярховы будынак стаіць на рагу Малога Царскасельскага праспекта. Каваныя парэнчы сходаў і мазаічныя падлогі на лесвічных пляцоўках памятаюць у гэтым доме жывых нарадавольцаў. Яны даволі доўга жылі і працавалі там з фальшывымі дакументамі. Казік казаў – проста ў нашай 39-й кватэры. Нават паказваў пакой, дзе ў падпольшчыкаў быў друкарскі варштат. Маўляў, стаяў на кушэтцы, а калі ім карысталіся, то абавязкова падкладалі пад ножкі кавалачкі гутаперчы, каб заглушыць грукат ад друкавання. Але адкуль гэты Акуліч можа ўсё тое ведаць? Хлус ён, далібог!

Адно вядома дакладна: у час, калі нарадавольцы жылі ў нашым доме, за замах на жыццё гасудара-імператара зусім побач павесілі васьмярых іх таварышаў.

Месца пакарання знаходзіцца літаральна за два крокі ад Падольскай вуліцы – на Сямёнаўскім пляцы каля вакзала Царскасельскай чыгункі.

Кажуць, аднаго з асуджаных – Цімафея Міхайлава – вешалі тры разы. Вяроўка двойчы рвалася пад цяжарам ягонага цела, і каты праводзілі экзекуцыю нанова. Натоўп абурана гуў: паводле няпісанага закону асуджанаму на смерць належала дараваць жыццё, калі яго не ўдавалася пакараць з першай спробы. Аднак калі справа ідзе пра бяспеку імперыі, часам бывае не да законаў. Тым больш – няпісаных.

Мы не раз хадзілі на тое месца. Там, дзе зараз вакзал, некалі стаяла старая драўляная царква, а сам Сямёнаўскі пляц з усіх бакоў аточаны вайсковымі казармамі. Цяпер на ім будуецца іпадром. Такая вось завядзёнка. Мала знішчыць свайго ворага, расстраляць ці павесіць яго, мала пахаваць яго немаведама дзе. Трэба яшчэ зладзіць на месцы страты або проста на магіле якое-небудзь поле для гульняў. Іпадром... Ці пляцоўку для крыкету...

Учора не пісаў нічога, бо мяне неспадзеўкі выклікалі на допыт. Упершыню за пяць месяцаў няволі. З чым звязаная раптоўная ўвага да маёй асобы? Проста дайшла чарга? Следчыя вырашылі, што арыштант Гурыновіч даведзены да патрэбнага стану? А можа, стражнік данёс пра маю выхадку са святлом, і начальства спалохалася, што я канчаткова з'язджаю з глуздоў?

Па праўдзе, рыхтаваўся я да чагосьці большага. Нуднае, шэрае памяшканне з доўгім сталом, некалькімі крэсламі і груваcткай шафай пры сцяне, дзе са мной гаварылі два такія ж шэрыя і безаблічныя чалавекі – абыякавыя і стомленыя, якім відавочна да смерці абрыдзеў іхні занятак. Следчы Кузубаў і памочнік пракурора Гвазнановіч нетаропка і млява пыталіся пра тое, калі ў мяне з'явілася цікавасць да забароненых кніг; пра наш студэнцкі гурток, у якім я апошнім часам быў старшынёю. Было відаць, што адказы на ўсе пытанні ім даўно вядомыя, і мой допыт – больш фармальнасць, чым неабходнасць. Хіба што яны хацелі ўдакладніць пэўныя другасныя акалічнасці. Разумеючы, што хлусіць і выкручвацца няма сэнсу, я шчыра расказваў усё, што не магло надта нашкодзіць ані мне, ані маім таварышам. Абыходзячы небяспечныя моманты і вострыя вуглы.

Гурток наш займаўся вывучэннем сацыялістычнай літаратуры, перакладам яе на рускую мову і распаўсюдам сярод працоўнага люду, пераважна ў гавані ды на Абухаўскім заводзе. Нашай мэтай было, каб простыя людзі ведалі свае правы і маглі дамагацца павагі да сябе як з боку фабрыкантаў, так і з боку ўрада. Сходы ў нас адбываліся недзе раз на два месяцы, там мы і вырашалі: што менавіта варта распаўсюджваць. Кожны мог прапа-

наваць кнігу або брашуру, якая здалася яму карыснай для народнай асветы. Усе забароненыя выданні мы, натуральна, выпісвалі з-за мяжы праз трэціх асоб за вялікія грошы; хадзілі чуткі, нібыта на гэта адзін з нашых студэнтаў меў нахабнасць ахвяраваць скрыпку сястры, за што выклікаў на сваю галаву праведны гнеў і самой паненкі, і бацькоў.

Апошнюю вялікую замову мы зрабілі праз маю Станіславу. Зрэшты, другая Пяткевічанка таксама ўжо зусім не мая, а Буракова. Надта ж хутка яны там ажаніліся, у сваім Цюрыху, і нават вяртацца ў Вільню ўжо не збіраюцца. Будуць класціся там а дзясятай гадзіне ўвечары і ўставаць а пятай рана, як усе добрапрыстойныя бюргеры, хоць напачатку гэткі лад жыцця іх абурыў: як можна класціся спаць у такую рань? Крыўды ні на Стасю, ні на Юзіка Бурачэўскага ў мяне няма. Па вялікім рахунку, тое, што іхні шлюб стаўся для мяне нечаканасцю, не значыць, што ён быў нечаканым сапраўды. Колькі разоў Стася нахвальвала мне ў лістах пана Бурачэўскага: ах, які ён добры, які гжэчны, як хораша з ім бавіць час. Парой я адно паблажліва пасміхаўся, але зрэдку мяне гэта раздражняла. Што за дзіўная бздура ў дзеўкі: пісаць аднаму хлопцу, як ёй добра з іншым? Цяпер я думаю, Стася бачыла ўва мне проста сябра і дзялілася са мной уражаннямі менавіта як з сябрам. Чаму яна мусіла ўспрымаць мяне неяк іначай? Хіба я сам не пісаў ёй, што не здольны нікога пакахаць? Але чарговая стрэмка ў сэрцы сядзіць. Маленькая і балючая. Выцягнуць яе немагчыма, неяк пазбыцца – таксама. Пакуль не перагарыць ад часу, будзе балець.

Калі не надараліся непаразуменні, са Стасяй было добра і лёгка гутарыць. І пры сустрэчах, і на адлегласці, праз лісты. Яна разумная і дасціпная: магла смешна пажартаваць з нагоды бязглуздых віленскіх плётачак, калі мяне без майго ведама ажанілі з дачкою нейкага багатага пецярбургскага камерсанта, і тут жа сур’ёзна пагаварыць пра новы раман Марыі Радзевіч. А якія клапатлівыя лісты Стася прысылала ў Варшаву, дзе я працаваў летась на летніх вакацыях, шкадуючы, што мне собіла патрапіць туды ў самую гарачыню, калі ўсе выязджаюць на вёску, і таму не ўдасца пабачыць горад такім, які ён ёсць на самай справе. Яна па-сяброўску далікатна раіла ўдасканальваць мову, хваліла мае вершы, казала пра не абы-які талент. А якому паэту не падабаецца, калі яго хваляць? Хоць і сказана “паклёп і пахвалу прымайце безуважна”, аднак мала хто з жыхароў нашага недасканалага свету на такое здатны. Ёй больш падабаліся польскія вершы, але і беларускіх яна не цуралася, цікавілася сабранымі мной народнымі песнямі. Адно часам здавалася мне, што Станіслава Пяткевічанка не зусім шчырая ў сваім зацікаўленні народнай справай і папросту падладжваецца пад мае настроі. То яна хвілінамі натхнёна расказвае пра сваю мару зрабіцца ўласніцай капялюшнай майстэрні, разважае, за кошт чаго пераможа канкурэнтаў, і раптам абрываецца на паўслове: ай не, як жа гэта я буду ўласніцай – тады ж мне давядзецца эксплуатаваць сваіх работніц. У такія моманты ейныя словы больш нагадвалі дзявочае какецтва, чым сур’ёзную гутарку. Ды хто ведае... Можа, мне тое толькі здавалася.

Я адкрыта сказаў ротмістру Кузубаву, што буйную партыю кніг за мяжой мы замаўлялі праз Станіславу Пяткевіч. Хацеў пацвяліць яго, дакладна ведаючы, што схапіць Стасю ў Вільні жандарам не ўдалося, а дацягнуцца да яе ў Цюрыху не здатныя нават іхнія доўгія рукі. І з задавальненнем заўважыў, як тарганууся ад прыкрасці твар следчага – мая страла патрапіла.

Маленькая радасць бясправўнага арыштанта.

Хоць допыт і быў лагодным, назад у сваю камеру я ледзьве дацёгся. Ці то ад нервовага перанапружання, ці то ад невыносна цяжкай тутэйшай атмасферы? Надарыўся чарговы прыступ нямогласці. Сэрца зноў шалёна калацілася, гатовае напраўду выскачыць з грудзей. Я ляжаў на мулкім ложку, адчуваючы, як пакрысе яно супакойваецца, а перад вачыма мільгалі карціны маіх апошніх дзён на волі.

Вось я яшчэ ў Пецярбургу. Мы разам з Ігнасем Непакайніцкім на кватэры студэнта Гаўрылы Кулева. Туды прыходзяць некалькі рабочых, і Ігнась выступае перад імі, заклікае дамагацца павышэння заробкаў, скарачэння працоўнага дня... Вось пасля паспяховай здачы іспытаў мы з Максам Кіліянскім і Мацеем Развадоўскім вылазім з вагона на віленскім вакзале. Развадоўскі застаецца чакаць хуткага цягніка на Мінск, а мы з Кіліянскім бяром рамізніка і едзем да яго на Лукішкі... Вось я, пятляючы і блытаючы сляды, каб збіць з тропу магчымых віжоў, іду ва ўмоўленае месца на Звярынцы дзеля таемнай сустрэчы са Стасяй. Хоць канспіратар з мяне неважнецкі, і наўрад ці я здольны падмануць дасведчанага паліцэйскага агента, але тым разам пашанцавала. Нас не высачылі, і Стася тым жа вечарам з'ехала назад у Цюрых... А вось і чэрвеньская раніца, калі ў нашую віленскую хату на Пірамонце ўвайшлі жандары. Ніколі не забудуся збялелы твар маці і дзіўную задаволеную ўсмешку кватаранткі – пані Маліцкай, якая з цікаўнасцю назірала за дзеяннямі прыбышоў.

Рэй сярод няпрошаных гасцей вёў ротмістр Усясвяцкі.

Матка Боска, ну й прозвішчы ў іх.

Калі Кузубаў і Гваздановіч падобныя да лянівых самазадаволеных вепрукоў, то Усясвяцкі – воўк. Учэпісты, галодны.

Вобшук быў жорсткі. Перавярнулі ўсё дагары дном, нават папаролі падушкі і павытрасалі кветкі з вазонаў на вокнах, хоць патрэбы ў тым не было ніякай: усю крамолу яны знайшлі адразу. Стос «падбухторвальных» кніг, загорнуты ў газету, ляжаў проста ў вітальні на чамадане, забытым у нашай хаце Антосем Міхальскім за пару дзён да ператрусу. Вось такая ў нас была канспірацыя і асцярожнасць. Але больш за ўсё жандары дачапіліся зусім не да гэтых кніг – яны меркавалі знайсці нешта падобнае. Найбольш пан ротмістр усцешыўся ад знаходак, што падаліся яму незвычайнымі і ад таго яшчэ больш падазронымі, чым выдадзеныя за мяжой творы нягоднікаў-сацыялістаў, якія толькі і чакаюць зручнага моманту, каб зрынуць памазанага Богам рускага цара і развальіць ягоную імперыю.

Вочы ў іх высокаблагароддзя Усясвяцкага загарэліся, калі ён пабачыў у шуфлядцы восем сшыткаў з запісамі і вершамі, а таксама кароткі спіс беларускіх выданняў, прысланы Янам Карловічам, і асобнік «Дудкі беларускай», якія ляжалі проста на стале.

– Co to jest? – саркастычна запытаўся ў мяне ротмістр па-польску.

Што я мог адказаць? Хіба ён сам не бачыў – сшыткі, паперка ды кніжка. Не буду ж я яму расказваць, якое шчасце было нечакана ўбачыць «Дудку беларускую» ў кошыку для бялізны, дзе мы з сябрамі хавалі ад чужых вачэй забароненыя кніжкі ў нашай пецярбургскай кватэры; і як мяне прабіралі дрыжыкі, калі я чытаў спачатку прадмову, а потым і ўсе вершы. Я ўжо тады ведаў, што напісаў іх дарагі сябра Яна Карловіча. Чалавек, адначасна падобны і на селяніна, і на шляхціца, які некалькі год таму падахвоціў мяне ў маёй працы і шмат што параіў. Ці здольны

зразумець служака ў блакітным мундзіры, як хацелася мне мець у сябе гэтую кніжку? Настолькі, што я гатовы быў скрасці яе ў сябра. А неўзабаве самахоць дадаў "Дудку беларускую" ў спіс літаратуры, якую мы меліся закупіць для нашага гуртка за мяжой.

Калі ж нехта з падначаленых падаў Усясвяцкаму шматок паперы з накідам верша «Браты, мы станем шчыльнымі радамі», той задаволена зацокаў языком: маўляў, нездарма начальства паслала нас у гэты ціхмяны дамок над Вяллёй.

Я стаяў і маўчаў. Унутрана я рыхтаваўся да такога, чакаў, што гэтае можа здарыцца, але пад грудзямі як быццам штосьці апала. Ці быў гэта страх? Наўрад... Хутчэй трывожнае чаканне невядомага.

А яны шчыравалі яшчэ доўга. Забралі ўсё, што падалося ім падазроным: кнігі, рукапісы, чарнавікі, нататкі. Нават мае запісы пра птушак. Нібыта птушкі маёй бацькаўшчыны нясуць нейкую пагрозу імператару.

Мама за часператрусу не сказала ні слова. Адно холадна і з пагардай назірала, як чужаніцы бессаромна пляжаць чысціню і ўпарадкаванасць яе дома. На развітанне мы абняліся, і я адчуў, якія напружаныя ў яе рукі. Аднаму пану Езусу вядома, чаго каштавала ёй тое гордае маўчанне.

Недзе апоўдні мяне груба выштурхалі з хаты і пад здзіўленымі позіркамі суседзяў пехатой павялі ў невядомасць. Я думаў, вядуць на Лукішкі, але, пераправіўшыся паромам праз Вяллю непадалёк ад разабранага майго Зялёнага моста, канваіры збочылі па набярэжным бульвары налева ў кірунку цытадэлі. Аказалася, адносна студэнта Гурыновіча ўжо быў загад – як мага хутчэй этапаваць у Пецярбург. Выходзіць, незалежна ад вынікаў ператрусу. Таму ў віленскай цытадэлі я нават не паспеў добра агледзецца: праз некалькі гадзін мяне з канвоем адвезлі на вакзал і адправілі назад у Пецярбург, адкуль мы з сябрамі выехалі ўсяго тыдзень таму. Ужо на наступны дзень я апынуўся ў Доме папярэдняга зняволення на Шпалернай.

З тае пары турэмная брама адчынялася перада мной двойчы: адзін раз, каб выпусціць у арыштанцкім экіпажы са Шпалеркі, і другі раз – каб неўзабаве ўпусціць у гэты маўклівы бастыён.

Мяне выклікалі на допыты тры дні запар, а потым зноў страцілі інтарэс. Ужо больш як тыдзень ніякага руху. Колькі мне яшчэ тут марынавацца, калі будзе суд, і як усё павернецца далей – невядома.

Пісаць усё цяжэй. Сталі моцна балець пальцы, да таго ж падчас пісання часта губляецца вастрыня зроку, на вочы нібы наплывае туман. Здымаю акуляры, праціраю шкельцы, але ўсё марна. Вось зараз амаль не бачу, што пішу. Ці можна там будзе што-кольвек прачытаць? Трэба пакуль адкладаць пяро.

Сёння прыходзіў турэмны доктар. З выгляду чалавек вельмі прыстойны, і нават у звычайных ботах – без лямцавай падэшвы. Агледзеў мяне, заклапочана паківаў галавой, але ўрэшце прызначыў нейкія парашкі і трохі падбадзёрыў, расказаўшы свежы анекдот. Я ж анекдоты распавядаць не мастак, то ў адказ загадаў яму адну нашу надвялейскую загадку. Абяцаў прыйсці наступным разам з адгадкай.

Пісаць вельмі цяжка. Замест заўчорашняга доктара прыйшоў нейкі іншы пан – маўклівы і непрыкметны, як нежывы. Даў тыя ж парашкі.

Сёння адмовіўся выходзіць на шпацыр.

Зноў утрапёна глядзеў на газоўку.

## V.

Яна сама не ведала, навошта пагадзілася ехаць у Вазгелы. У Бронюся там былі свае партыйныя беларускія справы, а што рабіць у той Богам забытай вёсцы ёй? Пасля Тарас меўся адвезці даўнюю сяброўку на станцыю ў Аляхновічы – якраз мусілі паспець да вячэрняга цягніка. Але да чыгункі Яна магла дабрацца і сама: з Радашкавічаў тое было лацвей і хутчэй; навошта рабіць такога вялікага кругаля, рызыкуючы завязнуць дзе-небудзь пасярод дарогі ў гразкіх восеньскіх калюжынах. А яшчэ гэты нехутлівы[1] Верын позірк, які яна адчула на сабе, калі сядала ў вазок. Вера да самага канца заставалася гасціннай гаспадыняй, падкрэслена ветлівай і клапатлівай, прычым адпачатку ейная гасціннасць была зусім шчырай. Першыя халодныя ноткі азваліся ў голасе Бронюсевай жонкі ўчора перад вячэрай. Яно і не дзіўна... Якой жанчыне спадабаецца, калі былая мужава каханка прыязджае ў госці і цэлы дзень сакрэтнічае сам-насам з ейным мужам? А цяпер яшчэ і едзе з ім Бог ведае куды. Ніякага граху перад Верай у Яны не было, акрамя тых дурных слоў, сказаных Тарасу ў Вільні, але любая спроба штосьці патлумачыць выглядала б як апраўданне. Таму няхай усё застаецца як ёсць.

Яны хутка праехалі Валокі, і неўзабаве на даляглядзе паказаліся шэрыя прысадзістыя хаты Павязыні. Дзень зноў абяцаў быць пагодным. Нізкае ранішняе сонца, нібы пасля сну, млява свяціла з левага боку, перакідваючы праз дарогу даўгія цені дрэў і раз-пораз зазіраючы ў вочы.

Да Вазгелаў каля мілі[2], значыць, недзе праз гадзіну яны будуць на месцы.

Прымаразак пад касымі сонечнымі прамянямі адступаў неахвотна, і Яніна ў сваім светла-шэрым паліто раз-пораз пацепвалася – не так ад адчування холаду, як ад вострай чысціні празрыстага паветра, настоенага на таемных начных шэптах наваколля. Адчувалася ў тутэйшым паветры нешта такое, чаго не было ані ў Варшаве, ані ў Вільні. Чамусьці думалася пра ўразлівасць і хісткасць чалавечага жыцця: сёння ты маеш усё, а ўжо заўтра лёс можа кінуць цябе ў глыбокую прорву, з якой немаведама як выбірацца. Бронюсь на хвіліну выпусціў з рук лейцы, выцягнуў аднекуль ззаду кажушок і накінуў ёй на плечы.

– Так лепей?

– Ага, дзякуй... – жанчына з удзячнасцю паглядзела на свайго спадарожніка.

– Дабярэмся да Вазгелаў, а там пацяплее, – чамусь вінавата вымавіў Бронюсь і прыспешыў каня. Яніна хацела сказаць, што ёй зусім не холадна, але перадумала. Урэшце, у гэтым кажушку на плячах папраўдзе станавілася неяк зацішней і спакайней на душы.

– Шчэ з паўгадзіны да Верамейкаў, а там перад Гурновічамі будзе паваротка на Вазгелы. Адтуль ужо недалёка.

– Дзе? – здзівілася Яна.

– Што дзе? – не зразумеў Бронюсь.

– Дзе, ты сказаў, паваротка на Вазгелы?

– Перад Гурновічамі, – машынальна паўтарыў Тарас, і раптам шкельцы ягоных акуляраў бліснулі, ён зразумеў сэнс пытання. – Адной літары не стае.

---

[1] Нехутлівы – непрыязны (*старабел.*).

[2] Міля – гістарычная мера адлегласці. На тэрыторыі Беларусі роўная каля 8 км.

– Вось як! – Яніна ў адказ усміхнулася.

Некалькі хвілін зноў ехалі моўчкі.

– Ці не занадта шчыра ў цябе дзядзька Адам расказвае пра рэвалюцыйны гурток? – раптам парушыла бязмоўе Яна. – Гэта ж выдатныя паказанні для следчых! Ён піша як бы ў турме, а там штосьці ўтаіць было цяжка – маглі ў любы момант зрабіць ператрус і знайсці. Дый калі выпускалі, мабыць, праглядалі кожны аркуш.

Бронюсь кашлянуў ад нечаканасці, а пасля задумаўся.

– Не думаю, што там было нешта такое, чаго б жандары ўжо не ведалі, – адказаў урэшце ён. – Але гэта можна паправіць. Пан Адам мог напісаць такое ўжо дома, у Крыстынопалі?

– Мог, напэўна, – згодна хітнула галавой Яніна. – Ён яшчэ жыў месяца паўтара пасля вяртання. Першыя два ці тры тыдні нават сталярнічаў трохі, пакуль не праявілася воспа.

– Дык ён захварэў не ў Пецярбургу?

– На воспу? Не, тады хвароба выявілася б раней. Дзядзька Адам быў кволы, змарнелы, яму моцна балела спіна, але воспай ён дакладна заразіўся не ў турме.

– Тады дзе?

Жанчына ўздыхнула і паціснула плячыма.

– Я шмат пыталася ў сваякоў, ніхто нічога пэўнага не кажа. Ды і адкуль гэта можна ведаць дакладна. Можа, па дарозе, калі на некалькі дзён затрымаўся ў Вільні, а можа, ужо ў вёсцы. Хоць я слаба ўяўляю, дзе і як у Крыстынопалі можна заразіцца воспай.

З хвіліну памаўчаўшы, Яніна дадала:

– Слухай... Не хацела казаць, каб не жывіць твае беларускія фантазіі пра дзядзьку, але ты і без таго напрыдумляў столькі, што ён у цябе чысты беларус выходзіць... То скажу... І думай пра мяне, што хочаш...

Яна паправіла на плячах кажушок.

– Ведаеш, якую кніжку чытаў дзядзька Адам перад смерцю? Пакуль яшчэ мог, пакуль яму не стала зусім блага?

Тарасавы рукі з лейцамі апусціліся на калені, а сам ён уважліва пагледзеў у вочы сяброўцы юнацтва.

– Ну?

– «З крывавых дзён: Эпізод з паўстання 1863 года на Міншчыне» нейкага *S. Я не ведаю, дзе ён яе здабыў. Кніжка была ў Расіі забароненая, такія насілі з Аўстрыі праз мяжу кантрабандай.

– Во як!

– Чакай, я яшчэ не дайшла да самага галоўнага. У канцы кніжкі ёсць фрагмент, дзе аўтар заклікае палякаў пасля паразы паўстання не сварыцца між сабой, не дзяліцца на лагеры і партыі, але аб'яднацца і разам працаваць дзеля адраджэння Айчыны. Дык вось, бацька расказваў, нібыта ў асобніку, што застаўся пасля смерці дзядзькі Адама, там над словамі "*Polak*" і "*Polska*" паўсюль было алоўкам надпісана "*Białorusin*" і "*Białoruś*".

Яніна ўздыхнула і падала Тарасу складзены ў чатыры столкі жаўтаваты аркуш.

– Вось, трымай. Выпісала калісьці ў бібліятэцы для сябе... Не пытайся, навошта я ўзяла гэта з сабой – сама не ведаю. Проста прачытай, падстаўляючы замест Польшчы сваю Беларусь.

Бронюсь спыніў каня і ўзяў у рукі паперчыну.

*«Паўстанне згасла. Волат, складзены з незлічоных цаглінак мужнасці, зваліўся пад магутным націскам гвалту. На ягонае месца ўзышлі маскоўская пятля і нагайка. Па ўсім краі чуліся жалобныя спевы, енкі і плач няшчасных ахвяр, якія павольна паміралі пакутнай смерцю, і тых, хто іх кахаў; хто, страчваючы іх, губляў сувязь сваю з зямным светам. Гэтым сумным галасам туравалі глумлівыя насмешкі ворагаў і яшчэ больш балючыя за іх закіды ўласных братоў: што паўстанне – гэта шалёны крок, што паўстанцы – гэта натоўп вар'ятаў, якія прынеслі Беларусі адно бяду. А ці так яно было? О не! Магчыма, паўстанне пачалося не своечасова; гэта праўда, што яно не прынесла нам ніякай адчувальнай карысці. Навідавоку велізарныя страты людзей і нацыянальнага багацця. Аднак нельга катэгарычна адмаўляць яго плён для Айчыны. Мы паказалі ўсёй Еўропе, што жывыя, і жывучасць сваю выявілі так пераканаўча, што гэта сталася найкрасамоўным пратэстам супраць гвалтоўнага адабрання правоў нашых. Нельга кідаць каменем асуджэння ў тых, хто крывёю, пралітай падчас абароны Айчыны, пакутамі, перанесенымі дзеля Яе, паспрыялі прышчэпліванню будучым пакаленням той ідэі, што варта любіць зямлю, якая нарадзіла такіх герояў, што варта для яе працаваць і працай гэтай даводзіць свету, што "жыве Беларусь". Бо ў цяперашні час найлепшым доказам Яе існавання будзе, калі на кожнай дзялянцы, што ўрабляецца цывілізаваным грамадствам – у навуцы, мастацтве, прамысловасці, гандлі – паўстануць беларусы як таленавітыя і незаменныя працаўнікі. Беларусь яшчэ не памерла, і будзе жыць, калі ўсе Яе дзеці злучацца повяззю братняй любові, калі знікнуць партыйныя супярэчнасці, што падзяляюць сыноў адзінай маці-Айчыны на супрацьлеглыя лагеры, і калі ўсе пададуць адзін аднаму рукі ў працы для свайго грамадства».*

Яна з выклікам глядзела ў вочы Тарасу.

– Цяпер можаш назваць мяне крывадушнай нягодніцай, якая ледзь не схавала ад цябе гэты факт.

Бронюсь глядзеў проста перад сабой.

– Божа, ён ужо тады думаў пра гэта, ён ужо тады разумеў... Якая краіна, якая свабода, якое адраджэнне, калі няма еднасці, а ёсць грызня і валтузня на пустым месцы? На смех і радасць ворагам мы сварымся, сабачымся, абвінавачваем адзін аднаго ў няправільнай любові да роднай зямлі. Шукаем агентаў Масквы, Варшавы, Берліна, Месяца, яшчэ халера ведае чаго, лепім на ўяўных непрыяцеляў ярлыкі, стараючыся ўшчыкнуць як мага больш балюча. Іван варагуе з Вацлавам, Антон з Макарам... Спачатку мы з крыкам і гвалтам дзелім між сабою немаведама што, нават тое, чаго яшчэ няма і ў праекце, а потым... Потым прыходзяць сапраўдныя ворагі і дзеляць нашую зямлю.

Яніна ў нямым здзіўленні слухала неспадзяваны, падобны на здушаны крык, маналог Тараса. Колькі яна яго ведала, ніколі не чула ў голасе ягоным столькі скрухі і горычы. Але ўрэшце ён... з нечаканым замілаваннем вымавіў:

– Дзякуй, Янка! Ты – неверагодная.

Янка... Бронюсь так не называў яе з гімназічных віленскіх часоў. Ёй так захацелася прытуліцца да яго, адчуць ягоную цеплыню і пяшчоту. Але раптам вазок тарганууўся, конь заматляў галавой, захроп. Тарас нацягнуў

лейцы, устрывожана азіраючыся наўкола. Азірнулася і Яніна. Паўсюль было ціха. Праваруч ляжала маўклівая пустка, перасечаная соннымі голымі пералескамі. Нідзе ні душы. А злева... Злева былі Саветы. Мяжа праходзіла зусім побач, мо праз якія паўсотні сажняў ад дарогі. Цёмная палоска лесу на даляглядзе ўжо належала Маскве. Конь хутка супакоіўся ды шпарка пабег далей. Што напалохала яго, засталося незразумелым. Відаць, жывёла адчула на шляху нешта страхавітае.

Зусім нядаўна, калі тут толькі-толькі асталявалася дзяржаўная мяжа, на гэтай зямлі было неспакойна. Увесь час трывалі пагоні, перастрэлкі, выбухі, сноўдалі перабежчыкі, шпіёны, кантрабандысты. Віленскія газеты літаральна стракацелі паведамленнямі пра інцыдэнты на бальшавіцкай граніцы. Зараз, здаецца, пацішэла. Ці, можа, яна проста за сваёй медыцынай мала чытае газет?

У гэтую хвілю ёй стала ясна, што не так з тутэйшым паветрам. Акрамя чысціні і свежасці ў ім была разлітая заўсёдная наструненасць, трывога.

Яніна разумела, што Бронюсь глядзіць на той бок граніцы з надзеяй, і гэтая праклятая мяжа неадольна раздзяляе іх, хоць тут і цяпер яны знаходзяцца па адзін яе бок.

– Ты праўда думаеш, што там свабода?

Задуменны Тарас зірнуў на яе і праз некалькі імгненняў хітнуў галавой:

– Для нас – так... Там будуецца нашая дзяржава.

– Матка Боска... Бронюсь, як ты можаш ім верыць? Гэта не граніца Беларусі, гэта граніца Расіі! – у грудзях жанчыны паднялася гарачая хваля, якая рвалася вонкі, патрабуючы выхаду. – Іхняя беларуская рэспубліка – гэта падман, фікцыя! Вамі проста карыстаюцца, даюць да часу пацешыцца самастойнасцю. А калі вы не будзеце ім больш патрэбныя – вас знішчаць. А Беларусь вашу далучаць да Масквы як Мінскую губерню!

Тарас папераджальна падняў руку, спрабуючы спыніць бурлівы слоўны паток.

– Фікцыя ці не фікцыя, але тут у нас няма і гэтага. Яніна, ты не можаш ведаць, як усё абернецца! Ніхто не можа...

– Я ведаю іх, Бронюсь! Я ведаю, як яно было там, на Далёкім Усходзе.

– На Далёкім Усходзе не было падстаў для існавання самастойнай дзяржавы.

– Праўда? А ў вас яны ёсць? – кажушок зваліўся з жаночых плячэй, але гэтага ніхто не заўважыў. – Чым вы лепшыя за татараў ці башкіраў? Чаму няма ніводнай самастойнай рэспублікі на Урале, а ёсць толькі на ўскраінах? З вамі гуляюць, нібы кот з мышшу, як ты гэтага не разумееш!

– А што нам застаецца? – голас Тараса прагучаў глуха. – Палякам пашэнціла вырвацца, і яны адразу разявілі зяпу на нашую зямлю. Што рабіць нам?!

– Змагацца, патрабаваць, жыць! Але без іх, без бальшавікоў.

Бронюсь горка пасміхнуўся.

– Наіўная ты... Цябе б такую ў Варшаву, ды ў прэзідэнцкае крэсла.

– Сярод палякаў знойдуцца людзі, якія вас падтрымаюць!

– Госпадзе... Хто?! Тут я кожнага дня чакаю арышту!

– А там ты штоночы будзеш чакаць расстрэлу.

– Не раўняй з тым, што было ў вайну. Тады была рэвалюцыя.

– У іх заўсёды: ці вайна, ці рэвалюцыя! Спачатку робім рэвалюцыю, а потым яе любым коштам абараняем. Каб не дапусціць новую.

– Ты – медык, Янка, не палітык. Ты не ведаеш...

– У тым і рэч, што я медык, – перарвала жанчына. – І добра ведаю, што такое пакуты людзей.

Гарачая хваля апала, пакінуўшы па сябе спустошанасць і апатыю. Навошта была гэтая спрэчка? Каго і ў чым яна хацела пераканаць? І потым, адкуль такая ўпэўненасць, што рацыя на яе баку? Мо за гэтай мяжой, у Саветах, сапраўды ўсё не так страшна. Мала што там было ў Верхняўдзінску.

І ўсё ж яна дадала:

– Ты пішаш, як здзекаваліся з дзядзькі Адама, як пяць месяцаў трымалі яго ў няведанні, не выклікалі на допыты. Пасадзілі ў страшную, маўклівую турму, дзе ён страціў здароўе... А бабця расказвала мне, як жандары прыехалі на дзядзькавы хаўтуры. Не давалі веры, што памёр. І пакуль яна, абураная да апошняй ступені, не назвала іх забойцамі і не паказала мёртвае цела ў труне – не адступіліся... Дык у тых быў хоць нейкі панятак гонару. Хай фармальнага, паказнога, але гэта быў для іх не пусты гук. Іхнія нашчадкі нашмат страшнейшыя, Бронюсь.

Яніна трохі памаўчала.

– Гэтыя б дзядзьку Адама з турмы не выпусцілі.

Верамейкі і Гурновічы, перад якімі яны збочылі направа, засталіся ззаду. Цяпер вазок каціўся па жоўклых утравелых каляінах палявой дарогі, што неўзабаве мусіла перайсці ў лясную. Конь спакойна бег наперад, і Тарас, адпусціўшы лейцы, думаў пра нешта сваё. І па ценю на ягоным абліччы было відаць, што думкі тыя няпростыя.

– Я часта думаю, – раптам пачаў ён глуха, пазіраючы невідушчым позіркам кудысьці наперад, – калі б у нас, беларусаў, была свая незалежная дзяржава, са сваім войскам, паліцыяй... І калі б разам з намі ў гэтай дзяржаве жыў яшчэ адзін народ, меншы за нас па колькасці. Ці не рабілі б мы з ім тое ж, што робяць з намі расейцы і палякі?

Што яна магла яму адказаць? І ці патрэбны быў яе адказ у становішчы, калі любыя словы маглі стаць пустымі і дробязнымі, як цацкі жанглёра? Яніна ціха паклала сваю далонь на Тарасаву руку, якая нерухома ляжала з лейцамі на каленях, і злёгку яе паціснула.

Часам жэсты могуць выказаць больш, чым словы.

– Апошнія дні дзядзьку было вельмі цяжка. Ты сам разумееш, што такое воспа.

Сонца лёгка прабівалася паўз ствалы і густа пераплеценыя галіны восеньскіх дрэў, рассцілаючы на дарозе дзіўныя карункі святла і ценю, і невядома, чаго ў гэтых карунках было больш: суму ці радасці.

– Шанцаў адужаць хваробу ў яго пасля турмы амаль не было, але ён да апошняга спадзяваўся, верыў, што ачуняе, думаў пра далейшую працу, – Яніна страсянула галавой. – Не ведаю, можа, дарэмна да яго не пусцілі Ружу Швайніцкую... Яна рвалася ў Крыстынопаль. Нягледзячы на рызыку заразіцца самой, гатовая была днямі і начамі даглядаць хворага. Але пасля скандалу з заручынамі бабця і бачыць яе не хацела. А Ружа, відаць, сапраўды пакахала іншага брата. Расказвалі, нібы ў яе над ложкам нават вісеў партрэт дзядзькі Адама.

– Калі і ён яе кахаў, – задумліва адгукнуўся Бронюсь, – то не дазво-

ліў бы, каб дзяўчына рызыкавала сабой... Прагнаў бы прэч. То, можа, і правільна, што не пусцілі.

Вазок выехаў на адкрытае месца і нечакана спыніўся. Яніна агледзелася і паглядзела на Бронюся. Вялікая паляна была падобная на што заўгодна, але не на Вазгелы. Хіба што злева на высокай гары стаяла самотная і, відаць па ўсім, нядаўна пабудаваная хатка пад гонтавай страхой.

– Гэта не Вазгелы, Янка. Гэта засценак Самінскія Горы, належыць панам Вітушкам. Паны яны, вядома, адмысловыя! Бачыш, які палац сабе збудавалі, – Бронюсь усміхнуўся, спрабуючы жартаваць, але зараз жа зноўку стаў сур'ёзным. – Я даўно прыгледзеў гэтую схованку... На ўсялякі выпадак, каб прыхаваць тут грамадоўскія дакументы...

Пане Езус! Пра што ён гаворыць? Якія паны, які засценак, якая схованка? Пры чым тут яна? А Тарас выцягнуў аднекуль з вазка скураны партфель. Зашчапка сама расшпілілася, і ўсярэдзіне паказаўся стос паперы, да болю падобны на той, што ляжаў на Тарасавых каленях учора, над ціхмянай радашкавіцкай рачулкай. Толькі зараз Яніна заўважыла справа ад дарогі высачэзную алешыну з вялікім дуплом на вышыні чалавечага росту, і карціна ў галаве склалася. Дурная, бязглуздая, сюррэалістычная карціна. Што за бздура? Навошта? Дзеля чаго гэтае рабіць?

– Гэта што... Твой рукапіс пра дзядзьку Адама?

– Так.

– І ты хочаш схаваць яго ў дупло?!

– На нейкі час... Павер, іншага выйсця няма...

– Але чаму?! Навошта?!

У грудзях Яніны зноў узнімалася гарачая хваля, але Тарас здаваўся зусім спакойным.

– Можа быць, гэта справа майго жыцця, Янка. Нароўні з беларускай граматыкай. А калі па мяне прыйдуць, то рукапіс канфіскуюць.

Ды што ён заладзіў: Янка ды Янка, нібы яны дзеці малыя. Жанчына ледзь стрымлівала раздражненне.

– Дык аддай каму на захаванне! Нашто пакідаць справу жыцця ў лесе?!

– Каму? – у голасе Тараса зноў прагучала стома. – Усе сябры, каму я давяраю, таксама пад прыцэлам.

– Аддай мне! – раптам вырвалася ў Яніны.

Бронюсь у адказ усміхнуўся.

– А раптам цябе зноў укусіць польская муха, і ты спаліш рукапіс, бо твой дзядзька там паказаны занадта заўзятым беларусам?

Яніна асалавела глядзела на колішняга блізкага сябрука. Ад нядаўняй пяшчоты і шкадобы да яго за нейкае імгненне не засталося і знаку. Не, нездарма яны з гэным нахабам у свой час пасварыліся.

– А раптам я, укушаная польскай мухай, прыеду сюды, раскладу вогнішча і спалю твой дыяментавы рукапіс?

– Не спаліш, – Бронюсь спакойна паправіў на носе акуляры, – я цябе ведаю. Ты такая ж, як пан Адам: запальчывая, але адыходлівая. І потым, па дарозе сюды цябе абавязкова ўкусіць іншая муха – беларуская.

Гэты ёлуп яшчэ і жартуе. Ну што можна яму сказаць? Калі ён штосьці ўбіў сабе ў галаву, то зробіць абавязкова. Пакінуць свой рукапіс у лесе, за мілю ад хаты можа толькі дурань ці апошні рамантык. Ці такі вось... беларус. Хто сказаў, што па яго абавязкова прыйдуць, што абавязкова

канфіскуюць? А калі і канфіскуюць – могуць жа і вярнуць! А тут – слата, вільгаць. А раптам хто ўлезе ў дупло? Ці таму пану... як яго... Вітушку закарціць ссячы гэтую самотную старую вольху?

Тарас дбайна загарнуў партфель у выцягнуты кавалак брызенту і перавязаў тасёмкай.

– Ну, з Богам! – сказаў ён ды пакрочыў да дрэва.

Бач ты! Бога ўспомніў... Шчэ паражагнацца не забудзься...

Яніна дэманстратыўна адвярнулася, удаючы, нібы разглядае адзінокую будыніну на высознай гары. Хоць разглядаць там дужа не было чаго – звычайная сялянская хата, хіба што страха не саламяная.

Неўзабаве Бронюсь вярнуўся.

– Што б ты зараз ні думала, Янка, запомні гэтае месца на ўсякі выпадак. Самінскія Горы. І дзякуй вялікі, што згадзілася сюды прыехаць.

Яна не адказала нічога. Бо калі б ведала, для чаго ён яе запрашае, не паехала б ніколі. Навошта для гэтага дурноцця яму была патрэбная менавіта яна? Чаму ён не мог прыехаць сюды са сваёй Верай, ці хоць бы з тым чалавекам, да якога ехаў зараз у Вазгелы? Штосьці з глыбіняў душы падказвала ёй – чаму. Але зараз Яніна не чула гэтага далёкага голасу. У бурлівым штorме пачуць далёкі голас немагчыма.

Падчас непрацяглага прыпынку ў Вазгелах гарачая хваля пачала спадаць. Аднак паміж спадарожнікамі яшчэ заставалася тая напружаная адчужанасць, якая непазбежна пралягае пасля вялікай крыўды нават між самымі роднымі людзьмі.

А потым былі Аляхновічы, дзе яны ветліва развіталіся на станцыі.

І была дарога, поўная роздумаў ды ўспамінаў.

І халодная дымная Вільня.

## VI.

Зялёны мост ляжаў, ненатуральна выгнуўшы сваё яшчэ зусім нядаўна магутнае і прыгожае цела, утапіўшы сярэдзіну яго ў рацэ. Узарваны пры адступленні немцамі, ён быў нежывы. Неўзабаве гэтыя сталёвыя парэшткі прыбяруць і на іх месцы пабудуюць новы мост. Можа, нават пафарбуюць у зялёны колер, каб адпавядаў назве. Пераправы патрэбны любой уладзе, у адрозненне ад нязручных людзей. Але той новы мост ужо ніколі не стане ейным. Ён будзе належаць зусім іншым людзям, што насяляцьмуць гэты горад пасля яе: з уласцівымі толькі ім норавамі, звычкамі, мітрэнгамі. Яніна прыйшла развітацца са сваім мостам, які калісьці паўстаў замест моста дзядзькі Адама.

Ёй у Вільні месца больш не было.

Старадаўняя ліцвінская сталіца яшчэ не загаіла раны чарговай вайны. На рэдкай камяніцы не засталося шнараў ад куляў, то там, то тут трапляліся пустыя закураныя правалы вокнаў, некаторыя будынкі былі разбураныя ўшчэнт. З часам, вядома, ад ваенных разбурэнняў не застанецца і следу, але што новыя гаспадары зробяць з душой Вільні?

Насустрач з грукатам сунуўся грузавік з чырвонаармейцамі, і жанчына адступіла ўбок, каб прапусціць машыну.

Дзе будзе цяпер ейны дом – хто ведае. Можа, у Торуні.

Даўнейшыя турботы і поспехі, здавалася, належалі іншаму жыццю. Перайманне вопыту ў Сарбоне, вяртанне на радзіму, праца на медычным

факультэце і кіраванне віленскім шпіталем, а потым – вайна, жыццё ў акупацыі, удзел у польскім супраціве... Нібыта ўсё яно адбывалася не з ёй...

Колькі гадоў прайшло з таго часу, як яны з Бронюсем стаялі на гэтым мосце?

Амаль дваццаць.

Дазнаўшыся пра ягоны арышт, Яніна праз пару дзён паехала ў Аляхновічы. Ясна было, што хутка Тараса не выпусцяць. Спачатку хацела ехаць да ягонай жонкі, ды потым перадумала. Наўрад ці Вера штосьці ведала пра мужаву лясную схованку, ды й любое пытанне з боку ўяўнай суперніцы магла зразумець няправільна. Таму, выйшаўшы з цягніка, наняла сані і адразу рушыла пад тыя Самінскія Горы. Няцяжка ўявіць, што думаў яе негаваркі сівабароды возчык, калі выкшталцоная сталічная пані раптам загадала спыніцца, не даязджаючы да засценка, і пасунулася па глыбокім снезе да таўшчэзнай алешыны, дзе доўга корпалася ў высокім дупле, а потым вярнулася з пустымі рукамі. Злосці на Тараса не было – яна ўся перагарэла тады, на восеньскай дарозе ў Вазгелы. Яніна адчувала толькі шкадаванне, нібы да харошага ўвогуле дзіцяці ці старога, які раптам учыніў несусветнае дзівацтва. Пан Вітушка, ветліва сустрэўшы яе каля сваёй хаты, у адказ на пытанне пра старую вольху толькі падняў высока бровы. Ён нічога не ведаў. Ды і адкуль ён мог ведаць – на фальварку было процьма іншай працы, акрамя як упустую сачыць за лясной дарогай.

Брызентавы скрутак знік. Яніна тады не сумнявалася, што Бронюсь зразумеў усю недарэчнасць свайго ўчынку і перахаваў рукапіс у больш надзейным месцы. У такім разе ён мусіў даверыць сваю таямніцу яшчэ нейкаму чалавеку. Хоць і не абавязкова. Але ёй заставалася адно – вяртацца ў Вільню.

А потым жыццё закруціла.

Некалькі гадоў запар яна жыла на дзве краіны. Навіны з радзімы даходзілі да яе выпадковымі абрыўкамі і часам з вялікім спазненнем. Бронюсь адседзеў у турме недзе на захадзе Польшчы больш як тры гады, потым яго выпусцілі. Аднак ужо неўзабаве ён быў вымушаны ўцякаць у Гданьск, які знаходзіўся па-за межамі польскай юрысдыкцыі. Праз некалькі месяцаў быў новы арышт, і зноў турма. А потым неўтаймоўнага Тарашкевіча абмянялі на нейкага беларускага вязня бальшавіцкіх лагераў. Падрабязнасцяў Яніна не ведала, чула толькі, што таго чалавека адпусцілі ў Польшчу, а Тарас – пайшоў у Саветы. Які лёс яго там напаткаў, яна дазналася ўжо перад самай вайной.

Бронюсь загінуў, і разам з ім знік напісаны ягонай рукой турэмны дзённік яе дзядзькі Адама. Знайсці сляды рукапісу ў Радашкавічах не ўдалося. Ды і дзе ты іх цяпер знойдзеш, тыя сляды? У былых віленскіх паліцэйскіх архівах? У Гданьску? Дзе шукаць, калі невядома дакладна, ці гэта сапраўды Бронюсь забраў з дупла ў алешыне ля глухога засценка свой партфель? І ці ёсць увогуле што шукаць пасля такой крывавай вайны?..

Паўз яе праехаў у кірунку Лукішак яшчэ адзін грузавік, і сэрца зноў на імгненне прыпыніла хаду. Ваенная калатнеча даўно адвучыла Яніну баяцца, але то на вайне, а тут... Яна выразна памятала, што адбывалася ў Вільні восенню шэсць гадоў таму, і цяпер на горад наплывала новая

хваля. Адзін з яе пацыентаў сказаў: спярша палякі саджалі беларусаў, а потым прыйшлі бальшавікі ды пачалі саджаць і тых, і гэтых. Чалавек схільны не заўважаць ані паліцэйскага гвалту, ані неправедных судоў і часта нават лічыць усё гэта “навядзеннем парадку”, пакуль яно не датычыцца яго самога. І ад усведамлення гэтага ёй было асабліва непамысна. Як жыць у родным горадзе, калі ён становіцца падвойнай ці нават патройнай турмой?

За ейным зруйнаваным мостам, на Сніпішках, відаць быў пагорак са святыняй, дзе пан Езус па-ранейшаму нёс на Галгофу свой цяжкі крыж. Проста пасярод дарогі. Ясна было, што бальшавікі не пашкадуюць капліцу. Бо яны не шкадуюць нічога, што стаіць на іхнім шляху.

Ёй у Вільні месца больш не было.

Маргарыта Аляшкевіч



...сплю
а вершы
сняцца, і я іх
люблю...

# Беражы словы

* * *

Збярыся – кажуць цукру ў гарбаце
Сепаруйся – кажуць камлю – ад каранёў і галак
Ногі ў рукі і пераедзь – кажуць зямлі

Сонца аднавока перабягае шлях
напаўнеба
хаваецца ў кусты
больш не хоча свяціць злым

Божа, кажуць, ну будзь чалавекам!
Мы такія файныя табе затачылі нажы
ў Віфлееме

памры, а жыві

* * *

Мая пясчаная дарога
мае бяскрайнія лясы
Ты даў мне, Госпадзе, так многа
Завуць з далёкага парога
іх галасы

Птушынай мовай па хваінках
вядуць у невараць сляды
Бабулю туляць у абдымках
вясковыя клады

Стравела возера без дзеда
Дзе я плыла – цараць смаўжы
Павук сваёй таемнай ведай
нябыту рот зашыў

Любоў як човен беспрытульны
за шнар замкнёнае мяжы
З двара махае мне бабуля –
дамоў бяжы

### *(СОН)*

Мне сняцца вершы
не мае
лепшыя
А ў мяне свайго ого
многа
Не трэба чужога
ідзіце *к лешаму*
іншаму
лепшаму
Нема я, *і вапшчэ*
сплю
а вершы
сняцца, і я іх
люблю
А яны – мяне
хоць і не ма е

### *(СТРАХ)*

Жывёльны страх пакарання
раслінны – страты карэння
Што пройдзе каханне,
што скісне варэнне
Ці вось яшчэ: дарожна-транспартныя здарэнні
Што дзеткі растуць адорвы,
а за іх спытаюць напоўніцу
Што ты неда-
адорана
і вершы твае не ўспомняцца
Што дзевачкай харошай памрэш
як цалкам правільны й дужа занудны верш
Што я толькі баяцца і ўмею
што ў мяне занадта вялікі рот
Што ты мяне не зразумееш
і наадварот

### *(ПЯЦІКРЫЛЫ НАСАБРУХ)*

Маці павінна:
выпрастаць спіну,
перагрызці сабе пупавіну
прыбраць сваю кроў
перакласці вусцішны роў
у пяшчотную калыханку
дастаць сябе з танка
навучыцца зноў мыць галаву
вяртацца ў форму, у радок ці куды там
Яжемаць, адпавядаць!
Як быццам бы ты не памерла
не ўваскрэсла цяпер
невядомы звер
Прыхінаеш мокрую галаву
Бярэш асцярожна паветра

* * *

Накрэслена
Прачнулася лёткай, шчаслівай
на крэсле пакінула
цяжар гадоў
П’ю каву на жарале Кіліманджара
цукерку сонца распушчаю ў вадзе

Што далей, Госпадзе?
Мне трэба вярнуцца й глядзець дзяцей?
Новы дзень
нацягваю, распростваю, адмываю
Вітаю

* * *

Гарбузова галава
палыхае на градзе
Дзе ты быў? Ды так, нідзе,
сніў гарлачыку ў вадзе
доўгую нагу,
сніў зіму і выў тугу,
шыў аблокам на бягу
весялуху,
краем вуха цішыню
доўга-доўга слухаў,
гронкі грыз рабін і глогу,
церабіў дажджу дарогу,
цмока прыручыў, і з ім
волата на яблык збіў,
скінуў злыдня на траву
і адрэзаў галаву
месяцовым промнем!
Каб надоўга помніў!
Шчэрыць зубы галава,
і расце з іх трын-трава

## *(ВЫРАЙ)*

### *I*

Набалелае неба глядзіць бусляняці ў вочы,
след прастыў родных крылаў і доўгіх ног,
трактар шчэрыцца на апошні стог.
Хадзі да мяне, буслянятка, хочаш?
Пойдзем разам спустошаным полем.
Як змагу, захіну
Бо не вернуцца – ах, ніколі! –
адляцелі шукаць вясну.
Спазніўся радзіцца, няўдалы які,
кінулі племя й бацькі,
каб мыць чобаты ў Ніле,
клекатаць трасянковаю суахілі –
ганарымся, наўчылі!

Страчаная малеча
– што нам застаецца?
Енчыць, пакуль адбаліць,
грэцца на печы

***II***

Птушкі вяртаюцца
беларусы – не
дзень спадзеў
прабівае леташнюю траву
гіне ў мароз
Зямля ўпоеная крывёй
без меры
поле костак
агульныя магілкі
курганы няславы
ідзі
мёртвым тварам травы
нясі боль гнеў стому дадому
Бяссілле
лопае крыламі
боця на ворыве
Ўсё будзе добра
Не ведаю, як
Не ведаю, як
толькі веру

***III***

Зямлю засейваю слязьмі
Дзе васількі мае цвілі –
няхай не вырасце нічога
Зямлю мне трактар на раллі
Гвалтуе пыл
мы адышлі
у неба ўздыбленай дарогай

## *(ПАДАРОЖНАЯ)*

Ўсе мы прыхадні, гэй,
трымайма вышэй паходні
Шлях наш доўжыцца, мора стаіць сцяной
Верны той, хто вядзе – імя яго дзіўна – агнём і пылам
Хто стаміўся, зняверыўся, гэй, спявайце са мной

* * *

Парадзіха
і маці забітага
выюць
на мове
болю
Матчына мова
не збавіцца,
не забыць
Калі будуць біць,
яна возьме цябе за горла
пачне табой гаварыць
Мова хіба жывых
Мова, якая помніць
людзей як звяроў
мова, якая
яднае
ўсіх
ёю крычыць
кроў
забітага
Сына
Згіне яна, няхай згіне
Пад новым небам
болей не будзе болю
Кожнае зерне крыві
прарасце мовай любові
А пакуль
беражы
словы

Алег Дашкевіч



...чаму святых сярод мужчын болей,
чым сярод жанчын?..

# Квецік палескі

*Аповеды*

## Залатая павуцінка

Настаў шары ранак. За вакном было чуваць, як пайшлі першыя трамваі. Пакой паступова поўніўся няроўным і няпэўным яшчэ святлом. Са столі, з-пад абажура звешвалася й гайдалася ў павевах скразнячка доўгая павуцінка, на пачатку якой, пад самай лямпай, угадваўся маленькі смешны павучок. Срэбны павучок павольна снаваў па вытканай ім срэбнай павуцінцы, то спускаючыся долу, то зноўку караскаючыся ўгару.

Ён працёр вочы, не звыклыя пасля сну нават да такога сцішанага святла, яшчэ раз зірнуў на павучка й пастараўся вярнуцца ў сон, які час ад часу на працягу гадоў наведваў яго й штораз сканчаўся на адным і тым месцы. Сон гэты быў ягоным наканаваннем, ягонай палёгкай і цяжарам адначасна, ягоным адхланнем. Лёгкі, амаль бязважкі дотык да яе вуснаў. Мятны пах памады. Кожнага разу, калі ён сніў гэты

сон, адчуваў ледзь заўважны прысмак мяты. Гэта быў адзіны пацалунак у іх не вельмі працяглай, але самай сапраўднай гісторыі.

Нібыта ўчора ўсё было, падумаў ён. Нібыта яму не пяцьдзясят, а тыя дваццаць пяць. Інстытут, юнацтва, адна кампанія, каханні-растанні... Калі ён яе ўбачыў упершыню было такое пэўнае, яснае адчуванне свайго. Папросту нейкая хімічная рэакцыя, калі адчуваеш у чалавеку насупраць поўную ўнутраную адпаведнасць. Калі не трэба казаць нейкія дадатковыя словы, адно сустрэць позірк, каб зразумець галоўнае. Усё проста, весела, натуральна. І радасна. Пачуццё глыбіннае прыцягальнасці значна большае за звычайны флірт, раптоўную закаханасць альбо штосьці падобнае апанавала іх абодвух.

Старэйшы за яе на сем гадоў, ён трохі разгубіўся, бо такое з ім здарылася ўпершыню і што з гэтым рабіць, не надта было зразумела. Юная дзяўчына, дачка афіцэра, якая шмат разоў мяняла бацькавы гарнізоны, стала гатовай да новых адкрыццяў і падарожжаў і ўвогуле была зладжаная пад іх. З асяродку, дзе жыццё так ці інакш заўжды было падпарадкаванае пэўным правілам і планам на аглядную будучыню. Рознае выхаванне, розная гісторыя, розны досвед. Зусім невядомы яму свет. Хіба што адно сузор'е Вадаліву, пад якім нарадзіліся яны абое, было для іх чымсьці агульным.

У ягоным жыцці ніякага ўцямнага плану на будучыню не праглядалася. Было складана й невядома. Ён не надта разумеў, што і як далей. Дужа хісткая глеба пад нагамі. Шмат абавязкаў, шмат нявызначанасці, шмат няпэўнасці. Ён не тое, што баяўся, але асцерагаўся звязваць яе гэткай сваёй няпэўнасцю, путамі сваіх жыццёвых праблемаў. З іншымі дзяўчатамі было проста, спрэс звычайныя легкапёрыстыя гульні, дзе, як у любой гульні, прысутнічалі жарсці і азарт, дзе кожны бок дакладна ўсведамляў свае козыры й стаўкі, але разам з тым, дзе, па вялікім рахунку, ніхто нікому нічога не быў вінен. З ёй такога быць не магло, не магло паводле азначэння, бо іх гісторыя была шчырай гісторыяй.

Асаблівую акалічнасць іх узаемінаў, усю іх нябачную важкасць ён адчуў адразу як раптоўнае прыцягненне невядома адкуль паўсталай на ягоным небе новай зоркі. Прыцягненне гэтае было штораз больш моцным і неўзабаве зрабілася амаль крытычным. Яму стала абсалютна ясна, што калі ён падыдзе да яе яшчэ бліжэй, то ўжо не адарвецца альбо адрываць прыйдзецца з кавалкам сэрца. Шчырасць – крывавая катэгорыя. Але і адысці ад яе далёка таксама ўжо быў не ў стане, таму з усіх сваіх сілаў стараўся захаваць такую адлегласць, каб яна была навідавоку, бо адчуваў прагную патрэбу бачыць яе, хоць нейкі час быць з ёй побач, дыхаць адным паветрам. Іх стасункі былі незвычайнымі стасункамі, стасункамі паўтаноў, паўценяў, недамоўленасцяў, матавай празрыстасці. Так, матавай празрыстасці, як гэтае ранкавае святло, што мала-памалу праточвалася ў ягоны пакой.

Было відаць, што яе такія абставіны трохі засмучалі, але нягледзячы на юны век, яна мела спартовы характар і трымала спіну роўна. Толькі аднаго разу, калі ён з нейкай прычыны як бы жартам нагадаў пра сем гадоў іх розніцы, яна наўпрост глянула яму ў вочы й са стрыманай эмоцыяй нягучна спытала: хіба гэтыя сем гадоў маюць які-кольвек сэнс?

Ён паглядзеў на яе працяглым позіркам, злёгку прыабняў і нічога не адказаў.

Яны ведалі адно аднаго ўжо трошкі больш за год. Формула “блізкія стасункі на адлегласці” была формулай недасканалай і па законе чалавечых

узаемінаў не магла набыць якасць канстанты. Ён разумеў, што раней ці пазней яна складзе для сябе новую зорную карту і ў пошуках свайго сузор'я яе зорка рушыць далей па небасхіле. На гэтым іх дзіўная, шчырая й праўдзівая гісторыя, гісторыя паўтаноў, паўценяў, недамоўленасцяў, матавай празрыстасці мусіць скончыцца, растаць, адляцець у вырай.

Павучок зноў спусціўся долу, нібыта правяраючы надзейнасць свае павуціны, і зноў пачаў узбірацца ўгару. Бачыць павучка – да нейкае нечаканае навіны, згадаў ён вядомую з маленства прыкмету й падзьмуў на павуцінку. Яна закалыхалася ад павеву. Павучок, ні разу не напалоханы, спакойна працягваў сваю карпатлівую, засяроджаную ткацкую справу. Павуціна – адзін з самых трывалых і надзейных відаў злучальнае тканкі ў прыродзе, калісьці было прачытана ім на старонках нейкага навукова-папулярнага часопіса. Хіба што так, пагадзіўся ён. Сапраўднае заўжды самае трывалае, хай сабе й тонкае, як павуцінка.

Ён пачаў засяроджана ўглядацца ў павучка, той, быццам адчуўшы ягоны позірк, застыў і, як яму здалося, нечакана памахаў яму адной са сваіх пухнатых лапак. Ён бязгучна засмяяўся, падумаўшы, што варта недзе адшукаць і ўдакладніць падвід гэтай смешнай і загадкавай істоты. Далей ягоныя думкі перапыніла вялікая шэрая каўка, якая села на падваконне, следам прыляцела яшчэ адна, і яны пачалі гучна спрачацца пра нешта сваё. Ён яшчэ працягваў глядзець на птушак, але ўжо зноў занурыўся ў свой сон.

Узімку наступіў люты холад, які пранікаў паўсюль: за зачыненыя дзверы, за падвойныя шыбы, пад зімовую вопратку. Нават абвясцілі некалькі дзён каранціну на занятκі, й мала хто ў гэткую сцюжу насмельваўся выходзіць на вуліцу. Ён, як і іншыя, хаваўся дома і ад няма чаго рабіць, самотна разглядаў ледзяныя карункі на замёрзлым акне. Нарэшце холад пачаў адступаць, ледзяныя карункі на шкле падтавалі, мякчэлі й мянялі свае абрысы, але засталося трывалае адчуванне: нешта новае гэты холад прынёс з сабой у ягонае жыццё і забыў забраць.

Вакол пасупова сыходзіў снег, разгаралася вясна, на даляглядзе маячыла лета. Ён скончаў інстытут, яна – перадапошні курс. Іх інстытуцкая кампанія на пэўны час узяла паўзу. Яны сталі бачыцца радзей і ў інстытуце, і ўвогуле. Як бы звычайная справа – сесія, у яе іспыты, у яго дыплом. Так прабег месяц, за ім яшчэ адзін і неяк няўцямна, набыўшы зусім іншую якасць, змянілася атмасфера: вакол іх, паміж імі ды напэўна і ўнутры іх саміх. У "блізкіх стасунках на адлегласці" адлегласці рабілася болей і болей. І аднойчы наступіў момант, калі нехта з агульных знаёмых як бы між іншым распавёў яму, што бачыў яе з кавалерам. Што нібыта там сур'ёзна, што кавалер зрабіў ёй прапанову і яна пагадзілася. Што вяселле планавалі былі на канец вясны, але яна чамусьці настаяла на жніўні.

Абрыў заўжды паўстае знянацку, – згадаў ён старую індзейскую прымаўку і, каб схаваць роспач, набраў у грудзі паветра, акуратна перавёў тэму й, пасупова выдыхаючы, хутка знайшоў прычыну скончыць размову й сысці.

На паверсе вышэй з панарамнага вакна ўсё было відаць як на далоні. Як сіні тралейбус спыніўся на прыпынку. Як хлынула ў ягонае нутро хваля шумных студэнтаў. Як не з першае спробы зачыніліся тралейбусныя дзверы. Як цяжка ён ад'язджаў. Як прыпынак зноўку застаўся пусты.

Ён разумеў, чаму яна настаяла на вяселлі ў жніўні й быў за гэта ёй дужа ўдзячны.

Калі-нікалі, яны ўсё ж зрэдку й мімалётам бачыліся ў інстытуце, раз-

маўлялі пра нешта несур'ёзнае й няважнае, бывала, з нейкае нагоды нават смяяліся. Але часам каротка й засяроджана, моўчкі глядзелі адно на аднаго, і ў гэтыя імгненні ён лавіў сябе на думцы, што яна рабілася больш дарослай за свае дзевятнаццаць.

Незаўважна надышло лета. Яна здала сесію й перайшла на заключны курс. Ён атрымаў дыплом, адзначыў выпуск і з'ехаў да мора ў Палангу. У жніўні яна выйшла замуж.

* * *

Мінуў амаль год. Ён ужо не памятаў, як яго занесла ў Палац спорту на нейкі экзатычны для Мінска турнір па фігурным катанні. Перад пачаткам, у тлуме каля ўваходу ў палац, яму выпадкова сустрэлася кампанія яе аднакурсніц. Прывіталіся, разгаварыліся пра інстытут, пра знаёмых, пра планы. Ён хацеў, але так і не наважыўся спытаць у іх пра яе. Прайшло колькі хвіляў, размова пайшла па другім коле, яны ўжо рыхтаваліся развітацца, як невядома чаму, адчуўшы нейкі ўнутраны імпульс, ён ясна зразумеў, што вось зараз, тут і цяпер пад гэтымі мадэрнымі калонамі Палаца спорту, абавязкова спаткае, сустрэне яе.

Павуцінка зрабілася даўжэйшай. Павучок спусціўся яшчэ ніжэй, амаль на самы яе канец. Ён мог разгледзець ягоныя пераборлівыя забаўныя ножкі. Ветрык падзьмуў і зноўку аддаліў ад яго павуцінку з павучком, але неўзабаве і павуцінка, і павучок на ёй павольна вярнуліся на сваё месца. Павучок безупынна ткаў сваю самую надзейную й трывалую нітку ў свеце.

Ён заўважыў яе здалёк. Жывая ўсмешка, новая, нязвыклая для яго фрызура, знаёмыя чырвоныя паўбоцікі пад кодавай назвай "гусіныя лапкі". Ён уважліва сачыў, як яна набліжаецца. Нешта непрадказальна змянілася ў ёй за гэты год. Яму здалося, што яна нават стала трошкі вышэй, з нейкай новай упэўненасцю, якую звычайна набывае дзяўчына, што не так даўно выйшла замуж. Яна прывіталася, пачала абдымацца й па жаночы буськацца з сяброўкамі ў шчочкі. Ён стаяў, глядзеў на гэтыя буські-абдымахі й жартам прамовіў радок старога дзіцячага вершыка пра сароку-варону:

– Але! Гэтай дала, гэтай дала, а гэтаму не дала...

Яна замёрла, азірнулася. Задорна, нават з нейкім выклікам глянула на яго, зрабіла паўкрокі наперад, трошкі прыўзняла галаву, злёгку прымружыла вочы і напаўраскрыла ў чаканні вусны. Яго нібыта праццяла маланка, закруціла ў віхуры і як зачараванага выштурхнула да яе. Упершыню ён зрабіў тое, чаго пазбягаў увесь час іх стасункаў – падышоў да яе задужа блізка. Ягоныя раптам засмяглыя вусны ледзь дакрануліся да пакрытых празрыстай памадай яе мятных вуснаў. Час і ўсё навокал спыніла для яго свой бег. Можа, яму проста здалося, напэўна здалося, але яна на драбінку, на долю імгнення затрымала, запаволіла гэты дотык.

Ён паспеў заўважыць шырока раскрытыя, уражаныя вочы яе сяброваk дый сам быў хіба крыху прыгаломшаны. Колькі хвіляў па-над усім панавала агульная ўзрушаная маўклівасць...

Часам здараюцца ў жыцці такія дзіўныя, загрузлыя немым комам у грудзях, невымоўныя паўзы.

Сігнал да пачатку спаборніцтваў прагучаў будзённа й падвёў рысу пад усім. Зайграла музыка адкрыцця, загучаў урачысты голас дыктара і, нарэшце схамянуўшыся ад гэткага дзівоснага здранцвення, яны ўсе, паддаючыся

агульнаму памкненню людской плыні, рушылі ў глядзельную залу. Недзе там унутры палаца ўжо былі гатовыя выйсці на лёд фігурысты й фігурысткі.

Глыбокім вечарам вяртаючыся дамоў, мінаючы Траецкае, Оперу, Асмалоўку, ён штораз спыняўся, задзіраў галаву, углядаўся ў зорную карту начнога неба й шукаў на ім роднае для іх дваіх сузор'е Вадаліву. У грудзях пякло, нібы ў ягонае сэрца з усяго шалу да самае рэшты забілі вялікі гарачы жалезны цвік з прыкутым да яго пахам мяты. Пахам, які назаўжды ўвабраў у сябе ягоны аднасюжэтны і аднастайны сон.

Святла ў пакоі пакрысе большала. Было чуваць, як прачнуліся й збіраюцца па сваіх справах ягоныя сыны. У вакно прабраўся першы сонечны прамень, і здзейснілася праўдзівае чарадзейства, выкшталцоная магія: вытканая маленькім срэбным павучком доўгая срэбная павуцінка імгненна пераўтварылася ў залатую. Ён зачаравана глядзеў, як яна сама й прастора вакол яе заззяла, пырснула залатымі знічкамі. Залатая павуцінка кружляла і іскрылася перад ягонымі вачыма. Яму хацелася глядзець на яе яшчэ і яшчэ, але трэба было падымацца, гатаваць каву ды выбірацца на працу.

## Квецік палескі

Мы гуляем з Квецікам па Варшаве. Квецік – мая старая прыяцелька, якая колькі гадоў таму на стала перабралася ў Польшчу.

Мы знаёмыя даўно, недзе з сярэдзіны 1990-х, калі, выбраўшыся са сваёй палескай вёскі й скончыўшы інстытут, яна дала нырца ў вірлівы разнастайнымі падзеямі Мінск і тутака ж падхапіла вірус фемінізму.

Сваёй грамадзянскай палкасцю Квецік трохі нагадвае мне літаратурных персанажаў часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны мінулага стагоддзя. Я жыва ўяўляю Квеціка ў ролі Паўкі Карчагіна ад фемінізму. Як яна, вылузваючыся, цягне вузкакалейку да феміністкага заводзіка па вырабе гендэрнай роўнасці. Але, вядома, параўнанне не дасканалае, бо, як сапраўдная паляшучка, Квецік, у адрозненне ад літаратурнага Паўкі, не забывае пра сябе.

Гендэрная справядлівасць – яе ідэя фікс, яе жыццёвы стымул, яе сцяг змагання. Звычайная вясковая дзяўчына са здаровым правінцыйным імпэтам, як шмат іншых дзяўчын, ламанулася з вёскі ў горад з думкай пра шчаслівае жыццё. Не ведаю, як наконт шчасця, але справядлівасць гэную яна бароніць і адстойвае заўзята.

Мы мінаем адну з варшаўскіх бажніц, калі Квецік раптам выбухае пякучым для яе пытаннем:

– Ну ты паглядзі, – звяртаецца яна да мяне, – вось касцёл, там іконы і фрэскі, а на іх святыя пераважна мужчыны. Чаму святых сярод мужчын болей, чым сярод жанчын? Хіба гэта слушна? Хіба гэта справядліва? Хіба жанчыны не заслугоўваюць роўнай з мужчынамі святасці?

Я трохі разгублены. Пакуль я спрабую нешта натужна сцяміць і адказаць на зусім нечаканае для мяне пытанне, шукаючы нейкія, як мне здаецца, лагічныя аргументы, твар Квеціка чырванее, яе ноздры, як кавальскія мяхі, шырока раздзімаюцца ўнутраным агнём. Яна імкліва паскарае хаду. Я ледзь паспяваю за ёй па брукаваным варшаўскім ходніку. З разгону мы амаль улятаем у касцельны двор праз не дужа шырокую брамку.

Я не ведаю, як у ёй ўсё гэта суіснуе і ўтрымліваецца разам, але Квецік таксама лічыць сябе адданай каталічкай. Калісьці, незадаволеная паводзінамі праваслаўнага кліра на радзіме, яна раптоўна й не вагаючыся перахрысцілася

з праваслаўнай галіны хрысціянства ў каталіцкую.

Тым часам яе вочы загараюцца змагарным ззяннем, вусны сціскаюцца ў тонкую лінію, а падбароддзе выпінаецца наперад.

Квецік спрытна падбягае да драўлянага крыжа, у якім тырчыць процьма вялікіх і малых цвікоў і, схапіўшы малаток, адным ударам уганяе цвік-сямідзясятку амаль па самую плешку ў цела спрэс зацвічанага крыжа. Паўстае паўза. Я ўражаны яе ўдарам, каб не сказаць шакаваны.

– Гэты зацвічаны крыж – сімвал пакутаў Хрыстовых. Убіваючы цвік, мы каемся й прызнаем, таксама сваю віну за тое, што Хрыстос быў укрыжаваны, – сходу тлумачыць Квецік свой парывісты ўчынак.

– Ведаеш, – я працягла гляджу Квеціку ў вочы, на яе высунутае наперад падбароддзе, на крыху ўжо апалыя храпы і кажу, што не буду з ёй спрачацца наконт гендэрнай справядлівасці ў рэлігійных справах і нават па-за імі.

– Ты мяне пераканала, – зазначаю я. – Пасля такога ўдару Хрыста з крыжа, пэўна б, ужо не знялі.

Следам набіраю поўныя грудзі паветра і чакаю пытання пра правамоцнасць верхавенства Хрыста як Бога, бо ён усё ж мужчынскага роду, і адначасна стараюся не рагатнуць. Квецік змаўкае, яе вочы трохі губляюць у ззянні, і я выдыхаю.

Яна яшчэ нешта гаворыць, сыплючы прыкладамі і аргументамі на карысць тае гендарнае роўнасці, але я ўжо думаю пра іншае. Я згадваю гісторыю яе пярэбараў у Варшаву. Мінскі чыгуначны вакзал. Нашае заўсёднае сутонне, хмарнае неба й дробны дождж. Тыя ж сціснутыя ў рыску вусны, выпнутае падбароддзе, але радасныя вочы.

Згадваю, як да таго яна спрабавала была зачапіцца на *пмж* то ў Нідэрландах, то ў Канадзе. Як са скрухай вярталася на радзіму, пакуль нарэшце не выпаў для яе варшаўскі шанец. Я разумею, што калі б нарадзілася Квецік трохі раней, з той самай жарсцю яна штурмавала б межы якой Масквы альбо Піцера і ўрэшце ўзяла б іх наскокам ці аблогай, бо жыццёвае жарсці, практычных здольнасцяў і таленту ў маёй прыяцелькі даволі.

Між тым мы набліжаемся да варшаўскага двожэца цэнтральнага, дзе мусім развітацца. Я вырушу ў кірунку мілае Бацькаўшчыны, Квецік застанецца ў Варшаве, каб уладкоўваць сваё эміграцыйнае жыццё. Пэўны, яна не прападзе ні ў Варшаве, ні ў Лос-Анджэлесе, ні ў Бангкоку. Я гляджу на яе моцную паставу, на вялікія сялянскія рукі, якімі яна моцна трымае свой лёс і свой феміністкі сцяг, адно са скрухай думаю пра долю якога польскага Кшысека ці Тадзіка, які знянацку патрапіць у яе жалезныя палескія абцугі.

## Сакавіцкая пагодка

Вясна, добрая кампанія, вясёлы настрой, сонца й неба, расслабон пасля трэніроўкі й пара прыпынкаў, каб зайсці да сяброў у інтэрнат, кінуць рэчы й выправіцца на вечар у тэатральна-мастацкі інстытут. Але часам паўстае але... У гэты дзень тое *але* было ў дзвюх асобах. Адзін высокі, моцны хлопец у кірзавых ботах, дзіўным паўармейскім прыкідзе, з расшпіленым кіцелем пад цывільнай балоневай курткай. Недзе глыбей у нетрах праглядаўся дэсанцкі цельнік. Мутныя вочы й такі смуродны *выхлап*, што стаяць побач было праблемна. Другі такі ж паддаты, але худы, як швабра, з бруднаватай шапкай з пампонам на галаве. Зачапіліся з-за цеснаты ў набітым трамваі. Хтосьці камусьці наступіў на нагу, трохі штурхануў, сказаў не так.

– Ты сваімі кірзачамі акуратней тапчы, – Пашка Валынец вызваляў свой красовак-*adidas* з-пад кірзавага бота, а я з высілкам выцягваў загрузлую паміж “кірзачом” і “пампонам” спартовую кайстру.

Кірзач, дыхнуўшы перагарам, адгукнуўся:

– Нечага свае педалі саваць мне пад ногі.

Далей слова за слова. Мы на іх рэагавалі, вяла пасмейваючыся, не болей за тое, бо была абсалютная душэўная раўнавага, файная сакавіцкая пагодка і дужа няроўныя сілы. Іх было двое, нас пяцёра: я, два Ванькі – Самакат і Ліпень, Сашка па мянушцы Сярэдзіна й Пашка Валынец. Пакуль даехалі ад старога корпуса ІФК да інтэрната на скрыжаванні Якуба Коласа і Хмяльніцкага, здаецца, усё сціхла-супакоілася. Мы ўжо былі паспелі выйсці на прыпынку і перайсці праз трамвайныя рэйкі, як праз паўзу следам вывалілася з трамвая й тая парачка.

– Алё, салапеты, стойце, дагаварыць нада.

Мы нават не азірнуліся. Да інтэрнатаўскіх дзвярэй заставалася ўжо метраў пятнаццаць, калі мне ў спіну (я ішоў апошнім) прыляцеў кавалак лёду. Ніхто нават не паспеў заўважыць, хто з тых двух балбесаў гэта зрабіў. Мы адначасова развярнуліся. Я скінуў з пляча трэніровачную кайстру. Вакол, прадчуваючы пэўную атракцыю, пачалі тармазіць выпадковыя гледачы, краем вока я ўгледзеў трох курсантаў акадэміі міліцыі.

– Слухайце, пацаны, давайце пілуйце па вашых справах, выпіць там, закусіць. Мы ж вас не чапаем, – Ванька Самакат зрабіў спробу неяк сцішыць наспяваючы канфлікт, але...

– У мяне такія, як вы салагі гусіным крокам перад адбоем маршыруюць, – напіраў п’яны Кірзач, і ўжо было абсалютна ясна, чаго варта чакаць.

Пакуль я прыкідваў, як ён будзе біць, меншы Пампон з сілай падфутболіў маю спартовую кайстру, кайстра падлядела і прызямлілася ў сумёт з мокрым снегам. Самакат стаяў насупраць Пампона з выразам сваёй заўсёднай летуценнай усмешкі на твары. Праз гэтую бажаволкавую ўсмешку цяжка было дапусціць, што яе носьбіт б’е, як капытом, што з левай рукі, што з правай. Я яшчэ падумаў, што зараз той Пампон падляціць, як мая кайстра, але Самакат толькі расшпіліў вузкаватую марынарку й пацёр сабе кулаком нос. Тым часам Кірзач, рухава падступіўшы бліжэй на паўкрока і размахнуўшыся па-калгаснаму, падобна, цэліў правай рукой мне ў вуха.

Ці мне падалося, ці сапраўды ён замахваўся так доўга, але я паспеў разгледзець значкі на ягоным кіцелі – “спецыяліст другога класу”, “воін-парашутыст”, “гвардыя”. Я нават ўжо трошкі падсеў улева, каб зручней было нырнуць пад ягоную зараджаную правую. Але нырца так і не атрымалася, аднекуль з-за маёй спіны вылецеў кулак Ванькі Ліпеня і трапіў дакладна ў валявую ямку на сківіцы Кірзача.

Гэты момант, калі мяняюцца эмоцыі на твары, цалкам кінематаграфічны. Злосць, жарсць атакі на твары Кірзача саступілі месца застылай масцы поўнага неразумення, нават нейкага дзіцячага здзіўлення, якое адбілася перадусім у ягоных вачах. Ён, як дрэва, не згінаючыся, заваліўся назад, з вышыні свайго немалога росту звонка ляснуўшы патыліцай аб настылы сакавіцкі асфальт. Аб’ёмны, густы рэзанансны гук, які нагадваў гук удару ў вялікі чукоцкі бубен адмысловай шаманскай прыладай, запоўніў прастору. Рукі Кірзача, як крылы, раскінуліся абапал, а ногі ў армейскіх ботах – наадварот, неяк нязвыкла й кранальны выпрастаныя, скаліся разам, нібы прыклееныя адна да адной. Рыфлёныя армейскія падэшвы зыркалі ў свет чорным графічным узорам.

Пакуль я разглядаў падэшвы Кірзача, Самакат каротка й лёгка тыцнуў пярэдняй левай наўпрост пад нос Пампону. Пампон захістаўся, пару разоў, нібыта хацеў, але перадумаў прысесці, пасля ў адмысловым *па* крутнуўся вакол сваёй восі і ўрэшце ўваткнуўся галавой у сумёт непадалёк ад маёй кайстры. Праз колькі секунд ён выцягнуў сваю п'яную галаву з сумёту, падняўся на ногі, абцёр твар ад снегу і, засунуўшы праз разбітую губу ў рот палец, тонка заенчыў да Самаката:

– Шо ты мне здзе-елаў, ты мне зуб выбіў!

Сапраўды, праз крывавую сліну, што пухірылася пад носам, было відаць чорную дзірку на месцы верхняга разца.

– На што ты кайстру футболіў, што яна табе зрабіла? Нічога не зрабіла, праўда ж? – рытарычна спытаў Самакат у Пампона, з той самай летуценнай усмешкай на твары. – Шукай цяпер свой зуб. Калі знойдзеш пакладзі пад падушку на ноч, можа, зубная фея табе новы прынясе, калі далей такім дзяўбадзятлам не будзеш.

Пампон, хістаючыся, працягваў нешта енчыць і мацюкацца. Я забраў з сумёта кайстру, уважліва агледзеў яе, ці не запэцканая яна крывёй. Кірзач тым часам з раскінутымі рукамі й выпрастанымі роўненька нагамі заставаўся непрытомным ляжаць на асфальце. Пампон, не надта ведаючы, што рабіць, з пальцам у роце й зморшчаным ілбом грымасна пазіраў на свайго зрынутага таварыша. Мы павярнуліся й рушылі дамоў.

– Навошта ты дурня таго паклаў? – на хаду спытаў Валынец у Ліпеня.

– Дык ён жа біць збіраўся. Я на апярэджанне, – Ванька аж но папярхнуўся, адказваючы на, здавалася б, відавочнае.

– Але гук быў казачны, як той зазямліўся, – хмыкнуў Сашка-Сярэдзіна. Мы з Самакатам глянулі адзін на аднаго й хітнулі галовамі. Сапраўды, гук таго ўдару правакаваў да пошуку асаблівай метафары.

Перад самым уваходам у інтэрнат нехта збоку ціха параіў, каб мы праміналі парадныя дзверы й заходзілі з чорнага ходу.

У пакоі на другім паверсе запарылі гарбаты й, чакаючы, пакуль яна настаіцца, збольшага маўчалі. Праз хвілінаў пятнаццаць Сашка-Сярэдзіна пайшоў да суседзяў насупраць паглядзець у вакно, што там унізе з тым Кірзачом. Калі вярнуўся, то каротка кінуў: накаўт яшчэ.

Размова не йшла, рабілася неяк трывожна і, счакаўшы яшчэ колькі хвілінаў, мы разам пацягнуліся, каб таксама паназіраць, што там робіцца на полі бою пад вокнамі інтэрната. Вакол распластанага Кірзача назбіралася чалавек дваццаць. Было відаць, як Пампон падкладаў пад галаву таварышу сваю шапку з пампонам. Яшчэ хвілінаў праз пятнаццаць пад'ехала "хуткая", за ёй міліцыя.

– Але здаецца, могуць быць праблемы, – Валынец прабурчэў тое, пра што ўсе мы думалі.

Яшчэ хвілінаў праз сем пытанне Ванькі Ліпеня: хлопцы, а раптам я яго прыбіў? – падвісла на паўзе, пакуль нехта не вымавіў у адказ, што, маўляў, не дуры галавы, Іван, дэсантнікі галавой цагліны крышаць, ды й п'яным дурням шанцуе.

– Цэглу аб лоб б'юць, а гэты макаўкай зазвінеў, – неяк тужліва адгукнуўся Ліпень.

Тым часам за вакном усё яшчэ нерухомага й непрытомнага Кірзача паднялі на насілкі й засунулі ў "хуткую". Мы паслалі хлопца-прыяцеля ў разведку

на двор, каб паглядзеў-паслухаў, што да чаго, а самі раз-пораз, стараючыся быць незаўважнымі, пазіралі ў вакно. Чым далей разведчык затрымліваўся, тым болей нам рабілася ніякавата. Урэшце Ліпень не вытрымаў, сказаўшы на развітанне: хлопцы, я дадому, патэліце як што, – і разгублена рушыў за дзверы. Нейкі час мы сядзелі моўчкі, адно Самакат не губляў гумору. Развешваючы мокрую трэніровачную вопратку на гарачым інтэрнацкім радыятары, ён голасна прыкідваў, колькі каму дадуць за забітага героя-дэсантніка:

– У газетах напішуць, што злобная хеўра баксёраў напала на абаронцу айчыны, а ягонага санчапансу зрабіла калекам, – скаліўся Іван. – Цікава, на колькі мне пацягне зуб Пампона?

Мы нервова заўсміхаліся, але, па праўдзе, было не да жартаў. Я ўсё сядзеў ды згадваў той насычаны звон ад сустрэчы патыліцы з асфальтам. Думаў, што мусіць быць у той галаве, каб адбылася такая гукавая рэверберацыя, напружана ўспамінаючы, дзе яшчэ чуў падобныя гукі, але, апроч таго шаманскага бубна з нейкай тэлевізійнай перадачы, нічога на розум не прыходзіла.

За вакном набеглі хмары, стала шэра, шпурнула снежным шротам. Надвор'е веснавое зменлівае. Я глядзеў уніз на мітусню вакол Кірзача, а ў маёй галаве заезджанай плыткай чамусьці пачалі круціцца радкі старога хіта савецкай эстрады:

*А за окном то дождь, то снег,*
*И спать пора, и никак не уснуть,*
*Все тот же двор, всё тот же смех,*
*И лишь тебя не хватает чуть-чуть...*

Цікаўных вакол “хуткай” і варанка збіралася ўсё болей. Курсанты-мянты нешта тлумачылі вылезламу з варанка лейтэнанту. Побач стаяў-паліў худы, панылы й згорблены Пампон.

Раптам Пашка Валынец пачаў распавядаць, як месяцы з два таму дробны-дробны барэц-вольнік каўказец Абдула з нейкай прычыны прыкладна на тым самым месцы кінуў прогібам здаравеннага афрыканца. Таму пашанцавала, бо зіма была снежная і Абдула кінуў яго на высока намецены свежы беласнежны сумёт. Афрыканец хутка падскочыў, крыкнуў нешта-нейкае злоснае Абдуле на французскай і ўцёк. Абдула сваім гартанным каўказскім горлам колькі разоў выгукнуў наўздагон таму: факін фак! Адзінае, чаму навучыўся на ангельскай за сваё спартова-студэнцкае жыццё. Каўказцы афрыканцаў чамусьці не надта палюблялі.

Тым часам машыны міліцыі й хуткай дапамогі павольна вырушвалі, калі нарэшце прыйшоў наш разведчык.

– Кліент ваш пасля таго, як Ванька яго з катушак збіў, выключыўся і заснуў п'яны. Заснуў у самым простым сэнсе, – адчыніўшы дзверы ў пакой, пачаў балабаніць засланец. Напруга яшчэ трымала нашыя твары, мы ўважліва слухалі, што далей: – Халера, яму нашатыр у нос, а ён толькі мычыць ды рукамі адмахваецца, – працягваў прыяцель. – Ціск памералі ў “хуткай” – ідэальны: 120 на 80, сэрца – ок, рытм чоткі, пульс размераны. Пасля галаву падняў, трохі фокус навёў і пытае: дзе я? І зноў галаву адваліў і захроп. А выхлап такі, што медсястра з доктарам насы пазатыкалі. Гузак памацалі на патыліцы, зрабілі ўсё, што вымералі медычна, запісалі нешта й кажуць: не наш кліент, жывей за ўсіх жывых. Той ледзь ачомаўся, мянты

яго да сябе перасадзілі й давай распытваць, хто-што. Чувак у адпачынак выбраўся з войска. З тым худым сябруком сваім, Пампонам, сустрэліся і з такой нагоды чарліка накацілі. Казаў мянтам, што бутэльку “Агдаму” выпілі на двух, а пасля да знаёмых дам паехалі ў Зялёны Луг. Мянты ржалі з “бутэлькі агдаму на двух”. Прасіў адпусціць, але, пэўна, павезлі да вайсковай камендатуры дурня, бо звязваліся па рацыі з начальнікам, што рабіць, маўляў. Той сказаў вязіце туды, хай камендатура разбіраецца з вайсковымі. Цяпер будзе яму адпачынак. Курсанты тыя з міліцэйскай акадэміі, дарэчы, усё праўдзіва засведчылі, што гэтыя чобаты самі нарваліся. Пампона таксама забралі. Мент у яго пытаецца: што ты сябра свайго не спыніў, а той усё пра зуб свой. Сяржант ухмыльнуўся й кажа: не пераймайся, уставіш модную фіксу жоўтую, будзеш у аўтарытэце на раёне.

Ён яшчэ не скончыў распавядаць, як мы ўсе разам выдыхнулі і заўсміхаліся, заўсміхаліся шчыра й лёгка. Пасля адначасна загаварылі. Так бывае, калі ўсе, перабіваючы адзін аднаго, пачынаюць гаварыць раптам і пра ўсё. Валынец паведамляў, што збіраецца на наступныя выходныя дадому ў Баранавічы, Іван Самакат распавядаў пра мінулае паляванне з бацькам і братам на дзіка, Сашка-Сярэдзіна пра нейкія недазданыя залікі па хіміі. Далей пачалі спрачацца, ці варта ўжо ісці на той вечар у тэатральна-мастацкі інстытут, можа, лепш у лазню й на піва. Пра просьбу Ванькі Ліпеня пазваніць ніхто й не згадаў.

За вакном пракаціў трамвай, вецер хістаў правады ды рваў хмары. Сакавіцкае надвор’е брала сваё. Мне пякло нядаўняе расстанне з дзяўчынай, з якой сябраваў больш за два гады, і неспадзявана я шэптам пачаў напяваць той самы хіт савецкіх сямідзясятых, невядома чаму спрабуючы перакласці яго на беларускую:

*А за вакном то дождж, то снег,*
*І спаць пара, і ніяк не засну,*
*Ўсё той жа двор, ўсё той жа смех,*
*Адно цябе не хапае крыху.*

дэбют

Лусінэ Маскалюнец



...Страх

Гэта

Я...

# Матчына мова

## *ДЗЕВАМ НА ВОДАХ*

на тэрыторыі Беларусі
сустракаюцца два віды рагозу
(той, які ты ўсё жыццё блытаў
з чаротам:
*typha angustifolia* і
*typha latifolia*.
ты запярэчыш, што гэта
нішто на фоне трыццаці відаў
каралеўскіх брытанскіх садоў К’ю.
але нашто мне тыя дваццаць восем,
калі ў іх не блукае яна,
захінутая у чырвонае цела,
вочы поўныя жаху
перад полымем соснаў,
перад бляхай маўклівага месяца

па-над чоўнам у неспакойнай вадзе,
дзе яна па калена ў гарлачыках,
па горла ў бядзе шкадуе,
што яшчэ
не нарадзілася Філіф'ёнка,
каб навучыць яе,
як перажыць смерч і
як праць у рацэ дываны
без воцату і
без страху

* * *

полем
гук гук гук
у нікуды
рух рух рух
крыві
жур жур жур
руплівы
плуг плуг плуг
кіпучы
бруд бруд бруд
вільготны
сум сум сум
стомы
вуж вуж вуж
у дзіры
душ душ душ
шэпты
рун рун рун
лёсу
шнур шнур шнур
ты толькі
руш

## *МТЗ*

мае дзеці,
узрошчаныя на
дызельных стэроідах
вырадкі,
прыбраныя ў
адмерлую скуру
сіняе робы!

вы маглі бы
быць роўныя
богу,
калі б
ён схуднеў
да вашай
вагавой катэгорыі.
а пакуль
сплаў вашых цел
на маім языку,
я выдзяру
ў словаў-падзёнак
крылы,
каб праляцець
паўз
манаў
талых
зямлю

### МАТЧЫНА МОВА

Вырваць з карэннем язык
Траўматычны рытуал
Які павінен прайсці кожны
З нашых
Вырваць не дастаткова
Поўная ачыстка розуму і душы
Выс
Кра
Бці
Забыцца,
як мама на ноч спявала
Зарыцца
Ва ўспаміны якіх не існуе
А што калі матчына мова
не ёсць мовай Тваёй маці?
Сама сабе маці
Сама сабе слова
Сама сабе

### УЛАДЗІМІРУ К.

быць можа, ты там
таксама пішаш...

натхняешся
водарам бэзу
ды веліччу
месяца ноччу.
можа, ты там нават
паспеў палюбіць
джаз-фанк. а можа,
ты любіў яго заўсёды.
і да дрыжыкаў
узносяцца моцныя грудзі,
як і мае,
ад нясцерпнай пяшчоты.
.
і на рамонкавым полі
ў элегантным строі
пад гукі
таго самага джазу
ты збіраеш каханай алмазы,
бо каханне –
апошняя зброя
падчас вайны і халеры.
і ў самоце сваёй
не адшукаюць роўных
тыя кветкі.
.
пякельна,
калі ўнутранае,
выпешчанае
крышацъ, бы свежы, яшчэ
цёплы хрусткі хлеб,
алмазаў квет
ужо зіхаціць
не ў наручы каханай,
а ў балоце.
пішу табе дамоў
праз безліч год,
Валодзя.

### *СТРАХ*

Які глыбока пад скурай
Недзе там
Паміж пражылкамі мяса
Бліжэй да касцей
Які з’ядае цябе
Які з’ядаеш ты

Мажаш яго на хлеб
Замест масла
Да ранішняй гарбаты
Страх без тлушчаў
Празрысты
Цягучы
Ён частка цябе
Не саскрабеш
Лязом нажа
Як бы віртуозна
Ні трэніўся
Па кніжках этыкету
Страх
Гэта
Я

* * *

Ежа. Мае ўсё і нічога.
Культурны код маёй сям'і
Пакладзены на хлеб
Захутаны ў фольгу
Памазаны шчодра яйкам
Каб залацілася хрусткая
Корачка.
Любоў у маёй сям'і
Цягнулася
Цыбульнаю касою
З каморы
Праз маю патыліцу
А скончвалася
Болем у пазногцях.

Менавіта яны нязносна
Баляць, калі страчваеш
Блізкіх.

### *А ТАК ХОРАША РАЗМАЎЛЯЛІ*

“бэзе мой,
твае зламаныя рукі кранаю,
пальцы твае духмяныя
у слоіку ад матчынага сочыва
з кіслых вішняў

разам з мутнаю вадою –
вы ўсё, што мне засталося
ад дома..

па той бок неба,
бэзе мой бэзе,
птушкі маўчаць
чалавечым голасам
пра галоўнае,
пакуль срэбнымі
лускамі лупіцца
кволае цела горада..

каб толькі драбочкі
тых лусак
калісь даляцелі
і на маю галаву!

па той бок сонца,
якому горад аддана падстаўляе
свае чорныя ад пакоры грудзі
расце такі ж бэз,
уяўляеш?"

"а што засталося дому
ад цябе?"
пытае.

вось дзе паскуда.

Антоні Эдвард Адынец



...І пад крылом тваёй арлінай моцы віўся
Мой дух і думка ў небазорыстыя высі!..

# Невядома што, або Рамантычнасць

Пераклад з польскай Ірыны БАГДАНОВІЧ.

**“Сяброўства наша – каўчэг юначы...”**

*Некалькі ўступных развагаў ад перакладчыка*

У абсяжнай і размаітай панараме гісторыка-літаратурнага жыцця Беларусі XIX стагоддзя творчая постаць Антонія Эдварда Адынца (1804 – 1885) звяртае на сябе ўсё большую ўвагу сучасных даследчыкаў і перакладчыкаў айчыннай польскамоўнай спадчыны. У 1990-я гг. намаганнямі Уладзіміра Мархеля і Кастуся Цвіркі некаторыя яго творы пабачылі свет на старонках дзвюх грунтоўна ўкладзеных анталогій. Адна з іх – “Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя”, выдадзеная ў 1998, укладальнік і перакладчык верша Адынца “Песня філарэтаў” Уладзімір Мархель. Другая – “Філаматы і філарэты: Зборнік”, выдадзены ў тым жа 1998 годзе ў распачатай на два гады раней кніжнай серыі “Беларускі кнігазбор”, укладальнік, аўтар прадмоў, каментароў і перакладчык усіх тэкстаў Кастусь Цвірка. Гэтыя выданні, а таксама асобныя тамы літаратурнай спадчыны Адама Міцкевіча (1998) і Яна

Чачота (1996) у перакладзе на беларускую мову ў той жа серыі, прымеркаваныя да 200-гадовых юбілеяў слынных пісьменнікаў нашага краю, сяброў вядомых моладзевых таварыстваў філаматаў і філарэтаў, стварылі надзейны грунт для ўспрымання і замацавання іх польскамоўнай творчасці ў пантэоне айчыннага прыгожага пісьменства.

Творчасць іншых пісьменнікаў з кола былых філаматаў і філарэтаў, таксама вельмі цікавая і вартая ўвагі, застаецца яшчэ дагэтуль мала адаптаванай у сучаснай беларускамоўнай культурнай прасторы. Тым не менш абсяг перакладзеных твораў пашыраецца і адкрывае нам новыя далягляды самапазнання. Асабліва значным унёскам у гэтую справу стала выданне ў 2020 годзе ў вядомай мемуарнай серыі “Наша XIX стагоддзе” вельмі значных па фактуры мемуараў Антонія Эдварда Адынца “Успаміны пра мінулае” ў перакладзе Яніны Кісялёвай (проза) і Марыі Мартысевіч (вершы). А літаральна нядаўна, на пачатку бягучага 2023 года, у папулярнай серыі “Паэты планеты” свет пабачыў невялічкі, вельмі зграбны томік паэзіі Адынца “Выбраныя вершы з нагоды і без”, з густам укладзены Марыяй Мартысевіч. Кнігу склалі каля трох дзясяткаў знакавых вершаў аўтара ў выдатных перакладах Кастуся Цвіркі, Антона Францішка Брыля і самой укладальніцы.

Антоні Эдвард Адынец пражыў досыць доўгае жыццё, перажыўшы на некалькі дзесяцігоддзяў сваіх слынных сяброў-філаматаў Яна Чачота, Тамаша Зана, Адама Міцкевіча. З Міцкевічам яго лучыла асабліва глыбокае і трапяткое сяброўства, якое знайшло прыгожае адлюстраванне ў яго мемуарнай прозе і паэзіі. Разумеючы геніяльнасць свайго сябра і значнасць уплыву яго асобы і творчасці на ўсе літаратурныя і грамадскія справы для айчыны і свету, Адынец успрымаў сябе побач з ім заўжды вельмі сціпла і карэктна, заўжды як бы ў ценю яго славы, як настаўніка кшталту біблійнага прарока, а сябе як яго вучня.

Для пашырэння знаёмства з творчасцю гэтага неардынарнага, таленавітага паэта прапаную для чытачоў “Дзеяслова” ў сваім перакладзе некалькі вершаў Антонія Эдварда Адынца, у тым ліку прысвечаныя Адаму Міцкевічу, якія да гэтага часу не перакладаліся на беларускую мову. За выключэннем пазначанага вельмі дасціпным гумарам верша “Невядома што, альбо Рамантычнасць”, які змешчаны ў згаданай кнізе выбраных вершаў у перакладзе Антона Францішка Брыля. Прапаную сваю перакладчыцкую версію гэтага твора, вядома ж, не дзеля канкурэнцыі, а толькі дзеля разнастайнасці магчымасцяў, якія ўзбагачаюць літаратурны рух, бо кожная перакладчыцкая версія – гэта, па-сутнасці, новая мастацкая інтэрпрэтацыя, якая рассоўвае межы арыгіналу і стварае вакол яго ўнікальную прастору рэцэптыўных сэнсаў. Вось жа, да прыкладу, Міцкевічаў санет “Да Нёмана” налічвае каля двух дзясяткаў перакладчыцкіх інтэрпрэтацый, і кожная з іх мае сваю вартасць. А той жа верш Адынца “Песня філарэтаў” мае таксама дзве перакладчыцкія версіі – Уладзіміра Мархеля і Кастуся Цвіркі.

Сяброўству з Адамам Міцкевічам прысвечана адрасаванае яму пасланне “Да Адама Міцкевіча. *Па вяртанні з Везувія*”, датаванае 1930 годам. Гэта другі верш дыптыха, напісанага з акалічнасці сустрэчы сяброў у гэты час у Рыме і Неапалі. У біблійным духу Адынец акрэслівае ў сваім дыптыху ролю і значэнне Міцкевіча як Богам натхнёнага паэта, на якога з нябёсаў “сплывае Дух Панскі” (пераклад першага верша апублікаваны ў часопісе “Наша вера”, 2022, №2). Важнай мастацкай дэталлю ў другім вершы выступае легендарны плашч Міцкевіча, якім сябры ўкрываліся разам ад ветру на вяршыні Везувія і які потым Міцкевіч перадаў свайму сябру. Адынец параўноўвае яго з чароўным плашчом старазапаветнага прарока Іллі, якім прарок рассякаў воды Іярдана, каб перайсці па сухім на другі бераг; потым, калі прарок Ілля ў вогненай калясніцы быў узяты на неба, яго плашч упаў на яго вучня Элісея. Гэтым параўнаннем

Адынец надаваў сакральны сэнс свайму сяброўству з Міцкевічам, а за самім сябрам замацоўваў статус біблійнага прарока.

Высокая рамантычная ўзнёсласць духу ўласцівая і двум іншым вершам Антонія Эдварда Адынца, прадстаўленым у гэтай публікацыі: "Пацеры" (1823) і "Русалкі" (1825). Напісаны яны былі ў час, калі рамантызм перажываў свой росквіт на нашых землях, а балада была самым распаўсюджаным і ўлюбёным жанрам маладых рамантыкаў, што гуртаваліся ў таварыствах філаматаў і філарэтаў. Менавіта ў стылі балады напісаны і гэтыя творы Адынца, якія вылучаюцца сваёй сюжэтнай неардынарнасцю і вобразнай адметнасцю, пры гэтым захоўваючы асноўныя жанравыя рысы балады: эпічную апавядальную плынь пра "рэальныя падзеі", у межах якіх адбываюцца звышрэальныя таямнічыя рэчы, чыняцца цуды.

Верш "Пацеры" мае падзагаловак "З павятовай аповесці" і ў прыжыццёвым выданні 1874 г. быў аднесены аўтарам да цыклу "Легенды". У многіх сваіх вершах Адынец разважаў над духоўнымі пытаннямі: што такое праўдзівая хрысціянская вера, што значыць на справе евангельская любоў да бліжняга, якую малітву чуе і прымае Пан Бог? Яскравую рамантычную ілюстрацыю такіх разважанняў менавіта і прадстаўляе яго верш "Пацеры", змест якога дае ўсе падставы залічыць яго да баладнага жанру "свіцязянскага" тэматычнага цыклу, хоць канкрэтная назва возера, на беразе якога адбываецца апісаны ў творы цуд, тут і не згадваецца, яно выступае хутчэй як зборны рамантычны ландшафтны сімвал. Два персанажы сустракаюцца ў гэтым вершы: каталіцкі святар, ксёндз, абазнаны ў кніжным пісанні і малітвах, і прастак-селянін, які, жывучы ў глушэчы, далёка ад святыняў, па-свойму моліцца Богу і праслаўляе Яго як Стварыцеля свету. Ксёндз, стаўшы сведкам такога дзіўнага для яго "народнага" спосабу выражэння веры, уражаны гэтым, адчуў патрэбу навучыць прастака правільным малітвам. Аднак яшчэ больш ён быў уражаны, калі пабачыў, як прастак бяжыць проста па воднай гладзі возера, даганяючы яго, каб перапытаць забытыя словы малітваў. Для святара гэта было сведчаннем праўдзівай і глыбокай веры селяніна, які цалкам давяраўся Богу і, не баючыся, крочыў проста па вадзе, як гэта рабіў, паводле Евангелляў, сам Хрыстос.

Поўны таямнічага арэолу таксама і верш "Русалкі", прысвечаны Адаму Міцкевічу. Ён мае вонкавыя рысы верша-паслання. Аднак рух сюжэта, народна-паэтычныя вобразы русалак, уся загадкавая атмасфера твора, сведчаць, што перад намі, несумненна, адмысловы ўзор баладнага жанру. Верш быў напісаны ў часе, калі Міцкевіч ужо вымушаны быў пакінуць родны край і жыў як ссыльны па справе філаматаў у Расіі. "Сяброўства наша – каўчэг юначы – // У бездань адплыў, здаецца /.../ ", – выказваў скрушлівы настрой з прычыны гэтага вымушанага расстання аўтар. Ён малюе ў баладзе містычную сцэну сустрэчы з русалкамі ў славутай ковенскай даліне, апетай у творах Міцкевіча. Вельмі кранальна, з вялікім пачуццём замілаванасці апісвае Адынец, як любілі яны разам бываць у гэтай маляўнічай мясціне, дзе рака Вілія зліваецца з велічным Нёманам і дзе Міцкевіч перажываў асаблівае натхненне. Каб прывітаць сябра і даслаць яму вестку з радзімы, Адынец стварае атмасферу ўласнай містычнай сустрэчы ў ковенскай даліне з русалкамі, якія ў вечаровым змроку прымаюць яго за Адама, а потым, даведаўшыся, што памыліліся, просяць перадаць Адаму сабраныя ў даліне кветкі, каб засведчыць, што тут, на радзіме, яго памятаюць і любяць. Пішучы сваю баладу як "суправаджальны ліст" да гэтага сімвалічнага падарунка, які быў адмысловым мастацкім вобразам, аўтар паслання выказваў спадзяванне, што і адрасат не забудзе тых, хто застаўся на радзіме.

Незвычайная містычная сітуацыя, апісаная ў гэтай баладзе, мела свой кранальны рамантычны працяг, бо, найверагодней, пад яе ўплывам у 1842 г. верш-пасланне "Да Адама Міцкевіча" напісала таксама вядомая польскамоўная пісьменніца

нашага краю Габрыэля з Гюнтэраў Пузыня (1815-1869) – малодшая сучасніца абодвух філаматаў, прадстаўніца наступнага пакалення пісьменнікаў. Міцкевіч, на той час ужо эмігрант, заставаўся літаратурным кумірам усёй зямляцкай культурнай эліты; Адынца таксама тут ведалі, любілі, шанавалі як літаратара і былога філарэта, прымалі як дарагога госця ў шляхетных дамах, у тым ліку і ў доме Адама Гюнтэра, бацькі Габрыэлі. Так што ведала яна легендарнага філарэта практычна з дзяцінства.

На ўзор папярэдніка Габрыэля далучае да свайго вершаванага паслання таксама падарунак – ужо не містычна-вобразны, але абсалютна рэальны флакон нёманскай вады і рэальныя кветкі ковенскай даліны. Усе падарункі, адасланыя з аказіяй: – і верш, і вада, і кветкі, – як вядома, дайшлі да адрасата ў Парыж і былі для яго вельмі дарагімі. Такім чынам, рамантычная эпоха ў нашым краі была адметная не толькі таленавітымі літаратурнымі творамі, але і прыгожымі рамантычнымі ўчынкамі.

Спадзяюся, прапанаваныя пераклады вершаў Антонія Эдварда Адынца прыемна дапоўняць наша ўяўленне пра яго неардынарную творчую асобу і пра рамантычную атмасферу ў літаратурным жыцці Беларусі XIX стагоддзя.

Пераклады зроблены паводле выдання: POEZYE Antoniego Edwarda Odyńca. Wydanie czwarte poprawne i pomnożone. T. I. – T. II. Warszawa, 1874 – 1875.

**Ірына БАГДАНОВІЧ**

## Антоні Эдвард АДЫНЕЦ

### *ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА*

*(Па вяртанні з Везувія)*

О! Дзякую табе! Душа мая не стыне,
Цяпер адзін, а быў я блізка Неба вельмі!
З табою быў я на Везувія вяршыні –
Над безданню, ў глыбі якой агонь пякельны

Драмае; над зямлёй, што падаецца раем;
Над морам – люстраным адбіткам небасхілу
Найпрыгажэйшым, на якім дзень дагарае,
Згасае сонца і ўзыходзіць месяц мілы;

Быў я нібыта пасярод усіх дзівосаў
Прыроды, злітых у адно: зямлі, нябёсаў,
Агню, вады, паветра і мінулай дзеі
Жывога сымбалю хвалы й руін – Пампеі;

Быў пры табе – вялікім вешчуне-паэце,
Пры наймілейшым чалавеку ў цэлым свеце,
Чуў поціскі рукі і сэрца твайго рытмы,
Калі адным плашчом з табой былі мы ўкрыты,

І пад крылом тваёй арлінай моцы віўся
Мой дух і думка ў небазорыстыя высі!..

О! Ты мне сёння так прымроіўся яскрава,
Якім ты быў заўсёды – пасланцом звысоку!
Твой плашч, што зіхацеў на сонцы ў той выправе,
Падаўся мне плашчом, належаў што Праароку[1],

Чый дух-вяшчун праз плашч зышоў на Элісея. –
І збудзецца братэрскае тваё прароцтва,
Што калі песня мая ўзнёсла зарунее,
Кіруеш гэтым ты, Маэстра, мой вядоўца.

*1830 у Неапалі*

## *НЕВЯДОМА ШТО, або РАМАНТЫЧНАСЦЬ*

*(Эпілог да баладаў[2])*

Ноччу ўдвох шпацыравалі,
Ажно раптам лань спаткалі.
Ці то лань?
Ці то здань?

Адзін кажа да другога:
"Бачыш, лань бяжыць дарогай?
Ці то лань?
Ці то здань?"

Запытаўся той дарэмна,
Бо ніхто не ведаў пэўна,
Ці то лань?
Ці то здань?

Напужаліся той з'яве,
Дык укленчылі ў канаве.
Ці то лань?
Ці то здань?

Страх, дрыготка працінае,
Лань бяжыць сабе, кружляе.
Ці то лань?
Ці то здань?

---

[1] Маецца на ўвазе Ілля – адзін з прарокаў Старога Запавету, які сваім плашчом раздзяліў воды Іярдана, каб прайсці па сухім на другі бераг. Прарочы дух Іллі зышоў на яго вучня Элісея разам з плашчом, які ўпаў на яго, калі прарок Ілля ў вогненнай калясніцы ўзнёсся на неба (*Другая кніга Валадарстваў 2, 1-15*).

[2] У 2-м томе чацвёртага папраўленага і дапоўненага выдання твораў (*Warszawa, 1875*) А.Э. Адынец зрабіў наступны каментар да свайго верша: "Змяшчаючы гэтую баладу ў зборніку маіх твораў, маю за абавязак засведчыць, што яе суаўтарам ёсць пан Юльюш Славацкі; назву ж параіў Адам Міцкевіч (*Заўв. з 1832 г.*)".

Прабягае паўз герояў,
Рассявае хвалі мрояў.
Ці то лань?
Ці то здань?

Ды імкнецца зноў у далі,
Яны ўсталі, пазіралі –
Ці то лань?
Ці то здань?

Дзівяцца таму здарэнню,
На рагу знікае ў ценю –
Ці то лань?
Ці то здань?

Доўга потым меркавалі,
Але так рады й не далі,
Ці то лань?
Ці то здань?

*[да 1832 г.]*

## ***ПАЦЕРЫ***

*(З павятовага падання)*

*Малітву сэрца Бог заўжды прымае,*
*Слова мёртвае – дух Вера ажыўляе*

**Шылер**

О, як прыгожа возера плешча
Хвалямі летняю цішай,
Калі на сон іх павевам вечар
Лёгенька так закалыша!

О, як удзячна слыхам і вокам
Цудныя ловіць хвіліны
Той, хто ў блакітнай мглістасці змроку
Бераг наведае дзіўны!

Так чаравала сваёй мілатою
Возера, неба – усенька! –
Калі пад вечар тут над вадою
Ксёндз неяк ехаў сівенькі.

Апошні промень дзённай паходні
Ўжо за гарою схаваўся,
І толькі бледны водбліск заходні
Ў люстры вады адбіваўся.

Глянуўшы ў неба, святар пабожны
Думку высокую ўзвеяў:
Які ж той добры, які вяльможны,
Хто ў небе зорак насеяў!

Хто рухае сонца па небадашшу,
А потым месяц выводзіць,
Хто мора ў бераг уліў, нібы ў чашу,
І з чашы яно не выходзіць.

Хто робіць нашу зямельку гожай,
Дзень ясным, а ночку цёмнай,
Вясне хто кветкі, восені – збожжа
Дае няспынна, няўтомна!

Па чыім "Станься!" – усё і стала,
Стварыўся ўвесь свет бясконцы!.. –
Так думка ксяндза ў высях лунала,
І ён укленчыў прад Створцам...

А калі ўзняў галаву, пабачыў
Зноў возера, бераг, воды,
І як дзівак нейкі скача й скача
Туды й сюды праз калоду.

"То табе, Божа!" – за кожным скокам –
"А то мне, Божа!" – маўляе;
Здзіўлены ксёндз такім відавокам,
"Што робіш?" – яго пытае.

"Малюся". – "Што?" – Не дае ксёндз веры. –
"Як гэта? Няўжо ў касцёле
Цябе твой пробашч святар пацеры
Змаўляць не вучыў ніколі?" –

"Ніколі!.. Зроду я ў лесе гэтым
Адзін-сам жыву, дарогай
Хадзіць кудысьці не маю мэты,
Хвалю, як умею, Бога!

Ведаю, ўсё Ён бачыць у Небе,
Ўсім на зямлі кіруе,
Яго прашу аб штодзённым хлебе
І ўдзячны за ўсё Яму я". –

Такая шчырасць ксяндза здзівіла,
Пачуў ён покліч сумлення,

Каб душу гэту, што ў цьме зблудзіла,
Прывесці на шлях збаўлення.

І найузнёсла тую цямноту
Ён развідняў поўнай мерай:
Вучыў *Ойча наш, Вітай* і *Веру*,
Казаў пра грахі і цноту.

Калі стаў пэўны: святыя навукі
Засвоіў прастак з-пад стрэхаў,
Благаславіў яго, ўзняўшы рукі,
І ў шлях свой далей паехаў.

Быў поўны жалю, думаў з трывогай
Пра душы ўсіх тых убогіх,
Што ў сваім шчырым шуканні Бога
Не могуць знайсці дарогі.

І раптам чуе, хтось кліча ўдалі,
Глядзіць – і не верыць воку:
Наўпрост па азёрнай сцішэлай хвалі
Шпарыць прастак праз затоку!

І – "Пачакай, – кліча гучна, – ойча!
Я паспеў словы забыцца
Пацераў тых! Паўтары мне, бо хочу
Шчыра ўмець імі маліцца!" –

Ксёндз ласку Бога ў гэтым учынку
Ўбачыў, сказаў не сурова:
"Так, як прывык, і маліся ты, сынку!
Бог цэніць сэрца, не слова". –

А як вяртаўся прастак той пабожны
Зноў па вадзе, як па суху,
Ўславіў ксёндз Пана, бо ўведаў, што можа
Вера найшчырая ў духу.

*1823*

## *РУСАЛКІ*

*Да Адама Міцкевіча*
(*Пасылаючы яму кветкі з Ковенскай даліны*)

О, мой настаўнік у песнях і цнотах,
О, мой ты сябра адзіны!

Як без цябе мне ў смутку, турботах
Марудна плывуць гадзіны!

Нібы марак, што з берага ў далі
Марскія глядзіць з тугою,
Як карабель яго ў бурных хвалях
Знікае, так са слязою

Мора свайго мінулага бачу,
З такой жа тугою ў сэрцы:
Сяброўства наша – каўчэг юначы –
У бездань адплыў, здаецца.

Ці вернецца некалі ён, знябыты? –
Марна пра тое пытацца!
Бо кнігі будучых дзён закрыты,
Хоць любім ў іх углядацца.

Як метэоры шчасця, ўспаміны
Злагодзяць настроі бляскам,
Падораць чароўных сустрэч хвіліны
З табою, як з явай-казкай.

Люблю ў тым часе блукаць самотны,
Дзе разам з табой блукалі,
Думкай спяшаюся ўслед палётнай
За тым, што ўжо знікла ў далі.

Па Ковенскай так я блукаў даліне,
Што ў песнях тваіх апета,
Удзячна славіць яна не пакіне
Цябе як свайго паэта.

Ноч была... Месяц з-за аблачыны
Часам паказваў свой тварык,
Крочаць, здавалася, прад вачыма
Постаці ўсіх, аб кім марыў.

Як жа мне знаны кожны куточак!
Памяць прытулак тут мае –
Кожны тут кусцік, траўка, лісточак
Цябе й мяне ўспамінае.

Мроямі поўны шпаркай хадою
Крочу праз цемру і холад,
Аж дзе ў ценю вярбы над ракою,
Высіцца камень, як волат.

Як мы з табой тут бываць любілі,
Заходам сонца сагрэты!
Каб прыгадаць таго шчасця хвілі,
На камень сядаю гэты.

Задумаўся... Нейкія смех і крыкі
Раптам ударылі вуха,
Устаў я, страх агарнуў вялікі,
Ды цёмна вакол і глуха.

Але між тым з-за кустоў, з-за дрэва
Выбегла ў белым дзяўчына,
За ёй яшчэ бягуць справа, злева,
Злічыць іх усіх немагчыма.

Доўгія косы ўзвіваліся, ззялі
Дзіўным праменнем абліччы,
Раптам, як сарны, паўколам сталі,
Быццам я тут паляўнічы.

Хацеў я сысці, ды адна з іх кола
Ў мой бок імкліва імчыцца
І да астатніх крычыць вясёла:
“Гэта ж Адам наш, сястрыцы!” –

Колам уміг мяне атачаюць,
Скачуць і б’юць у далоні,
Па ўсёй даліне кветкі збіраюць,
Вянок мне плятуць на скроні.

Стаю так, выцер пот палахлівы,
Ледзь авалодаў сабою... –
“О прыгажуні, хто б ні былі вы!
Ў зман вы ўвяліся са мною”. –

Так ім кажу. – “Не Адам ты? Гляньце!..” –
Ў здзіўленні свідруюць вокам... –
“Сябра Адама, яго прыяцель”. –
“А дзе ж наш Адам?” – “Далёка!” –

Сказаў, замоўклі, ў дол зрок убіты.
Ах, зноў не спраўджана цуда!
Адна з іх дае мне вяночак, звіты
З рамонкаў і незабудак:

“Ад нас пашлі яму кветкі, – кажа, –
Русалак мясцінаў гэтых,
Любіў ён тут, у даліне нашай,
Калісьці збіраць букеты.

З больш пышных кветак вянок на скроні
За вершы дадуць яму людзі;
Наш – толькі доказ, што яго помнім,
І нас няхай не забудзе”. –

Вянок дае мне, бяру з дрыжаннем,
Да цудаў такіх нязвыклы,
Яны ж кіўнулі на развітанне
І ў змроку павольна зніклі.

Табе шлю гэтыя кветкі сёння,
Вер мне, дзе яны здабыты.
Ў іх знойдзеш доказ, што цябе помнім,
Глядзі! Каб і нас не забыў ты.

*1825*

Сяргей Шапран



…Які б нам лёс ні выпаў горкі,
Стрываць патрэбна ўсё ў жыцці
І на святло высокай зоркі,
Не наракаючы, ісці…

# “І на святло высокай зоркі…”

***Згадваючы Генадзя Бураўкіна***

Генадзь Бураўкін не пакінуў кнігі ўспамінаў, хоць Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін (каб толькі яны!) настойвалі на гэтым. Спачатку пазбягаў пісьмовага стала, бо меркаваў, што зарана брацца за працу, гаварыў: «Калі Васіль Быкаў напісаў успаміны, я зразумеў, што ён пастарэў. У мяне ж такога адчування пакуль што няма». Аднак прамільгнула колькі гадоў, і аднойчы Генадзь Мікалаевіч у часе нашай з ім гутаркі нечакана прызнаўся: «І да мяне прыйшла пара нешта падсумаваць, на нешта азірнуцца, аб нечым задумацца, а аб нечым пашкадаваць. Жыццё – яно ўсё ж мудрае. Толькі б яго хапіла хаця б на галоўнае...» Нават назва была ў будучай кнігі – «Вузлы памяці». «У кнізе не будзе храналогіі, проста вузлы памяці, якія я пастараюся развязаць, – гаварыў Бураўкін. – На гэта, відаць, пойдзе некалькі гадоў. Няхай паэтычная муза трохі адпачне».

Аднак задума засталася ўсяго толькі задумай, бо Генадзь Мікалаевіч паставіўся да пытання з містычнай фатальнасцю: сказаў, што пасля таго, як мемуары напісалі яго блізкія сябры

Васіль Быкаў і Валянцін Болтач, надта ўжо хутка пакінулі яны гэты свет. У гэтым ён бачыў безумоўную прадвызначанасць нябёсаў, і гэта насцярожвала няўмольнай наканаванасцю, таму, імкнучыся абыграць лёс, адкладваў працу да апошняга, калі й адкладаць не было ўжо куды.



*Генадзь БУРАЎКІН.*

Гэткім чынам успамінаў пад назвай «Вузлы памяці» ў бураўкінскай бібліяграфіі няма – ёсць толькі асобныя тэксты, якія былі напісаны Генадзем Мікалаевічам ці прамоўлены (восенню 2012 года ў эфіры адной з радыёстанцый Бураўкін надыктаваў успаміны пад назвай «Пражытае, ненапісанае...», якія нібыта павінны былі выйсці друкаваным выданнем, аднак не выйшлі). А між тым Генадзю Мікалаевічу было каго ўспомніць і пра што распавесці...

Адзін з яркіх прадстаўнікоў філалагічнага пакалення (таго самага, дзе Вячаслаў Адамчык, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Клышка, Алег Лойка, Іван Пташнікаў, Янка Сіпакоў, Міхась Стральцоў, Кастусь Цвірка, Іван Чыгрынаў), Бураўкін з маладосці быў энергічны і яршысты. Так характарызавалі яго сябры. Гэтаксама казаў і Пятрусь Броўка, пазнаёміўшыся з ягоным бацькам: «Добры ў цябе бацька, Генадзь, неспакойны і нераўнадушны. Вось цяпер я зразумеў цябе, і гарачнасць, і задзірыстасць тваю зразумеў. Гэта ў цябе ад бацькі. А і я такі быў – калючы, рызыкоўны».

Броўка гаварыў так у часе сумеснай вандроўкі на Полаччыну, якая стала своеасаблівым актам прымірэння. Справа ў тым, што ў 1966 годзе маладыя літаратары – і Бураўкін у першых шэрагах – дамагліся адстаўкі Броўкі з пасады старшыні Саюза пісьменнікаў. «Неяк само сабою атрымалася (а можа, той-сёй з тагачасных хітрых нашых дарадцаў і дапамог гэтаму), што ўвасабленнем ці, ва ўсякім разе, абаронцам усяго старога, “несучаснага” стаў для нас перш за ўсё кіраўнік пісьменніцкага Саюза, удастоены ўсіх магчымых узнагарод і званняў, упэўнены і дзелавіты Пятрусь Усцінавіч. Супроць яго пасыпаліся нашы самыя адточаныя стрэлы, супроць яго прагаласавалі многія з нас, – прыгадваў Бураўкін у эсэ “Крынічка пад вечнымі зоркамі”. – Як і ўсе маладыя (і дзякуй за гэта маладосці!), мы былі непапраўнымі ідэалістамі і патрабавалі ад старэйшых больш, чым ад сябе».

Спачатку Пятрусь Усцінавіч ускрыўдаваў, а потым нават быў удзячны, бо не сядзеў у пісьменніцкай канторы, а рабіў першую ў беларускай гісторыі энцыклапедыю. Так і адбылося прымірэнне мудрага Броўкі і няўрымслівага Бураўкіна...

Гэта было яго адметнай рысай: Генадзь Мікалаевіч быў шчыры не толькі ў паэзіі, але і ў ацэнцы ўласных учынкаў і часам публічна прызнаваўся ў тым, у чым іншы схітраваў бы або змаўчаў. Як, напрыклад, у гісторыі з Броўкавай адстаўкай. Ці як студэнтам прыехаў на журналісцкую практыку ў Оршу, дзе ў газеце «Ленінскі прызыў» як на бяду з’явіўся артыкул супраць Уладзіміра Караткевіча – гэтак па-партыйнаму павыхоўваць маладую мясцовую «зорку» вырашылі рэдактар Каліберaў і былы партызан Высоцкі. Апошні прапанаваў Бураўкіну напісаць «ад імя літаратурнай моладзі» матэрыял у падтрымку крытыкі. «І я паспешліва і спалохана ўцёк з Оршы, як гэта ні сумна прызнаваць, – шчыра згадваў Генадзь Мікалаевіч у эсе “На беразе Дняпра”. – У мяне не хапіла мужнасці сказаць усё,

што думаў, ні строгаму рэдактару, ні заслужанаму ветэрану, якія так добра да гэтага ставіліся да мяне і далі магчымасць за час практыкі зарабіць на новы касцюм і чаравікі. Я не мог здрадзіць сябру, якога шчыра палюбіў...»

Гэтая гісторыя адбылася ў 1957 годзе. Да гонару Бураўкіна, больш ён ніколі не «ўцякаў» і, заступаючыся за іншых, часам рызыкаваў не толькі кар'ерай, але і ўласным лёсам.

Пра ўсё гэта і пра многае іншае Генадзь Мікалаевіч паспеў расказаць. У тым ліку пра заакіянскае выгнанне і такое жаданае вяртанне на радзіму, дзе Бураўкіна ніхто, апроч сяброў, не чакаў і дзе ён дваццаць гадоў потым заставаўся без запатрабавання. Той самы славуты Генадзь Бураўкін, якому спрыяў Пётр Машэраў. Карэспандэнт «Праўды», пры ўдзеле якога ўдалося ўратаваць ад руйнавання Купалаўскі тэатр і часова – раён старой Нямігі. Рэдактар «Маладосці», што друкаваў Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча і знакамітую кнігу «Я з вогненнай вёскі...» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка, з якой пасля «вырасце» першы беларускі Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч. Старшыня Дзяржтэлерадыё, дзякуючы якому па-беларуску гаварылі не толькі Беларускае тэлебачанне, але і кіраўнікі Беларусі. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў ААН, што першым працягнуў руку беларускай эміграцыі. Адзін з сустаршыняў Усебеларускага з'езда за незалежнасць, разам з іншымі знакавымі асобамі: Рыгорам Барадуліным, Радзімам Гарэцкім і Анатолем Грыцкевічам. Аўтар «Завірухі» і «Зачараванай» – песень, што здаўна вядомыя і любімыя мільёнамі. Паэт, на чыёй «Калыханцы» выгадавалася не адно пакаленне беларусаў і якога народ называў народным. Сябар Саюза пісьменнікаў з 1961 года, які ледзь не памёр, калі паводле памкнення душы абараняў цэхавое братэрства літаратараў, – не стрымаўшы чыноўніцкага раўнадушша, сэрца Бураўкіна спынілася і стаяла чатыры хвіліны. «Не дачакаецеся!» – першае, што сказаў ён, апрытомнеўшы. І ў гэтым таксама быў увесь Бураўкін.

Ён мог стаць беларускім Вацлавам Гавэлам або Альгірдасам Бразаўскасам, але так, на вялікі жаль, не сталася, і ён – сам эпоха і гісторыя – дажываў век адзінотнікам на ўлюбёным лясным лецішчы ў Крыжоўцы, дзе пісаў:

*Я жыву, забыты ўсімі,*
*У бязлюднай старане.*
*Сонца промнямі касымі*
*Будзіць раніцай мяне...*

Але як пражыў-перажыў Генадзь Мікалаевіч гэты час? Навёрстваючы ўпушчанае з-за дзяржаўных спраў, што аднялі процьму высілкаў, ненапісаных кніг і, у рэшце рэшт, жыцця, ён – не чыноўнік, а паэт па нараджэнні – жыў пераважна літаратурай і сябрамі і пісаў паэтычныя, як сам іх ахрысціў, лісты да запатрабавання:

*Я кожны дзень складаю лісты –*
*Матулі,*
*Сябрам,*
*Унукам,*
*А яшчэ –*
*Дзяцінству, якое ўжо не вернецца,*
*І старасці, ад якой не ўцячэш,*
*Бярозцы пад маім акном,*
*Жураўлю ў асеннім небе,*
*Ручаю каля прыдарожнага гаю*
*І Сафійцы ў Полацку...*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Некаторыя ж я запісваю*
*І называю іх*
*(Можа, залішне самаўпэўнена?)*
*Вершамі.*
*Іх я пакідаю*
*Да запатрабавання,*
*Тайна спадзеючыся,*
*Што аднойчы іх захочуць прачытаць*
*Ці то мае дарослыя ўнукі,*
*Ці то мая зялёная бярозка,*
*Ці то мой жуpавель,*
*Якi прыляцiць з выраю...*

А яшчэ супакойваў найперш ці не сябе самога:

*Якi б нам лёс нi выпаў горкі,*
*Стрываць патрэбна ўсё ў жыццi*
*I на святло высокай зоркі,*
*Не наракаючы, iсцi.*

Увогуле, гісторыя жыцця Генадзя Бураўкіна багатая не толькі на літаратурныя сюжэты, а на імёны, якія, даўно стаўшы гонарам беларускага прыгожага пісьменства, трывала склалі літаратурны пантэон Айчыны: Мікола Аўрамчык, Рыгор Барадулін, Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Васіль Вітка, Ніл Гілевіч, Уладзімір Караткевіч, Міхась Лынькоў, Ніна Мацяш, Анатоль Сыс, Максім Танк, Яўгенія Янішчыц – пералік можна доўжыць. І разам з імі – Андрэй Вазнясенскі, Іван Драч, Мустай Карым, Раман Лубкіўскі, Дзмітро Паўлычка, Ігар Шклярэўскі... Усе яны так ці іначай, але былі звязаны з Генадзем Бураўкіным: хтосьці па праву зямляцтва і блізкага сяброўства, іншыя па праву прыналежнасці да літаратурнага брацтва, з-за роднасці і суладнасці душ. У іх гісторыях (размова ідзе пра эпісталярную спадчыну з хатняга архіва Генадзя Мікалаевіча) і паўзабытыя рэаліі драматычнага мінулага, і ўзнёслыя паэтычныя эпітэты, і непрыхаваныя сяброўскія пачуцці, на якія гэтак шчодрым было старэйшае пакаленне літаратараў.

«З сардэчным прывітаннем, глыбокай пашанай і шчырай удзячнасцю за ўсё добрае, зробленае для мяне», – пісаў Бураўкіну аўтар славутай песні «Зорачкі» Сяргей Новік-Пяюн, на чыю долю выпалі польская турма ў Баранавічах, нямецкі лагер смерці Калдычэва і сталінская Калыма. А былы рэпрэсаваны Сяргей Грахоўскі прызнаваўся: «Мяне радуюць і хвалююць Вашы вершы, Ваша публіцыстыка з першай да сённяшніх і чаканых публікацый. Дай Вам Бог і ў наступную капу гадоў заставацца тым жа шаноўным, таленавітым і любімым Генадзем Бураўкіным, дабуравіцца да ісціны, пасеяць дабро дзеля новага ўраджаю і “Жніва”». Або яшчэ адно шчырае прызнанне – гэтым разам класіка дзіцячай літаратуры Васіля Віткі: «Пад уражаннем радаснага адкрыцця новых граняў і магчымасцяў Вашага паэтычнага голасу сардэчна віншую Вас. Не прыміце за красуду, можа, я недастаткова ведаў Вас дагэтуль, але мне здаецца, што голас Ваш – адметны, выразны, уласны – загучаў у гэтых вершах на поўную сілу ва ўсім яго шырокім дыяпазоне – ад страсных грамадзянскіх вышынь да самых ціхіх і пяшчотных адценняў, поўных натуральнай дасканаласці жывога пачуцця. Не так часта цяпер здараецца ў паэзіі, што, прачытаўшы верш, вяртаешся да яго, перачытваеш нанова і радуешся – не, ты не памыліўся, гэта – сапраўдная паэзія».

Гэта не было чымсьці выключным – калі сучаснікі, што самі мелі аўтарытэтныя імёны, аддавалі належнае Генадзю Бураўкіну, паэту і грамадзяніну. Як, напрыклад,

акадэмік Радзім Гарэцкі, прадстаўнік славутага роду Гарэцкіх, дзе разам класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі і адзін з заснавальнікаў беларускай Акадэміі навук геолаг Гаўрыла Гарэцкі, – Радзім Гаўрылавіч прызнаваўся ў адным з пасланняў: «У нас з Галяй гэтыя два дні – *Дні Бураўкіна.* Учора з асаблівай прыемнасцю глядзелі тэлеперадачу пра нашага цудоўнага Паэта. Выдатныя кадры разам з маці, чые разумныя шчырыя вочы перайшлі да Цябе, а агульныя рысы – бацькавы. Якія вы – Юля і Ты – прыгожыя, мілыя, дзівосныя...» Іншым жа разам пісаў: «Жадаю, дарагі Генадзь, сотні і тысячы новых вершаў, Тваіх вершаў, якія ўласцівы толькі Табе, а яны такія лірычныя, пяшчотныя, песенныя...»

І ў гэтым Радзім Гаўрылавіч быў не адзінокі – у абсалютна той жа ўзнёсла-захопленай інтанацыі звярталася да паэта і грузінская артыстка Тамара Цулукідзэ, жонка былога рэпрэсаванага беларускага пісьменніка Алеся Пальчэўскага. А каму, як не ёй, было ведаць сапраўдны кошт пяшчоты паэтычнага слова?.. Яе першым мужам быў славуты грузінскі рэжысёр Сандро Ахметэлі, мастацкі кіраўнік тбіліскага Тэатра імя Шата Руставелі, дзе яна была прымадонай. Сучаснікі называлі яе царыцай Тамарай. Але яе шчасце было нядоўгім – у 1936-м Сандро Ахметэлі арыштавалі па даносе двух народных артыстаў СССР, што служылі ў тым жа тэатры. І «царыца Тамара», спадзеючыся на сустрэчу са Сталіным, паехала ў Маскву. Праўда, сустрэчы не дамаглася – у НКУС абяцалі: «Заўтра, заўтра», затое абнадзеілі: «Вяртайцеся дамоў і чакайце». Яна паслухалася і вярнулася. Чакаць не давялося – яе арыштавалі прама на вакзале ў Тбілісі, як жонку «ворага народа». Прысуд: амаль дзесяць гадоў турмаў, лагераў і лесапавалаў. А пасля вызвалення – новы арышт і новая ссылка... І вось цяпер, прачытаўшы бураўкінскую «Пяшчоту», Тамара Цулукідзэ не хавала захаплення: «І я не магу не сказаць Вам: гэта такое хараство!.. Нават нечакана ў мужчынскай паэзіі столькі дзіўнай тонкасці душэўнай, чароўнасці, прывабнай вытанчанасці пачуццяў, пяшчоты, якая пакарае. Хто тая шчаслівая жанчына, якая натхняе Вас на такія паэтычныя ўзлёты?!. Хай яна будзе Вашай і з Вамі і ў новым годзе, і заўжды!.. Нямногім выпадае шчасце быць гэтак каханай...»

Наогул кажучы, усе яны – паэты, празаікі, кампазітары, мастакі, навукоўцы і грамадскія дзеячы, – у большасці сваёй, без сумневу, любілі і цанілі Генадзя Бураўкіна. Гэта лёгка счытваецца з безлічы пасланняў, што Генадзь Мікалаевіч зберагаў у сваім архіве дзясяткі гадоў. Любілі і цанілі за душэўнасць і шчырасць, за паэтычны і чалавечы талент, за вернасць сяброўству і таварыскасці. А яшчэ – за прынцыпы і годнасць, за адданасць аднойчы абранаму шляху і за зробленае для Беларусі.

Але гэта была ўзаемная любоў, бо сказаў жа Генадзь Мікалаевіч у часе нашай з ім гутаркі, калі я запытаўся пра дарагіх яго сэрцу людзей, што калі й удзячны лёсу і Богу, дык за тое, што яны далі яму шчасце быць знаёмым і нават сябраваць з многімі выдатнымі, таленавітымі людзьмі: з Пятром Клімуком і Уладзімірам Кавалёнкам, Піменам Панчанкам і Іванам Мележам, Віктарам Астаф'евым і Андрэем Вазнясенскім, Радзімам Гарэцкім і Уладзімірам Платонавым, Уладзімірам Мулявіным і Віктарам Туравым, Дзмітром Паўлычкам і Раманам Лубкіўскім, Гаўрылам Вашчанкам і Леанідам Шчамялёвым, Уладзімірам Багамолавым і Валянцінам Аскоцкім, Андрэем Макаёнкам і Аркадзем Куляшовым. Аднак асаблівае месца ў ягоных сэрцы і памяці займалі Васіль Быкаў, Мікола Матукоўскі, Рыгор Барадулін, Валянцін Болтач, Сяргей Законнікаў і Віктар Казько. «І яшчэ многім хачу я з удзячнасцю пакланіцца, – дадаў Генадзь Мікалаевіч. – Без іх я быў бы іншым».

Зрэшты, паколькі гаворым мы пра паэта, завяршыць гэтае слова, мусіць, варта вершам-парадай нашага незабыўнага героя:

*У жыцці ў мяне было ўсяго,*
*Што ў анкету аніяк не лезе:*
*Самагонку піў,*
*Лавіў сігоў,*
*На чаборы спаў у цёплым лесе,*
*Яблыні чужыя латашыў*
*І хлусам бязбожным доўга верыў,*
*Вёў застоллі,*
*За мяжой тужыў,*
*Быў не надта ўдалым кавалерам.*

*А калі было зусім няўцерп*
*І адчай сціскаў пятлёю горла,*
*З неба браў маладзіковы серп*
*І зжынаў бяды палын прагорклы.*
*А ў блакіце жаўранак звінеў*
*І свяціўся васілёк у леце...*
*Так што вы мяркуйце пра мяне*
*Не па тым,*
*Што пішуць у анкеце.*

мастацтва

Адам Глобус



...Лапчынскі –

жывапісец Поўначы...

# Леанід

***Словы пра мінскага жывапісца Леаніда Лапчынскага***

## Сарамлівасць

Спытайце ў мяне пра нахабства, і я магу назваць процьму самых розных нахабаў. Гэты брэша без дай нагоды. Той кідаецца біцца без дай прычыны. Гэны выпраменьвае нахабства на ўсіх навокал. Прозвішчы з імёнамі называць не стану, бо гэтым разам пішу пра станоўчае, што цяжка. Вось згадаў я сарамлівага Максіма, ён такі сарамлівы, што пасаромеўся папрасіцца ў настаўніцы, каб дазволіла наведаць прыбіральню, і сходзіў у порткі. Максім сарамлівы? Так, ён сарамлівы, ды не станоўчы, бо ягоная сарамлівасць у нейкі момант робіцца звычайнай баязлівасцю. Дарэчы, сарамлівасць можа абярнуцца і дурнотаю. Майму сарамліваму знаёмаму Міхалу дзяўчына прапанавала секс, а ён, дурань гэткі, пасаромеўся займацца сексам у чужой кватэры. Таму я не адразу знайшоў выхаванага, сарамлівага і станоўчага чалавека, каб напісаць пра яго некалькі слоў. Карацей... Я яго знайшоў сярод выкладчыкаў. Сама прафесія выкладчыка вымагае пэўнай смеласці і пэўнай разумнасці. Дый нахабства кепска дзейнічае

на адносіны выкладчыка са студэнтамі. Таму я сярод станоўчых выкладчыкаў мастацкай вучэльні выбраў самых сарамлівых: Сароку і Лапчынскага. Пасля ваганняў вырашыў, што Леанід Лапчынскі больш сарамлівы... Мне згадалася падарожжа ў Піцер. Я студэнт, Лапчынскі выкладчык. Вяртаючыся з Піцера, я загаварыў з Лапчынскім пра абстракцыянізм. Ён дастаў са сваёй валізкі купленыя ў Піцеры альбомы з абстрактным жывапісам скандынаваў. Альбомы разглядалі мы не ў вагоне, а ў тамбуры, бо наша размова, на думку Лапчынскага, магла раздражняць студэнтаў, што спалі і адпачывалі ў вагоне. Леаніду Лапчынскаму было сорамна за кепскасць, якой ён нават не здзейсніў.


*Леанід ЛАПЧЫНСКІ.*

## Шардэн

Выкладчык жывапісу Леанід Лапчынскі агітаваў навучэнцаў таптаць палатно так, нібыта навакольны свет створаны з каляровай ваты. “Тапчыце, тапчыце...” – так гучала настойлівае пажаданне ціхага Лапчынскага. Гэта нечым нагадвала словы жывапісца Жана-Батыста Сімеона Шардэна, запісаныя ў 1765 годзе філосафам Дэні Дзідро: “...Больш мяккасці, больш мяккасці”.

## Таптанне

Выкладчыка Лапчынскага студэнты называлі Тапчынскі, бо любімае слова ў яго было “таптаць”. “Трэба таптаць палатно!” – так Лапчынскі-Тапчынскі казаў пра працэс стварэння алейнага жывапісу. Ягоныя навучэнцы разумелі словы старэйшага мастака літаральна і круглымі ды плоскімі пэндзлямі растоптвалі фарбу па сваіх кепска нацягнутых палотнах. Культура жывапіснай тэхнікі ў мастацкай вучэльні была на нізкім узроўні. Палотны, падрамнікі, фарбы і пэндзлі ў нас былі зазвычай кепскія. Мала хто з нас спрабаваў выйсці да яркіх і адкрытых колераў. Адзінкі дазвалялі сабе спалучаць блакітна-зялёны з агніста-чырвоным ці глыбока-сіні з аранжава-залатым. Большасць палотнаў былі брунатнымі ды вохрыстымі. Але самымі безнадзейна-шэрымі, самымі бляклымі, самымі “сляпымі” былі палотны ў таптуноў – навучэнцаў Лапчынскага. Аднак яны лічылі, што ў іх палотнах пануе ўраўнаважанасць, згарманізаванасць і нават вытанчанасць.

## Храналагічная біяграфія

Тройчы прачытаў “Храналагічную біяграфію Леаніда Лапчынскага” і заўважыў падабенства са сваёй мастакоўскай біяграфіяй у тым, што яго, як і мяне, не прынялі ў Саюз мастакоў. Вось цытаты з біяграфіі Лапчынскага: “1962. Робіць спробы ўступіць у Саюз мастакоў. Заява адхілена”. – “1976. З мэтай выставіць свае працы зноў спрабуе ўступіць у Саюз мастакоў. Заяву адхіляюць”. – “1994. Зноў спрабуе наладзіць кантакт з Саюзам мастакоў, але безвынікова. Мастак не страчвае веры і надзеі. Мужна і высакародна трымаецца ў вымушана цяжкіх абставінах. 16 верасня раптоўна памірае”. Чаму Леаніда Васільевіча Лапчынскага не залічылі ў шэрагі саюзаўскіх мастакоў? Не разумею. Праўда, не

разумею, бо нічога кепскага ў ім і ў ягоных творах я не бачу. Ну, хіба што маленькая майстэрня, якую ён збудаваў у Мінску за свае грошы, магла выклікаць і, безумоўна, выклікала зайздрасць. Усё астатняе ў жывапісца Лапчынскага было стрыманым, звычайным і правільным. Гэта мяне абвінавацілі ў ігнараванні справядлівых патрабаванняў і амаральнасці. У чым абвінавацілі Лапчынскага? Думаю, што прыёмная камісія проста тройчы адклала прыняцце мастака ў Саюз, а ў выхаванага і сціплага Лапчынскага не хапіла хітрасці, практычнасці і часу, каб ў той Саюз ускочыць. Яшчэ мне падумалася: ці варта ў храналагічнай біяграфіі мастака пісаць пра ягоныя паразы? І адказаў я так: варта пісаць пра паразы, бо пра гэта цікава чытаць, і менавіта гэткія факты выклікаюць спачуванне і, калі хочаш, павагу.


*“Мірскі замак раніцай” 1964 год.*

## Мірскі замак

Пасля разбуральнай Другой сусветнай вайны, пасля аднаўлення мірнага жыцця, пасля суровасці ваеннай і будаўнічай будзённасці творцы звярнуліся да каштоўнасцяў далёкага мінулага. У той час і запачаткаваўся праект “Беларусь – краіна замкаў”. Міхась Ткачоў выдаў кнігу “Замкі Беларусі”. Замак у Міры стаў першым архітэктурным помнікам, з якім пачалі працаваць рэстаўрацыйныя майстэрні. Мастакі захапіліся маляваннем твораў з выявамі беларускіх замкаў. Так, Васілій Сумараў напісаў “Від на Замкавую гару”, што ў Наваградку. Яўген Кулік і Уладзімір Басалыга зрабілі графічныя аркушы з тутэйшымі замкамі. Уладзімір Караткевіч выдаў дэтэктыўны раман “Чорны замак Альшанскі”, які неўзабаве экранізавалі. Сярод тых, хто таленавіта паўдзельнічаў у праекце “Беларусь – краіна замкаў”, быў і жывапісец Лапчынскі. Над серыяй карцін з Мірскім замкам Лапчынскі працаваў больш за пятнаццаць гадоў. У 1963 годзе ён напісаў “Мірскі замак. Вежа” і “Мірскі замак. Дзве вежы”. У 1964 з’явілася карціна “Мірскі замак раніцай”, а ў 1969 – “Мірскі замак у час заходу сонца”. У 1977 Леанід Лапчынскі зноў напісаў карціну “Мірскі замак”. Тут я пералічыў толькі найлепшае, што зрабіў жывапісец у жанры архітэктурнага краявіду з адным беларускім замкам. Пералічыў, каб паказаць настойлівасць і нават зацятасць у працы з Мірскім манументальным краявідам. Падобная настойлівасць і апантанасць была не толькі ў Леаніда Лапчынскага, таму праект “Беларусь – краіна замкаў” меў поспех і працягвае разгортвацца, а Мірскі замак стаў самым вядомым архітэктурным сімвалам Беларусі. І ў гэтым ёсць пэўная заслуга і Леаніда Лапчынскага як аднаго з пачынальнікаў найноўшага мастацтва Беларусі.


*“Мінск. Від з вакна” 1966 год.*

## Вішнёвы завулак



*“Галава жанчыны”, 1979 год.*

Леанід Лапчынскі ўсё жыццё пражыў у Мінску за чыгуначным вакзалам, у Вішнёвым завулку. У тым завулку, сярод невысокіх дамкоў, яблыневых садоў і брам з шыльдачкамі “Асцярожна! Злы сабака!” Лапчынскі і пабудаваў сабе сціплую майстэрню, а ў ёй пісаў карціны, якія лічыў патрэбнымі і абавязковымі. Мне было цікава паглядзець на Вішнёвы завулак, дзе некалі жывыў мой знаёмы мастак. Пагатоў стаяў цёплы і сонечны красавік, хутка мусілі закрасаваць сады ў мінскіх завулках з аднапавярховымі дамкамі. За чыгуначным вакзалам я знайшоў Полацкі завулак, а за ім, дзе некалі мясціўся завулак Вішнёвы, ляжаў адно пляц са свежа-зялёнай травой. На картах Мінска ўсё яшчэ ёсць Вішнёвы завулак, але на ім ужо няма ніводнага дома, няма там і майстэрні, дзе працаваў таленавіты мастак. Я пастаяў каля сіняй калонкі, з якой, можа быць, Леанід набіраў ваду ў вёдры. Мне было прыемна думаць, што менавіта з гэтай сіняй металічнай калонкі ляцеў пругкі струмень у бомкнае вядро мастака, які сваімі рукамі пабудаваў сабе майстэрню.

## Радасць

Леанід Лапчынскі па-сапраўднаму прыйшоў у мастацтва ў часы суровага стылю. Пасля саладжавай псеўдаакадэмічнасці і перагружанай непатрэбнымі лішкамі псеўдакласічнасці ў мастацтве запанаваў аскетызм, з’явілася простасць і Поўнач з яе срэбным снегам, якая стала больш папулярнай за субтрапічны Поўдзень з ягоным бананавым і пальмавым шыкам. Аблічча будаўнікоў, твары знаёмых, спіны рабочых на карцінах Лапчынскага пераканаўча паказваюць той стваральны час. Гледзячы на іх, можна згадаць рымскага мысляра Сенеку (Малодшага), які яшчэ на самым пачатку нашай эры заўважыў: “Сапраўдная радасць суровая”. Так і ёсць. Радасць жыцця ў жывапісца Леаніда Лапчынскага суровая, і ад гэтага яна па-сапраўднаму непадробная і каштоўная.

## Альбомчык

Вобразы, думкі, ідэі вельмі лёгкія ў сваіх малапрадказальных палётах. Вось тут з’явілася думка, а вось яе і няма; тут засвяцілася ідэя, а праз імгненне яна згасла; і не згадаеш іх, помніш – былі, а цяпер прапалі... Не запісаў верш, не намаляваў вобраз, не занатаваў думку? Толькі ты ў тым і вінаваты. Каб пазбегнуць такой вінаватасці, варта замалёўваць, натаваць, запісваць... Найвялікшы з паэтаў – Басё – запісваў вершы наўпрост на сваім старым капелюшы. Найвялікшы з мастакоў – Леанарда – меў шмат куфэркаў з нататнікамі, у якія пазамалёўваў і пазапісваў усё, што палічыў важным і патрэбным. Шмат хто з паэтаў і мастакоў носіць у кішэнях нататнікі і алоўкі, а цяперака і гаджэты, каб не губляць думкі, не забывацца пра вобразы з ідэямі. Такім быў і мінскі жывапісец Леанід Лапчынскі. Пра яго можна сказаць лаканічна: чалавек з альбомчыкам у кішэні. Мастацтвазнаўца Яўген Шу-

нейка так апісаў Лапчынскага: “Ён заўжды хадзіў з альбомчыкам для накідаў, які можна было ў любы момант дастаць з кішэні, каб не прапусціць нешта непаўторнае, што трапілася яму на вока...” Шмат што з творчай спадчыны мастака Лапчынскага, як згадвала яго жонка Лідзія, было раскрадзена і прапала. Пэўна ж, прапалі і ягоныя нататнікі і альбомы з замалёўкамі; але ва ўспамінах блізкіх людзей і вучняў ён застанецца разважлівым і спакойным мастаком з альбомчыкам у кішэні.



*“Мірскі замак у час заходу сонца”, 1964 год.*

## Зорны склад

Калі мой сваяк Толя Александровіч перайшоў са школы для адораных дзяцей, якую цяпер называюць “Парнат”, у мастацкую вучэльню – “Глебаўку”, ён усе чатыры гады расказваў, як яму пашанцавала з выкладчыкамі. Тады я вучыўся ў кепскай мікраraённай школцы і думаў, што Толя перахвальвае выкладчыкаў, але ягоны сябрук Вова Жбанаў таксама хваліў вучэльню. Таму і я вырашыў кінуць паганую школку і паступіць у расхваленую студэнтамі іх *Alma mater*. Паступіў і не расчараваўся, бо на той час там працаваў зорны склад выкладчыкаў: акварэліст Юрый Выхадцаў, плакатыст Трафім Ігнаценка, скульптар Юрый Палякоў, графікі – Леанід Дубар і Алег Луцэвіч, жывапісцы – Альгерд Малішэўскі, Кім Шастоўскі, Віктар Варламаў... У гэтым выкладчыцкім сузор’і свяцілася ясным і прахалодным ззянем зорка Леаніда Лапчынскага. Ён быў з тых сумленных выкладчыкаў, хто ахвяраваў вучням не толькі час, але свае веды і сваю творчую энергію. Лапчынскі ахвяраваў, не спадзяючыся і не разлічваючы на ўдзячнасць наступных пакаленняў, але гэтая ўдзячнасць ёсць, што важна.

## Поўнач

Ёсць традыцыйны падзел мастацтва на заходняе і ўсходняе. Мастакі, што не трымаюцца еўрапейскіх канонаў і еўрапейскай стылістыкі, залічваюцца да *Cultures of the Orient*. Ёсць у такім падзеле пэўная рацыя, ды яна ўжо даўно музейная, акадэмічная і ўніверсітэцкая. Пра такі падзел добра пісаць дысертацыі ды чытаць ютубныя лекцыі для студэнтаў і прафанаў. Калі ж падзяліць мастацтва на паўночнае і паўднёвае і спытаць, да якога з іх належыць мінскі жывапісец Леанід Лапчынскі, адказ будзе адназначны: Лапчынскі – жывапісец Поўначы. Героі на ягоных партрэтах суровыя і мужныя. Каларыт ягоных краявідаў стрыманы і прахалодны. Нават у самым маленькім эцюдзе Леанід Лапчынскі манументальны. У сваіх пошуках мінскі жывапісец абапіраўся на паўночны жывапіс з Літвы і Скандынавіі. Дзякуючы гэткім пошукам, мастацтва Беларусі атрымала самабытнага і вартага павагі жывапісца.

згадкі

Сяргей Ваганаў



...Час – найвялікшы скульптар
у майстэрні пад назвай Жыццё...

# Шматкроп'і-III

***Жыццёвыя згадкі***

Бязмежны напачатку Час жыцця,
Каб Творца меў яго дзеля даробку.
А на мяжы жыцця і небыцця
Бязмежны Час сціскаецца у Кропку.

*...Усё ж незвычайная, таямнічая з'ява – чалавечая памяць. Столькі важных, лёсавызначальных падзеяў адбываецца за жыццё, ажно эпахальныя зрухі, а памяць перш-наперш захоўвае быццам нязначнае... Між тым ад эпахальных падзеяў застаюцца календары, а са штодзённага чалавечага жыцця нараджаецца Памяць... І менавіта з яго тчэцца бясконцае палатно Гісторыі...*

*Працяг. Пачатак у №№112-113, 2021 г.; №122, 2023 г.*

## Напамін

Паблізу майго дома ў невялічкім, ужо і не памятаю, што калісьці тут было, памяшканні месціцца крама пад распаўсюджанай цяпер назвай "Хіт". Працуюць там па чарзе дзве касіркі. Адна, старэйшая, заўсёды ў кепскім настроі, бачна, як усё яе раздражняе. Што ж, жаночае жыццё бесклапотным не

station назавеш. Да таго ж пандэмія... Карацей, ужо збіраюся разлічвацца, як заўважаю хлопца гадоў 19, без маскі, нешта разглядае, нахіліўшыся амаль да майго вуха. “Вы ўсё ж пасуньцеся трохі. Бачыце адмысловую рысу на падлозе?..” Хлопец як бы не чуе, а касірка раздражнёна кідае: “Вы можете быстрей рассчитываться?” “Прабачце, – кажу, – толькі ніколі не рабіце заўваг пакупніку...” І раптам касірка ўскіпае: “Гэта вам не Савецкі Саюз! Гэта ў Савецкім Саюзе пакупнік быў заўжды правы...” Нічога сабе, думаю, у Савецкім Саюзе толькі і чуліся бездапаможныя заклікі добразычліва ўсміхацца пакупніку... У спрэчку, зразумела, увязвацца не стаў. Збіраю пакунак, і раптам хлопец, які дыхаў мне ў вуха, ідучы міма, усклікае: “Вы не правы! Знаете, как было в Советском Союзе? Хочу вам напомнить...”

Вы што-небудзь зразумелі? Я – не. Акрамя аднаго: сучасныя хлопчыкі ўжо не пытаюцца, як там яно было ў Савецкім Саюзе, а з вялікай ахвотай прапануюць свой напамін...

## Справа геройства

Калі пасля вайны будаваліся гіганты, пра тое ведаў і тым натхняўся народ. Ды і як было не натхняцца пасярод крушняў, калі “труд есть дело славы, чести, доблести и геройства”...

Пакаленні ляглі пад гэты ўбіты, нібы цвік, у свядомасць “строителей коммунизма” сталінскі “афарызм”...

Пакаленні ляглі пад гігантаў.

Яўген Іванавіч Клімчанка – адзін з апошняга, мо, з тых пакаленняў. Вясковы хлопец аднекуль, здаецца, з-пад Оршы, у 70-80-х вядомая на ўвесь СССР асоба, абвешаная ўсімі магчымымі рэгаліямі – і Герой, і член, і дэпутат, і заслужаны дзеяч... Насамрэч – выдатны слесар-інструментальшчык з МТЗ.

Аднойчы я заспеў яго за адкрытым чамаданам, дзе ўжо месціліся штофы з надзвычай папулярнай па тым часе “Белавежскай” і колькі “палак” сухой кілбасы... “Вось, Героем працую, еду мяняць на камплектуючыя...”, – з сумнай усмешкай паведаміў Клімчанка. Наколькі памятаю, некуды на Далёкі Усход...

Не ведаю, як там з гонарам і доблесцю, але з геройствам атрымалася дакладна.

## Апошняя воля

1980-я, няспынны ланцуг “дзяржаўных пахаванняў”... У невялічкім гарадку на вуліцы Леніна жыў дзядок, які быццам сустракаў будучага правадыра ў красавіку 1917-га на Фінляндскім вакзале.

“Видел Ленина!” , так бы мовіць...

Жыў ён бедна, калі не сказаць па-жабрацку, днямі спаў на печы пад бруднымі коўдрамі, калі-нікалі злазіў адтуль і, збіраючыся пад ненавіснымі поглядамі сваякоў на чарговы піянерскі збор, апранаўся ў завешаны бліскучымі значкамі фрэнч з цёмна-зялёнай дыяганалі. У рэшце рэшт, яго так зацягалі па піянерах і старонках газет, што калі памёр, раскрылі завяшчанне, прачыталі: “...прошу похоронить меня у Кремлевской стены...”, а гарадок “...назвать моим именем...”. Нехта з райкама партыі, каб хаця нейкім чынам выканаць апошнюю волю нябожчыка, прапанаваў пабудаваць у гарадку нешта падобнае на тую самую сцяну.

Нават раіліся з Масквой...

## Рэха стагоддзяў

...1966 год, залаты верасень, Гародня...

Я першы раз у гэтым горадзе. Стаю ў роспачы ля Каложы, перад трухлявымі

дзвярыма, зачыненымі на вялізны, як на свірне, іржавы замок. Я ўжо закахаўся ў гэтую царкву, у яе маёлікавыя, жоўта-блакітныя, нібыта рамонкі ды валошкі, крыжы ў старадаўніх мурах. Але не ведаю яшчэ пра яе амаль чалавечы лёс. Хаця ўжо добра бачна, як яна хіліцца з вышыні абрыву да Нёмана, нібыта рыхтуецца да апошняга смяротнага кроку...

– Хочаце ўвайсці? Адчыніць?

Азіраюся. Маленькая жанчына ў стракатай хустцы і рудой шарсцяной кофце дастае аднекуль з-пад старой спадніцы звязку ключоў. "Вось... зараз... зараз..." Я заўважаю, што яна амаль нічога не бачыць – нейкая хвароба на вочы зрабіла яе погляд прыжмурана нерухомым. Мусіць, ён стаўся нерухомым на момант нейкай шчаслівай усмешлівай дабрыні... "Вось... вось... – жмурыцца яна на царкву, нібыта на сонейка, і асцярожна, ласкава так, расчыняе дзверы, – прымай госця..."

І я разумею, што Каложа для яе – параненае дзіця.

– Слухайце... слухайце..., – шэпча вартаўніца Каложы.

"...айце... айце...", – адгукваюцца няроўныя, пад белай вапнай, сцены з умураванымі галаснікамі... І я разумею, што чую рэха ўсіх прамінулых стагоддзяў. Але думаю пра 20-е: няўжо так і застанецца замкнёным на іржавы замок ягонае трагічнае рэха?

## Задума

Мінск, Вайсковы завулак, урадавая рэзідэнцыя, ноч напярэдадні сумнавядомага рэферэндуму 24 лістапада 1996 года. Амаль да раніцы журналісты чакаюць вынікаў перамоваў паміж Лукашэнкам і Шарэцкім пры пасярэдніцтве тэрміновага расійскага дэсанта ў складзе Чарнамырдзіна, Строева і Селязнёва. Хтосьці беспрытульна бадзяецца па холе, хтосьці пахрапвае, лежачы проста на мармуровай падлозе... Амаль знясілены ад доўгачакання, наведваю прыбіральню, за мной яшчэ нехта бразгае дзвярыма... І раптам чую, як Селязнёў, якога лёгка пазнаць па галасе, крые матам "гэтага мудака", які сваімі паводзінамі ледзь не сапсаваў усю задуму... Хто яго слухаў, не ведаю. Ды й прозвішча "мудака" не называлася... Але тое, што лёс Беларусі вырашаўся пад адборны рускі мат, запомнілася назаўжды...

## Незабыўныя дні

...Аднойчы, разбіраючы сямейны архіў, натрапіў на здымак бацькі, пазначаны 25-м днём кастрычніка 1941 года. Усмешка на твары, кубікі ў пятліцах гімнасцёркі, белы падкаўнерчык... Ён яшчэ не ведае, што ўжо дваццаць дзён, як жыве ягоны сын. Ён увогуле не ведае, хто нарадзіўся і ці нарадзіўся, ці жывыя жонка і дачка... Не ведае, чым скончыцца вайна, ці застанецца сам жыць і помніць...

Ці ведае?

Бо на адваротным баку здымка надпіс: "Дарагому сябру жыцця Марыі Ваганавай у памяць аб незабыўных днях Айчыннай вайны. 25.X.41 г."

## Чырвоная змена

Мне было 16 гадоў, калі бацька, журналіст Давід Пінхасік, распавёў, як ён стаў журналістам.

Як і шмат хто з юнакоў, ён пісаў вершы. Але зарабляць на жыццё даводзілася больш грунтоўнай працай. У выпадку з бацькам – памочнікам электрыка. Аднойчы ён трапіў на кватэру вядомага пісьменніка, дзе адбываўся рамонт. Пісьменнік, зразумела, распытваў 16-гадовага яўрэйскага хлопца пра жыццё-быццё. Ну, той і прызнаўся, што піша вершы. Сыходзіў бацька з кватэры пісьменніка з цыдулкай

да галоўнага рэдактара “Чырвонай змены” з просьбай прыгледзецца да хлопца і пры магчымасці прыняць яго на працу ў газету.

Быў гэта, калі не памыляюся, 1930 год. А з 1934 года, і гэта дакладна, бацька ўжо працаваў у газеце “Рабочий”, каторая ў выніку назвалася “Советской Белоруссией”. Працаваў да 1994 года... То бок 60 гадоў. Пакуль не аслеп зусім.

22 чэрвеня 1941 года бацька пайшоў ваяваць. І на два гады зноў патрапіў да таго ж пісьменніка, які рэдагаваў франтавую газету “За Савецкую Беларусь”...

У 1953 годзе бацькі знялі пакойчык у хаце на Нарачы. І я ўжо ведаў, што ў трох хацінах на ўзбярэжным узгорку жывуць пісьменнікі, з якімі бацька разам ваяваў з фашыстамі.

Летам 1964 года я, малады настаўнік, павёў пешшу свой 8 клас з Браслаўшчыны на Нарач, да таго пісьменніка, які разгледзеў у 16-гадовым падлетку журналіста на ўсё жыццё.

Пісьменнік сядзеў на ганку невялікай вазоўні, дзе стаяла маторная лодка, і рамантаваў рухавік. Было горача на чэрвеньскім сонцы, па цяльняшцы распаўзліся плямы пота, а знаёмы берэт ссунуты амаль на патыліцу.

– Сын Пінхасіка? – спытаў пісьменнік.

Я нешта прамямліў пра “Міколку-паравоза”, любімую кнігу дзяцінства...

А з восені пайшоў працаваць у “Чырвоную змену”...

## Фіранка

2015 год... Лістапад... Даведаўся, што ў вёсцы, дзе некалі настаўнічаў, закрылі школу. Еду...

Еду я да Івана, адзінага ад тых часоў сябра з той вёскі. А вось і ён...

Калі-нікалі я, вядома, сюды наязджаў, сёе-тое пра вясковае ды Іванава жыццё ведаў. Але цяпер чамусьці такое адчуванне, што не быў там усе пяцьдзесят гадоў. І разам з тым – наадварот: нібыта тых пяцідзесяці гадоў і не было.

Я здагадваюся, з чаго адбылося тое дзіўнаватае спалучэнне супрацьлеглых адчуванняў – з фіранкі, што нерухома павісла за брудным шклом акенца старой, крывабокай, за сто гадоў дакладна, хаты насупраць Іванавай. Тая ж фіранка, тыя ж карункі на ёй... “Не, тут ніхто не жыве, – тлумачыць Іван. – Як пачалі вучняў вазіць аўтобусам, зімовы інтэрнат зачынілі... І ў тваім пакойчыку, як ты з’ехаў, ніхто больш не жыў...”

## “ТабАки”

Была ў Мінску крама “ТабАки”, менавіта з такім націскам называлі яе мінакі. Апошнім часам там месцілася крама парфумы, цяпер, падобна, і яна зачыненая. “ТабАки” ж былі для мяне ці не самай прыцягальнай у часы, калі галоўны мінскі праспект, дзе яна тулілася, называўся яшчэ імем Сталіна, а пасля Ленінскім. І што ж у ёй было такога, што сёння, калі выпадкова трапляюць на вочы яе цьмяныя вітрыны, адчуваю, як трапеча сэрца і пульсуе ў скронях кроў? Ды нічога. Акрамя паху. Паху дарослага жыцця з яго неймаверна хвалюючымі фантазіямі, што абуджаліся папяросамі “Герцеговина Флор” ды прыгожымі люлькамі, выкладзенымі ў расчыненых скрыначках пад тоўстым шклом... Да балгарскіх ды забойных кубінскіх цыгарэт і цыгар, з якімі дадаўся загадкавы пах непадступнага замежжа, яшчэ трэба было дажыць...

А як дажыць без пісталета? Вунь, ляжыць пад шклом побач з люлькамі... Так, гэта была мара – мець пісталет. Няхай стартавы, але вельмі гучны і падобны да сапраўднага. І хадзіць з ім у Прывакзальны сквер, побач з якім я жыў.

Чаго толькі ні рабілася ў цёмных кутках гэтага сквера, чаго толькі ні здаралася

ў ягоным кустоўі! Па праўдзе, я баяўся хадзіць туды адзін. Але пайшоў, калі ўсё ж прыдбаў у “ТабАках” той пісталет. І ўсё чакаў, нават вельмі хацеў, каб хтось мяне зачапіў ці знянацку напаў...

Але ніхто не зачапіў і не напаў...

Сёння Прывакзальны сквер прачышчаны да апошняй травінкі. І куды падзеўся пісталет, канчаткова знікла ў зарасцях памяці. Але ж не згубілася ў іх крама “ТабАкі” – маўклівая сведка майго і Мінска жыцця ў другой палове XX стагоддзя.

## Чэсны Валька

Не ведаю, ці існуюць зараз дваровыя футбольныя каманды? У маім падлеткавым узросце такая каманда існавала ў нашым двары ля Заходняга моста. Як ён гуляў у футбол, наш Валька! Маленькі, хударлявы, ён бегаў па полі, як... Нават не ведаю, з чым параўнаць. Хай будзе – як іртуць. Бо нават не бегаў, а імгненна, ніхто і не заўважаў, паўставаў побач з мячом. Карацей, дзе мяч, там і Валька. Яны літаральна ліплі адзін да аднаго. У той гульні, дзе ўжо вырашаўся лёс міждваровага чэмпіяната, уся надзея была на Вальку, бо супернік, у асноўным з фабзайцаў, папярэднікаў пэтэвушнікаў, быў вельмі моцны, у іх нават трэнер быў. Да апошніх хвілінаў трымаўся лік 2:3 на іх карысць. Але Валька ўсё ж здолеў вырвацца адзін на адзін з брамнікам, цыбатым хлопцам у доўгіх трусах, што ўсю гульню ані секунды не стаяў спакойна – падскокваў, выробляў нейкія мудрагелістыя па... Але справа не ў гэтым. Справа ў дажджы, што прайшоў напярэдадні. І брамнік, які выбег насустрач, паслізнуўся, вароты засталіся пустыя. Валька прыпыніўся і... прабіў некуды ўбок. Потым апраўдваўся, што біць па пустых варотах у той сітуацыі было б нячэсна...

“Адзёрлі” яго, ці, па тагачаснай тэрміналогіі, адмяцелілі старэйшыя хлопцы, дваровыя заўзятары, у якіх з фабзайцамі былі свае складаныя адносіны. Потым тлумачылі свае дзеянні тым, што Валька зрабіў “непатрыятычны ўчынак”. А ўчастковы, стары ўжо дзядзька з тоўстым жыватом, які выпіраў з-пад кіцеля, паляпаў Вальку па плячы і павучальна, каб і мы чулі, прамовіў: “Патрыётам трэба быць. Сёння каманду падвёў, заўтра радзіме штосьці дрэннае зробіш...”

...“Патрыятызм” кшталту савецкага квітнее дасюль. Адрозна ад футболу. Мо таму некуды знік, растаў у жыцці чэсны Валька, наш дваровы Пеле...

## “Імя Варашылава”

Пачатак 60-х... Калгас у вёсцы, куды я трапіў настаўнічаць, яшчэ называецца “Праўда”. Але хутка чамусьці змяніў назву на “Імя Варашылава”. Піліпаў, тагачасны старшыня, патлумачыў: “У дзяцінстве нас было трое сяброў – Сталін, Будзённы і Варашылаў. Я быў Варашылавым”...

Што ні кажыце, а дзяцінства – гэта на ўсё жыццё...

На розныя савецкія святы “Варашылаў” любіў ладзіць у цэнтры калгаса дэманстрацыі. Чапляў на пінжак альбо паліто чырвоную стужку, усходзіў на ганак праўлення, ставіў побач сынка-другакласніка, ззаду – парторга, жонку-бухгалтарку, аграноима, даярку Гэлю з ордэнам “Знак Пашаны” на грудзях, дзеда Мацвея, які лічыўся ўдзельнікам штурму Зімняга, участковага ў міліцэйскім мундзіры... І прымаў ці то дэманстрацыю, ці то парад – кожную брыгаду на чале з брыгадзірамі, вучняў школы і настаўнікаў на чале з дырэктрысай, на завяршэнне – падфарбаваную калгасную тэхніку на чале з заўгарам... Ветліва махаў рукой з узнятым капелюшом, зачаравана слухаў барабан з гармонікам ды літаўрамі, і смешнае, цераз пень калоду, “ура”...

...Раз-пораз наязджаючы ў тую вёску, я даведаўся, што Гэля з’ехала з мужам у

Латвію, заўгар падаўся ў цырульнікі, а ўчастковы адзначыўся тым, што гераічна затрымаў дзеда Мацвея, калі той цягнуў з лесу нейкае паўтрухлявае дрэўца, бо не было чым узімку грубку паліць... На пытанне, куды падзеўся "галоўнакамандуючы", заўгар-цырульнік выразна тыцнуў пальцам у неба. Я не стаў удакладняць...

Ну, а пералічваць далейшыя назвы тамтэйшага калгаса – можна стаміцца...

## "Белая шуба"

"Вось пабачыце, на гэтай белай шубе ажанюся!" – аб'явіў знаёмы першакурснік з журфаку, калі ўпершыню ўбачыў яе здалёк.

Як сёння перад вачыма зімовы вечар 1958 года, пранізлівы туман клубіцца вакол жоўтых ліхтароў... "Белая шуба" наўпрост перасякае вуліцу Валадарскага да дома, дзе жывуць знакамітыя вучоныя. Я ведаю "белую шубу", дачку акадэміка, мы сябруем... "Валера, – смяюся, – яна выходзіць замуж за майго сябра, ледзь дачакаліся, калі школу скончаць, ужо пярсцёнкі прыдбаныя..." Валера, які прыехаў аднекуль з расійскай правінцыі і ходзіць толькі ў зношаным шынялі і выцвілай гімнасцёрцы, моўчкі ўсміхаецца, нават пазнаёміць не просіць...

Тое, што падалося жартам, здзейснілася адразу пасля Новага года. Напярэдадні нейкім чынам ён апынуўся ў адным з ёй самалёце да Рыгі... Ну, а якая "раёнка" не дачакалася праз пяць гадоў "маладога спецыяліста", меркаваць не выпадае...

Зрэшты, класічны сюжэт. Мо і для астатняга свету, дзе моладзь не ведае размеркавальнага дзяржаўнага прымусу. Адное толькі адрозненне: наша дзяржава гуляе ў сваю гульню, жыццё – у сваю.

## Вяртанне

...Недзе пры канцы 1961 года, калі толькі стукаўся ў журналістыку, атрымаў ад Алега Сурскага заданне напісаць у "ЛіМ" пра мастака Касмачова. Касмачоў дапрацоўваў тады карціну "Ленін у Разліве". Пасля нядаўняга зносу помніка Сталіну карціне, сцвярджаючай вяртанне да "ленінскіх нормаў", прадракалася стацца часова славутай.

Міхал Савіцкі, якога я заспеў у Касмачова, малады і задзірліва франдзіруючы, ганьбіў, рассеўшыся на пацёртай канапцы, сталінскіх мастакоў, а таксама ідэолагаў ад мастацтва. "А вы ведаеце, – раптам прызнаўся Савіцкі, – я партрэт Сталіна не выкінуў. Вось пабачыце, яшчэ спатрэбіцца..."

І змрочна рагатнуў.

У ліпені 2009 года народны мастак, акадэмік і Герой Беларусі Міхаіл Савіцкі выставіў партрэт Сталіна ў мінскім Палацы мастацтваў...

У якім "разліве" хаваецца зараз Ленін, не ведаю...

## Бацькаў медаль

Свой медаль "За отвагу" мой бацька Давід Пінхасік, ваенны журналіст, атрымаў у 1944 годзе за бой на рацэ Вялікай, калі яму давялося ўзначаліць батальён замест загінулага камбата.

У дзяцінстве я вельмі любіў разглядваць гэты медаль, на якім танкі, самалёты... Аднойчы, гуляючы "ў вайну", я начапіў медаль на кашулю. Бацька заўважыў гэта, прыцягнуў мяне да сябе і без усялякіх тлумачэнняў сказаў: "Здымі..."

З таго выпадку я больш не бачыў гэты медаль. Бацька ніколі яго не насіў, увогуле не насіў ні ордэнаў, ні медалёў, толькі калодкі па святах. Ды й пра той бой распавёў толькі ў 1973 годзе, калі ў пушкінскім Міхайлаўскім з высокага

берага над Сараццю, што ўпадае ў Вялікую, быў бачны мост, пад якім ён ледзь не загінуў...

У 1996 годзе бацька памёр. І, разбіраючы архіў, я зноў убачыў медаль у невялікай кардонцы побач з іншымі баявымі ўзнагародамі.

Узнагароды мірнага часу захоўваліся асобна, у іншай кардонцы...

Вось ужо і я набліжаюся да ўзросту майго бацькі. І ўпэўнены, што пасля мяне бацькаў медаль "За отвагу" застанецца ў сям'і, усё ў той жа чырвонай кардонцы.

І на здымку.

Ва ўсёй гісторыі з цяперашняй узнагародай прапагандыста А. медалём "За адвагу" мяне цікавіць адно: ці захаваюць гэты медаль ягоныя дзеці і ўнукі...

## Помнік

– Калодзеж памятаеш?

Як жа ж не памятаць той калодзеж? Зімовым ранкам адхінеш коўдру, скінеш паліто, якім хаця б троху бараніўся ад марозу, да якога за ноч выстуджвалася жытло, ногі ў валёнкі, за вядро і да калодзежа. Ён увесь у лёдзе, нібы ў казачнай пячоры зіхаціць пад ранішнім Месяцам... І – да пояса. Каб прачнуцца і жыць.

– ...у 43-м было, – працягвае Іван, мой вясковы сябар з часоў настаўніцкай маладосці, – пяць гадоў мне. Калодзеж тады быў абгароджаны плоцікам. А побач – купка пяску. Ну, гуляю ў пясочку, і бачу – самалёцік ляціць. Ага, нямецкі, нават крыжы відаць. Ага, я ручкай яму, а ён як гваздане з кулямёту! Ад плоціка толькі трэскі разляцеліся... Потым я тыя кулі, вялікія такія, пазбіраў... І чаго ён па мне лупіў? Ды мо анёл выратаваў... Мой анёл-захавальнік... А вось тут, побач, яшчэ хата стаяла. Ага, паліцаева хата. Дык партызаны і хату спалілі, і паліцая забілі, і жонку з дзецьмі расстралялі... Я вось думаю: а дзяцей з матуляй – за што?..

...Да нейкай чарговай пераможнай гадавіны калодзеж засыпалі, а на ягоным месцы паставілі жаўнера з аўтаматам – помнік загінулым вяскоўцам. Не ўсім. Толькі тым, каго, мусіць, у 44-м забралі ў савецкае войска. Інакш з чаго гэта насупраць прозвішчаў адны гады нараджэнняў?

А так – помнік як помнік, якіх шмат па беларускіх вёсках і раздарожжах...

## На продаж

1956 год... Верасень...

– Сяргей Сяргеевіч, Сяргей Сяргеевіч, там яшчэ восем знайшлі! – задыханы ад бегу маладзенькі, амаль падлетак, жаўнер цягне Смірнова за рукаў... Смірноў прыпыняе страшны аповед. "Не-не, дзеці, вы туды не хадзіце... Чакайце, я вярнуся..."

Ну, не зусім дзеці, падлеткі з мінскай школы, знясіленыя ўражаннямі, чакаем...

Ён вярнуўся праз некалькі год. З імёнамі. З трагічнымі лёсамі загінулых і выжыўшых... З кнігай "В поисках героев Брестской крепости", вартай усіх яе помнікаў, бо ўпершыню ачысціла свядомасць ад сталінскага бруду – лічыць трапіўшых у палон не здраднікамі, а менавіта ахвярамі і героямі...

Чакаем...

Праз 66 гадоў ад той сустрэчы адзін з казематаў крэпасці выстаўлены на продаж: метры... першапачатковы кошт... адрас... "улица Писателя Смирнова"...

## Пра кіно і цягнік у Чыкага

1957 год, Мінск, 42-я школа... У класе ціха-ціха, толькі Андросік з Басавым час ад часу нешта пытаюцца ў Валеры. Валера распавядае пра кіно – як здымаецца,

якія хаваюцца за белым экранам цуды. Усяго на год старэйшы за мяне, а ўяўляецца ўжо дарослым, дапушчаным да недаступных мне, але вельмі прыцягальных таямніц вольнага, па-за школай, жыцця. Чаго вартыя толькі нагавіцы-"дудачкі" і грубавязаны швэдар! А як улюбёна глядзіць на яго Казаноўская, наша класная прыгажуня з доўгай тоўстай касой да пояса і двума завіточкамі на ілбе! Куды мне з маімі лыжнымі шараварамі, якія пузырацца на каленях...

І вось канец навучальнага года, канцэрт, прысвечаны выпускнікам, у клубе Дзяржынскага – школа насупраць, усе агульнашкольныя мерапрыемствы адбываюцца там. На сцэне Валера – чорны гарнітур, пашыты да выпускнога, з-пад рукавоў пінжака выглядаюць белыя манжэты на запінках... І пачынае, адбіваючы чачотку:

...А поезд шел – чик-чик-чик-чик,
А поезд шел – чик-чик-чик-чик,
В Чикаго...

Дзіўная песня! Здавалася б, пра заганы Амерыкі, а атрымлівалася, што пра яе саму – недаступную і вельмі прыцягальную...

...Чачотка на кадэбэшнай сцэне... цягнік імчыць у Чыкага... Валеры Рубінчык... "Дзікае паляванне караля Стаха"...

Чык-чык-чык-чык...

## Сымон-музыка

Згарэлі лямпачкі на навагоднюю ёлку, і праз колькі хвілінаў я ўжо амаль бег на Камароўку, шукаючы сваю асабістую сцежку ў перадсвяточным натоўпе, пакуль не апынуўся прыціснутым да сцяны. І раптам пачуў гук.

Праз цяжкую вільгаць падзямелля даносілася дрыготкая, з адценнем журботнасці, мелодыя. Паціху, паціху, уздоўж сцяны, я праціснуўся да яе вытоку. Хлопчык мо гадоў дванаццаці павольна вадзіў смыкам па скрыпачцы, прыклаўшыся да яе пачырванелай шчакой і час ад часу адкідваючы саламянага колеру чупрыну. Ён, мусіць, толькі вучыўся граць, хутчэй за ўсё самастойна, бо я не пазнаваў мелодыю, пакуль ён не ўзяў чысцюткую ноту: "Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка..."...

Натоўп рухаўся і рухаўся, не запавольваючы кроку, абмінаючы раскладзены перад музыкам чорны футарал з пацёртым бардовым аксамітам. Нябачна было аніводнага твару – толькі адзін твар натоўпу, агульны заклапочаны твар. Я і не заўважыў за ім, як хлопчык са скрыпкай некуды знік, я нават не паспеў аддзячыць яму хаця б якой капейчынай. Увесь тыдзень, да самых Калядаў, я шукаў яго ў пераходзе, цешыўся надзеяй зноў пабачыць, каб спытаць імя і вярнуць доўг. Але не, цёмны пераход прадзімаўся з канца ў канец вільготным зімнаватым скразняком, і быў пусты...

Мусіць, вярнуўся Сымон-музыка на сваё месца ля помніка дзядзьку Якубу...

## Дзіцячыя гульні

Час ад часу, калі выпадае вяртацца дадому ў сярэдзіне дня, сустракаю дзіўнаватага хлопчыка са школьным плецачком за плячыма, гадоў васьмі-дзевяці.

Ніколі не бачыў, каб ён, як звычайныя дзеці, круціў галавой па баках, назіраючы зімовыя альбо веснавыя змены ў паводзінах варон і галак, увогуле ў навакольным жыцці. Не, наш хлопчык заўжды надзвычай засяроджаны на нейкай цаццы, гаджэце па-сучаснаму, і, не ўзнімаючы галавы, цісне і цісне на нейкія кнопкі. На вуліцы, у пад'ездзе, у ліфце – паўсюль. Страляніна... выбухі... надрыўны віск рухавікоў...

Трэба сказаць, што карэнных, так бы мовіць, жыхароў нашага, ад сярэдзіны

60-х, дома сёння можна пералічыць па пальцах. Спрэс "акупанты". Нехта ветліва вітаецца пры сустрэчы. Нехта, выходзячы з ліфта, нахабна пускае струмень цыгарэтнага дыму ў твар. А нехта ўвогуле нічога і нікога не заўважае навакол. Адзін з гэтых апошніх "нехта" ніколі не пачакае цябе ў ліфце і заўсёды паркуе джып так, што побач месца не застаецца. Ну, і падзёртая георгіеўская стужачка на бакавым люстэрку... Круглатвары, каржакаваты, і хлопчык такі ж. Падобна на тое, што бацька засяроджанага хлопчыка, хаця разам іх ніколі не бачыў...

Заўчора мы з хлопчыкам апынуліся ў ліфце, і я спытаў у яго, на які націснуць паверх. І – о, цуд! – хлопчык падняў галаву: "А вы за каго – за рускіх ці за фашыстаў?"... Я зазірнуў яму ў вочы. Нябесны колер патыхаў цьмянай рашучасцю...

## Ноч у Бамбеі

У Мумбаі, якім завецца цяпер колішні Бамбей, не быў. А вось у Бамбеі...

1986 год... снежань... вяртаюся з Ханоя ў Маскву... у Бамбеі пасадка... спазняемся на 10 хвілін... узнаўляецца вайна Ірана з Іракам... Іран закрывае неба... пасяляемся ў гатэлі... ноч... спякота... пах мора... Уладзімір Мяньшоў, той самы, з Масквы, што слязам не верыць... ідзем купацца... сланы, прыбраныя ў рознакаляровыя гунькі... феерверкі... субота... дзень вяселляў... нібы зграйка вераб'ёў, мурзатыя хлапчукі... адзін літаральна вісне на руцэ... "beautiful girl! beautiful girl!"... расчаравана – "beautiful boy!.." ...са слязьмі: "mother hangred... father hangred... sister hangred..." ...брудны пясок... бруднае мора... гатэль... аднекуль даносяцца гукі музыкі... унутраны двор... ззаду сцэна... два троны з маладажонамі на тле пано – вялікая калясніца з кветак... шост пасярэдзіне з вядзеркам... салодкі водар... людзі, шмат людзей у нацыянальным адзенні... у еўрапейскім – адзін... ідзе да мяне... пытаюся "do you speak english?"... смяецца... спахопліваюся: ідыёт... "soviet journalist" ...запрошаны... сяджу, сівы стары схіляецца да майго пляча... "Індзіра Гандзі, Індзіра Гандзі"... і праз два гады слёзы цякуць па глыбокіх рэчышчах маршчынаў на ягоным твары...

...Хлопчык... *beautiful*... *hangred*... сланы... феерверкі... вяселлі... слёзы... стары...

...Раніца... ляцім... пануры, цёмна-руды пейзаж...

Далёка ўнізе – знішчальнік...

## Шарабан

"– На этом шарабане и полетим... – Трофимов похлопал по фюзеляжу..."

Так пачынаўся адзін з першых маіх рэпартажаў у газеце "Знамя юности". 1965 год... спякотны жнівень... гараць лясы... Трафімаў пільна вышуквае дымы і то ўзнімае свой "кукурузнік" угару, то паніжаецца над лясніцтвамі амаль да дахаў, каб скінуць каардынаты... Ледзь стрымліваючы млосць, што падкочвае пад горла на кожным віражы, я тым не менш вельмі натхнёны сваім першым у жыцці сапраўдным палётам. Сапраўдным, бо ва ўяўных палётах на "знішчальніку" з двух крэслаў прайшло амаль усё дзяцінства. Не дзіва, што Трафімаў, каржакаваты, немаладога ўжо веку чалавек, выклікае ў мяне непадробную павагу разам з адчуваннем упэўненасці і надзейнасці не толькі ў небе, але і ў жыцці... Я ўжо ведаю, што ён ваяваў на штурмавіку. І мне чамусьці шкада яго, вымушанага доўжыць свой лётчыцкі век на нейкім фанерным "ПО-2"...

...Як я ляцеў да яго са свежым нумарам газеты з маім рэпартажам – толькі б паспець, пакуль ён сам не ўбачыў! Адшукаў ля самалёта: "Вось, чытайце..." Ніколі не забуду сумесь здзіўлення, пагарды і крыўды на ягоным твары: "Гэта самалёт – шарабан?!" Я нешта прамекаў у адказ. "Ніколі, чуеце, ніколі не называў самалёт шарабанам!"...

...Забыўся, на жаль, на імя Трафімава. Не памятаю, што там было ў тым рэпартажы далей. Памятаю толькі пра “шарабан”... І трафімаўскае “ніколі”...

## Пра сляпых і глухіх

1989 год... люты... ноч... завіруха... Раптам званок: “Ратуй... праводка згарэла... ля цырка...” Вядомы пісьменнік і найбліжэйшы сябар толькі прыдбаў “Масквіч-2141”, з найноўшых масквічоўскіх мадэляў. І вось на табе! Пра тое, як цягнуў яго на карпунктаўскай “Волзе” па неймавернай слізгоце да аўтасервісу, распавядаць не буду. Настрой пасля гэтага прыкрага здарэння псаваўся з-за таго, што надышла і мая чарга набываць такі ж “Масквіч”... І вось з дапамогай маскоўскіх калегаў я на заводзе, у генеральнага канструктара. Ён нешта тлумачыць пра канвеер, па якім будзе рухацца “маё” аўто. Пры канцы размовы расказваю пра згарлую праводку. “Так, – адгукаецца генканструктар, – такое здаралася, бо праводку робяць сляпыя. Але цяпер мы кожны правадок празвоньваем...” Ну як тут утрымацца ад жарту: “А празвоньваюць не глухія?”

Праз дзевяць дзён партфель з “Белавежскай” апусцеў, “маё” аўто пакідае канвеер. Аглядаю з розных бакоў і не адразу заўважаю, як да мяне рушыць нейкі гарыла з вялізнай гумавай кувалдай: “...увагнутасць... дзяржпрыёмка не прапусціць...” Нахіляецца да вуха: “Бачыце вунь той «Масквіч», чырвоны? Экспартны, для Югаславіі... Хочаце, арганізую?”...

Ад’язджаю ў Мінск на сваім, цёмна-блакітным. Праз якую сотню кіламетраў поркаюся пад ім, падкручваю гайкі задняга амартызатара. Пачуў, як застукаў. Не глухі...

*P.S.* У 2022 годзе адноўлена вытворчасць аўто пад брэндам “Москвич”. Што праўда, аналагу нейкага кітайскага...

## Чарга...

*“Запісвайце, запісвайце!”, – патрабавальна раіў Алесь Адамовіч, калі я распавядаў яму, з якімі скаргамі звяртаюцца ў беларускі карпункт саюзнай газеты “Труд” людзі. На жаль, я не выканаў гэту параду. Але памяць захавала чаргу ў доўгім калідоры – што ў той маўзалей...*

### 1. Паперы

Першым у той шматгадовай, з 1976 года, чарзе быў пажылы вясковец аднекуль з Гарадзеншчыны. З грукатам паставіў на стол драўляны, больш падобны на куфар, чамадан, расчыніў яго дрыжачымі пальцамі і падсунуў амаль пад самыя вочы нейкія зжаўцелыя паперы: “Вось, вось, глядзіце...” Паперы сведчылі, што дзед вяскоўца яшчэ да Першай сусветнай меў колькі гектараў уласнай зямлі... “Дапаможыце, каб вярнулі!” – рашуча запатрабаваў вясковец. Перад вачыма затросся яшчэ адзін стос нейкіх жоўта-чырвоных папераў. Гэта былі граматы ад калгаса, ад розных там райкамаў за ўдарную працу – з выявамі Сталіна з Леніным, Сталіна, Леніна, гербоў з каласамі... Да ўсяго дадаліся пасведчанні бацькавых медалёў і яго заўчаснай смерці ад ран...

Ці трэба тлумачыць, што дапамагчы небараку я не здолеў, хаця некуды званіў, пісаў, з кімсьці лаяўся...

Дасюль шкадую, што з-за марнасці справы не выправіўся паглядзець на тыя гектары...

**2. Кажушкі**

Аднойчы з’явілася цэлая дэлегацыя рабочых з завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. На 60-я ўгодкі той самай рэвалюцыі іх апранулі ў белыя кажушкі, каб у святочнай калоне прыкінуліся партызанамі. Не сказаць, каб яны вельмі ўзрадаваліся. Але начальства паабяцала “партызанам” пакінуць кажушкі ва ўласнае карыстанне. Зразумела, бясплатна. Што гэта азначала тады, трэба тлумачыць толькі моладзі. Карацей кажучы, начальства пазабірала тыя дэфіцытныя кажушкі сабе. Гісторыя доўга хавалася недзе ў завуголлях начальніцкіх кабінетаў, пакуль не адбылося яе публічнае выкрыццё ў газеце і на самым версе не вырашылі, што, маўляў, не па-партыйнаму ашукваць рабочы клас.

Во якая была тады “чацвёртая ўлада”!..

**3. Песні**

Наступны, каго памяць выхоплівае з той чаргі, – сціплы інжынер Міхаіл Гольдман. Без аніякіх на тое падстаў, калі не лічыць самастойнасць супярэчлівых з начальніцкімі думак, звольнілі з працы на шостым дзясятку жыцця. І яшчэ – Яма, няма чаго па “сіянісцкіх” мітынгах швэндацца... І ўсё гэта нягледзячы на тое, што франтавік, на баявыя ўзнагароды. Ён у адзін суд... у другі... Аж да Генеральнага пракурора СССР!

І ў той жа час з усіх дынамікаў – “...не спится только ветерану...”, “помнит Вена, помнят Альпы и Дунай...”

Ну, што было рабіць з Міхаілам Аронавічам? Як дапамагчы? Мо толькі біць у званы, да якіх ён сам не лічыў магчымым дакранацца. Ды прыціснуць уладу ў кут: “Спяваеш, змяюка?! А ты ведаеш, хто напісаў тыя песні?.. Лучанок?.. Так, Лучанок. А словы?.. Ясень?.. Так, Ясень. Ён жа Міхаіл Гольдман, сціплы інжынер, якога ты звольніла з працы і душыш жабрацтвам... Не верыш? Ганарары? Я сам не паверыў, пакуль не дазнаўся пра тыя мізэрныя грошы, ды й хто ён...”

...Міхаіл Аронавіч Гольдман памёр 10 мая 2006 года, на другі дзень пасля 61-й гадавіны Перамогі над фашызмам. Хавалі пад гукі “Майскага вальса”, словы якога напісаў Міхаіл Ясень.

**4. Медалі**

Пажылы штампоўшчык з мотавелазавода ледзь не плакаў ад крыўды, калі счарнелымі нягнуткімі пальцамі раскладаў перада мной усё тыя ж, на зжаўцелых паперчынах, ганаровыя граматы ды падзякі за “многолетний добросовестный труд”... Крыўда зразумелая: трэба выходзіць на пенсію, а майстар цэха з-за нейкага дробнага канфлікту перашкаджае ўзнагароджванню медалём “Ветеран труда”. Ну, думаю, майстра мы неяк адолеем. Цягнуся да тэлефона. І тут заляпаў тэлетайп, мо нешта тэрміновае. Выбачаюся... Чытаю: “...решением Моссовета от... вы награждены медалью “Ветеран труда”...” “Які медаль? – здзіўляюся ўперамешку з сорамам. – Мне ж да пенсіі...”

Не ведаю, ці насіў калі свой медаль той скаржнік, мой згубіўся недзе ў шуфлядках пісьмовага стала. Адное што не сыходзіць з памяці: пакрыўджаны чалавек збірае нягнуткімі пальцамі і перавязвае вяровачкай стос грамат і падзяк “за многолетний добросовестный труд”...

## Дом у завулку

Не кожны талент спалучае ў сабе рукі, сэрца і галаву.

Усё гэта, відавочна, спалучалася ва ўсім, што рабіў Алег Сурскі.

Але найперш у самім жыцці і пабудаваным для жыцця ўласнымі рукамі не-

вялічкім доме, што напачатку 60-х сціпла ўціснуўся ў мінскім Усходнім завулку паміж суседскімі гародамі ды садамі.

Доме, які, нібыта магніт, адразу прыцягнуў да сябе людзей, што сталіся тварам цэлага пакалення.

Алесь Адамовіч, Навум Кіслік, Мікалай Крукоўскі, Валянцін Тарас, Вячаслаў Сцёпін, Барыс Забораў, Анатоль Анікейчык...

Звычайнае, на першы погляд, сяброўства, нават сем'ямі, ці то былых аднакурснікаў, ці то паплечнікаў па журналістыцы, літаратуры і мастацтву ператварылася з цягам часу ў яднанне сутворцаў, адметных высокім сумленнем і вольнай думкай...

У любой цывілізаванай краіне дом, падобны на колішні Алегаў, захаваўся б сярод шкляна-бетонных гмахаў, бо ў ім працягвалі б жыць вялікія цені і вялікія думкі.

Але тым, хто вынішчае здабыткі гісторыі і культуры, не цікавыя драматычныя супярэчнасці часу, ад якіх утвараюцца вялікія думкі і рухаецца наперад гісторыя. Гэтым людзям цікава толькі тое, што адпавядае начальніцкаму густу, дазволу і так званай стабільнасці.

Так нараджаюцца пасмяротныя персанальныя галерэі і наменклатурныя могілкі...

## Каварства без кахання

Пачатак 50-х, нам недзе па 10 гадоў... Сашка кліча мяне да чорнага ўвахода ў Купалаўскі тэатр, дзе сустракае нас ягоны бацька, скрыпач з тэатральнага аркестра, і цішком, бо дзённы спектакль пачаўся ўжо, вядзе ва ўрадавую ложу, адкуль з заміраннем сэрца сочым, як каварства забівае каханне... У антракце мы, тузаючы адзін аднаго, бяжым вузкім калідорчыкам ва ўборную Фердынанда, хіхікаючы з назвы таямнічага памяшкання. Фердынанд, ён жа знакаміты ў хуткім будучым Барыс Кудраўцаў, зняўшы пояс са шпагай, частуе нас шакаладам, налівае з графіна ў гранёную шклянку нейкую вадкасць, выпівае, падносіць да носа рукаў вышытага срэбрам камзола... Задаволена рагоча, праз рогат чуюцца мацюкі...

Так, ледзь нарадзіўшыся, была канчаткова, на ўсё жыццё, забіта любоў да тэатра.

Сцерагуся каварства...

## Жазло

Ёсць такі выраз, нават гістарычны тэрмін – *брэжнеўскія часы*. І, як і ва ўсіх іншых, былі ў іх імі ж народжаныя персанажы. Памятаю, як у адным невялікім райцэнтры ўбачыў на галоўнай вуліцы таўставатага чалавека ў саламяным капелюшы і чорным, нягледзячы на спякоту, гарнітуры. Усе, хто трапляўся яму на шляху, ветліва схілялі галовы, нехта абарочваўся ўслед... "Хто гэта? – запытаўся ў спадарожніка. – Доктар? Настаўнік?" – "Першы... наш першы..." Першым звычайна называлі першага сакратара райкама партыі, мясцовага гаспадара над усім і ўсімі...

Праз нейкі год сутыкаюся з ім у калідоры старога Дома прафсаюзаў, таго, што на плошчы Свабоды. Няўпэўненая, уздоўж сцяны, хада... схуднелая, гнуткая постаць...

...Звольнілі, кінулі, па тагачаснай завядзёнцы, у прафсаюзы. Не заладзілася ў яго кіраваць гаспадаркай. Але ж стараўся – шляхам простых і кароткіх распараджэнняў непасрэдна на месцах: у калгасе... у лясгасе... у аўтабазе... Скончылася тым, што ён здзёр з мясцовага даішніка фуражку, адабраў жазло і сам стаў рэгуляваць рух на адзіным у гарадку скрыжаванні...

Непераадольная ўсё ж у рознага кшталту начальнікаў цяга кіраваць ці дарожным, ці гістарычным рухам пры дапамозе жазла.

Што праўда, часам ператвараецца ў анекдот...

## Ідыёт

Быў такі дзеяч у кіроўным беларускім бамондзе – Канстанцін Платонаў. Спачатку на камсамольскіх падмостках, потым ва ўнутраных справах, мо і намеснікам міністра, на той момант палкоўнік, а мо ўжо і генерал. Сустрэцца з ім мяне вымусіў нейкі маёр – бадзяўся, як мне паведамілі, па таксапарку, усім тыцкаў маё фота і тлумачыў: “Вось, адшукваецца... жанчыну збіў на Якуба Коласа... з’ехаў... жанчына ў рэанімацыі...” Што значыць “па таксапарку”, дзе ўтрымлівалася службовае аўто карпункта ўсесаюзнай газеты “Труд”? А тое, што назаўтра ўвесь горад даведаўся, які злачынца гэты ўласны карэспандэнт... Агучаная напярэдадні на г. зв. партгасактыве хлусня, што “собкор “Труда” на служебной машине подвозил митингующим антисоветские плакаты, листовки...” – нібы міны, снарады і кулі – мяне амаль не турбавала. А вось таксісты...

– Чаго вы хочаце? – пытаецца Платонаў.

– Публічнага выбачэння і пакарання вінаватых за хлусню...

“Ага, зараз, – смяюцца вочкі на квадратным, кшталту плакатнага, твары. – Здаецца ж, не ідыёт...”

“І чаго прыпёрся?! – кляну сябе, гледзячы ў тыя вочкі. – Ідыёт!”

Астатняе не цікава. Акрамя таго, што адбываўся той “ідыятызм” пасля разгону мітынгу ля Усходніх могілак і ў Курапатах 30 кастрычніка 1988 года, на Дзяды...

## Пра будзёнаўку і панчохі

1958 год... Матулі 50, мне 17. Я ўпершыню на яе радзіме, у мястэчку Луначарскае, да рэвалюцыі Мікалаёва, на Заходняй Дзвіне, насупраць Дзісны... Плывем з матуляй на пароме ў Дзісну замаўляць помнік на магілу яе бацькам, маім дзядулі і бабулі. Усё цікава – і паром, і крушні ад нейкіх збудаванняў з чырвонай цэглы, і прысады, якія павольна набліжаюцца да цябе... Намагаюся ўявіць, якім было жыццё на савецка-польскай мяжы. Матуля ўсміхаецца, згадаўшы, як сярэдні брат Кірыла згубіўся аднойчы недзе ажно на тры месяцы, а калі вярнуўся, ціха, па сакрэце, распавёў, што выконваў заданне забіць Пілсудскага. Забіць не атрымалася, бо трапіў у лапы дэфензівы, сядзеў у пастарунку, уцёк... Сапраўдная ж прычына ягонага знікнення выявілася даволі хутка, калі ў старэйшых сясцёр і мястэчковых жанчын з’явіліся фільдэперсавыя панчохі – частка кантрабанды з-за мяжы...

Апантаным, мусіць, рэвалюцыйнымі ідэямі хлопцам быў мой дзядзька Кірыла. Нават здымак захаваўся, дзе ён апрануты ў савецкую вайсковую форму 20-х гадоў, у будзёнаўцы з чырвонай зоркай. Падазраю, праўда, што насіў будзёнаўку, як бы сёння сказалі, дзеля понту...

## “Утренняя роса”, Чорная рэчка

*1977 год... Вандруем па Карпатах... Хаця як вандруем? Я з жонкай, сябар з жонкай і сынам... Сябар, набіраючы літаратурную вагу пісьменнік, толькі прыдбаў “Жыгуль”, але навучыцца кіраваць не паспеў. Вось на ім і гойсаем па Карпатах, не шкадуючы, фарсіруем плыткія бурлівыя рэчкі, абы патрапіць да ночы на возера Сінявір, непаўторны, па чутках, карпацкі цуд... Патрапілі... А раніцай даведаліся, што рэчка завецца Чорнай, недалёка, мо дзесьці з дзясятак кіламетраў, ёсць на*

*ёй стронгавая гаспадарка, і калі вартаўніцу пачаставаць бутэлькай “Утренней росы”, дык, можа, дазволіць троху парыбаліць... Што праўда, па той дарозе толькі лесавозы цягаюцца... Я паглядзеў на ўладальніка новенькага “Жыгуля”...*

**1. Конікі, па-мясцоваму мухі**

...Недзе праз гадзіну безупыннага і безвыніковага закідвання шыкоўнай гэдээраўскай вуды з назапашанай, забыўся якой, прынадай, з’явіўся аднекуль хлопчык гадоў дзесяці ў доўгім, з пляча дарослага, пінжаку, і пачаў шпарка скакаць па крутым узгорку, ловячы, як высветлілася, конікаў, па-мясцоваму, мух. Потым выламаў гнуткую арэшыну... дастаў з кішэні лёску... закінуў... выцягнуў... закінуў... выцягнуў... Вось так, на раз-два – 17 стронгаў! Дык яны асабліва і не хаваліся, паказваючы з-пад празрыстай вады цёмныя, з бліскучым адценнем, пругкія хрыбты... Трэба было бачыць, як набіраючы вагу пісьменнік скакаў па крутым узгорку, ловячы конікаў, па-мясцоваму, мух...

**2. Гадзіннік ад брата**

...Не ўпершыню хлопчык чакаў, калі хтось з’явіцца і пачастуе вартаўніцу бутэлькай “Утренней росы”, каб наважыцца лавіць стронгаў самому – гэткая была ў яго завядзёнка. Падышоў, спытаў, ці доўга яшчэ будзем, паглядзеў на вялікі гадзіннік, падвязаны да рукі нейкай бруднаватай тасёмкай. Па цыферблаце пад стрэлкамі – нейкія лацінскія літары...

– Твой? – спытаў я. – Не згубіш?

– Не, братаў, з вайны... Ён у турме...

– За што?

– Ні за што...

Натапыраны погляд памякчэў. Мо ад таго, што брата ўспомніў, а мо ад таго, што ўпэўніўся – аніякай пагрозы з нашага боку няма. Але ж і ў гэтым змякчэўшым поглядзе чыталася нейкая прыхаваная нядобразычлівасць: маўляў, чаго вы сюды прыпёрліся з вашай “Утренней росой”?!

...– І колькі ж яму яшчэ сядзець?

Хлопчык выпрастаў з-пад зашмальцаванага рукава руку і паглядзеў на гадзіннік...

...Колькі ж хвілінаў адлічыў той гадзіннік, пакуль ягоны ўладальнік невядома за што сядзеў у турме?

...Колькі ж хвілінаў адлічыў той гадзіннік, пакуль хлопчык не вырас і не стаў сапраўдным гаспадаром стронгавай гаспадаркі, конікаў, па-мясцоваму мух, высокіх гор, крутых узгоркаў і Чорнай рэчкі, што бурліцца між імі?

...Колькі хвілінаў адлічыў той гадзіннік, пакуль бутэлька “Утренней росы” не ператварылася ў “Искандер”?

Адно, што непадуладна гадзінніку, – возера Сінявір, адвечны карпацкі цуд...

## Майстэрня скульптара

1965 год... студзень... надвячорак... Завітаў, як дамаўляліся, да Яўхіма Гольбы, сябра з часоў студэнцтва, паэта і мастака. Але Гольбы няма, недзе швэндаецца. Настрой паганы: толькі сышоў з “Чырвонай змены”, вярнуцца ў настаўніцтва не атрымалася, яшчэ не ведаю, што атрымаецца з уладкавання ў “Сельскую газету”... Чакаю Гольбу. Званок у дзверы... Прыгожая жанчынка ў хатнім халаце, з сабачкам на руках: “Вы Сяргей? Хадзем да нас, там Яўхім на тэлефоне, вас кліча...” Пазней даведаюся, што на ўвесь пад’езд дома, дзе жывуць былыя лётчыкі з Мачулішчаў, адзіны тэлефон. Карыстаюцца ўсе... Яўхім: “Прабач, затрымаўся.

Прыязджай у музей... у майстэрню скульптара... Я тут з Алай...” Ала – дачка жанчынкі з сабачкам, бачыў летам на фота пад шклом кніжнай шафы, калі Яўхім жыў у гэтай “хрушчоўцы” падчас адпачынку матулі з дачкой недзе на поўдні... Праз паўгадзіны я ўжо ў Мастацкім музеі, у сутарэнні, у майстэрні скульптара... На падстаўцы белы бюст. “Гэта Зіна Партнова, – тлумачыць скульптар, – чуў?” Хто ж не чуў пра піянерку Партнову, гераіню вайны?! Гляджу на бюст, на Алу – вельмі падобныя...

...З Алай мы пабраліся праз год, у ліпені, на 18-ы дзень яе народзінаў... Гольба заблукаў у сутарэннях Нью-Ёрка... Скульптар Іван Міско адзначыў 91-ы год нараджэння... Недзе ў ягоных сутарэннях хаваецца бюст Зіны Партновай, пра якую наўрад ці хто сёння ведае...

Што ні кажыце, а Час – найвялікшы скульптар у майстэрні пад назвай Жыццё...

Васіль Аўраменка



...паводле беларускай традыцыі
паэт мусіў быць альбо прарокам,
альбо самотнікам...

# Праўда паэта, альбо Няскончаны шлях Уладзіміра Някляева

Што агульнага паміж *справядлівасцю, праўдзівасцю і справай*? Калі глядзець "у корань", то сапраўды, гэта аднакарэнныя словы, што паходзяць ад аднаго стрыжня – "*права*". "*Чалавек мае права*!.." Так, напэўна, можна пачаць любы маніфест, статут, канстытуцыю, прамову і нават... мову! Бо з таго моманту, як чалавек стаў асобай, усвядоміў сваю чалавечую сутнасць – ён *мае права*: на жыццё, свабоду, каханне, думкі, мары, мову, маёмасць, інфармацыю, справу ды многае іншае, пра што кажуць гуманісты розных часоў і народаў. Менавіта таму словы *справядлівасць* і *праўдзівасць* такія важныя і ў будзённых *справах*, і ў *справах* вышніх. Свая справа, занятак, прафесія – галоўнае, што трымае чалавека на зямлі, дае яму хлеб, дах, надзею і перспектывы, бадай, яна стрыжань любога дзейснага жыцця. А справа паэта? – спытае дапытлівы чытач. Вось тут і пачынаецца наша гісторыя.

Пра што мог думаць юны навучэнец тэхнікума ў пачатку 60-х, патрапіўшы з заходне-беларускага мястэчка ў стольны



*Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.*

Мінск? Пра тое, пра што думалі і чым жылі ягоныя раўналеткі – каханне, спорт, спакусы вялікага горада, першыя жыццёвыя няўдачы і светлыя перспектывы. Нават калі ты пачынаеш пісаць ці толькі “думаць” вершы, яны, бадай, пра тое ж самае. Між тым, першы афіцыйна зафіксаваны верш нашага героя пазначаны 1969 годам, то бок сур’ёзная “паэтычная плынь” пайшла ўжо ў 70-я. А да таго была вучоба, заняткі боксам, насычэнне духам і мроямі часоў “адлігі”, праца электрамеханіка сувязі на Далёкім Усходзе і Поўначы, вяртанне і праца ў Мінску, паступленне на філалагічны факультэт. Аддаючы даніну эпосе, будучы паэт не толькі прайшоў выпрабаванне боксам, камсамольскай рамантыкай і “далёкім свістком”, але стаў сведкам ды саўдзельнікам тагачаснага паэтычнага “буму”. Ягонае “пралетарскае” паходжанне абяцала някепскую кар’еру ў белліце, а артыстычныя задаткі выводзілі ў мэйнстрым літаратурнага жыцця. Ды якога жыцця! Канец 60-х быў гістарычным “пікам” публічнай савецкай паэзіі: нешта яшчэ дазвалялася казаць, і паэтам, бадай, больш, чым іншым. Бо паэтычная метафара, імправізацыя, нечаканая алюзія лягчэй праслізгвала праз цэнзурнае сіта і “страляла” дакладней, чым бяззубыя савецка-эзопаўскія байкі, сягала вышэй і глыбей за пляскатыя казённыя “апупеі”. Новыя словы, новыя думкі, новыя далягляды – вось чаго прагнулі тады людзі, і вось чаму на выступленні паэтаў збіраліся вялізныя залы і нават стадыёны. Іншых магчымасцяў пачуць вольнае слова, атрымаць порцыю жывой энергіі свабоды і аптымізму тады не было. Малады Някляеў яшчэ заспеў канец той эпохі і разам з маскоўскімі мэтрамі-калегамі Еўтушэнкам, Вазнясенскім, Раждзественскім (Пяткевічам) скарыстаўся падарункам (або іроніяй?) гісторыі, якая ў першы і апошні раз узняла на вяршыню публічнай славы жывых вершатворцаў. Нароўні з палітыкамі, артыстамі, спартоўцамі і кумірамі мас-культу. Магчыма, “прышчэпка славы” ці аднойчы пакаштаваны “наркотык” масавага захаплення табою тысячаў людзей уплывае і на далейшы лёс, патрабуе паўтору ці нават павелічэння “дозы” тых эмоцый. А мо гэта тычыцца толькі артыстаў, а ў паэтаў іншыя шляхі-законы? Не будзем забягаць наперад.,

Калі казаць менавіта пра паэзію, то вершы на стадыёне, пэўна ж, анамалія, штучны феномен. Паэзія па сваёй сутнасці справа інтымная, асабістая, патрабуе цішыні і засяроджанасці, якую цяжка знайсці ў вялікім натоўпе. Праўда, нехта лічыць паэтычную (як і любую артыстычную) дзейнасць грэхам, спосабам публічнага агалення душы ці духоўна-інтэлектуальнага эксгібіцыянізму, аднак далёка не любы, нават лірычны, верш бывае “інтымным”. Адылі ж, нават у выпадку, калі аўтар празмерна шчыры, самавыкрывальны ці самазнішчальны, са споведдзю ён звяртаецца да сябе альбо да знаёмай асобы, у крайнім выпадку да вузкага кола блізкіх, а не “распранае душу” перад масай чужых людзей. Масавасць паэзіі ўзнікае пазней, міма волі творцы, калі тэма ці стыль, вобразы ці інтанацыі супадаюць з настроем і чаканнямі многіх, нярэдка аддаленых ад аўтара ў часе і прасторы людзей. Той паэтычны бум у СССР, пра які казалася вышэй, быў не літаратурнай, а сацыяльнай з’явай, гэтак жа як і сацрэалізм быў

не жанрам ці стылем мастацтва, а ідэйна-эстэтычным заказам для ўсіх творцаў. Праўда, урэшце ён (сацрэалізм) стаў казённай, змярцвелай версіяй мастацкай утопіі, якая сканала раней, чым сам палітычны лад, што яе спарадзіў. Гэтак жа як і "стадыённая паэзія" не вытрымала канкурэнцыі з рок-канцэртамі, мітынгамі, флэшмобамі ды іншымі перформансамі новых часоў. Аднак вернемся да нашай тэмы, то бок да лірыкі.

Уладзімір Някляеў прыйшоў у паэзію ад жыцця. У гэтай банальнай фразе ёсць толькі доля праўды, бо насамрэч ад жыцця ён ніколі не адыходзіў і ні ў "вежу са слановай косткі", ні ў "чыстае мастацтва" не занурваўся. Больш за тое, якраз самое жыццё, бурнае і будзённае, фармавала і кшталціла ў ім паэта, давала сюжэты, тэмы, стымулы да росту. Адпаведна закону злучаных сасудаў няўдачы ў прыватным жыцці ці кар'ерна-грамадскай дзейнасці вялі да падвышэння "градусу кіпення" ў творчасці, і часта пасля жыццёвых "вывіхаў" і паразаў здараліся паэтычныя ўдачы. Як казала адна паэтка – "каб вы ведалі, з якога смецця...", то й кожны агароднік ведае, што лепшыя кветкі растуць з гною, а любы творца скажа – што з болю, самоты і меланхоліі лепяцца самыя шчырыя і кранальныя радкі. Парадокс, але каб лепш зразумець дабро, трэба максімальна наблізіцца да зла. Можа быць, і самому, няўзнак, стаць яго прыладай, каб аднойчы ўрэшце тое зло перамагчы, найперш у сабе. Гэта ўсё пра творчасць і шлях паэтаў да вяршыняў. І не толькі "праклятых", але і даволі такі ўдачлівых і паспяховых. Наш аўтар на першым этапе свайго жыцця цалкам можа быць аднесены да апошніх: яму спорна працавалася, лёгка сябравалася, файна рыфмавалася і так ладна ўсё складалася.

*Святкуем дзень сустрэч.*
*Удвух святкуем. Ціха.*
*Спявае ў хаце печ*
*Чырвонай салаўіхай.*
*З-пад чорнага крыла*
*Выпырсквае вуголле*
*Той песні, што прыйшла*
*Да нашага застолля.*
*...Не лічачы гадзін,*
*Давай змарнуем вечар,*
*І моўчкі пасядзім,*
*І вып'ем за сустрэчу...*

Аднак "удача" і "паспяховасць" гэта хутчэй пра жыццё, а не пра паэтычныя вышыні, і наш герой, жыццялюб і аптыміст, не адмаўляўся ні ад жыцця, ні ад ягоных радасцяў ці дарункаў. Вядомасць, агульная ўвага, уваходжасць у розныя творчыя тусоўкі і высокія кабінеты, проста дабрабыт – ішлі насустрач і ўспрымаліся як належнае. У савецкія часы існавала асобная крыніца "аптымізму" для паэтаў: некаторым "дазвалялася" быць песеннікамі, а тэксты да ўдалых песняў прыносілі не толькі эстрадную вядомасць, але і фінансавую самастойнасць ды іншыя выгоды высокага сацыяльнага рангу. Някляеў як аўтар некалькіх прыкметных шлягераў і тут быў на вышыні. Гэта, бадай, таксама не выпадковасць, бо па тэмпераменце і паэтычным таленце ён найперш лірык, тонкі традыцыйны лірык, а не трыбун, вяшчун ці вынаходнік новых літаратурных жанраў. І першае-другое дзесяцігоддзе былі якраз часам яго найлепшых лірычных твораў. Ягоны стыль не авангардна-кідкі, не экспрэсіўны, а стрыманы, развражлівы; вобразная палітра ясная, празрыстая, пераважаюць светлыя колеры, настроі, адценні. Аднак песні, эстрадныя сафіты, паспяховае рэдактарства на тэлебачанні і тагачаснае "паэтычнае мажорства" сталі толькі уверцюрай жыцця, якому наканавана было радыкальна перамяніцца.

Здарылася тое насамрэч не знянацку, бо Някляеў быў не проста мэйнстрымным паэтам і заўсёднікам літаратурнага бамонду, але чалавекам сацыяльна актыўным, чуйным да новых зрухаў і праблемаў, да таго ж з пэўным кар'ерным патэнцыялам. Яшчэ напачатку 80-х сярод традыцыйна-савецкіх тэмаў у яго расце цікавасць да лёсу беларушчыны, да роднага Крэва і крэўнасці з ліцвінствам, усё большае месца займаюць нацыянальна-гістарычныя сюжэты. Як актуальны творца і патэнцыйны лідар культурніцкіх перамен, у 1986 годзе ён ачольвае часопіс "Крыніца", пад крылом якога сабраліся лепшыя інтэлектуальна-літаратурныя сілы таго часу. Дзякуючы "Крыніцы", атрымалася перажыць першыя гады постсавецкай разрухі і эйфарыі, назапасіць важныя нацыятворчыя тэксты і канцэпты, захаваць і пашырыць кола сталых аўтараў ды прыцягнуць да супрацы новых і маладых. Як арганізатар і "капітан" праекта, Някляеў справіўся са сваёй задачай, выкарыстаўшы кантакты ў розных сацыяльных і ўладных сферах, прадэманстраваўшы ў няпросты час палітычную волю, дыпламатычны і менеджарскі талент. Гэта мела станоўчыя наступствы як для будучага літаратурнага жыцця Беларусі, так і для далейшага развою незалежных культурніцкіх ініцыятыў.

Пасля "Крыніцы" ён узначаліў СБП і ПЭН-цэнтр, але палітычныя ўмовы і нарастальны канфлікт з уладай зрабілі немагчымым не толькі далейшую працу, але і перабыванне ў Беларусі. Ён стаў першым пісьменнікам-эмігрантам часоў незалежнасці. "Трымаць удар", "устаяць на нагах", "не апускаць рукі" – не толькі баксёрскія тэрміны, што ўжываюцца ў такіх выпадках, але і навык, які давялося ўспомніць былому баксёру. Любая эміграцыя, а тым больш палітычная – гэта драма, якая калі-нікалі можа стаць трагедыяй.

*Ні тэарэм. Ні аксіём.*
*Спажыўнае ў цане.*
*Што Бог пашле – ядзім і п'ём,*
*А не пашле – дык не.*
*Учора – склеп, сягоння – дах,*
*А заўтра без жытла,*
*І ўсюды горка-кіслы пах*
*Прыгарку, пылу, тла.*
*Ні аксіём. Ні тэарэм.*
*Цыбуля. Хлеб. Алей.*
*Як добра ўсё ж, што мы памрэм*
*Прад тым, як жыць далей.*

**("Эмігранты", 1999)**

Тут варта сказаць і пра будзённы бок жыцця нашага героя. Развод з першай жонкай, расстанне з радзімай, эмігранцкія бадзянні не маглі не адбіцца на творчасці. Проза жыцця "прызямляла", нягоды вярталі ў мінулае, і, каб "пераплавіць" пражытае (ці перапраўіцца ў будучыню?), спатрэбілася іншая мова, іншая форма выказвання – з'явіліся празаічныя творы. Праўда, патрэба азірнуцца назад, падвесці пэўныя вынікі знаходзіла сваё адлюстраванне і ў паэзіі. Так, у нацята-нервовым, на мяжы эмацыйнага зрыву "Паланэзе" адбылося развітанне з "ліцвінствам" і польскім рамантызмам, а ў беларускім рэмейку фінскай "Калевалы", а дакладней, у эпічна-паэтычным дайджэсце аўтара, паэме "Ложак для пчалы" – метафарычнае асэнсаванне ролі героя і антыгероя ў лёсе народа. "Вялікдзень" – апошняя паэма з гэтага шэрагу, дзе гэтак жа драматычна, і, бадай нават трагічна, вядзецца пра непадзельнасць у рэальным свеце дабра і зла, пра непазбежнасць і жыццядайнасць (!) асэнсаванай чалавечай ахвяры. Пэўна, нездарма гэтая тэма стала для Някляева цэнтральнай, перажывалася так напружана і трывожна – набліжаўся 2010 год,

час калі ані проза, ані паэзія яго ўжо не задавальнялі. Лёс рыхтаваў новы паварот, новы пералом і выпрабаванні.

*У воя – меч,*
*У змея – джала,*
*І – хто хутчэй?!. Ні слёз, ні жалю.*

Паэт і палітык, творца тэкстаў і творца гісторыі. Тэма нібыта вядомая, але для такой маладой краіны як Беларусь крыху нечаканая. Паводле беларускай традыцыі паэт мусіў быць альбо прарокам, альбо самотнікам – меланхалічным назіральнікам жыцця і смерці. А каб паэт паўставаў у ролі палітычнага лідара, кіраўніка мас ці проста начальніка – гэта злом тутэйшых правілаў і забабонаў. Паэт можа быць прарокам, медыюмам, духаглядцам, бажаволкам, які кажа ўсё, што ўзбрыдзе да галавы. І кажа звычайна рэчы малапрыемныя – прадракае беды, пошасці, напасці, а гэта падабаецца далёка не ўсім. Ісціна рэдка бывае салодкай, а таму прарок са сваёй голай і горкай праўдай рана ці позна апынаецца за межамі айчыны. Зусім іншая гісторыя з палітыкам, які мусіць быць аптымістам, казаць людзям нешта кампліментарнае, станоўчае, маляваць мо й недалёкія, але светлыя натхняльныя перспектывы. Хоць сама задума – кажы праўду і за табою пойдуць людзі – нібыта і правільная, і крэатыўная, а Някляеў, як не пазбаўлены харызмы ды артыстызму прамоўца, дастаткова вядомы і "свежы" ў палітыцы чалавек, што меў вопыт публічнай (узгадайма той "наркотык" эстраднай папулярнасці 70-80-х) і арганізацыйнай дзейнасці, пасаваў да гэтай ролі. Ці можна асуджаць чалавека за аптымізм і веру ў лепшае нават у такой сітуацыі? Хто не прайшоў гэты шлях, той не можа і судзіць. А хто прайшоў? Таму ёсць што сказаць, але ён хутчэй... прамаўчыць. У. Някляеў прайшоў гэтай дарогай і, на шчасце, не страціў здольнасці казаць.

Так, то быў не просты збег абставінаў, а ўсвядомленая патрэба прайсці праз ілюзіі, страты і расчараванні. Ды не для таго, каб некалі сказаць: "Я зрабіў усё, здолееце – зрабіце больш...". Бо справа не толькі ў словах. Паводле старадаўняга (ці не з часоў Бібліі і Карана) меркавання, паэты мелі рэпутацыю зухаватых гаваруноў, складальнікаў прывабных радкоў, што правакуюць іншых на здзяйсненні, а самі не спяшаюцца ў бой ці нават хаваюцца "ў кусты абставінаў". У гэтым ёсць доля ісціны, бо словатворцы часцей зусім не героі, а эгацэнтрысты, што засяроджаны на ўласных інтымных перажываннях ды не дужа пераймаюцца злыбедамі "простых смяротных". Дык вось Някляеў з тых творцаў, што не можа доўга заставацца па-за жыццём, бо толькі ў ягоным юры і віры ён чэрпае натхненне, энергію, тэмы і сюжэты, а разам з тым імкнецца вярнуць свой даробак у надзённую плынь, надаючы ёй новыя імпульсы і сэнсы. Для яго паэтычная справа не столькі адлюстраванне ці ўпрыгожванне быцця, колькі ўдзел у ім усімі духоўнымі і фізічнымі сіламі. Нават калі гэта звязана з рызыкай і ўласнай небяспекай. Менавіта так і робіцца гісторыя: страты, ахвяры, памылкі і няўдачы – то гістарычны падмурак, схаваны ў глыбіні і нябачны для чужога вока ці старонняга назіральніка. Але на ім стаіць і расце агульны дом, нацыянальны гмах, будучае нашага народа. І тыя, хто гэты дом будуе ці будзе ў ім жыць, мусяць ведаць, на якіх прынцыпах ды ахвярах ён трымаецца, якім яго хацелі б бачыць тыя ахвяры-першатворцы.

Нічога ў жыцці не бывае дарма: згубленае калісьці ўзыходзіць да святла новымі парасткамі, непрыкметнае становіцца відавочным, кволае – магутным, а марнае – плённым. Паэту ж заўсёды наканавана бачыць далей і глыбей, чым палітыку ці самаму вялікаму начальніку, а слова ягонае аднойчы становіцца явай.

*І расступілася зямля...*
*І выйшаў першы: “Гэта я”, –*
*сказаў ён. І за ім паўсталі*
*усе, што пад зямлёю спалі.*
*“Так. Гэта я”, – сказаў другі...*
*І ўсе яны ўзнялі сцягі,*
*і з несатлелымі сцягамі,*
*хто ўперадзе, хто ўслед за намі*
*пакрочылі – а пасярод –*
*вякамі палены, карчоны,*
*скрываўлены, ды не знішчоны,*
*паўсталы з-пад зямлі*
*Народ!*

Алена Лепішава



...абяцанне і заклік –

застацца...

# Гэта новы голас. Але голас – адтуль

## *Рэцэнзія на кнігу Насты Кудасавай і Святланы Дземідовіч*

***Наста Кудасава, Святлана Дземідовіч. Побач. – Skarynichy, 2023. – 86 с.***

Нягледзячы на тое, што новая кніга вершаў Насты Кудасавай “Побач” мае канкрэтных адрасатаў (Косцю Чарухіна, Макса Шчура, Волю Злотнікаву, Віталя Рыжкова і інш.) і нават канкрэтныя локусы (Ладага, Вільня, Кортэла, Прага, Курапаты, etc.), мяне не пакідае ўражанне, што складалася яна з улікам рэальнага існавання іншабыцця, з перспектывы іншасвету. Такую дае ікона. Недасяжна велічнае аблічча, велізарныя вочы, у параўнанні з якімі непрапарцыянальна дробнымі выглядаюць прыкметы свету зямнога.

Такому ўражанню не замінае тое, што выйшла ўжо некалькі вершаваных зборнікаў, а паэтка ўведзена ў шэраг лідараў сучаснай беларускай літаратуры. І тым больш адчувальны кантраст паміж ранейшымі кнігамі (творы некаторых з іх прадстаўленымі і ў “Побач”) і гэтымі незвычайнымі новымі крокамі... ці крохкім прыслухоўваннем да нямога хараства сусвету, немагчымасцю




выказаць яго веліч і жах, маўклівым уздымам душэўных смычкоў. Уражвае настолькі, што я за яе баюся.

Пасля русалчынай паганскай варажбы ў вершах (“Лісце маіх рук”), мацярынскай пяшчоты (“Маё невымаўля”), нават пасля стаічнага супрацьстаяння сацыяльнаму гвалту (“Я працягваю”) у новай кнізе лірычная гераіня паўстае ў іншым абліччы. Нечакана для чытача чужыя вочы становяцца яе “эўтаназіяй”, а ўласныя вусны “выкрыкваюць” маўчанне, сон выядае “памяць-апрычніна”, “немата марна торгае ротам”.

Што з ёй раптам сталася? Хочацца верыць, што гэтае маўчанне ад велічы і харства сусвету, і падставы для гэтага ў кнізе ёсць... Але разам з тым на старонках паўстае ўнутраная маргінальнасць як вечнае становішча, немагчымасць закалыхаць невыразнае адчуванне словамі. Больш за тое: у гэтым стане пранізвае калектыўная памяць, нешта старажытнае, не гістарычнае і не паганскае, бо зусім не пра тое. Гэта ўспамін душы пра даіснаванне, разлітае ў паветры, зорным небе, шэпт дрэваў:

*можа, продка майго закалыхвалі ночы палярныя*
*ды святлом нейтаптаным сляпілі кудасыя зімы...*
*і цяпер я навечны вандроўнік*
*з адзінаю мараю:*
*умаўчацца ў прастор незнаёмай далёкай Радзімы.*

**(“Прызнанне”)**

Я б супакоілася, калі б не падазронасць: так прадчуваецца развітанне з зямлёю, вяртанне да дому нябеснага.

Ці не адсюль лейтматывы *бегу, палёту, зыходу*, якія спаткаюць чытача амаль на кожнай старонцы? Прыслухайцеся: “воблачны вечны шпацыр”, “той, хто сыходзіць, заўсёды вяртаецца рэхам”, “цесна птаху ў маіх грудзях”... І тут жа – сімвал-лейтматыў *“бінты”*, звязаны з матывам збіцця, знявечанасці і адначасова ўтрымання на зямлі, бо “хутка прыйдзе зіма, забінтуе ўсіх нас, загоіць...”. Блізкасць зыходу мае і сацыяльны ракурс увасаблення: “я б хацела прачнуцца, выйсці, / выплыць, вылецець я б хацела” (“мы любілі замкнуцца дома...”), “каб трымацца зямлі, у нас ёсць адно кеды” (Волі Злотнікавай), “проста ісці, / бо дарога і ёсць выйсце” (“проста ісці...”).

Увогуле вобразныя шэрагі, якія ў творах з ранейшых кніг успрымаліся як погляд на прыродны свет, знешні ў дачыненні да чалавека, даведзены тут да “аўтаанімізму”, калі ўласнае цела – частка наваколля, а ўласныя думкі ляцяць скрозь вятры і стагоддзі: “шумім галлём”, “курчыцца снег./ ад жыцця ашалелі / ў клетцы груднoй грудныя шпакі”, “гэта чэрвень грызе нутро нам – драпежны чэравень”, “але восень прысела ў мяне на гаўбцы і завыла воўкам”.

Гэтае адчуванне свету і сябе ў ім – не “адсюль”. З ім звязана і разуменне нязвыкласці свайго паэтычнага даравання для зямнога быцця, *“не-ад-гэтага-свету”* голасу, калі паэт толькі сасуд, праз які льюцца гукі вечнасці:

*хто ў табе піша, самотная, хто ў табе піша?*
*гэта радкамі ў палях разбягаюцца мышы...*

*гэта на снезе бязлітасным лапамі зайца*
*вечная кніга вядзецца абзац за абзацам.*
*гэта становіцца мова карункамі туяў*
*і на старонках аблокаў табе лістуе.*
*гэта твой боль рассцілаецца ў тундрах марошкай*
*і раздаецца ўвушшу вышынёй няпрошанай...*

Успамінаюцца словы, можа, і не зусім дарэчныя зараз. Стывен Кінг. “Зялёная міля”. Таямнічы дар волата, які чуў увесь боль свету і таму быў рады збаўленню. Што значыць кожнай кропелькай крыві адчуваць гэты боль, нібы лязо паэтычнага радка – кончыкамі пальцаў? Вось і ў Насты чытаем: “мне баліць гэты свет, яго веліч і бляск”, “і чаму так балюча пячэ хараством снегапад?”, “раз ёсць яшчэ шанец пражыць гэта ўсё / маўклівай чарніцай Гасподняй...” Маўклівай, бо ад захаплення і болю гаварыць немагчыма.

Калі разглядаць светаадчуванне лірычнай гераіні з гэтага ракурсу, то пачуццё кахання, якое ў новай кніге становіцца невыносным, бачыцца не прычынай, а следствам. Развіццё гэтай тэмы ў творчасці Насты Кудасавай можна абазначыць як пераход ад перажывання хмельнай жарсці, разрыву, сардэчнай узрушанасці ў кнігах “Лісты маіх рук”, “Маё невымаўля” да прымання спрадвечнай трагічнасці кахання, ажыццяўленне якога магчыма толькі ў іншым свеце. Таму ўспрыманне каханага не складваецца ў словы, занадта “зямныя”: “літары ўсіх алфавітаў / звываюцца ў гук – / той, / што не мае наймення ў жыцці чалавечым”.

Следствам, а не прычынай паўстае і страта надзеі сацыяльнай – аднаго з лейтматываў папярэдняй кнігі “Я працягваю”. На старонках “Побач” чытаем: “болей няма надзеі. / болей няма надзеі” (“горад прылёг кацянём на калені Дняпра і спрабуе сагрэцца”), “я б хацела па хрумсткіх абшарах ісці сабе ў восень, / але тут мой народ штодня разбіваецца вобзем”.

У параўнанні з гэтым новым светаадчуваннем цьмянее літаратуразнаўчая рэфлексія, якая больш не можа чапляцца за цытаты, віртуозныя метафары і ўвогуле за ўзроўні паэтычнага тэксту, даступныя для аналізу. Усё гэта, вядома ж, ёсць, згадаць хаця б скрытыя літаратурныя алюзіі “мёртвым не баліць, а мне – баляць / баляць мае мёртвыя” (В. Быкаў), “Не згарай! Дарагая, харошая.../ Між аблудаў пустэчы прагорклай / не згарай, будзь маёй зоркай...” (у якім, хутчэй за ўсё ненаўмысна і таму яшчэ больш таленавіта, сумяшчаюцца маналог Пугачова з аднайменнай драматычнай паэмы С. Ясеніна і “Зорка Венера” М. Багдановіча) ці біблейскае “свяціся ж імя тваё, верасу дзень, / прыйдзі, валадарства клёнаў!”

Але хіба мастацкае аздабленне тут галоўнае?

Мне хацелася б, каб “побач”, вынесенае ў назву кнігі, было заклікам да каханага ці зваротам да сучаснікаў. Дарэчы, падставы ёсць: “бо не трэба ні раю, ні выраю / там, дзе ты побач”. Але “побач будзь і пабачыш” хутчэй – зварот да сябе, уласнае дачыненне да сусвету. Уваход у яго зарыва, яго хараство, асляпленне пазазямным водсветам, ад якога баляць не толькі вочы – сэрца.

Гэта абяцанне і заклік – застацца.

## Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным “хросным бацькам”?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх “тэхнічных прыладаў” Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, камп’ютар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы “творчыя стымулятары”: кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: “Ні дня без радка”? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі “не пішацца”, што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Наталля Русецкая



***1.*** Літаратурная творчасць – гэта спосаб пражываць сваё жыццё, збіраць у словы і вобразы ўласны досвед, які складаецца з назірання за рознымі рэчамі, з'явамі, падзеямі, з удзелу ў гэтых падзеях, з адносінаў з іншымі людзьмі, з рэакцый на ўсё, што адбываецца з табой і вакол цябе, тваіх уласных рэакцый і чужых. Часам гэта нагадвае бязмэтнае збіранне каменьчыкаў на беразе мора. Але задача мастака – укласці каменьчыкі так, каб яны стварылі пэўнае адзінства, еднасць, вобраз, што будзе ўражваць і захапляць чытача. З гэтага занятку можна зрабіць прафесію, калі табе хопіць грошай на заспакаенне ўсіх жыццёвых патрэб. Але ў нашыя часы рэдка такое атрымліваецца не толькі ў беларускіх пісьменнікаў. Часцей за ўсё гэта толькі адзін з заняткаў: адначасова з пісьменніцкай дзейнасцю аўтар выкладае ў навучальнай установе, працуе ў музеі, СМІ, а бывае, што і ў іншых сферах, не звязаных з культурай, адукацыяй ці журналістыкай. Толькі ў любым разе да пісьменства трэба падыходзіць прафесійна, нават калі гэта пачынаецца як хобі, то яно альбо развіваецца ў прафесію, альбо робіцца проста звычкай (так з'яўляюцца графаманы), альбо застаецца на ўзроўні захопленасці – аўтар піша свае тэксты і нікому іх не паказвае, альбо чытачамі/слухачамі робяцца сям'я, сябры, нейкае кола знаёмых. Напрыклад, у нашай сям'і вершы прысутнічаюць як частка жыцця. Мой дзед запісваў свае вершы ў блакнот і чытаў іх усім нам (шкадую, што гэты блакнот не захаваўся), мая цётка напісала шэраг пародый на мае вершы і сабрала іх у самаробны зборнік, мой сын піша тэксты песень і сам іх спявае, часам мы складаем адно аднаму рыфмаваныя віншаванні альбо лісты.

Да творчасці мяне, напэўна, і падштурхнула жаданне занатаваць уласныя назіранні, перажыванні, настроі. Помню, як прыйшла са школы дамоў, узяла сшытак і пачала пісаць вершы пра Першамай на рускай мове. Напісала некалькі, пачытала, але яны мне не спадабаліся. Праз пэўны час я вярнулася да гэтага занятку, гэтым разам напісала па-беларуску верш пра восень. Я яго захавала. А каго можна назваць «хросным бацькам» – не магу сказаць. Вельмі важным момантам у сваёй творчай біяграфіі я лічу дэбют на старонках часопіса «Крыніца» ў рубрыцы «Я маю твор». У той час у рэдакцыі працаваў Алесь Разанаў, і тое, што ён узяў у друк мой верш, шмат для мяне значыла. Калі ж разумець «хроснага» як асобу, якая натхніла на творчасць, то тады ў мяне была «мамка», нават «мамкі». Я захоплена чытала вершы беларускіх паэтак: Раісы Баравіковай, Таісы Бондар, Ірыны Багдановіч – і мне тады моцна хацелася таксама пісаць вершы. Само слова «паэтка» мяне зачароўвала.

***2.*** Не ведаю, ці ёсць нейкая адметнасць у маёй творчай працы. Вершы з'яўляюцца самі, калі прыходзіць разуменне таго, якім чынам можна скласці з каменьчыкаў досведу вобраз. У адным з вершаў я апісала працэс узнікнення тэксту: «вершы люблю пісаць, калі нечым занятая, калі да працы патрэбна рука, не трэцяя – пятая». І гэтая занятасць, уключанасць у руцінную працу з'ўляецца, напэўна, галоўным «стымулятарам», які выклікае ў мяне жаданне вырвацца з абцугоў штодзённасці, тады ў галаве пачынаюць гучаць словы, часам асобныя радкі альбо гатовыя тэксты.

Таму я запісваю іх на любой паперы, якая трапіцца пад руку, а пісаць больш за ўсё люблю алоўкам. Хоць апошнім часам здараецца натаваць нешта адразу ў смартфон. А такія рэчы, як кава, віно, цыгарэты – ніяк не спрыяюць натхненню. Яны ствараюць момант, які хочацца пражываць напоўніцу, каб атрымаць асалоду, з яго не хочацца вырывацца – ён сам у нейкім сэнсе паэзія.

***3.*** Энцыклапедыі і слоўнікі я вельмі люблю чытаць. Нішто я так часта не чытаю, як слоўнікі і энцыклапедыі. Асабліва калі раблю пераклады, тады я проста абкладаюся слоўнікамі з усіх бакоў: тлумачальнымі, перакладнымі, сінонімаў, эпітэтаў ды іншымі. Калі пішу вершы, то словы шукаю ў сабе, намацваю ў памяці, варочаю на языку, а вось падабраць адпаведнае слова для пераструктуравання тэксту на іншай мове – гэта гульня ў пазлы, якія збіраеш з розных слоўнікаў. Мне падабаецца гэтая гульня. Бывае, што я чытаю слоўнікі і проста так, без нейкай практычнай патрэбы. Яшчэ люблю чытаць турыстычныя даведнікі. І з гэтага, напэўна, узнікла апошнім часам жаданне пісаць тэксты пра свае падарожжы. Для іх напісання даводзіцца чытаць не толькі слоўнікі і энцыклапедыі, але і даследчыцкія працы. Бывае, што мяне захапляюць ці здзіўляюць тыя ці іншыя факты, я пачынаю іх правяраць, удакладняць, збіраць інфармацыю з розных крыніц, некалькі дзён чытаю навуковую літаратуру, каб потым напісаць адзін сказ. Самая ж галоўная праблема з празаічнымі тэкстамі – знайсці час і месца, дзе б ніхто табе не перашкаджаў, каб можна было засяродзіцца, пачуць уласныя думкі, сабраць іх і запісаць.

***4.*** Вяртаюся я часцей да перакладаў, чым да ўласных вершаў. Некаторыя істотна перапрацоўваю. Часам знаходжу памылкі ці абдрукоўкі ўжо ў апублікаваных перакладных і ўласных тэкстах. Нават пасля працы рэдактара і карэктара такія прыкрыя рэчы здараюцца. Але выдаць кнігу без рэдактара і карэктара – нават не магу сабе ўявіць такое. Усе заўвагі я ўважліва разглядаю. Не заўсёды пагаджаюся з варыянтамі, якія мне прапаноўваюць, але працую з тым словам, выразам, сказам, на які рэдактар звярнуў увагу. Для мяне заўвага ёсць выразным сігналам таго, што ў гэтым месцы нешта не так, што тут можна яшчэ нешта змяніць, каб палепшыць выказванне: зрабіць яго больш вобразным, дакладней сфармуляваць думку. Таму рэдактары і карэктары мне вельмі дапамагаюць, і я вельмі шаную іхнюю працу. А перашкаджае мне найбольш тое, што я моцна залежу ад настрою. Калі я нечым прыгнечана, то мне цяжка вырвацца з кола штодзённых клопатаў, я, наадварот, занурваюся ў самыя зямныя заняткі і справы. У такім стане, калі нібыта і хочаш нешта сказаць, але не можаш, а пры гэтым адчуваеш унутраную патрэбу ў творчай працы са словам, ратуе пераклад, бо гатовы тэкст ужо існуе, ад яго можна ў любы момант адарвацца і вярнуцца пазней, а ён пачакае, не знікне. А незапісаны верш часам проста сплывае ў нікуды. Натхняюць мяне найбольш вандроўкі, у дарозе часта ўзнікаюць розныя задумы, толькі не заўсёды хапае імпэту на іх рэалізацыю. Бывае, што нейкія ідэі спеюць ува мне гадамі. Часам мяне падбадзёрваюць і заахвочваюць да працы сябры, з якімі я дзялюся сваімі творчымі планамі.

***5.*** Найбольш задаволеная я сваім другім зборнікам – «Каштаны ў кішэнях». Ён мне бачыцца амаль ідэальным: па форме, па змесце, па графічным афармленні. Я люблю, калі кніга прадумана і з'яўляецца завершаным творам: усе тэксты, нібы нанізаныя на нітку агульнай нарацыі. Не атрымалася ў мяне пісаць прозу. Магчыма, я проста яшчэ не знайшла свой жанр, сваю форму, але я шукаю. Вяртацца і перажываць нешта зноў я б не хацела. Я б не хацела вярнуцца ні ў ранняе дзяцінства, ні ў школьныя часы. У мяне няма настолькі цёплых і светлых успамінаў пра тыя часы, каб я хацела перажыць іх яшчэ раз. Нават у гады маладосці я б не хацела

вяртацца – зноў тое самае? Напэўна, я проста не люблю паўтораў. Мяне гэта стамляе, нават калі было нешта добрае, то я пражыла яго і мне хапіла, засталіся прыемныя згадкі пра шчаслівыя моманты. І ўсё, што я перажывала, што адчувала і думала, запісана ў маіх вершах. Я тут зусім не арыгінальная: біяграфія творцы ў ягоных тэкстах.

***6.*** Дзённікі я некалькі разоў спрабавала весці, але кінула. Калі пазней іх перачытвала, зразумела, што нічога цікавага ў іх няма: найперш няма шчырасці, быццам пішу і баюся, што гэта нехта чужы прачытае. Нядаўна выкінула амаль усе, пакінула адзін невялічкі нататнік, самы позні. Лепшыя дзённікі – гэта мае вершы. З лянотай, ці, я б сказала, хутчэй з апатыяй, я не змагаюся. Усё, што зроблена праз сілу, атрымліваецца вельмі слабым, не ўражвае, не захапляе. Я часта задумваюся над тым, што вершы – нікому не патрэбная рэч, а ўжо дрэнныя вершы, то дакладна. Таму правіла «ні дня без радка» для мяне не працуе. Калі ж мне зусім не пішуцца вершы (а апошнія тры гады яны не пішуцца), то пішацца нешта іншае: пераклады, артыкулы, падарожныя нататкі.

***7.*** Вершы калег і каляжанак чытаю абавязкова. Празаічныя творы – не заўсёды. З цікавасцю сачу за драматургіяй, хоць яе вельмі рэдка ў нас выдаюць і амаль не пішуць па-беларуску. Чытаю і перачытваю я найчасцей дзіцячую літаратуру: творы замежных аўтараў – Астрыд Ліндгрэн, Тувэ Янсан, Клайва Льюіса, Свэна Нурдквіста, а таксама беларускіх пісьменнікаў – Уладзіміра Караткевіча, Янкі Брыля, Пятра Васючэнкі. З вялікім задавальненнем перачытваю вершы польскай паэткі Віславы Шымборскай. З беларускіх паэтаў вельмі люблю Рыгора Крушыну, Таню Сапач, Міхала Анемпадыстава. Вельмі блізкія мне вершы Сабіны Брыло. Гэта вельмі моцны і выразны голас у сучаснай паэзіі. Прозу перачытваю вельмі рэдка, але збіраюся перачытаць «Па што ідзеш, воўча?» Евы Вежнавец.

***8.*** З аднаго боку, нашай сучаснай літаратуры не хапае шмат чаго. Не хапае прамоцыі, фінансавай падтрымкі, не хапае чытачоў. Не хапае папулярных і папулярна-навуковых выданняў, энцыклапедычных і турыстычных даведнікаў. Не хапае беларускамоўных драматургаў. З другога боку – у нас надзіва шмат чаго ёсць (бо ў сённяшніх умовах магло б нічога не быць), і нават зацікаўленасць да беларускай літаратуры расце сярод чытачоў апошнім часам. Цяжка сказаць, што нас чакае наперадзе. Калі варункі не зменяцца, то нічога добрага. Адзіны спадзеў, што беларусы ўпартыя і ўсё ператрываюць. Толькі ці змогуць захаваць сваю мову? Вось гэтага я б і пажадала маладым аўтарам – зберагчы мову. Пажадала б таксама быць уважлівымі да кожнага слова, быць адказнымі за кожнае сваё слова. Вучыцца працаваць са словам і вучыцца адчуваць яго. Не баяцца крытыкі, прыслухоўвацца да заўваг. Чытаць слоўнікі і творы нашых класікаў. Тут я маю на ўвазе не толькі тых, якія ёсць у школьнай праграме, але і тых, а можа перадусім тых, якіх там няма. Шукаць забытае, цікавіцца сучасным, помніць, што добры пісьменнік – гэта найперш уважлівы чытач, слухач і назіральнік.

# Нашыя аўтары

**Аляшкевіч Маргарыта** – паэтка, крытык. Аўтарка кнігі «Слоўныя ловы», шматлікіх публікацыяў у беларускім друку. Пераможца конкурсу часопіса «Дзеяслоў» (2009) на лепшы артыкул, прысвечаны сучаснай беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1985 годзе ў Мінску.

**Аўраменка Васіль** – публіцыст, паэт, бард, лекар-неўролаг. Аўтар кнігі-эсэ «Нябачнае і ява (фрагменты інтымнай аўтабіяграфіі)», паэтычнага зборніка «Кругі і колы». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мазыры. Жыве ў Магілёве.

**Багдановіч Ірына** – паэтка, крытык, літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Чаравікі маленства», «Фрэскі», «Вялікдзень», «Сармацкі альбом», «Прыватныя рымляне», манаграфій «Янка Купала і рамантызм», «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» ды інш. Нарадзілася ў 1956 годзе ў Лідзе. Жыве ў Мінску.

**Ваганаў Сяргей** – журналіст, эсэіст, паэт. З 1961 года працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Знамя юности». У 1976-2008 гг. – уласны карэспандэнт газеты «Труд», галоўны рэдактар газеты «Труд» в Беларуси». Аўтар шматлікіх эсэ і публіцыстычных нарысаў. Аўтар кніг «Мосцік над вечнасцю», «Я веру ў Цуд», «Праз межы Часу». Двойчы лаўрэат конкурсу «Вольнае слова». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Казані, у эвакуацыі. Жыве ў Мінску.

**Гапееў Валерый** – журналіст, празаік. Аўтар кніг «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання», «Ведзьміна тоня», «Я размалюю для цябе неба», «Праклён» ды інш. Нарадзіўся ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне ў 1963 годзе. Жыве ў Івацэвічах.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Дашкевіч Алег** – празаік, рэжысёр-дакументаліст, журналіст. Зняў дакументальныя фільмы – «Маналогі», «Простыя гісторыі», «Журналісты» ды інш. Аўтар кнігі апавяданняў «З вышыні птушынага палёту». Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акрополь», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** – паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме харавства і смутку», «Арабінавая ноч» ды інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Кузменка Зміцер** – паэт, празаік. Займаецца вывучэннем жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага. Аўтар кнігі «Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага». Аўтар гісторыка-асветніцкага інтэрнэт-праекта «Свіслацкія аркушы». Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лепішава Алена** – літаратуразнаўца, крытык. Аўтарка артыкулаў, прысвечаных сучаснай літаратуры і тэатру, а таксама мастацкай прозы. Тэксты друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «Цирк "Олимп" +TV», «Дружба народов», «Миргород», «Studia Białorutenistyczne» ды інш. Нарадзілася ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Маскалюнец Лусінэ** – паэтка. Скончыла БДЭУ і магістратуру ў Вышэйшай эканамічнай школе ў Празе. Нарадзілася ў 1995 годзе ў Воршы. Жыве ў Празе.

**Слінка Віктар** – паэт. Аўтар кніг паэзіі «Апошні снег», «Штольні вясны»,

«Арахна». Лаўрэат літаратурных прэмій «Гліняны Вялес» (2001), «Залаты Апостраф» (2005).Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Козікі на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Русецкая Наталля** – паэтка, перакладчыца. Перакладае паэзію і драматургію з польскай мовы. Аўтарка кніг паэзіі «Два бяссонні», «Каштаны ў кішэнях», манаграфіяў «Сямейная муза», прысвечанай паэтычнай творчасці Ф.У. Радзівіл, «Поколение ru белорусской драмы» (у суаўтарстве з С. Кавалёвым і І. Лапо). Нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Новы Урэнь (Расія). Жыве ў Любліне.

**Сцяпан Уладзімір** – празаік, паэт, мастак, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Федарэнка Андрэй** – празаік, драматург. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша», «Сузіральнік», «Жэтон на метро» ды інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Івана Мележа (1995), «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Чарнякевіч Ціхан** – крытык, літаратуразнаўца, паэт, перакладчык. Аўтар кнігі «Вандроўнік». Укладальнік кніг «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы», твораў Я. Купалы, І. Канчэўскага, Л. Савёнка, Хв. Ільяшэвіча і інш. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Пінску.

**Шапран Сяргей** – журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным», «Беларускі гістарычны анекдот» ды інш. Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча (2011). Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.



У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Глеба Лабадзенкі,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.